Віктар Гардзей



# КАРАНІ ВЕЧНАГА ДРЭВА

Аповесць
Апавяданні

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1988

ББК84 Бел7
Г 20

*Рэцэнзент Канстанцін Тарасаў*

У Насти, главной героини повести В. Гордея (род. в 1946 г. на Брестчине) «Рожь не прикроет позора», во время войны погиб муж, умерли дети. Однажды военной зимой, идя на задание из партизанского отряда, он завернул домой. Согретый Настиной лаской, Семен решил заночевать. А утром в хату ворвались полицаи. Кто выдал мужа? Этот вопрос долгие годы не дает покоя Насте.

Теплым лиризмом и юмором, душевной щедростью и любовью проникнуты помещенные в книге рассказы.

Г $\frac{4702120200-092}{М 302(03)-88}$ 9—88

ISBN 5-340-00009-5

Стану тварам на захад
І — вайну
Пракляну!

*Сцяпан Гаўрусёў*

# Раздзел першы

## 1

Жыта красавала.

Дзесьці, у далёкім і трывожным свеце, на папялішчах падымаліся белыя муры, дзесьці астывалі і доўга не маглі астыць, дыхаючы пякельнай гарачынёй, печы фашысцкіх крэматорыяў, а тут, на мяжы Палесся і Клецкага Поля, за якіх вёрст пятнаццаць ад Ганцавіч, ціха, спакойна і незалежна красавала жыта.

Збажына стаяла рослая і густая, нібы чарот. Але гэтае ўражанне было абманлівым, таму што жыта, над якім курыўся жоўты пылок, толькі здавалася рослым і густым. Зрокавы падман высвятляўся адразу, варта было ступіць на Кругляк — камяністае, спустошанае вайною поле. Шчуплыя і пляскатыя каласкі на тоненькіх сцяблінках зблізку выклікалі пачуццё жалю.

У жыце далёка прасвечваліся кусцікі хвашчу і сініх валошак, у разорах і лагчынах калыхаўся рыжы мятлік, лапікамі зелянела касцярога. Сухую зямлю тут і там, робячы хады-норкі, патачылі чорныя казюркі і белыя мурашкі.

Зблізку збажына не стаяла суцэльнай лавай. Поле было падзелена на вузкія і доўгія шнуры, а старыя межы спрэс зараслі быльнікам, асотам і бадзяком.

Жыта красавала, і цёплы, лагодны ветрык абтрэсваў з малочных яшчэ каласкоў жоўты, ледзь прыкметны пылок. Свяціла пякучае, шчодрае сонца, над полем заліваўся сярэбраным званочкам жаўрук, а збажына святкавала дзень свайго цвіцення. Збажыне было цесна ў быльнікавых межах, і яна, мабыць, прадчувала, што восенню сюды прыйдзе пашарпаны, латаны-пералатаны эмтээсаўскі «націк» і разарэ, нашчэнт зруйнуе старыя межы.

Але поле не ўсцешыцца нечаканаму вызваленню. Увосень яно будзе дакараць, вінаваціць сябе, што не зберагло кірпатага свавольніка Міцьку Дразда, хоць бачыла, хоць добра ведала, якая небяспечная штуковіна ляжыць на мяжы паміж Насцінай і Барабанавай палоскамі. Поле стоміцца за лета, страціць апошнія сілы. Прыслухоўваю-

чыся да незнаёмага трактарнага рокату, які далятаў з-за Капцоў, поле ціха і лянотна спачывала, а Міцька, бегучы са школы, падняў каля крушні тую круглую і пляскатую, бы скавароднік, жалязяку і, здзіўлены нечаканай знаходкай, сеў з ёю пад разгатую дзічку, што расла на абмежку.

У той самы момант, калі старую дзічку хістануў страшэнны выбух, бяззубы Вінцусь акурат размочваў сухі, укасцянелы пернік, і калі рэзка, як з грому, трасянуліся шыбы, пернік выпаў з аслабелых пальцаў, а самога Вінцуся сцепанула жахлівая здагадка: то гэта ж Міцька — вялікі свавольнік і шалапут, дасціпны, разумны ўнучак! Дзверы ў хаце засталіся расхлябешчанымі насцеж, у хату залезлі куры і да крошкі здзяўблі мокры, незвычайна салодкі пернік.

Жыта красавала.

Поле яшчэ нічым не паказвала сваю пякельную журбу, свой прытоены смутак. Надвор'е і так і сяк наравіла збажыне. Дзень быў лагодны і сонечны, цёплы і пяшчотны, нават спорны дожджык пакрапіў надвячоркам.

Хмарка, з якой раптам сыпануў гэты спорны грыбны дожджык, якраз мінала Кругляк, калі з лесу на поле выбегла раззяханая, збянтэжаная і амаль раздзетая жанчына. Яна была босая, у адной споднящ кашулі — шырокай і прасторнай, як балахон. З распатланых валасоў з'ехала стракатая хустка і канцамі матлялася на шыі. Жанчына ўскочыла на мяжу, прабегла колькі крокаў, але тут у ногі калоўся асот, лыткам было козытна ад спружыністых цымбуроў быльніку, апроч таго, з мяжы жанчыну было далёка відаць, і тады яна, прыгнуўшыся, нырнула ў мокрую, росную збажыну.

Жыта захвалявалася, з краю ў край па ім паплылі кіпучыя, вірлівыя хвалі. З мокрых каласоў ужо не стрэсваўся жоўты пылок.

Жанчына ў споднім напрасткі бралася цераз поле, мусіць, не заўважаючы, што кашуля даўно растулілася і ў прарэсе боўтаюцца сухія, зморшчаныя грудзі. Хвалявалася і бурліла збажына. Яна хацела схаваць, хацела засланіць ад людскіх вачэй чужы сорам, але гэта збажыне не ўдавалася. Жанчына была высокая, як тычка, і рэдкае, нізкарослае жыта ледзь даставала ёй да грудзей. Прыгінаючыся, кабета праставала цераз поле — не выбірала дарогі, не зважала на спорны дожджык, які гэтак жа нечакана перастаў, як і пачаўся.

З-за хмаркі зноў выбліснула сонца. Жанчына ў спод-

нім адразу пачула на запалых шчоках дотык сонечнага цяпла, убачыла вясёлкі дажджавых кропель на каласах. Яна азірнулася, пазнала знаёмы палявы абшар, пазнала заваложаны смугою лес і Загорскія хутары. Выдых аблёгкі вырваўся з грудзей, радасцю засвяціўся прадаўгаваты збляжэлы твар. Жанчына перакінула белы — з дубовай дранкі — кош у правую руку і пайшла ўжо не подбегам, як раней,— пайшла маруднай, павольнай ступою, усё яшчэ не могучы перавесці дыханне.

Палатняная кашуля, выбрынданая знізу і заляпаная тванню і багавіннем, у росным жыце намокла як не да самых пахаў, тонкае кужэльнае палатно стала што луб. Ад сырасці на скуры павыступалі сінія пупрыкі, тканіна ліпла да цела, але, перажыўшы куды большую бяду, жанчына зусім не думала пра такую дробязь, як мокрая кашуля.

Нылі і гулі навярэджаныя ногі. Яны балелі б менш ці не балелі б зусім, калі б жанчына бегла па сухой, тупкай дарозе. Але ажыўленай дарогі яна баялася і таму ад самых Ганцавіч махала цыбатымі нагамі напрасткі — цераз гаці і балоты, праз хмызнякі і ператочыны. Вырваўшыся з людных местачковых вуліц і згараючы ад сораму, яна ўскочыла на Агарэвіцкае балота і бегла па ім на скрут галавы, расплёскваючы твань і багавінне, пакуль у прасветлінах паміж алешынамі не зазелянелі амшэлыя стрэхі суседняй вёскі Кукава. Тут жанчыну добра ведалі, а ёй не хацелася спаткацца з кім-небудзь, і, каб пазбегнуць лішніх сустрэч, яна зноў дала кругаля. Збавенне ад вялікай няславы і ганьбы было дома. Жанчына баялася нават пастухоў, і калі ўперадзе прыкмячаўся статак, абмінала яго і бралася, як лоша, праз імшарыны і леташнюю некаш. Дзесьці ў ліпкай халоднай твані з ног пазвальваліся сандалі, але шукаць іх не было часу, і яна пабегла басанож. На дне дубовага каша плавіўся, раставаў у гарачыні брусок жоўтага масла.

Жанчына ўспамінала сваю ганьбу і тады старалася бегчы хутчэй, каб далей уцячы ад таго непрыемнага месца, ад тых ненавісных людзей, якія там, на базарным пляцы, тыцкалі ў яе пальцамі, моцна крычалі і смяяліся. Па целе яшчэ і зараз прабягалі дрыжыкі, у душы пасяліўся страх.

Цёплы летні дождж, можна сказаць, запыніў дома, блізка каля Загор'я. У лесе пацямнела, зашумеў у вершалінах дрэў парывісты ветрык. Пад гэты шум жанчына бралася нацянькі, баючыся людзей і лесу, уздрыгваючы

ад кожнага шолаху, аж пакуль не выбілася на Кругляк, дзе красавала напоенае дажджом і сонцам маладое жыта.

Страх не праходзіў і тут, на сваім полі, але дыхаць ужо стала лягчэй, не так шалёна білася сэрца. Пакрысе астываючы ад спорнага бегу, жанчына радавалася, што ніхто не сустрэўся і не ўбачыў на ёй забрынданую, мокрую кашулю. У жыце можна наогул не баяцца, бо каму ж прыйдзе ў голаў швэндацца тут надвячоркам, ды яшчэ па расе? Адсюль ужо блізка хата, свой садок, а да крайніх яблынь, на шчасце, упрытык падступаюць жытнёвыя загоны.

Страх не праходзіў. Жанчыне раптам падалося, што з жыта нехта ўтаропіўся на яе — глядзіць адтуль здзіўлена і насцярожана. Яна борздзенька павярнулася, але поле было маўклівым і бязлюдным. Хвалявалася і шумела рослая збажына, на мокрай дзічцы адбівалася пазалотай чырвонае вячэрняе сонца.

## 2

Яны маглі б сустрэцца — тры жанчыны, тры суседкі, але яны не сустрэліся толькі таму, што Насця Санцэвіч і Антоля Макаед яшчэ перад дажджом выйшлі з дому, яшчэ па сухому мінулі Кругляк, выбраліся на сцежку, якая паўз пясчаныя выдмы і ўзбалоткі вяла на местачковы шлях. Па дарозе гаварылі пра жыта, турбаваліся, што нейкае яно шчуплае — хоць бы акрыяла да жніва, і іх як быццам зусім не хвалявала гэтая Антоліна паездка. Першай па сцежцы шырока, па-мужчынску сцібала мажная Антоля, за ёй ледзь паспявала драбнейшая і меншая ростам Насця. Кабеты гаварылі пра жніво, пра жыта, і яно, напэўна, пакрыўдзілася б, калі б яны — блізка, усяго за некалькі крокаў ад поля — пачалі гаварыць пра што-небудзь іншае, хай сабе таксама турботнае, але ўсё ж менш важнае, чым жыта.

— Пакуль вярнуся, збажына акурат паспее,— сказала Антоля.— Дзіва што паспее! Мне ж толькі да Ленінграда, калі з перасядкамі, суткі пхацца. А дзе яшчэ той Беламорск — кадук яго ведае.

— Не бядуй, як-небудзь даедзеш,— супакоіла суседку Насця.— Сядзеш у поезд і — даедзеш.

— Вярнуся я, канечне, не скора,— тым жа заклапочаным тонам гаварыла Антоля.— Ужэ, мусіць, і жаць пач-

нуць.— І, павярнуўшыся да Насці, ласкава папрасіла: — Пойдзеш у кузню, то і мае сярпы вазьмі. Хай Танец назубіць, яны пад застрэшкам заткнёныя. Як зжала летась картопельнік, то і ў рукі не брала. Хоць бы не паржавелі.

І Насця зноў супакоіла Антолю:

— А што ім зробіцца? Вісяць сабе ў сухасці, дык дзе ім дало паржавець. Будуісці, то і твае вазьму. Танец добра іх назубіць.

— Не забудзь жа хаця,— павесялела Антоля адразу і, нахмурыўшы густыя чорныя бровы, дадала з прыкрасцю: — Мой жа кульгавы Хвядос век не ўспомніць пра сярпы.

— А нашто яму ўспамінаць, калі я сама пайду ў кузню? — заступілася за Хвядоса Насця.— Яму і без таго клопату хопіць.

Антоля ўздыхнула:

— Праўду кажаш, матка. Без нагі ўсё ж...

Кабеты мінулі Кругляк, ішлі ўжо цераз лес. Блізіўся вечар. Шэрая, як аўчына, хмарка спакваля засланяла чырвонае сонца. Але хмарка не ўстрывожыла жанчын. Нельга нават было падумаць, што адна з іх — высокая і заклапочаная Антоля — выбралася ў самую вялікую ў сваім жыцці дарогу: ехала ў невядомы і далёкі Беламорск. Цераз плячо ў Антолі вісеў наладаваны хатнімі прыпасамі хатуль, а Насця, ледзь паспяваючы за суседкай, несла на левай, сагнёнай у локці, руцэ вербалозавы кошык, завязаны зверху чыстай марляй. Сям-там марля прамокла, узялася чарнільнымі плямамі. З кошыка ўецца церпкі, саладжавы пах чарніц: у госці Антоля едзе не з абы-якім гасцінцам.

Вербалозавы кошык, прыкрыты белай марляй, мог увесці ў зман любога сустрэчнага. Хутчэй за ўсё ён падумаў бы, што дзве сялянкі нанач спяшаюцца ў мястэчка, каб, пераначаваўшы ў знаёмых, заўтра першымі прыйсці на базар і першымі, пакуль ягады ў цане, прадаць свежыя чарніцы. Але Антоля выбралася ў куды большую дарогу — ехала аж у Беламорск. Туды яшчэ летась завербавалася Галя і там самохаць, без бацькоўскага благаславення выйшла замуж. Колькі дзён Антоля думала, уздыхала, не рашаючыся хоць на дзень пакінуць хутар, але ехаць трэба было, таму што жыць не давала трывога па дачцэ. І вось ужо Антоля ў дарозе, вярсты дзве прайшла ад свайго дому, а ўжо — у дарозе. І цяпер Антолі хочацца хутчэй дабегчы на станцыю, хутчэй сесці ў цягнік. Яна так

спяшаецца хутчэй вярнуцца дахаты, што не глядзіць пад ногі — час ад часу спатыкаецца, ледзь не падае.

— Не бяжы ты вельмо,— задыхаўшыся, просіцца Насця.— Паспееш з козамі на торг. Яшчэ і на станцыі насядзішся.

— А ў паяздах, кажуць, жулікаў да чортавай мацяры,— раптам вырвалася з грудзей у Антолі, і яна з трывогай азірнулася на вербалозавы кошык.

— Грошы, ты грошы схавай! — затрывожылася ўжо і Насця.— Схавай, а то і прыехаць не будзе за што.

— Схавала, як ты думаеш? Во сюды, у станік, запхнула,— паказала Антоля і ўсміхнулася сваёй вялікай хітрасці.— Старая я ўжэ, каб кавалеры лапаліся. Не абмацаюць...

Над ляском зашумеў лёгкі верхавы ветрык, пацямнела і разам з тым, як насунулася шэрань, па лісцях алешын залапатаў дождж — спачатку недзе ў аддаленні, а потым усё бліжэй і бліжэй. Як толькі ўпалі першыя кроплі, Антоля спынілася:

— Дзякуй, Настачка! Давай кош, далей я пайду адна. Навошта ж абедзвюм на дажджы мокнуць?

Яна стаяла перад Насцяй непрыкаяная, разгубленая, нейкая вінаватая, што і самой няма спакою, ды яшчэ і людзей патурбавала. А Насця, гледзячы на суседку, падумала, што Галя, напэўна, не пазнае сваю маці. У дарогу Антоля прыбралася хораша: адзела новую саржавую спадніцу і вышываную кофту, а на ногі, каб не сарамаціцца там перад зяцем, купіла зялёныя брызентавыя туфлі. Брызентоўкі пакуль што ляжаць у хатулі — іх Антоля абуе перад самай станцыяй, памые ў лужыне ногі і абуе. Цяпер жа яна стаяла перад Насцяй босая, растрывожаная, трымаючы ў напухлай, парэпанай руцэ важкі вербалозавы кош з першымі чарніцамі. Антоля паправіла на плячы пасак ад хатуля, ямчэй прыладзіла пад пахай скручаную ў трубку махрыстую кашміроўку. Едзе ж у далёкі свет, калі і захаладае, дык хоць будзе чым абапнуцца. Можа, і наогул у тым Беламорску цяпла не бывае?

— Варочайся, Насця,— паўтарыла Антоля і, нагнуўшы голаў, ражком хусткі выцерла звільжэлыя вочы.— Хутка каровы з пашы прыйдуць.

— То шчаслівай табе дарогі.

— Ты, Насця, калі-нікалі Хвядосу памагай. Бадай, на цэлы месяц еду.

— Добра, буду памагаць.

Да таго часу, пакуль Антоля, увешаная, як гандлярка, дарожнымі клункамі, не схавалася за паваротkай, Насця стаяла на сцежцы, пасля ўздыхнула і пабегла назад. Ціхі летні дождж усё гучней барабаніў па лісці, і хоць дождж быў надзвычай цёплы і лагодны, усё ж не хацелася, каб ён вымачыў да апошняга рубца. Насця старалася хутчэй паспець дамоў яшчэ і таму, што там было багата работы: вішчалі ў загарадцы галодныя парасяты, скора трэба будзе даіць каровы — і сваю, і Хвядосаву.

Яна ўскочыла на Кругляк і нават не дабегла па разорцы да старой дзічкі, як дождж перастаў. Зноў свяціла сонца, усё навокал блішчала. Насця радавалася, што абышлося без грымот, а такі — імклівы і ціхі — дождж яна любіла. «Калі што возьмецца гарэць з грому, то агонь той лепей тушыць не вадой, а кіслым малаком»,— падумала яна і здзівілася гэтай недарэчнай думцы. Насця з маленства баялася грому.

Збіваючы босымі нагамі расу, Насця ішла па разорцы, непадалёк ад дзічкі ўбачыла плешыну, голае месца. Жыта там не вырасла, бо вымакла ўвесну, а калі вада сышла, у нізовіне густа ўзялася макрыца. Насця ступіла на гнуткае, спружыністае, як мох, зелле і падумала, што добра будзе нарваць макрыцы парасятам. Можна і сёння ўкінуць у загарадзь, і на заўтра адным клопатам застанецца менш. Зняла з галавы паношаную хустку, разаслала на зямлі і, прыгнуўшыся, абедзвюма рукамі пачала рваць ліпкае, цягучае зелле.

Яна так унурылася ў свае думы, што адразу і не пачула, як побач зашалясцела жыта, а калі пачула, то змярцвела ўся, звяла: мо воўк які? Але гэта быў не воўк. Цераз жыта нацянькі ламіўся чалавек, дакладней — жанчына. Насця выглянула з жыта і ўбачыла, што жанчына ледзь не голая, бяжыць у мокрай споднян кашулі. «Усё адно як русалка распатланая,— падумала Насця і тут жа пазнала русалку.— Авой! Дык гэта ж Барабаніха». З-за дзічкі Насця глядзела на Барабаніху здзіўлена, насцярожана, з прыкрасцю і, калі адчула, што тая вось-вось азірнецца, з галавой апусцілася ў жыта.

Шум на полі аціх. Насця завязала хустку з макрыцай і пайшла ў свой двор. Пастаяла каля свінушніка, потым укінула ахапак зелля ў загарадку. Можна было б парадавацца, што парсюкі добра ядуць, ажно душацца макрыцай, але, прыслапіўшыся да яловых жэрдак, Насця думала пра здарэнне ў жыце, і ёй, мабыць, не хапала

кемлівасці, каб даўмецца: усё ж чаму тая сараматніца Барабаніха цераз поле бегла ў такім выглядзе?

— Дальбо, здурэла баба...

Да заходу сонца Насця ўхадзілася дома, затым пабегла і падаіла Хвядосаву Падласку. Працадзіла малако ў бляшаную банку — круглую і доўгую, як снарадная гільза, адно што з вечкам і маленькім шкляным акенцам унізе. Памыла цадзільнік, павесіла сушыцца на плоце і тады ўжо, калі выцерла аб фартух рукі, сказала маўкліваму Хвядосу:

— Занясі банку ў калодзеж. Ці мо, пакуль няма Антолі, не будзеш збіраць смятану?

— Чаму ж? Буду,— усміхнуўся ў пракураныя, рыжыя вусы Хвядос.— Я сваю Антолю добра ведаю. Пакуль сышчацца дахаты, акурат пуд масла можна збіць.

Бралася ноч — цёплая і вільготная. На небе ўжо засвяціліся зоркі, калі, збыўшы дзённыя турботы, Насця клалася спаць. Яна старалася забыць Барабаніху і — не змагла, хацела выкінуць з галавы дакучлівыя, неадчэпныя, як восы, думы і — не здолела.

Праз адчыненую фортку ў хату цадзіўся саладжавы дух маладога жыта. У агародчыку, не змаўкаючы, цэлы вечар трашчаў няўрымслівы цвыркун.

## 3

І яшчэ ў Загор'і жыў адзін чалавек, які бачыў Барабаніху, калі яна — уся ў белым — выбягала з жыта. То быў свавольнік і шалапут Міцька — Аленін сын, Вінцусеў адзіны ўнучак. Седзячы пад чужой яблыняй, ён дужа злякаўся, калі нейкая распатланая істота вывалілася з жыта і прамчалася міма з лопатам і стогнам.

Хвіліну назад Міцька ішоў па Загорскай вуліцы, ішоў і проста паміраў ад суму, не ведаючы, які занятак прыдумаць рукам, які напрамак выбраць парэпаным, з паабіванымі пальцамі нагам. Ішоў, паміраў ад суму, і, калі ад гэтай тужлівай адзіноты стала асабліва прыкра, ён раптам успомніў, што ўмее лічыць да дзесяці, і пачаў лічыць усё, што трапляла на вочы.

Найперш, акуратна загінаючы пальцы, Міцька палічыў пізенькія, з саламянымі стрэхамі хаты — сваю і суседзяў. Сем хат у Загор'і. І пастаўлены яны ўроскід, без усялякага ладу і складу. Загорцы, калі будаваліся, мабыць, апшчаджалі кожны лапік прыдатнай для ворыва зямлі і ціснулі-

ся бліжэй да лесу, будаваліся на пяску, паўз балотцы. Адзін Барабан не лез у пустэчу — заснаваў сялібу ледзь не пасярод поля, бо пры панах служыў леснікам і жыў багацей, чым суседзі.

Палічыўшы хаты, а заадно і хлявы, Міцька пачаў лічыць загорскіх кароў і свіней, сабак і коз, не забыў загнуць адзін палец і на Барабанавага казла Мітрафана. Скончыў падлік драбнейшай жыўнасці і перайшоў на коней. У Загор'і ўсяго два кані. Дужа рахманага, і хутчэй не ад нораву, як ад старасці, Палазінца меў дзядзька Хвядос, а гэта азначала, што Палазінца мелі ўсе загорскія ўдовы. Цягавіты, замуляны конік аднолькава належаў Кутчысе, і Піліпісе, Жучцы і цётцы Насці. Хвядос ахвотна пазычаў ім каня, а то і сам, смешна шлэпаючы драўлянай нагой, ішоў за плугам або спружыноўкай. І цаны тады не было рахманаму Палазінцу, і самога гаспадара жанкі ледзь што не насілі на руках.

Другі конь быў у Барабана — на выгляд сыты і ўкормлены, але, калі якая ўдава прасіла помачы, нечакана высвятлялася: бедны Гняды мае столькі хвароб і заган, што самы раз яго на могільнік адвесці. У каня, аказваецца, і шыя намуляна, і капыт адзін заламаны, і наогул гэта не конь, а чыстая бяда ў гаспадарцы. Праўда, гэтулькі немачаў у каня нікольки не бянтэжылі самога Барабана, і ён спраўна вазіў на Гнядым дровы, араў палетак ці, наладаваўшы воз мяшкамі з бульбай, ехаў у Ганцавічы на кірмаш.

Выдумалі людзі: ніякі ён, Барабан, не скнара. Аднойчы да яго на воз папрасіўся дзед Вінцусь, і Барабан, радуючыся сваёй дабраце, пашкадаваў старэчыя ногі — дазволіў сесці ў задку палукашыка. Ледзь выехалі за Сяло і пачалі падымацца на горку, як Барабан без аніякага намёку на жарт загадаў:

— Злезь, суседзе. Етава-етава, каню цяжка. Будзем спускацца з горкі, зноў сядзеш.

Хоць колы і самі каціліся лёгка, Вінцусь упіраўся нагамі ў пясок, падштурхоўваў плячом драбіны. Сеў на сваё месца, калі воз, бразгаючы лёсткамі, пабег у лагчыну. Праехалі яшчэ якую вярсту, і Барабан зноў папрасіў:

— Злезь, суседзе...

Горак да Ганцавіч было густа, і колькі было горак, столькі разоў Вінцусь то злазіў, то залазіў па воз. Смешна атрымалася: і не ішоў, і не ехаў, а ў Ганцавічах апынуўся. І ўжо на базарным пляцы, забіраючы з воза свой хату-

лёк, Вінцусь раптам здагадаўся: гэта ж насмяяўся, назбыткаваў шкурадзёр!

— Дзякуй, Павел,— сказаў ціха, не паказваючы сваёй крыўды.— Хай бы ў цябе ўсё жыццё на зубах пясочак скрыпеў, як ты мяне на кірмаш вёз.

З Ганцавіч Вінцусь вяртаўся пеша. Дома аднаму толькі ўнуку расказаў, якую кару прыдумаў Барабану, і Міцька аж падскочыў ад захаплення: от бо мудра прыдумаў! Тут адна пясчынка трапіць на зуб, і то здрыганешся, а калі ўсё жыццё будзе пясок у роце скрыпець?

Радуючыся дасціпнасці свайго дзеда, Міцька заклапочана азірнуўся вакол сябе, бо на хутарах, здаецца, не засталося нічога, што нельга было б палічыць. Чакайце: а людзі? Як жа гэта Міцька забыў пра іх? І каб суседзі не пакрыўдзіліся, застаўшыся непалічанымі, ён па-новаму пачаў загінаць пальцы. Вунь у той, крайняй ад лесу, пахілай хатцы жыве смяшлівая Піліпіха з дачкой Іркай. Акурат два пальцы. Хатка адразу за Піліпішыным агародам належыць Кутчысе і двум яе сінявокім сынам — Колю і Ваню. Яшчэ тры пальцы. Па суседству з Кутчыхай, у кустах, забудаваліся Хвядос і Антоля Макаеды, трохі далей, за параснікамі грабніку, жыве Міцька, яго мама і дзед Вінцусь.

Пальцы на абедзвюх руках пазагінаты ўсе, але і за Міцькавай хатай цягнецца прамежак, дзе ніхто не жыве. На гэты прамежак акурат прыпадае балотца, зарослае аерам і густым алешнікам. З таго боку гнілога балотца пабудавалася цётка Жучка. І цяпер не рада. Веснавымі вечарамі там аж моташна ад дзікіх жабіных канцэртаў. Аблезлыя пасля зімы жабы, мабыць, жадаюць павесяліць цётку Жучку, а яна, замест таго каб падзякаваць, дужа нервуецца і абяцае, калі падрастуць Генік і Волька, перасяліцца далей ад крыклівага, траскучага балотца. У Геніка і Волькі на тварыках, як і ў маці, зязюльчыны рабацінкі, і ўсё ж, нягледзячы на такую загану, Міцька адкладвае на Жучку і яе жучанят тры пальцы.

Далей хто? Далей жыве цётка Насця. Ну, з ёю і марокі няма. Адна жыве — адзін палец.

І апошняй пад Міцькава чалавеказлічэнне трапляе Барабанава сямейка. Міцька ішоў паўз балотца, думаў, разважаў, і яму не вельмі хацелася загінаць яшчэ тры пальцы на Барабана, Барабаніху, а тым больш на іх несусветнага скупяндзю Лявоніка. Жывецца гэтаму Лявоніку што куркулю. У астатніх загорцаў хаты як хаты: урослыя ў

зямлю, з зялёнымі праваленымі стрэхамі, а ў Барабанавым прасторным доме нават шалёўкі пафарбаваны. На шырокім дзядзінцы аж цесна ад пабудоў: тут і хлеў, і варыўня, і добрае гумно. Свой калодзеж, свая копанка. А сад, сад! Пнёў мо на пяцьдзесят, але, калі папросіш яблык, цыбаты Лявонік усё адно выносіць чарвівыя ападкі.

За Барабанавай сядзібай пуста і гола, значыць, і лічыць ужо няма чаго. Міцька ўздыхнуў і, расшчаміўшы пальцы, пачаў аглядаць зялёны абшар, жытнёвае поле, парослыя ляшчыннікам Капцы, насыпаныя, мабыць, тады, калі Міцька яшчэ і на свет не з'явіўся. У Капцы Міцька ўцякае, калі яму бывае сумна. А сумна хлопцу бывае часта. Міцька яшчэ малы гуляць з сінявокімі Колем і Ванем альбо, калі прывязуць кіно, расклейваць афішкі. І тады віхрастага хлопца, якому заўсёды сумна, кліча да сябе стары, пасівелы ляшчыннік. Міцька звычайна гуляе тут адзін, а то часам у кампанію напросіцца барадаты казёл Мітрафан, таксама адзінокае і пакрыўджанае сваім казліным лёсам стварэнне.

З Капцоў добра відаць Сяло — хаты, гумны, хлявы і нават маленькая, як сабачая будка, вясковая кузня. А яшчэ лепш адсюль, з узвышша, глядзець на загорскія хутары. Яны таксама стаяць у лагчыне, але з другога боку гары. З Сяла іх не відаць, і таму, пэўна, гэтую прыгожую мясціну і называюць Загор'ем. Утаптаная, выбітая нагамі сцежка вядзе ад хлява да хлява, ад двара да двара, а каля Барабанава дзядзінца губляецца ў пяску. Да Барабана людзі мала калі ходзяць, дык і сцежка не патрэбна. А Міцька ішоў, спатыкаючыся аб камяні і тулячыся бліжэй да хмызоў. Ішоў і не разумеў, чаму такімі непаслухмянымі зрабіліся ногі. Непаслухмянымі сталі яны адразу, як толькі Міцька ўбачыў перад сабою маладзенькую яблыньку белага наліву. І трэба ж ёй вырасці ў канцы саду, каля самага жыта! Яшчэ адзін міг, яшчэ адзін крок, і яблынька сама працягнула Міцьку ў рукі галінкі з зялёнымі, недаспелымі яблычкамі. І ў той жа момант над Барабанавым садам пацямнела і па лісцях дрэў, як шрот, пырснуў цёплы, спорны дождж.

Міцька латашыў зялепухі і радаваўся, што цяпер трасцу той Барабан угледзіць разбой у сваім садзе, але дождж раптоўна перастаў, як і пачаўся. Зноў пасвятлела, зноў засвяціла сонца, і гэта было вельмі прыкра, што зноў стала на пагоду. Міцька спяшаўся, рассоўваў яблыкі ў кішэ-

ні, за пазуху. Але страх прыйшоў з другога боку. Блізка зашумела жыта, хруснуў на мяжы быльнік, нехта ўздыхнуў, войкнуў. Міцька прыгнуўся ў бульбоўнік, убачыўшы паміж яблынь нешта белае як смерць, а потым, баючыся азірнуцца, задаў лататы з чужога саду.

Каля балотца ў алешніку, зашпільваючы ў штанах гузікі, стаяў дзед Вінцусь.

— Ці не чэрці за табой гоняцца? — пажартаваў ён. Зірнуў на адтапыраныя Міцькавы кішэні і адразу насупіў сівыя бровы: — Зноў у чужы сад лазіў? Хоць дзёгцем маж, а ўсё адно сваё...

— Там... Там, у садзе, русалка бегла. З жыта выскачыла,— пачаў заікацца Міцька.— Сам бачыў. З жыта выбегла. І ўся — у белым... І лахматая...

— Хлусіш, нягоднік. От я табе дубцом...

— Не-а, не хлушу... Бегла і стагнала...

У Міцькавых вачах свяціўся такі страх, што Вінцусь задумаўся.

— Перахрысціся.

Склаўшы тры пальцы, як вучыла маці, Міцька зрабіў нейкі незразумелы выкрунтас каля лба, пасля торкнуў у левую і правую палавінкі грудзей. Вінцусь яшчэ больш задумаўся. Пачухаў патыліцу, ссунуў на пачуханае месца саламяны капялюш. Сваёй дапытлівасцю дзед славіўся не менш, чым унук, і таму сказаў з трывогай у голасе:

— Трэба праверыць. Барабаны мо што бачылі?

Міцька ледзь паспяваў за дзедам. У мокрай траве віўся густы ланцужок з парассыпаных яблычак — след ганебных Міцькавых уцёкаў. Дзед пайшоў у хату, а Міцька не пайшоў — застаўся на абмежку. Але і дзед у Барабанавай хаце доўга не пагасціў. Хутка расчыніліся дзверы, і адтуль вылецелі адразу трое. Спачатку — саламяны капялюш упаў пад ногі казлу Мітрафану, які стаяў каля плота і абрываў лісткі з вішні. Затым, спатыкнуўшыся на парозе, з хаты выскачыў сам Вінцусь. Трэцім, даганяючы другога, вылецеў звычайны хатні дзяркач. І ён усё-такі дагнаў дзеда, гузыром торкнуўся ў спіну. Хапіўшыся за балючае месца, Вінцусь кінуўся было ў хату, але перад самым носам дзверы зачыніліся, бразнуўшы зашчапкай.

— Дурная і ёсць,— сплюнуў Вінцусь ад злосці і крыўды.— Быццам я голых баб не бачыў? Іш ты, расселася ў ночвах...

# Раздзел другі

## 1

Насця любіла святы і любіла рыхтавацца да іх. На сёмуху Антоля яшчэ была дома. Удзвюх яны пайшлі ў лес, наламалі кляновага вецця, высеклі па дзве бярэзінкі. Кабеты неслі за плячыма ношкі зялёнага маю, і Насці было крыўдна, горка і журботна. Тыя разы, перад вайной, у лес хадзіў Сямён — сам прыносіў май, сам укопваў каля варотцаў белыя бярозкі. Цяпер Насця нудзілася сваёй адзінотай. Дома яна пазатыкала кляновыя галінкі пад бэлькі, чыста падмяла падлогу, і ў хаце ажно задурманіла ад вострага ляснога водару, ад церпкай лясной свежасці.

Дзве бярозкі, укапаныя каля варотцаў, шумелі, лапаталі начамі, быццам скардзіліся на сваю долю. Яны жухлі, марнелі і чэзлі проста на вачах. Неўзабаве падышло купалле. Антолі ў Загор'і ўжо не было. Насця адна пабегла за Капцы, на сельскі выган, нарвала там цэлае бярэмя сону — жоўтых, з вялікімі белымі пялёсткамі кветак. Пучок пахучых красак закінула на страху хаты, не абмінула хлеў і варыўню, некалькі каліў паклала на шулах у варотцах, а зверху прыціснула камянямі, каб не здзьмухнуў вецер. У Загор'і яшчэ ад дзядоў такая завядзёнка: перад купаллем закідваць на стрэхі кветкі сону, каб, крый божа, які нячысцік не прыблытаўся да двара.

Насця парадавалася, што сустрэла свята як і мае быць, сустрэла не горш за суседзяў, і апошнім часам спалася ёй смачна, без надакучлівых сноў. Потым Насця пачала маркоціцца па Антолі, і зноў у яе развярэдзілася сэрца, зноў напала бяссонніца. Насця трывожылася за Антолю — хоць бы добра села на цягнік, хоць бы ўсцераглася жулікаў. Прыйшлі думкі і пра Барабаніху: чаго б тая сараматніца бегла цераз жыта з голай грудзінай? Можа, лыкнула якой га́ры, бо адно п'яны чалавек адважыўся б на такое — бегчы цераз жыта ў сподняй кашулі. Антоля, вядома, хутчэй дапетрыла б, што тут да чаго, але Антолі няма, а ў Насці безліч сваіх клопатаў, хапае сваіх трывог.

Святы неўпрыкмет прайшлі, і гэта Насця заўважыла па тым, што кветкі сону высахлі, пачарнелі на сонцы. Свежы лясны дух у хаце трымаўся даўжэй, хоць праз які тыдзень завялі і галінкі клёну, пажухла і пакурчылася шырокае лісце. Насця павыцягвала з-пад бэлек сухія галінкі,

выкінула на сметнік, вярнулася — падмяла і вышаравала падлогу.

Стаміўшыся наводзіць парадак, прысела на парожку, задумалася і, калі трохі адпачыла, успомніла, што ў лесе, зусім блізка ад хаты, нагледзела травяністую сенажатку, дзе можна ўбіць каляснік добрага сянца. Калі яна была там, паўз сенажатку валокся лупаты Барабан, а той не любіць, каб хто запярэджваў яго. Успомніўшы пра гэта, Насця падалася на дрывотню, а выйшла адтуль з вялізнай, рыжай ад іржы касой.

Насця спяшалася ў лес, ішла як не подбегам, думаючы, што лупаты сусед жыве не бедна і не трэба яму квапіцца на чужое, на ўдовінае. Мінула сваю сядзібу, выбілася за балотца, і лес, напэўна, не здзівіўся, калі проста перад сабой убачыў маленькую жанчыну з іржавай касой на плячы. Лес многае помніў, многае ведаў, таму не затрывожыўся, не захваляваўся — ён, здаецца, толькі самотна ўздыхнуў, затрымцеў лісцямі.

Лес прывык да гэтай адзінокай сутулай жанчыны. А яна спяшалася, убегла пад кроны дрэў, і лес даў ёй дарогу, расступіўся перад ёю. Сенажатка ўцалела. Трава стаяла роўная, густая — высокая лясная трава, якая цяпер уся, да апошняга каліва, належала адной Насці. Укруга сенажаткі раслі асіны — старыя, выгоністыя, з жоўтымі плямамі на гладкай зялёнай кары. Насця ўбегла ў гэты круг, зняла з пляча касу, выцягнула з-за пазухі палавінку бруска, і лісце на асінах раптам задрыжэла, як ад сполаху, што вось зараз, праз якую секунду, маленькая і сутулая кабета парэжа сабе пальцы, пырсне кроў на густы травастой.

Шась-шась, дзінь-дзінь. Бяды, аднак, не здарылася. Парэпаныя, вузлаватыя, як у мужчыны, пальцы ўцалелі. Пучком травы Насця працёрла заржавелае палатно касы, правяла па яшчэ леташняму клёпу абломкам бруска і, налягаючы на акоссе ўсім целам, пачала пракос. Густая лясная трава магла б пакрыўдзіцца, што яе косіць такі няўмелы касец, бо каса не засвістала, не зазвінела, не заспявала ў пракосе. Спачатку яна плазам прайшлася па вяршках, потым наском уторкнулася ў купіну, а далей — яшчэ горш. Лучок, які рассохся за зіму, коўзаўся па акоссі, і Насця доўга валтузілася з ім, пакуль натуга не перавязала сырамятны пасак. У канцы пракоса падсцерагла новая непрыемнасць. У траве згубіўся клінок, замок аслаб, каса выпала з рэхвы.

— Згары ты ўсё! Прападзі пропадам! — услых абурылася Насця, падняла касу і, ледзь не плачучы, пайшла назад праз асіннік, які зноў расступіўся, даў дарогу кабеціне.

Яна ішла лесам, потым ішла паўз жыта і ведала, што ідзе да Хвядоса, бядуючы, каб хоць жа застаць яго ў хаце, каб не звалокся ён куды-небудзь з двара. Цяпер Насця не перажывала за сенажатку: заявіцца Барабан, угледзіць свежы пракос і пойдзе ні з чым.

Навокал цвіло лета, буялі травы — самая пара сенакосу. Таму асабліва было прыкра, што вось ужо якое лета Насці адной трэба няньчыцца з непаваротлівай касой. Прыкра і балюча было таму, што кожны раз каса напамінала пра таго — дужага і плячыстага, якому на пакосе не знаходзілася раўні.

Цвіло, бушавала, пераліваліся яркімі фарбамі лета, шчодра свяціла сонца, з блізкага поля ветрык даносіў ачмурэлы водар збажыны. Малінаваму лету патрэбны былі касцы і жнеі — многа працавітых сялянскіх рук, і таму было горка, было несправядліва, што Насця ідзе адна — самотная і маўклівая, ідзе шукаць добрага чалавека, каб направіў старую, з'іржавелую касу.

Той добры чалавек, на шчасце, быў дома, сядзеў на калодзе каля плота, выстругваў з дубовых цурбалкаў новыя зубцы ў граблі. Над пустым карытцам пакрыўджана стаялі два кормнікі, з гвалтам уцякалі ад прыгажуна пеўня чубатыя куры, на прызбе вадзілася квактуха з куранятамі, і ўся жыўнасць, якая вішчэла, сакатала і квахтала ў двары, відаць, не магла зразумець, чаму ўжо даўнавата на вочы ім не паказваецца лагодная і ласкавая іх гаспадыня.

— Каса распраглася. Паглядзі, Хвядос, што і як направіць, бо сама я не ўмею.— Насця кінула касу і акоссе на мураву, села на гнілую, збуцвелую калоду, зняла з галавы хустку і выцерла загарэлы потны твар. Пасядзела, убачыла непарадак на суседавым двары і сказала з дакорам:

— Хай бы пакарміў скаціну, а то хоць вушы затыкай.

Хвядос падняўся, абтрапаў з калашын габлюшкі і пакутліва паглядзеў на загарадку, дзе, прасунуўшы праз жэрдкі лычы, скуголілі падсвінкі.

— Ды карміў ужэ, каб іх воўк пазарэзваў! І зелле нават ірваў. На картоплі ўсялякага хвашчу хоць заваліся.

— І не дзіва, што квічаць. Хвошч свінні не вельмі ядуць. Трэба макрыцу рваць, лебяду.— Насця ўздыхнула.— І мой Сямён, бывала, такі ж быў бесталковы.

Хвядос ужо і не чуў і не бачыў, што робіцца каля хаты. Пільным вокам ён вывучаў даўжэзную ржавую касу, якая ляжала на траве. Калісьці, відаць, гэта была добрая, вострая каса, але цяпер не кожны мужчына згадзіўся б узяць у рукі такую дрэнь. Хвядос падняў касу за вушка, жоўтым і тоўстым ногцем праверыў клёп, пасля з поцягам груккнуў наском па калодзе — праверыў касу на звон. Пачуўся дробны, слабы, дрыготкі гук. Іржавую касу даўно пакінуў звонкі, сталёвы голас.

— Э, нікуды не вартая,— са шкадаваннем, з крыўдай Хвядос махнуў рукою.— Іржа з'ела. Во і лязо скрывілася, і на лопатні пабіла. Зараз адно месца ёй — на сметніку.

— Няўжэ выкінеш? — спалохалася Насця.— Як жа я без касы?

— Я табе сваю дам. Ды не такую доўгую, як пуга. Маленькую «сямёрку» асаджу — недзе пад застрэшкам заткнёная. Якраз будзе па табе, для тваіх плячэй. «Сямёрку» і дзіця пацягне.

Насця адразу паспакайнела, абрадавалася, што цяпер у яе будзе людская каса, і рыўком падхапілася з калоды.

— Што ж гэта я расселася, як паня? Дзе ў цябе свіное стаіць?

— У сенцах ражка з картопляй, крапіва ў сагане, а высеўкі ў мяшку, каля жорнаў, знойдзеш. Ды мо не трэба, я сам накармлю.

— А я што буду рабіць? Буду сядзець? От зрабі мне касу, каб касіла.

Насця звінела ў сенцах вёдрамі, бразгала вілкамі, вымаючы з печы цёплую ваду, і вельмі хутка на двары ўсталяваліся спакой і цішыня. У загарадцы над карытам душыліся крапівой ладныя падсвінкі, дзяўблі проса кураняты, не кудахталі больш накормленыя куры. За гэты час, пакуль Насця ўціхамірвала галодную плойму, Хвядос выцягнуў з-пад застрэшка «сямёрку», асадзіў на акоссе, памянціў і, азірнуўшыся на Насцю, прайшоўся касой уздоўж плота. Накляпаная, навостраная, добра дагледжаная каса брала крапіву, як брытва.

— От бо што значыць мужык! — з захапленнем пагледзела на Хвядоса Насця.— А яна не распражэцца?

— Не, я моцна забіў клінок у рэхву.

Падаючы касу, Хвядос затрымаў позірк на Насці, затрымаў, можа, трохі больш, чым трэба было, і такая цікаўнасць суседа затрывожыла, захвалявала яе. Яна ляпнула

сябе па спадніцы, правяла далоней пад носам і, нічога не разумеючы, насварылася на Хвядоса:

— Ты чаго ўставіўся? Даўно бабы не бачыў? Ці мо дзе выпацкалася, як свінням давала есці?

— Не крыўдуй. Сівая ты, дык я і думаю: колькі ж гадоў табе?

— Гадоў мне? — задумалася Насця.— Ці не трыццаць пяць скора будзе? Але, трыццаць пяць. Радзілася акурат як жыта жалі.

Хвядос болей нічога не сказаў, ён наогул быў маўклівы па натуры, і цяпер ён пацвердзіў гэта: сеў на гнілую калоду і зноў пачаў правіць граблі. Падзякаваўшы суседу, Насця пайшла, але не дайшла нават да брамкі — вярнулася:

— Чуеш, Хвядос, а старая каса дзе?

— Пад плот, у крапіву шпурлянуў. А што?

— Знайдзі ты мне яе. Дадому забяру. І не думай, што я такая скнара. Гэта ж памяць пра Сямёна...

Хвядос здзіўлена паглядзеў на Насцю, але падняўся, знайшоў у крапіве ржавую Сямёнаву касу. Вочы яго свяціліся цеплынёй і пяшчотай.

## 2

Скасіць сенажатку ў той дзень не ўдалося. Апоўдні хлынуў дождж, невядома было, калі ён перацíхне — магло і задажджыцца, а касіць пад нягоду не вельмі разумна, таму што трава пагніе ў пракосах і ўсе клопаты пойдуць марна.

Выпагадзілася пад раніцу. Калі выганялі кароў на пашу, ужо свяціла сонца, неба над хутарамі было чыстае і толькі на захадзе, у бок Ганцавіч, яшчэ плылі шэрыя посцілкі хмар. Пасля дажджу раса на траве стаяла густая, з белым налётам, больш буйная, чым звычайна, а Насці якраз і хацелася такой расы: каб яна доўга не высыхала і каб лёгка пад самы корань рэзала каса мокры травастой на сенажатцы.

Збіраючыся на кошлю, Насця хуценька прапаліла ў печы, абулася ў гумовыя боты — у лесе якіх толькі гадаў не бывае,— узяла на плячо Хвядосаву «сямёрку», выйшла за варотцы. І яна пайшла б у лес і касіла б там, пакуль не высахне раса, калі б у варотцах па даўняй сваёй завядзёнцы не азірнулася, не паглядзела навокал. Тое, што ўбачыла, спачатку зацікавіла яе, потым захвалявала, растры-

вожыла, і ўжо нельга было ісці ў лес, пакуль не высветлена: з чаго гэта, з якой нагоды столькі людзей сабралася каля Жуччынай хаты?

Насця прысланіла касу да варотцаў і пабегла, моцна гупаючы ботамі, пабегла нацянькі праз мокры алешнік, паўз гнілое, смярдзючае балотца.

Сполах прайшоў, трывога ўляглася адразу, як толькі яна мінула кусты і — ужо зблізку — пачалі пазнавацца суседзі, якія цеснай купкай збіліся на сцежцы каля пахілага, зялёнага ад старасці плота. Жучка была жывая і здаровая — рабенькая, як зязюлька, яна стаяла ў купцы людзей, нешта ім расказвала, раз-пораз паказваючы рукой за Капцы, на Сяло, і суседкі, якім перадалася трывога Жучкі, таксама глядзелі ў той бок, узрушана вохкалі, хіталі галовамі. Усё ж нешта здарылася, таму што жанкі, слухаючы Жучку, час ад часу апускалі ўніз вочы, шукалі каля сябе дзяцей і, упэўніўшыся, што яны тут, нікуды не пайшлі, зноў уважліва сачылі за Жуччыным расказам і яе рухавай, мітуслівай рукой.

— Што тут у вас? Кажыце хутчэй. Бяда якая? — спытала Насця, раззяханая, запыханая ад спорнага бегу.

— Бяда не бяда, але і радасці мала,— адгукнулася на яе словы Піліпіха.— Стань от, сама паслухай.

Насця ўшчамілася ў людскі натоўп і ўжо хутка разам з усімі і сама вохкала, хітала галавой, згортвала на грудзях рукі, як быццам прытульвала да сябе дзіця. Яна глядзела на Жучку і проста не верыла, што колькі часу назад тая перажыла столькі жаху, столькі страхоцця. Калі б на месцы Жучкі была Насця, то яна, пэўна, утрупянела б, упала б мёртвая там, пасярод поля, у пахучай грэчцы.

Яшчэ да снедання Жучка сабралася праведаць у Сяле хворую куму. Будзіць Геніка і Вольку пашкадавала, пакінула ім сняданак на прыпеку, а каб малым не дакучалі мухі, коўдраю занавесіла акно, зрабіўшы прыцемак, і выйшла з хаты. Мінула Капцы, ужо спускалася з горкі, калі ў лагчыне, ля канцавых хат Сяла, пачула гвалт, лямант і жаночы плач. Не падобна было, каб людзі падурэлі так сабе, па свайму хаценню: на гэта, відаць, у іх была нейкая прычына.

Жучка прыпынілася, утрапёная і здзіўленая, прыпынілася, каб разабраць далёкія галасы, і тут недалёка ад сябе, на дарожцы, убачыла мацёрую, вялізную, як цяля, ваўчыцу. Жанчына ўкамянела ад страху, хацела крыкнуць, а голас замёр. Ваўчыца мільганулася цераз дарожку, але ў

полі пабегла марудней — выпластвалася, як плыла, падмінаючы пад сябе белую ад цвету грэчку. Прыгледзеўшыся, Жучка раптам з жахам зразумела, чаго крычаць людзі і чаму так цяжка бегчы ваўчыцы.

На спіне, ухапіўшы зубамі за кашульку, ваўчыца несла чыёсьці дзіця, і яно не крычала, не плакала — захліпнулася ад болю ці мо ўжо было нежывое. І тут у Жучкі знайшоўся голас, прапаў страх, заступіўшы месца адвазе і рашучасці. Жучка нема закрычала, пабегла наўпярэймы ваўчыцы, на ляту хапіла камень, шпурлянула, і той камень, кінуты з нечалавечай, нежаночай сілай, праляцеў далёка і гупнуўся ў грэчку перад воўчай мызай. Нельга было спатыкнуцца, нельга было ўпасці, бо страціцца шмат часу, і тады ваўчыцу ўжо не апярэдзіш, не завернеш ад кустоў у канцы поля. І Жучка, нічога не помнячы, бегла наўпярэймы, нема крычала, і яна ўсё ж змагла апярэдзіць ваўчыцу, стаць ёй упоперак дарогі. Ззаду стаяў лямант, спераду стаяла страшная, распатланая жанчына, і ваўчыца расшчаміла пашчу, скінула з сябе чалавечае дзіця і ўжо лёгка, без потугу рванулася цераз грэчку, у бок старасвецкіх Капцоў.

Дзіця, як з'ехала на зямлю, адразу ж заплакала — так пакрыўджана, так жаласліва, што і ў самой Жучкі на вачах выступілі слёзы. Радуючыся, што дзіця жывое і яшчэ як хораша заплакала, яна падхапіла на рукі мокрае ад расы маленькае цельца, па стручку пазнала, што гэта хлопчык. Туліла да грудзей і цалавала так, як ніколі не цалавала нават свайго Геніка. Шчадрэй, здаецца, засвяціла сонца, і з вялікай радасці ў чыстым небе галасістым званочкам заліўся жаўрук. Хлопчык адразу прыціх, перастаў плакаць, а сюды ўжо беглі людзі, і першымі, спатыкаючыся ў разорах, мясілі грэчку зняможаныя Зоня і Максім Занькі, бо, аказалася, гэта іх сына Паўліка Жучка выбавіла, сілком выдрала з ваўчынай пашчы.

— А сыночак мой! А крывіначка ж ты мая!

Зоня ціскала, гомтала Паўліка, чмокала ў шчочкі, у губкі, у жывоцік і плакала, плакала наўсхліп, як быццам слёзы маглі апраўдаць яе, маладую маці, зялепуху яшчэ і дурніцу, што не дагледзела сына. Паўліку балюча было ад матчыных пацiскаў, але ён толькі лыпаў спалоханымі вочкамі і маўчаў. Маці пакінула яго ў хаце, калі ён спаў, а сама пайшла ў агарод нашчыпаць пер'я цыбулі, не падазраючы, што Паўлік акурат у гэты момант прачнуўся, зваліўся з ложка, а на двары — сонечным, ласкавым і пя-

шчотным — яго высачыла ваўчыца, выскачыўшы з высокага бульбоўніку за свінушнікам.

Але ўсё абышлося добра, нават без ніводнай драпіны на Паўліку, і людзі радаваліся такому шчасцю, а калі ім захацелася паглядзець на Паўлікаву збавіцельніцу, то побач яе ўжо не было — людзі ўбачылі толькі, як у канцы грэчкі мільганулася квяцістая кофта. Жучка спяшалася на свае хутары, і зноў яе гнаў страх, бо дома без нагляду засталіся Генік і Волька, а ваўчыца, хай на яе немач, пабегла якраз у той бок, на зялёныя Капцы.

— Паверце, бабы! Сэрца зайшлося ад жаху. Ледзь што жывая ўскочыла ў хату, аж не — спяць мае, родненькія, і губкамі ў сне цмокаюць.

Жучцы нарэшце ўдалося давесці свой расказ да канца. Людзі стаялі, моўчкі слухалі, потым азірнуліся ўсе неяк разам і ўбачылі, што за іх спінамі тоіцца Барабан, лупаты, з жоўтымі, як у ката, вачыма. Яго, мусіць, таксама зацікавіла незвычайнае зборышча каля Жуччынага плота, і ён падкраўся сюды цішком — так, што ніхто не пачуў.

— Аднак жа і смелая ты, Ганна,— першай выйшла з утрапення Пілішха.— У мяне дык мо духу не хапіла б кінуцца на ваўчыцу.

— Кінулася б, дзе б ты дзелася? — упэўнена сказала Кутчыха.— Угледзела б, што нясе дзіця, дык і кінулася б адбіраць.

— А ведаеце, жанкі? Не проста, не так ашалела ваўчыца,— задумалася Насця.— У яе, мабыць, ваўчанят пабралі.

Суседкі абурыліся ледзь што не ў адзін голас:

— Каб яму рукі апухлі, хто гэта зрабіў! Каб сарочка ў сем столак не злезла! Хіба ж ён, гіцаль, не ведаў, што ў нас дзеці малыя?

— Канечне, пабралі,— азваўся Барабан.— І цяпер ваўчыца не супакоіцца, пакуль не схопіць чалавечага дзіцёнка.

— Ц-с-с. Ціпун табе на язык,— сыкнула на Барабана Жучка.— Сказаць жа такое!

Стала ціха. Усім цяпер было ясна: вялікая бяда прыйшла на Загорскія хутары. Самая ж работа ў людзей — і касіць, і палоць трэба, а тут яшчэ дзяцей пільнуй. Рабі і ваўчыцы сцеражыся. Кажуць, ваўкі — помслівыя. Аднаго году, яшчэ да вайны, каваль з Сяла Костусь Танец, ходзячы па грыбах, натрапіў на ваўчынае логвішча. Пяцёра гадавалых ваўчанят ледзь умясціліся ў лазовым ко-

шыку. Вечарам таго ж дня ваўчыца прыйшла па слядах. Калі выганялі статак на пашу, Танец убачыў у сваім хляве задушаных авечак і карову з вырваным вымем. Ваўчыца падкапалася пад сцяну і адпомсціла за ваўчанят, шкуркі якіх ужо сушыліся на жэрдцы пад застрэшкам хаты.

Жанкі пачалі разыходзіцца. Жучка папхала ў хату Геніка і Вольку. Піліпіха, не выпускаючы з рук, павяла Ірку. Пагнала перад сабой сваіх неслухаў Кутчыха. Ну, і Міцьку Дразду прыйшлося ўважыць маці. Алена ў самы апошні момант паспела ўхапіць Міцьку за шлейку, а каб сын паважаў матчына слова, падняла яшчэ тоненькі дубчык, які вельмі дарэчы нехта кінуў на сцежку.

Барабан пастаяў, пачухаў сытае мурло і таксама пайшоў. Злавіў у кустах Мітрафана, ухапіўся за рогі і павалок у хлеў.

Ісці ў лес, касіць сенажатку, Насця пабаялася. Да самага цямна смыкалася па двары, палола грады, рассцілала на прыгуменніку зелле, каб сушылася, і ўвесь час азіралася, бо хто ведае, адкуль выпаўзе помслівая ваўчыца — ці з кустоў, ці з лапушыстага бульбоўніку, ці з недалёкага жыта?

## 3

Загор'е як вымерла: ні Міцькі, ні Іркі, нават доўгі, як цыб, Лявонік не шастае паміж яблынь у сваім багатым садзе. Раніцай людзі асачылі, што ваўчыца ўсю ноч віжавала каля хутароў, шастала паўз хаты і хлявы. На пяску засталіся сляды — глыбокія, вялікія і шырокія, як Вінцусевы лапці. Каровы, нюхаючы сцежку, выгіналі шыі, раўлі, дралі капытамі зямлю.

— Трэба нешта рабіць,— гледзячы на такі пярэпалах, сказаў Хвядос.

— Тут і думаць нечага,— заклапочана адгукнуўся Вінцусь.— Бяры стрэльбу, ды пойдзем у лес. Недзе блізка круціцца ваўчыца.

Вінцусь зняў з гарышча стары, мо яшчэ мікалаеўскі, бярдан, зарадзіў куляй, Хвядос узяў стрэльбу, і паляўнічыя, неўпрыкмет перахрышчаныя ўдовінымі рукамі, пайшлі ў лес. Папарадзе чынна і высакародна плыў над хмызнякамі саламяны жоўты капялюш, за ім, дзіўна падскокваючы то ўверх, то ўніз, не адставала зацухмоленая кепка з паламаным, скамечаным брылём.

Вінцусь і Хвядос маглі ганарыцца сваім паляўнічым

шчасцем. Далёка не адышліся ад хутароў, мінулі баравы грудок, выбіліся каля Выжараў на кудру — зарослае кудзерыстым лазняком махавое балотца, і тут пад кустом лазы ўбачылі ваўчыцу. Два басавітыя стрэлы тут жа скаланулі кудру. Ваўчыца падскочыла, пасля тыцнулася мызай у мох, засоўгала тоўстымі, магутнымі лапамі. Рэха раскацістых стрэлаў дакацілася аж да Загор'я.

— Забілі! Але, забілі! Чуе маё сэрца: забілі! — абрадавалася Насця і пабегла расказаць аб гэтым сваім суседзям.

— Чуеш, мама? — натапырыў вушы Міцька Дрозд.— Гэта ж дзедаў бярдан лупянуў.

Загорцы чамусьці былі перакананы, што кулі паляўнічых не праляцелі міма. І людзі, вядома, не памыліліся. З добрым настроем яны калупаліся ў агародах, раз-пораз кідаючы позіркі на лес. І ўжо цяжка сказаць, хто з іх першы заўважыў саламяны капялюш на пару з пэламаным брылём. Вінцусь і Хвядос выйшлі на галу замучаныя і потныя. Павесіўшы стрэльбы на плечы, яны волакам цягнулі забітую ваўчыцу. Напінаўся болей Вінцусь, а Хвядос памагаў, таму што ад хадзьбы ў яго разбалелася кульця нагі.

— Далей не пацягнем,— выпусціў з рук канец папружкі Хвядос.— Хай яно ўтане.

— Тут злупім шкуру,— згадзіўся Вінцусь і таксама выслабаніў рукі.— А косці трэба закапаць, каб скаціну не трывожыць.

— Закапаем, не вынюхаюць.

Загорцы ўжо кіраваліся насустрач, беглі на ўзлесак, дзе прыпыніліся жоўты капялюш і скамечаны брыль.

Бокам і падскокам, круць-верць — падляцеў шалапут Міцька.

— Куды, дзед, папаў?

Падбегла Жучка — рабенькая, шустрая, абрадаваная.

— Ну, але, яна. Тая самая, што Паўліка крала.

Шась, хрусь кусты: Барабан. Яго яшчэ тут не хапала! Пастаяў, пазайздросціў, буркнуў:

— Етава-етава, акурат дзве пары ботаў за шкуру.

Сцішана, марудна, баязліва падышла Насця. Ваўчыца ляжала на баку — галавастая, лабатая, выкачаная ў балотную твань, у мох і кроў. З пашчыываліўся рабы доўгі язык, а Міцька кіёчкам стараўся запхнуць яго назад. Асмялеў падшыванец. Дай цяпер такому стрэльбу, дык усё ваўчынае племя вынішчыць пад корань.

— Дзед, ты ёй у галаву папаў.

На сваім вяку, жывучы каля лесу, Насці даводзілася бачыць і жывых ваўкоў. Аднаго бачыла, калі пасвіла каровы, другі сярод белага дня выскачыў з жыта, і тады Насця аж увамлела ад страху. Але гэтая старая ваўчыца, якую прывалаклі мужчыны, была нейкая незвычайная. У вочы кінулася, што падчарэўе ў яе пляскатае, як дошка, не адтапырваецца набрынялымі малочнымі саскамі, значыць, у ваўчыцы не было малых ваўчанят. Ад хваста да карка поўсць пабілася на касмылле, ды больш за ўсё Насцю здзівіла ваўчыная шыя. На ёй укруга віўся шырокі пасак, поўсць выліняла, відаць чырвоныя плехі на скуры. Падобна было, што ваўчыца насіла ашыйнік і выцерла ім поўсць на карку.

У людскім натоўпе ятрыўся, выхваляўся сваёй адвагай Міцька, а Насця глядзела няўцямна, трывожна, спалохана, і зрок яе пачынаў туманіцца, і ўсё навокал пачало дрыжаць, прападаць, знікаць у белым марыве.

— Ой, трымайце мяне,— прашаптала, слабеючы, Насця.— Упаду, бабы.

Яна пазнала гэтую здзічэлую, аблезлую нямецкую аўчарку. Неверагодна, дзіўна, жахліва, але Насця не магла памыліцца. Пяць гадоў — ужо цэлых пяць гадоў! — Насця носіць у сэрцы жалобу, бачыць перад сабой ашчэраныя клыкі, бачыць ружовыя плямы на снезе. Нямецкую аўчарку, якая пяць гадоў назад ірвала пад клёнам і шкуматала Сямёна, яна не магла не пазнаць.

— Паслеплі вы, ці што? Гэта ж не ваўчыца,— з болю, жаху і крыўды прастагнала Насця.— Гэта ж яна, Падгейнікава сабака — Хільда. Помніце? А ці забылі?

Насцю схапілі пад рукі, нехта з жанок пабег у хату і прынёс вады. Насця піла, не могучы спаталіць раптоўную смагу, і добра было чуваць, як зубы яе дробна ляскалі аб беражок алюмініевага кубка. Вада ацверазіла яе, слабасць у нагах прайшла, але белае марыва не прапала — яно па-ранейшаму дрыжэла перад вачыма.

Белы лес...

Белая даль...

Белыя людзі...

І чырвоныя, крывавыя плямы на белым, іскрыстым снезе.

Сямён, калі б ведаў сваю долю, вядома, не застаўся б тады начаваць, а калі б і застаўся, то яшчэ зацемна, з першым праблескам дня ў шыбах, пайшоў бы з двара, назад

у халодны, дрымучы лес, у снежную, марозную каламуць. Ён не паленаваўся б рана падняцца, але за ноч распухла і пасінела абмарожаная нага, падскочыла гарачка.

Сямён, сагрэты жончынай ласкай, рашыў перадняваць дома, балазе немцы ў апошні час не вельмі турбавалі загорцаў: па-першае, баяліся партызан, па-другое, зіма стаяла снежная, завейная, не ўсюды праб'ешся праз сумёты.

Развіднялася. У хату маглі зайсці людзі, і Насця паслала Сямёну на палку, за печчу, палок завесіла коўдрай, а калі пачула за дзвярыма хрыплыя галасы, то ўжо было позна што-небудзь рабіць. Бразнула, лопнуўшы, зашчапка, шырока расхлябесціліся дзверы, і ў хату з сенцаў, напусціўшы холаду, увалілася зграя паліцаяў.

Насця войкнула, збялела: вінтоўка! Насця не паспела прыняць яе, засунуць хоць бы пад ложак, і доўгая Сямёнава вінтоўка, прыслоненая да сцяны, адразу кінулася ў вочы гэтым п'яным, звар'яцелым цуцікам. Адзін з іх — нізкі і шчуплы, як блыха,— быў сам начальнік местачковай паліцыі Падгейнік. Яму даўно трэба было б парыць косці ў сырой зямлі, а ён усё яшчэ жыў, паскудзіў белы свет — прыблуда, вырадак у чорным шынялі, і гэты чорны здрадніцкі шынель да пары да часу не змаглі прадзіравіць партызанскія кулі. Узяўшы з рук цуцікаў Сямёнаву вінтоўку, Падгейнік зарагатаў спітым, траскучым голасам:

— Вінтоўка тут, значыць, і гаспадар дома.

Сямёна сцягнулі з палка, доўга, зацята білі спачатку ў хаце, білі ботамі, прыкладамі вінтовак, потым выцягнулі на двор — у адных споднiках, босага, з сінімі, распухлымі пальцамі на абмарожанай назе. Сямёна хапілі спрасонку, і ён не адразу ачомаўся, не адразу зразумеў, чаму раптам забалелі косці і з носа цуркам хлынула кроў. Яна заліла падлогу, заліла сцежку ад парога да клёна, пад які паліцаі кінулі беспрытомнага Сямёна.

Акурат узыходзіла сонца — халоднае, не вельмі яркае зімовае сонца, але і ад яго промняў чырвоныя плямы на снезе ўспыхнулі, зардзеліся, запалыхалі. А каля варотцаў, прывязаная да саней, ятрылася, вастрыла вушы, пачуўшы чалавечую кроў, пародзістая нямецкая аўчарка. Падгейнік, хмылячыся, пайшоў да саней, і Насця, зразумеўшы яго намер, закрычала:

— Што ты робіш, нехрысць, нелюдзь!

Яна яшчэ ўбачыла ашчэраныя, ружовыя ад сонца са-

бачыя іклы, убачыла, як паляцелі шматкі з Сямёнавай кужэльнай кашулі, пачула люты брэх і, хапаючы рукамі за паветра, са стогнам асунулася на снег. Доўга ці мала ляжала на мулкім, шэрхлым снезе — не ведала, а калі расплюшчыла вочы, то заўважыла, што пад клёнам ужо нікога няма, а яе будзіць, б'ючы па шчоках, суседка Антоля.

— Паднімайся, Насця. Прастудзішся. У хату ідзі, сястрычка. Забралі вырадкі твайго Сямёна. Укінулі ў сані і паехалі.

У Насціных вачах дрыжэў белы свет, мітусіліся дрэвы, неба і не вельмі яркае зімовае сонца, кудысьці ў туман прападаў перапалоханы Антолін твар.

Белы снег...

Ашчэраныя іклы...

Ружовыя плямы на белым снезе...

— Выпі, сястрыца, яшчэ вады. Адразу палепшае,— прасіла Жучка, стоячы каля Насці і з трывогай зазіраючы ёй у вочы.— Авой! На табе ж і крывінкі няма.

Людзі на ўзлеску прыгнечана маўчалі. Кінуў сукаваты ражон і адышоўся ўбок здзіўлены, зніякавелы Міцька. Стала вельмі ціха, няёмка і жудасна. Піліпіха абышла ваўчыцу, пнула нагой і, зірнуўшы на мужчын, як з дакорам сказала:

— І праўда, гэта ж не ваўчыца, Аўчарка гэта. Вунь і відна, дзе быў аброшак — уся шэрсць на шыі сцёрта.

— Етава-етава, дзве пары ботаў...— пачаў было і адразу сціх, як папярхнуўся, Барабан, адчуўшы на сабе пільныя і суровыя позіркі.

Каля мёртвай Хільды разгублена стаяў Вінцусь. Заклапочана і збянтэжана чухаў патыліцу Хвядос.

— Ат, халера! Трэба ямчыну капаць.

Загор'е, пазбавіўшыся адной бяды, думала цяпер пра Насцю — сплаканую, схуднелую, тоненькую, як чарацінка.

# Раздзел трэці

## 1

Спрадвечнае жаданне пераспелай травы — быць скошанай, легчы хутчэй у пракосы. Лясная сенажатка даўно хацела пачуць знаёмы ёй з ранейшых гадоў, працяжны

і меладычны пераззвон касы. І яна, травяністая сенажатка, раптам страпянулася, занервавалася, з канца ў канец па ёй пабеглі шызавата-зялёныя хвалі. Яшчэ і сонца не паднялося над лесам, як зусім блізка сапраўды зазвінела каса. У адначассе трывожна і журботна зашумелі асіны. Першаю ў гэтае лета сюды прыйшла Насця, першаю нагледзела высокую, сакавітую, дужа ядкую траву. І малады асіннік чакаў і не мог дачакацца, калі сенажатку пачне касіць пасівелая, маленькая кабета. Высокая трава ёй належала па праву: хто першы, той і лепшы.

Але на глухой галевай палянцы разгульвала не Насціна, а чужая каса — вострая, добра накляпаная. Сенажатку выкошваў незнаёмы лупаты чалавек. Ён часта азіраўся, баязліва ўцягваў галаву ў плечы, уздрыгваў нават тады, калі паблізу пачынала стракатаць сарока. Асінам не спадабалася, што чужая бяздушная каса палохае даверлівую сароку, крыўдзіць тую маленькую жанчыну, і асіны зашумелі гнеўна, трывожна і журботна...

— Скасіў-такі, паразіт!

Насця войкнула і, бездапаможная, абураная, спынілася з краю сенажаткі, пад шумлівымі асінамі. Яна стаяла аслабелая, з чорнымі кругамі пад вачыма, таму што не адышла, не акрыяла яшчэ пасля нядаўняга страхоцця, а тут новае перажыванне — прапаў каляснік добрага ляснога сена. Завірушнаю, халоднай зімой яго, канечне, любіла б есці карова. Нават і цяпер, улетку, нос аж зрывае мядовы, духмяны водар яшчэ не падсохлай травы. Даць бы такога пахучага сена карове перад цяленнем, то і не выйшла б вясною на пашу зазімліватая, худая, як трэска. Насця глядзела на пярэпаласую ад шырокіх пракосаў сенажатку і зразумела, што нічым тут сабе не паможаш, трэба ісці шукаць работу касе і бруску ў якім іншым месцы.

— Каб цябе ўжэ выкасіла на той свет,— пакляла яна Барабана, адчуваючы, што толькі ён, гэты скнара і смоўж, мог, набраўшыся нахабства, пакваліцца на чужое.

Насця добра ведала лес, і лес добра ведаў Насцю, не хаваў ад яе сваіх травяністых сенажатак, грыбных нерушаў і ягадных седлавін. Лес быў добрым сябрам: лячыў адзіноту, ратаваў ад суму і журботы. Насця помніла, што блізка тут стаіць яшчэ адна мурожная паляна, але пайшла не туды — пайшла зусім у другі бок і, калі на ўзлеску зазелянелі стрэхі загорскіх хат, зразумела, куды ідзе, чаго ёй трэба. Насці захацелася плюнуць Барабану ў во-

чы, і яна не магла саўладаць з гэтым сваім гневам, з дзіўным і недарэчным жаданнем. Знайсці Барабана, выцягнуць хоць з-пад зямлі і проста плюнуць у твар. Касу Насця перакінула цераз варотцы ў двор, бо, чаго добрага, той зякраты нахабнік застанецца без галавы, і — рашучая, гнеўная — подбегам пакіравалася на Барабанаў дзядзінец.

Насцю на парозе сустрэла сама Барабаніха. Выйшла пахмурая, насцярожаная, але трывогі не выдае — стаіць у злінялай, з хвальбонамі, сукенцы і шчэрыць ухмылкай шырокі рот:

— Не часта ж, Наста, ты ходзіш да нас? У госці прыйшла ці так? А мо пазычыць чаго хочаш? Мо солі, мо грошай? Дамо, але, дамо... Слава богу, у нас усё е. Прасі, не саромся.

Гнеў у Насці нечакана прапаў, яна пачала гаварыць спакойна і разважліва:

— Не, не пазычацца я прыйшла. У мяне і самой такая-сякая капейка вядзецца.

— А чаго ж ты прыйшла? Не хадзіла, а то раптам прыйшла?

— Выслухай, Вуля, акуратне і не злуйся хоць. Скажы: твой Павел хадзіў у лес касіць?

— Ну, хадзіў. А што? — зрабіла нявінны выгляд Барабаніха.— Усе ж у лесе косяць.

— Павел маю сенажатку заняў!

— Тваю? Дзе ж гэта яна, твая сенажатка?

— Тут недалёка. У асінніку, акурат насупраць маёй хаты.

— У асінніку?! І гэта там твая сенажатка? Ну і Наста! Бачыш, прысвоіла!

— Я ж першая там нагледзела траву. Нават і пракос зрабіла, каб ніхто не чапаў.

— А ты падумай, ці — першая? Помніцца, мой Паўлюк яшчэ вясной нешта гаварыў пра тую сенажатку. Але! Гаварыў, што трава там дужа хвайная паднялася.

— І ўсё-такі нядобра так,— збіраючыся ісці, папракнула Насця.— Суседзі ж мы. І такую пакасць чыніць? Зноў жа — удава я.

Барабаніха ўпёрлася кулакамі ў бокі, пачырванела, выгнула спіну, як быццам збіралася скочыць на Насцю:

— Дык чаму ж ты не скасіла сваю сенажатку? Хто першы, той і лепшы. Маўчыш? Нябось часу не мела. Ого, я ведаю, чаму ты часу не мела!

— Чаму?

— А хто да Хвядоса будзе па вечарах бегаць? Думаеш, я нічога не бачу? Не, я ўсё бачу.

Ад крыўды ў Насці на вачах закруціліся слёзы:

— Дурніца ты. Антолі ж дома няма, от я і памагаю Хвядосу ўходжвацца.

— Ха-ха-ха! Ведаю я такую помач. Хвядос — мужчына яшчэ ў самым саку, дарма што бязногі.

— Павярнуўся язык сказаць такое,— цяпер ужо залавала і Насця.— А скажы, калі ласка, ад каго гэта ты ўцякала, калі тае нядзелі бегла цераз жыта голая?

Барабаніха знячэўку папярхнулася едкім, гідлівым смехам, выпрасталася, быццам дрын праглынула, і рукі ў яе нервова задрыжалі, пацепнуліся, захадзілі ходырам. Яна не ведала, куды іх схаваць ад вялікай збянтэжанасці і перапалоху. Ёй не хапала дыхання, не хапала знаходлівасці, каб удала выблытацца з няёмкага здранцвення. Барабаніха нават не падазравала, што Насця бачыла яе ў жыце, а цікаўнага і дапытлівага Вінцуся, які мог што-небудзь змікіціць, яна вытурыла з хаты дзеркачом і на тым супакоілася. Хай бы з яснага неба лянуў пярун, і то Барабаніха не здзівілася б так, як здзівілася Насціным словам. Але збянтэжанасць і здзіўленне доўжыліся толькі нейкі міг. Барабаніха хутка саўладала з сабой. У яе словах з'явілася нечуванае вераломства і нахабства:

— Ну і пляткарка ты, Наста! Гэта я голая бегла цераз жыта? — Барабаніха зноў узялася ў бокі — чырвоная, потная.— Ха-ха-ха! Ты думаеш: Вуля такая бедная, што ў яе ўжэ і надзець няма чаго?

Крута павярнуўшыся, Барабаніха кінулася ў хату. Бразнула клямка, забрынчэлі столкі і табурэткі, грукнула аб сцяну века куфра. Насці трэба было ісці, каб не таптацца на чужым дварышчы, але не паспела яна і кроку зрабіць, як на парозе паказалася Барабаніха, несучы перад сабой бярэмя рознакаляровага адзення. На двары адразу запахла старызнай, зляжалым, затхлым кортам, у нос шуснуў едкі пах нафталіну, якім, відаць, перасыпалі адзежу, каб не пабіла моль.

— А гэта ты бачыла? — Барабаніха кінула адзежу на лаўку, пачала хапаць з кучы першае, што трапляла пад руку, і соваць Насці ў твар.— Колькі плаццяў, колькі ўбораў у мяне! Во сукенка — бачыш? Польскі шоўк — зносу не будзе. І — на замочку! Або во гэтая. А во і безрукаўка. І штапель, і паркаль, і саржа. А спадніцы! А кофты! А са-

рафан! Дзе ты бачыла такі сарафан?! І ўсё маё, кроўнае, за свой мазоль купленае.

Насця толькі моргала вейкамі, дзівячыся з такога багацця, а яшчэ больш таму, што Барабаніха ніколі не паказвалася на людзі ў якой-небудзь шчыгульнай абнове — ходзіць вечна забрынданая, у старой, аж выцвілай на сонцы сукенцы.

— Чакай, і гэта яшчэ не ўсё. Зараз зекры твае ад зайздрасці лопнуць.

Барабаніха зноў пабегла ў хату, і праз момант адтуль замест Барабаніхі выйшла нейкая важная, далікатная пані ў нечым жоўтым, мяккім і пушыстым. У Насці ад здзіўлення і дух пераняло. Босая, з нямытымі нагамі і пазакручванымі, як у дзятла, пазногцямі на пальцах, важная пані чынна прайшлася ўзад-уперад, крутанулася, і тое, далікатнае і пушыстае, матлянулася на ёй, як на калу. Але, вядома, гэта была не спешчаная пані, а сама Барабаніха.

— Лісіная даха — бачыш! У цябе такой няма і век не будзе. От прыйдзе зіма, сяду ў вазок і на базар паеду, як барыня.— Барабаніха, не скідаючы з плячэй пушыстую лісіную даху, спынілася насупраць Насці, запытальна зірнула ў твар: — Што ж ты цяпер скажаш? Магла я па жыцце бегчы голая?

— Бегла, як жа? На свае вочы бачыла,— сказала Насця.— Хіба я сабе не магу верыць? — І дзеля пэўнасці дадала: — У цябе яшчэ і кашуля была захляпана ў гразь, і на лытках была руда балотная.

Барабаніха ледзь не шалела ад нянавісці і злосці.

— Ніхто табе, Наста, не паверыць. Ты ж сляпая. Ты ж нічога не бачыш. У цябе ж вочы падслепаватыя.

— Каб з цябе так ірвала далёка, як я яшчэ бачу.

— Сыдзі з двара,— сыкала Барабаніха.— І нічога я табе не пазычу: ні жыта, ні грошай. Няйнакш на дружбу прыйшла набівацца?

— Уга! Патрэбна мне такая сяброўка! Калі на тое пайшло, то я з табой, Вуля, і па якому-небудзь дзелу на адным актары не сяду.

— Сядзеш, сядзеш,— не знаходзячы больш крыўдных, хлёсткіх слоў, прастагнала збялелая, ашаломленая Барабаніха.

Яна раптам зніякавела, зірнула на бярэмя квяцістых суконак, спадніц, кофтачак і, даўмеўшыся, што не трэба было паказваць Насці столькі дабра, кінулася насіць адзе-

жу ў хату. Хапіла адразу ўсю кучу, прыціснула да грудзей, але перашкаджала даха, і рукі не маглі абхапіць усё бярэмя. Сукенкі і кофты падалі на пясок, і тады Барабаніха здагадалася скінуць лісіную даху, нервова згомтала яе і пабегла хаваць у куфар.

Насця ішла з чужога панадворка і не ведала, што ёй рабіць: ці то бедаваць, ці то смяяцца?

— Паўлік, дзе ты? Злазь з вышак! Будзеш мне памагаць,— недзе ў сенцах чуўся траскучы голас Барабаніхі.— Ці ж хоць чуў, як я Сямёніху пазырыла з двара? От турнула дык турнула!

Насця мінула дзядзінец, падышла да жытняга поля, і тут, пад спакойны пошум каласоў, ёй падумалася, што не трэба тужыць, не варта бедаваць па той сенажатцы. Хай ужо Барабаны захлынуцца чужою бядою. Без сена Насціна кароўка не застанецца. Стаіць гарачае лета, трава яшчэ не скора звяне, пасохне, а лес вялікі — хопіць на яго палянах прастору для касы. А там і атава падрасце.

## 2

Насця і раней не вяла дружбы з Барабанамі, а цяпер і подаўна: не хочацца нават глядзець на дзядзінец, дзе за густымі кронамі яблынь жаўцее новай гонтай багатая хата. У Насці не засталося крыўды — былі толькі прыкрасць і расчараванне. Ці ж варта жалю тая нікчэмная сенажатка і ці варта хвалявацца, перажываць, калі маеш здаровыя ногі, цэлыя рукі і, апроч таго, нясеш на плячы лёгкую, увішную, вострую, як брытва, касу.

На сцежцы каля сваёй хаты стаіць Хвядос.

— Угамону на цябе, Насця, няма. То сюды, то туды — бытта заведзеная. Ці ж прысядзеш хоць за дзень?

— Грэх, Хвядос, сядзець, калі пагода стаіць.

— Сказала б мне, то памог бы што-кольвечы.

— У цябе, Хвядос, клопату свайго хапае. Я і сама якнебудзь упраўлюся. І так гавораць, што я ў цябе другая жонка.

— Хто гаворыць?

— Барабаніха, хто ж яшчэ?

— Мадь яе туды. От як сперажу па плячах, то ўраз прышчэміць язык.

Загор'е жыве сваімі звычайнымі клопатамі, і калі б хоць на дзень забраць у яго ўсе клопаты — вялікія і малыя, сумныя і вясёлыя, то гэта ўжо было б не Загор'е.

Людзі пасяліліся на пясчаных выспах, каля шумлівага лесу, каб урабіць вузенькія палоскі, пасеяць жыта, сабраць і змалоць зерне, напячы маладога, яшчэ зелянцовага хлеба і дасыта, на поўную губу накарміць сваіх неслухмяных дзяцей.

І нельга ўжо Загор'ю без Піліпіхі на агародзе, без Кутчыхі з посцілкай зелля за плячыма, без Жучкі з яе вечнай трывогай за Геніка і Вольку. Загор'ю нельга без Насці, без Міцькавай мамы, якая з раніцы памыла і вешае на плоце бялізну.

Загор'е жыве і радуецца жыццю. Каля балотца ходзяць спутаныя Палазінец і Гняды; у Капцах абдзірае лісце з ляшчын адзінокі Мітрафан; недзе блізка на ўзлессі рыкаюць каровы.

Піліпіха поле грады, Кутчыха носіць посцілкай зелле, а ў двары Драздоў дык сапраўдная вайна. Там несусветны шум, там гвалт, там ледзь што не крывавае пабоішча. Расчыняецца брамка, і на вуліцу кулём вылятае Міцька. За Міцькам гоніцца тонкі арэхавы дубец, а дубец у жылістай, яшчэ дужай руцэ трымае стары Вінцусь. Па дарожцы коціцца, як рэхва, жоўты саламяны капялюш.

Насця толькі што пагаманіла з Хвядосам і цяпер спалохана глядзіць на старога Вінцуся.

— Скажы, чалавеча, чым жа цябе ўгнявіў Міцька?

— Гэта ж паршывец пытаецца, калі я памру?

— А навошта яму, каб ты памёр?

Вінцусь беражна падымае з зямлі капялюш, старанна здзімае пылінкі.

— Ды бачыш, Насця, гэты блазняк надумаў стрэльбай маёй завалодаць. Во і заладзіў: «Калі ды калі ты памрэш, дзед?»

— Малое, дык дурное. Што яму са стрэльбай рабіць?

— Як што? — радуючыся нечаканай спагадзе, падае Міцька голас з-за кустоў.— Ваўкоў буду страляць. Ваўчыцу я не зблытаю з аўчаркай. Чуеш, дзед? Застрэлю, зніму шкуру і куплю табе боты.

— Э, унучак. Калі я памру, то і боты мне ўжэ не трэба будуць.

Міцька збянтэжана моргае густымі, выцвілымі на сонцы вейкамі. Пра гэта ён, аказваецца, не падумаў. Выходзіць, хай лепей дзед жыве, ходзіць у лапцях, бо ўсё роўна ён нічога не даведаецца пра Міцькава геройства.

— Усё табе застанецца, унучак, калі дзед памрэ,—

уздыхае Вінцусь.— І стрэльба, і сонца, і зямля наша кроўная. Усё табе...

Насця гладзіць зніякавелага Міцьку па бялёсай галоўцы і, прыгнуўшыся, бяжыць паўз балотца ў лес, на Выжары, дзе паміж баравых грудкоў у нізінах, зарослых крушынай і лазняком, трапляецца ніштаватая трава. Стаіць лета — спякотнае, гарачае лета, дык усёй работы не перарабіць. І з сенам нельга прамарудзіць, бо ў каго яго зімой пазычыш, і грады трэба палоць, і ўсялякая хатняя жыўнасць патрабуе жаночай ласкі і клопату.

Адной хоць парвіся, ды яшчэ Барабан, гэты скнара і караед, даўмеўся напляваць у душу. Хай ён апухне з тлушчу, хай носіць бэбах, як ночвы, а Насця пражыве і так, як жыла — ціха і мірна, без усялякіх згрызот. Таму, мусіць, і няма крыўды на сэрцы, толькі — прыкрасць і горыч, толькі нейкі неўтаймоўны боль у грудзях.

Насця неўзлюбіла Барабана з таго самага дня, калі ён — яшчэ пры белапанскай Польшчы — усімі праўдамі і няпраўдамі дамогся ў тутэйшага пана Абуховіча выгоднай пасады лесніка. Што за ўрэдзіна быў! Увесь свет абыдзі, а другога такога не знойдзеш. Бывала, пабягуць Насціны хлопцы — Мішка і Шурык — у панскі лес па грыбы ці па ягады, а лупаты Барабан тут як тут. Выскачыць з-за кустоў, стрэліць сырамятным бізуном на кароткім — з казінай ножкі — цаўі, закрычыць, чырванеючы ад злосці:

— Стой, гіцлі! А квіт у вас е? Няма? То марш хутчэй з лесу.

Хлопцы разлятуцца па кустах, як вераб'і, з плачам прыбягуць дахаты, а чым Насця магла развеяць іх бяду? У яе і самой балела душа па тых грыбах і ягадах. Перастояўшы на корані, яны мізарнелі, чахлі, згнівалі без карысці.

— Хай іх трасца возьме, гэтых аблудаў панскіх,— казала Насця.— Трэба ў гміну па квіт ісці. Грыбоў хоць на затаўку сабраць.

— Даскачацца калі-небудзь Барабан,— усміхаўся Сямён.— Не век жа тут панам баляваць.

За нейкі год да прыходу Чырвонай Арміі, відаць, нешта пранюхаўшы, Барабан раптам кінуў службу ў панскім лесе, распрадаў сваё дабро, нажытае, вядома ж, не ўласным мазалём, і застаўся бядняк бедняком: адна карова, адзін парсюк, хата ды яшчэ малады сад. У вайну першыя зімы сядзеў ціха як мыш пад венікам, надта не вытыркваўся на вочы нямецкім уладам, а калі недзе каля

Оршы спыніўся фронт і ясна стала, што фашысты не ўтрымаюцца на гэтым рубяжы, ён пайшоў у Чудзінскія лясы, выпадкова прыбіўшыся да дыверсійнай групы, у якой ваяваў Насцін Сямён.

Пасля вызвалення Барабан вярнуўся ў Загор'е героем: твар хоць зямлісты і шэры, але п'янаваты і нахабны, грудзіна хоць не ў медалях, але наросхрыст. З асаблівым форсам і шыкам ён навучыўся насіць адмысловую камандзірскую шапку з нейкай незразумелай кукардай, хромавую тужурку.

— Етава, етава, і здорава ж мы ваявалі,— хваліўся Барабан і загольваў правую руку, паказваючы кулявую адмеціну вышэй локця.— Глядзі от! Я быў цяжка раняты. Доктар хацеў ужо і руку адрэзаць.

Шрам быў свежы, толькі што зацягнуты ружова-сіняй скуркай, і гэтага было дастаткова, каб Загор'е, забыўшы ранейшыя крыўды, іншымі вачыма паглядзела на былога панскага лесніка: як жа — ваяваў! А яшчэ, бываючы на добрым падпітку, Барабан выцягваў з тужуркі жоўты лісток і тыцкаў ім у твар кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму:

— І дакумент маю, што ваяваў. Тут так і напісана: састаяў у дыверсійнай групе капітана Барсукова. Помню, здорава мы пудлавалі хрыцаў. А цяпер, етава-етава, за мае пакуты мне, відаць, добрую службу дадуць. Я чалавек граматны. Тры класы царкоўнай школы кончыў. Захачу, дык і буду магазіншчыкам у Сяле.

Барабан магазіншчыкам чамусьці не стаў. І ніхто з загорцаў не цікавіўся — чаму? У кожнага была свая бяда, свой клопат. Усіх мужчын з Загор'я адразу, як толькі прыйшлі нашы, пабралі на фронт, а Барабан застаўся дома. Казалі, што на ўрачэбнай камісіі ў яго знайшлі нейкі сур'ёзны непарадак у здароўі і далі белы білет.

Загорцы палеглі хто ля Познані, хто на Одэры, а Барабан, не ўспамінаючы больш пра сваё партызанства, купіў каня і пачаў нажывацца з удовінай беднасці. Разумеў, хітрун: без каня ім як без рук — загон не ўзарэш, жыта не пасееш, дроў не прывязеш.

Насця рэдка калі хадзіла да Барабанаў, старалася абмінуць шырокі дзядзінец з прыгожым маладым садам. Потым удовам палягчэла. Вярнуўшыся з фронту, Хвядос Макаед за якога паўгода вышкураў сабе сівога коніка, і той нядошлы, цягавіты Палазінец стаў агульнай радасцю і трывогаю загорскіх баб. За сваё інвалідства Хвядосу прыносілі пенсію, і гэта ён падказаў Насці, што яна таксама

можа мець ільготу за Сямёна. «Пайдзі ў сельсавет, што з табою станецца? — павучаў Насцю Хвядос.— Пабачыш: напалавіну знімуць падаткі. І адразу лягчэй стане. Пайдзі, кажу».

І Насця, асмеліўшыся, пайшла ў сельсавет. Там яе выслухалі з цеплынёй і прыхільнасцю, параілі напісаць у партызанскі архіў, каб выслалі дакументы на Сямёна, таму што без іх нельга афарміць ільготу. Вярнулася дахаты растрывожаная, знерваваная, бо не ведала, як і пра што пісаць у той архіў. Насця не ведала, дзе, у якім атрадзе ваяваў Сямён, помніла толькі, што быў ён недзе ў Чудзінскіх лясах. Дзе цяпер знайсці тых партызанскіх камандзіраў? І воляй-няволяй Насці давялося ісці да Барабана: усё ж быў разам з Сямёнам і павінен многае ведаць.

Барабан сустрэў яе насцярожана і нават, як падалося, сустрэў палахліва, збянтэжана. Сядзеў каля стала і доўга мыляў губамі, не могучы сабрацца з думкамі, круціў пукатымі вачыма, якім вельмі, відаць, не хацелася, каб Насці далі хоць якую палёгку.

— І чаго ты маўчыш, Павел? — гледзячы на Барабана, сказала Насця.— Не думай, што багацейшая за цябе стану.

— Што мне? Багацей на здароўе,— пачаў нарэшце гаварыць Барабан.— Але куды ты пісаць будзеш? Усе ж хлопцы з нашага атрада пабітыя, етава-етава.

— Як пабітыя? — перажагналася Насця.

— Я і твой Сямён былі ў адным спецатрадзе. Па асобаму назначэнню. Чалавек дваццаць нас было. Атрадам па рацыі камандавалі. Ужэ зусім блізка хронт быў, як мы папалі ў засаду. Каля Гаўрынчыц нарваліся на нямецкую часць. І ўсе хлопцы палеглі. І сам камандзір Барсукоў, і ўсе астатнія.

— То чаму ж ты не забіты? — само сабой вырвалася ў Насці.— Жывы сядзіш?

— Ах, Насця! У разведку мяне паслаў Барсукоў. Вярнуўся, а іх ужэ і пахавалі.

— І добра ж ты вёў разведку, што атрад на заслону наскочыў.

— Ну, во! Зараз ты дагаворышся, што я наогул у партызаны не ўцякаў. І што ранены не быў? — віскнуў Барабан, стараючыся ўкласці ў гэты віскдівы голас болей горычы і крыўды.— Абідна мне чуць такое.

Насця паднялася ісці. Уздыхнула.

— Знацца, Барсукоў не пацвердзіць, што Сямён у яго атрадзе быў?

— Як жа ён пацвердзіць, калі забіты? У мяне ў самога такая бяда. Свой дакумент я па п'янцы згубіў, а хто новы дасць? Сумка Барсукова з атраднымі дакументамі хутчэй за ўсё папала да немцаў.

Насця пайшла з Барабанавай хаты, нікуды не пісала, не дабівалася льготы. Адна жыве, а ці многа адной трэба? І ўсё роўна спакою не было і балела душа, мучылі пякучыя, звярэдлівыя думы.

У апошнія дні ад гэтых звярэдлівых дум Насця пачала хутка стамляцца і слабець. Во і цяпер, не выкасіла да канца сенажатку, а ўжо баляць ногі, смыляць рукі, кругам ходзіць галава. Трэба адпачыць, пасядзець трошкі. Але Насця не прысела на пянёк: зірнула на сонца і ўбачыла, што яно апусцілася над лесам — хутка вечар. У лесе прыкметна пасвяжэла, у кронах дрэў прашумеў верхавы вецер. І Насця ўскінула «сямёрку» на плечы, паціху паклыпала дахаты. Сёння трэба ўхадзіцца раней і раней легчы спаць.

Зноў сустрэўся Хвядос, але цяпер не каля хаты , а на выхадзе з лесу — таксама вяртаўся з пакосу. Спыніўся, уважліва зірнуў Насці ў вочы:

— Стамілася нябось?

— Не без таго. Але сянцом ужо азапасілася. Хай падсыхае, дык перанашу посцілкай. А там пожні яшчэ ўваб'ю. І хопіць на зіму кароўцы.

— Навошта посцілкай? Запрагу Палазінца і перавязу твае сена,— сказаў Хвядос, памаўчаў і ўжо з трывогай у голасе дадаў: — А мая Антоля нешта не піша, як яна там? Ці хоць добра даехала?

— А калі ёй пісаць? Прылашчыла Галю і забыла пра ўсё.

— Я ёй забуду! Хай адно прыедзе.

Насця пайшла, а Хвядос, скруціўшы цыгарку, доўга стаяў каля весніц, прыслухоўваючыся да дзівосных шумаў і гукаў блізкага вечара. Хвядос курыў, і яму ўсё ж было сумна стаяць аднаму каля пустых скрыўленых весніц.

## 3

Трэба было выплакацца. Вочы пачырванелі і пякуць, а позірк стаў халодны, нейкі адчужаны і невідушчы. Далі знаць аб сабе перажыванні апошніх дзён, сардэчны боль і гэты пастаянны, неўтаймоўны смутак. Цяжка Насці, быц-

цам камень на душу лёг. Трэба выплакацца, каб палягчэла, каб забыць пра ўсё на свеце.

Калі яна плача, то адчувае сябе адзінокім, безабаронным дзіцём, і тады хочацца, каб яе хто суцяшаў, гаварыў цёплыя і спагадлівыя словы. Насця любіла плакаць пры Антолі, бо кожны раз чула ад яе тыя цёплыя, гарачыя словы суцяшэння. Але Антолі цяпер не было ў Загор'і.

Яна наогул выбралася да Галі не ў пару, зусім не па часе. Каб на добры лад, то не варта было б Хвядосу пускаць яе ў такую вялікую і доўгую дарогу. Цяпер жа, сярод лета, работы ў людзей ажно цераз край: і лес кліча, і поле ад сябе не пускае. Чакаючы Антолі, Насця пасабляла Хвядосу па гаспадарцы, а калі-нікалі, знаходзячы вольны час, хадзіла па грыбы і ягады. Гасцінны, багаты і шчодры лес нельга было пакрыўдзіць. Пасля цёплых дажджоў на парослях, у маладым верасе паперлі з зямлі першыя летнія грыбы-каласавікі. Днямі Насця кошык з коптурам набрала крамяных, ядраных баравікоў: што панізала на нітку, што пакрышыла на бляху і паставіла ў печ сушыцца. Цяпер з-за прагарэлай засланкі на хату шыбае густы, цеpпкі пах разамлелых у цяпле грыбоў.

І на чарніцы з вясны гадзіла: і многа іх, і буйныя, уся зямля заслана, быццам чорны дождж у лесе выпаў. Збіраючы чарніцы, Насця падумала: «Навошта мне столькі? Усё, бы тая курыца, грабу пад сябе». Але тут жа яна ўспомніла даверлівыя і добрыя — пад густымі вейкамі — вочы Міцькі Дразда, і ёй захацелася набраць ягад не вядро, а цэлых пяць вёдзер, набраць ягад багата, каб іх, калі высахнуць, была вялікая зрэбная торба.

Славутая Насціна торба не давала спакою загорскім дзецям, мусіць, нават і снілася ім. З першымі халадамі, калі сады і агароды стаяць пустыя, голыя і шэрыя, у хату як не кожны дзень, то цераз дзень прыходзіць Міцька. Вялікі памаўза і ласун адчыняе дзверы, уважліва аглядае падлогу, сцены, столь.

— Як вы думаеце, цётка Насця? Здаецца, сыра ў хаце? Трэба было б паглядзець, каб бобкі ў торбе не ўзяліся плесняй. Дзе вы хаваеце торбу?

Прыходзіць танканогая Піліпішына Ірка. Таксама стаіць у парозе, шморгае носам. У Іркі незвычайны нюх:

— Ой, чым гэта пахне ў хаце? Ці не чарніцамі, цётка Насця? У мяне ажно галава закружылася!

Прыходзяць сарамлівыя Кутчышыны хлопцы — Коля і Ваня.

— Мы прыйшлі сказаць...

— Мы прыйшлі сказаць, што на другое лета, як будзем адпасваць за вас чаргу, нагледзім такі ягаднік, дзе вы на адным месцы цэбар чарніц назбіраеце.

І гэтыя нявінныя дзіцячыя хітрасці азначаюць, што цётцы Насці зусім не лішне будзе палезці на палок, развязаць сваю славутую торбу і насыпаць у падстаўленыя прыгаршчы сушаных духмяных чарніц. Насця радавалася, што да яе прыходзяць дзеці, душа яе спакайнела, калі дзіцячыя галаскі турбавалі цішыню маленькай замшэлай хаты.

Нагуляўшыся, дзеці раптам успаміналі пра іншыя свае клопаты, развіталіся, і зноў Насця заставалася адна. І зноў ёй было сумна, горка і адзінотна. Каб суняць скруху, яна знімала са сцяны асадку, садзілася за стол і доўга, пакуль не пачыналі балець вочы, узіралася ў цьмяны і бясконца дарагі здымак, на якім ціха і без скаргі жылі яе родненькія Мішка і Шурык. Яна ласкава і бязгучна размаўляла з імі, гаварыла пра свой боль і адзіноту, далікатна цалавала тоўстае шкло. Але Мішка і Шурык былі ўжо вялікія і сароме́ліся гэтай матчынай ласкі. Яны не разумелі, пра што шэпча збялелымі вуснамі маці, і глядзелі на яе пакрыўджанымі, адданымі вачыма. На покуці, пад бажніцай, вісела павялічаная фатаграфія Сямёна ў драўлянай, пафарбаванай на зялёнае рамцы. І Насця ведала, што мог бы сказаць Сямён у гэтую шчымлівую хвіліну. Ён сказаў бы: «Не жалься, Насця, не надрывай збалелае сэрца, ты ж не вінавата, што так выйшла».

Насціны хлопцы памерлі — адзін за адным — на другім годзе вайны, пасярод лета, калі даспявалі ў лясах суніцы, палавела на Кругляку жыта, а на вішнях ледзь-ледзь намячалася першая нясмелая чырвань. Хлопцаў звяла на той свет крываўка — страшная спадарожніца нястачы, нішчымніцы, войнаў. На моладзь тады нейкі мор напаў. У Сяле як ні штодня то з адных, то з другіх весніц вырываўся адчайны плач і лямант, а потым па вуліцы марудна клыгаў яшчэ адзін жалобны воз.

Падалі болей хлопцы. Макаедава Галя ляжала зялёная, як трава, але выжыла. А хлопцы падалі што мухі. Ведама ж, на бясхлеб'і гальцалі па садах і агародах, цягнулі ўсялякую зялепуху ў рот, дык хутчэй і ліпла да іх тая зараза. Галя, калі паправілася, доўга не рашалася зайсці ў пустую і халодную хату, дзе яшчэ нядаўна, хоць прыгаладзь, але весела жылі яе равеснікі — Мішка і Шурык Санцэвічы. На хутарах дзяўчат не было, і Галя гадавалася, лічы, у хла-

печай кампаніі. Цяпер жа Галя баялася гэтай пустой і халоднай хаты. Яна наогул перастала хадзіць сюды, бо кожны раз здавалася, што маладыя Санцэвічы глядзяць на яе з фатаграфіі гнеўна і дакорліва.

І трэба было ж так пакпіць лёсу, што праз год з нечым яна, Галя, а не хто іншы, прынясе цётцы Насці страшную і жахлівую вестку. Галя тады ўскочыла ў хату, захляпаная снегам, белая як смерць, са слязамі на вачах і, не могучы перавесці дыханне, ціха прашаптала, хоць трэба было загаласіць, закрычаць з неймавернага жаху і болю:

— Цётка Насця, ці чуеце вы? Там жа, ля дарогі, ляжыць дзядзька Сямён. Нежывы ён. Ужэ і снегам прыцерушыла.

Галя ведала, што рабілася зранку на Санцэвічавым панадворку, чула п'яныя выкрыкі паліцаяў, чула люты сабачы брэх. Потым вярнулася маці і сказала, што дзядзьку Сямёна павезлі на санях, а цётцы Насці стала трохі лепш: прыйшла да памяці, ляжыць на ложку і плача.

У той жахлівы дзень Галя сабралася ісці ў Кругловічы, бо даўно ўжо трэба было занесці мамінай сястры трохі прасяных круп. Круціла завіруха, цераз дарогу, засыпаючы санныя сляды, перапаўзалі шырокія снежныя плывуны. Углыбіўшыся ў лес, на паваротцы Галя войкнула і спынілася — анямелая, спалоханая. Торбачка з крупамі ўпала ў снег. Недалёка ля дарогі, пры самых кустах, ляжаў чалавек, прысыпаны снежнай жарствой. І Галя адразу здагадалася, што гэта дзядзька Сямён. Апрытомнеўшы на холадзе, ён, відаць, скаціўся з саней і кінуўся бегчы. Але не ўцёк. Але не дабег нават да кустоў. Дагнала лютая Падгейнікава аўчарка. А той злыдзень і вырадак, мабыць, стаяў і цешыўся, гледзячы, як драпежныя клыкі рвуць і нявечаць бездапаможнае цела.

Каля кустоў снег яшчэ не прысыпаў кіпцюрыстыя сабачыя сляды. Бязмоўная Галя вопрамеццю бегла назад. Падала, падымалася і зноў бегла. Калі ж скончыцца гэты лес? Навошта ж такі глыбокі снег?

— Цётка Насця, ці чуеце вы?

— А Сямёнушка мой! А гаротнічак мой! А завошта ж яны цябе — не-лю-дзі!

Насця потым сама дзівілася: чаму і дзеля чаго яна выжыла, чаму з жалю і болю не лопнула сэрца? Пахавалі Сямёна на другі дзень, і цяпер у самотным векавым хвойніку, які зялёным востравам узвышаўся пасярод белага маўклівага поля,былі ўжо тры родныя і дарагія магілкі.

Пасля жалобнай вячэры суседкі не разыходзіліся — баяліся пакідаць Насцю адну. Ражком кашміроўкі выцірала заплаканыя чырвоныя вочы Жучка. Цяжка, з усхліпамі ўздыхалася Кутчысе. Нервова хрускала белымі пальцамі Піліпіха. На краёк услона прысела Барабаніха — дзікаватая, насцярожаная.

Жанкі ўгаворвалі і суцяшалі Насцю. Суцяшалі, гаварылі цёплыя, спагадлівыя словы і яшчэ не ведалі, што праз лета, акурат перад новай зімой, тое ж будзе з імі самімі і Насця, трохі акрыялая ад свайго гора, будзе ўжо ўгаворваць і суцяшаць іх.

— Горка мне, бабы... Страшна мне,— загаласіла раптам Барабаніха.— Дзе ты цяпер, Паўлічак мой, заступнічак наш? А ці галодны ты, а ці халодны ты! А мо і цябе забрала ўжэ сырая зямелька?

— Сціхні, людзей не палохай,— насварылася на Барабаніху Антоля.— Жывы твой Паўлюк. Калі б што якое, даўно б знялі...

Насця потым дзівілася і не давала веры, што выжыла, каб зноў хадзіць па зямлі, каб зноў думаць пра сяўбу, думаць пра хлеб, думаць пра чарніцы для Іркі і Міцькі. Ёй хацелася памерці, але яна выжыла насуперак свайму жаданню, і цяпер былое ўпарта вяртаецца да Насці. І тады ёй хочацца заплакаць. Ёй трэба выплакацца, каб скінуць з душы ўдушлівы, цяжкі камень. Ёй патрэбен спогад, цёплае, пяшчотнае слова. Іх добра ўмее гаварыць Антоля — даўняя сяброўка і дарадца. Але Антоля паехала, і Насця сумуе па ёй, ходзіць апошнія дні як сама не свая.

Насці трэба выплакацца.

І Насцю прарвала, і гарачыя, нябачныя ў змроку салёныя гарошыны пакаціліся па шчоках. Пачуўшы ўсхліпы, прыціхла, знерухомела маленькая хата.

Пасярод маўклівай і душнай ночы самотна, адзінока і несуцешна плакала Насця.

# Раздзел чацвёрты

## 1

У Капцах, схаваўшыся ў цянёк, каб не смажыцца на сонцы, Міцька Дрозд муштраваў Мітрафана. Казлу хацелася ўцячы, залезці ў самы гушчарняк, паспытаць, якое там лісце на смак, але тады Міцьку было б сумна, і Мітра-

фан, хоць неахвотна, усё ж паддаўся муштрам. Міцька ўкленчыў, стаў на рукі, задрыгаў галавой і пачаў дражніцца з Мітрафанам, выклікаючы на паядынак.

— Бусі, Мітроха! Бусі!

Казёл трасянуў лямцаватай, склычанай бародкай, разагнаўся і лёгенька, шкадуючы, таўхануў рагамі Міцьку — даў «бусі». З рогатам Міцька кульнуўся ў траву. Падняўся, зноў стаў на каленкі. Бац — і Міцька зноў качаецца ў траве. Так паўтарылася некалькі разоў, і абаім ім стала добра, хораша і весела.

Мітрафан разгарачыўся, увайшоў у азарт, і яго ваяўнічасць пачала трывожыць Міцьку. Ну вось! Гэты барадаты арыштант ужо не дасць і падняцца з травы. Ледзь Міцька варухнецца, а казёл тут як тут — таўхець рагамі ў бок, і не знайся. І з кожным разам — усё мацней. Ясна, як божая раса: трэба ўцякаць. Улучыўшы момант, Міцька з енкам і смехам цурыў на капец, але капец быў не вельмі круты, і Мітрафан таксама апынуўся на капцы. Міцька ўскочыў на арэшыну, а казёл пакрыўджана забэкаў: на арэшыну ён яшчэ не навучыўся лазіць.

— Што ж ты, Мітроха? Лезь сюды,— запрашае Міцька і душыцца ад смеху.

З разгалістай, аж сівой ад старасці арэшыны відаць далёка-далёка. У лагчыне, горбячыся зялёнымі грэбнямі хат, ляжыць як на далоні Сяло. Вунь той высокі і прадаўгаваты будынак — гэта школа, хатка пад густымі ліпамі — магазін, а вось там, на водшыбе Сяла, чарнее дзіравай страхой старэнькая кузня. Барабанаў Лявонік, калі залезе на арэшыну, хваліцца, што адсюль добра відны Ганцавічы. Але ніякіх гарадскіх дамоў Міцька не бачыць — за Сялом суцэльныя кусты, сіняя, засмужаная далеч. Адтуль, у ціхае, яснае надвор'е, іншы раз вецер даносіць прыглушаныя адлегласцю гудкі паравозаў. Міцька цягнікоў яшчэ ніколі не бачыў. Аднойчы прасіўся пайсці ў Ганцавіцы, але маці не ўзяла. Хто першы раз ідзе ў мястэчка, дык там трэба цалаваць некага няруськага, ды яшчэ, аказваецца, у такое месца, што ў Міцькі адразу прапала ўсялякая ахвота глядзець на паравозы.

— А вось арэшкаў я пакаштую! — радуецца Міцька.

За арэхамі не трэба цягнуцца рукой — вісяць перад самым носам, і па адным, і цэлымі казлякамі. Во гэты пухнаценькі, з ружовымі шчочкамі павінен ужо даспець. Міцька зрывае арэшак і, не злузваючы зялёны кажушок, спрабуе арэшак на зуб. Цьфу ты, з малаком яшчэ! У роце

кісла і горка ад зялёнага шалупіння. Раскушаны і другі, і трэці арэх. Таксама — з малаком, а зярняткі маленькія і празрыстыя. Рана яшчэ рваць арэхі. Міцька расхінае рукамі галлё, і вачам адкрываецца селавая дарожка цераз грэчнае поле. Па дарожцы то бокам, то падскокам коціцца баязлівая Ірка. На ёй паркалёвая сукеначка ў чырвоны гарошак, а ў руцэ — маленькі хатулёк. З такім небагатым набыткам Ірка, відаць, бяжыць з аселіцы, дзе збірала шчаўе.

— І знайшла Піліпіха каго пасылаць па шчаўе,— крывяцца пагардай Міцькавы губы, быццам у Піліпіхі такіх Ірак поўная печ.

Міцька адчуў, што яго істотай зноў завалодвае нейкі неўтаймоўны гіз, і, не могучы саўладаць з гэтай сваёй дурасліваспю, ён паспешліва ссунуўся на жываце з арэшыны. Злавіў за абрывак вяроўкі Мітрафана, сцягнуў з капца, і хутка яны ўжо ўдвух хаваліся за кустом каля самай дарожкі. Калі чырвоны гарошак затупацеў зусім блізенька, Міцька падштурхнуў Мітрафана, і гэты барадач сваім казлiным розумам дапетрыў, чаго хочацца двухногаму падшыванцу ў крамных портачках, з шлейкамі крыж-накрыж цераз плечы. Набраў разгон, задзёр рагатую галаў і, як нядаўна Міцьку, таўхануў Ірку ў бок. Ірка азірнулася, войкнула, маленькі хатулёк выпаў з яе рукі.

— Ой, мамка, ратуй!

Чырвоны гарошак без памяці ўцякаў ад рагатага і барадатага стварэння, а Міцька аж залягаўся ад смеху. От вымуштраваў казла! Малайчына, казёл! Вярнуўся Мітрафан, бэкнуў, сінімі адданымі вачыма ўставіўся на Міцьку — чакаў, відаць, каб Міцька паўтарыў гэтую пахвалу ўслых.

— Малайчына, Мітрафан! А зараз пачакаем яшчэ каго.

А тут і чакаць не трэба. Паўз ляшчыны ідзе Кутчыха — у шэрым сачыку, босая, на галаве белая хустачка. Гэтая табе не Ірка якая-небудзь — ідзе спаважна і павольна, бо, відаць, натамілася, падымаючыся на горку. Кутчыха хадзіла ў магазін: з карзінкі, якую нясе ў руцэ, тырчаць хвасты селядцоў, загорнутых у газету. Задуменнымі вачыма Кутчыха глядзіць перад сабой і не бачыць, што на яе рыхтуецца нападзенне. Мітрафан трасе барадой, набірае разгон, і быць бы Кутчыхе беднай, але ў самы апошні момант, пачуўшы тупат, яна азірнулася і паспела ўхіліцца. Казёл прамахнуўся, каўзануў рагамі па спадніцы. Напэўна, яму сорамна стала перад Міцькам, і ён зноў за-

няў ваяўнічую позу, наставіў закручаныя, як сошкі, рогі. Але і Кутчыха не чакала. Хапіла з зямлі арэхавы дубец і сперазала казлу па спіне. Канечне, гэта табе не Ірка. Мітрафан, адчуўшы пякучы боль, палічыў за лепшае ўцячы з дарогі.

— Бачыш ты! Біцца ўздумаў,— тупала нагамі ўслед Кутчыха.— Ды я ж цябе абязвечу, ды я ж табе хрыбетнік пераб'ю!

Пад шумок Міцька зашыўся ў ляшчыннік, і лахматае, густое лісце хавала яго, пакуль Кутчыха не пайшла з Капцоў. Вылез, калі стала ціха, радуючыся, што ні Кутчыха, ні Ірка не здагадаліся, адкуль у Мітрафана такая ваяўнічасць. Ля дарожкі ў быльніку ляжыць хатулёк з Ірчыным шчаўем.

— Нічога, прыйдзе забярэ.

Казёл шчыпае побач траву, а Міцька думае, у што б яшчэ пагуляць. Хоць і праўда бяры рыдлёўку ды раскопвай вялізныя старасвецкія капцы. Дзіўна, каму гэта спатрэбілася перанасіць столькі зямлі? Дзед казаў, што ў курганах пахаваны шведскія салдаты. Міцька не ведае, якія яны, шведскія салдаты. Мо рагатыя, як Мітрафан? Але затое Міцька добра ведае, што ў магілы тым чужаземным салдатам клалі золата. І Барабанаў Лявонік гэта ведае. Аднаго разу за яблыкі ён наняў Кутчышыных хлопцаў, і ўтрох яны цэлы дзень капаліся ў курганах. Нарабілі толькі ям паміж арэшын, але золата не знайшлі. Золата, кажуць, плавае ў зямлі, таму і не лёгка на яго натрапіць. Лявонік кожнае лета капаецца тут і яшчэ, мусіць, будзе капацца.

Міцька любіць самы вялікі курган — зялёны і круглы, як перавернутая салдацкая каска. На сярэдзіне яго калісьці стаяў маяк. На маяк любіла лазіць Міцькава мама, калі была малая. Сама расказвала. І Міцька ўдаўся ў маму — не баіцца высока залезці. Шкада толькі, што ад маяка засталіся толькі тры гнілыя, збуцвелыя пні. У вайну спілілі паліцаі. Баяліся, каб на маяк не лазілі партызаны і не падглядвалі, чым яны там займаюцца ў Ганцавічах. Шкада маяка! Каб стаяў, то Міцька даўно ведаў бы, якія яны з сябе — тыя дзіўныя паравозы? І цалаваць нікога не трэба было б. Ой, хто там? Міцька кулём скочваецца з зялёнага капца, ловіць за вяроўку Мітрафана і цягне яго ў ляшчыннік.

— Хавайся, дурань.

З Сяла на горку падымаецца стары Вінцусь. Вельмі

зручны выпадак праверыць: смелы ці баязлівы Міцькаў дзед? Блізка, ужо зусім блізка шорхаюць лазовыя лапці, мякка так — шорх-шорх. Міцька лёгенька падштурхоўвае Мітрафана. Ну! Але той ні з месца, не варухнецца, стаў як укапаны. Мітрафан ці памятае балючы дубец у Кутчышынай руцэ, ці дужа паважае дзеда Вінцуся. Стаў і не варухнецца. А Вінцусь — шорх-шорх — і пацялепкаў далей, у Загор'е, не западозрыўшы ўнукавых штукарстваў.

— Эх, ты! — папракае Міцька замучанага, заезджанага Мітрафана.— А яшчэ з рагамі.

Каму ахвота слухаць папрокі? Мітрафан таксама іх не залюбіў, пашыўся ў густы арэшнік, далей ад усялякіх муштраў. Трэба было б хавацца і Міцьку, але ён і кроку не паспеў зрабіць, як матчына рука ўхапіла за шлейку. Міцька скасавурыўся на другую яе руку, якая трымала вузенькую дзедаву папружку.

— Ага, не ўцёк! Не будзе з цябе ніякага толку, відаць. Жартачкі, гэта ж ужэ на людзей пачаў нападаць.

Якая несправядлівасць: тую смаркатую, баязлівую Ірку мама называе людзьмі!

— От жа я табе, неслух!

Мама замахваецца папружкай, але рука яе ўздрыгвае, папружка абвісае, як пуга. Мама шкадуе біць худзенькае, збеганае, непаслухмянае цельца.

— Пайшлі дадому. Дзе Ірчына шчаўе? — Падняла з травы хатулёк, сказала дакорліва: — Хай бы і ты пайшоў на аселіцу. Ірка меншая, а ходзіць у шчаўе.

— Усё шчаўе ды шчаўе,— скардзіцца Міцька.— А мо я салка хачу?

— Дзе ж набрацца таго салка? Як заколем пад Акцябарску япручка, то іналопаешся тады ад пуза.

— Я цяпер хачу. У кубельцы яшчэ цэлая плаха ляжыць. Не думай, што не бачыў.

— Як бачыў, то адшчыкну кусянё. На патрэбу хаваю. Ці жыта жаць, ці якіх дроў прывезці.

Мама ўздыхнула, прайшла колькі крокаў і дзіўна павяла носам.

— Памыешся дома. Налью вады ў балею. Ад цябе ж, мой ты хлопчык, за вярсту казлом патыхае.

— Скажаш, мама! — не пагадзіўся Міцька.— Казёл пахне арэшнікам і травой.

Міцька азірнуўся і на самым высокім канцы, дзе калісьці быў маяк, убачыў Мітрафана. Трыбухаты казёл з

каваткам вяроўкі на шыі стаяў нерухома і ўглядаўся кудысьці ўдалеч — за Сяло, у бок Ганцавіч. Мусіць, таксама сумуе па тых далёкіх і дзіўных паравозах?

## 2

Па сахарыну і мыла загорцы ездзілі ў мястэчка. Але Барабаніха ўспаміпала, як бегла цераз балота, як пагубіла ў дрыгве сандалі, і ў яе прападала ўсялякая ахвота зноў дабівацца ў Ганцавічы.

У парозе ляжыць куча зрэб'я. Барабаніха носіцца па хаце злосная и заклапочная, грукае векам куфра, бразгае вілкамі, выцягвае з печы саган. Яна ўсё ж была гаспадыняй, а ў кожнай гаспадыні заўсёды дрэнны настрой, калі дома няма лішняга бруска мыла.

Але мыць зрэб'е трэба было, і, выцягнуўшы на двор цэбар, Барабаніха пачала рабіць луг — так у Загор'і называюць звычайны адстой попелу. Наліла ў цэбар гарачай вады, а зверху пасудзіну абвязала старой хусткай. Потым выграбла з грубкі попел і высыпала на хустку, якая адразу правісла і разам з попелам апусцілася ў ваду. Калі няма мыла, лугам ратуюцца ўсе загорскія гаспадыні. Пакуль Барабаніха завіхалася каля печы і давала есці гаспадару, шчолакі, якія ёсць у попеле, растварыліся і вада стала мяккай і мылкай. Цяпер трэба зняць хустку з цэбра, замачыць усё бруднае і пакінуць у вадзе на паўдня, каб адмакала. Гразь адапрэе, злезе, і тады застанецца толькі прапаласкаць бялізну ў чыстай вадзе.

Сагнуўшыся над цэбрам, Барабаніха пхала зрэб'е ў шэры, каламутны луг і думала, што ўсё-такі кепска без мыла. І клопатаў вунь колькі табе, і мыццё, канечне, не тое: ніяк не вышаруеш палатно дабяла. За спіной нехта шорхнуўся, рыпнуў пяском, кашлянуў. Паўлюк ужо, відаць, паснедаў і выйшаў з хаты. Барабаніха хацела спытаць, куды ён сабраўся, але не паспела, таму што ў гэты момант нешта вострае і балючае ўперлася ёй у бок, пад самую дыхавіцу.

— Паўлюк, ты здурэў! Чаго вілкамі порашся?

Барабаніха хацела выпрастацца, павярнуцца, каб даць гэтаму старому дурню добрага кухталя, як новы, яшчэ мацнейшы ўдар у сцягно ледзь не зваліў яе з ног. Якое нечуванае нахабства, гэта чорт ведае што! Адно цяпер застаецца беднаму Барабану — кідаць хутчэй вілкі і бегчы куды вочы глядзяць. Чырвоная ад гневу і злосці Бараба-

ніха сціснула кулакі, павярнулася, і якое ж было яе здзіўленне, калі замест Паўлюка ўбачыла каля парога казла з абрыўкам вяроўкі на шыі. Ці то Міцька аказаўся надзвычай здольным настаўнікам, ці то Мітрафан быў яшчэ таленавіцейшым вучнем, але ён вельмі добра засвоіў Міцькаву навуку. Гэтаму барадатаму і таленавітаму шэльме абсалютна нічога не значыла разагнацца і яшчэ раз таўхануць гаспадыню вострымі рожкамі.

— Паўлюк, дзе ты? — закрычала на ўвесь панадворак Барабаніха.— Усё ніяк не наясіся! А тут мяне казёл забівае.

Барабан сядзеў за сталом, мачаў картопляй у тук, глытаў скваркі, цешачыся ядой, і гэты прыемны занятак над гарачай патэльняй цікавіў яго больш, чым жончыны воклічы на двары. Не дачакаўшыся, калі ён выйдзе з хаты, Барабаніха хапіла з-пад плота дзяркач і пачала біць Мітрафана па чым пападзе. «От так табе! От так табе!» Яна ганялася за казлом па дварышчы, таўкла дзеркачом, потым злавіла за вяроўку, павяла ў хлеў і там яшчэ біла, пакуль душа не здаволілася. Выйшла потная, стомленая, зачыніла дзверы на засаўку, бразнула дзяркач пад сцяну.

— Паўлюк, дзе ты там? Каб цябе халера заела! І так жа адкарміўся — мядзведзь і за дзень хайло не аб'есць.

Барабан выйшаў з хаты, у палатнянай кашулі навыпуск, босы, выцер рукавом губы, прысеў на парожак з дратвай і шылам у руцэ, збіраючыся правіць парваную аброць.

— Што тут у цябе такое?

— Казла зарэж, от што! — падышла Барабаніха, памачыла ў цэбры рукі, выцерла аб спадніцу.— Колькі я гаварыць буду? Зарэж, і ўсё тут. Ён жа, бандзюга, калі-небудзь знявечыць мяне. Дзіва што, столькі лою нагуляў!

— Дык мо нельга цяперачы рэзаць,— запярэчыў Барабан.— Гарачыня такая — мяса як бач пратухне.

— Ну і адкладваць нельга. Потым выгарыць паша, дык адразу выхудняе казёл. У суботу зарэжаш, а ў нядзелю мяса завязеш на базар. За ноч не пратухне.

— А чаму я павязу, а не ты? — затрывожыўся Барабан.— Сама паедзеш. Етава-етава, вы, бабы, спраўнейшыя да торгу.

Барабаніха ведала гэта: на базары яна ўмела зазабліваць пакупцоў, умела, не міргнуўшы вокам, абмануць каго хочаш. Яна ўжо сумавала па мястэчку, па людным базарным пляцы. Але ў памяці жыў яшчэ той цёплы і сонечны

дзень, калі Барабаніха, палохаючы людзей, расхрыстаная і раздзетая, бегла на балота па мястэчковых вуліцах. Было страшна і сорамна. У Барабаніхі, калі ўспомніць, і сёння па скуры прабягаюць дрыжыкі. Не, відаць, не хутка яна адважыцца паказацца на вірлівым і шматгалосым мястэчковым базары.

— Як жа я паеду? — прытворна пажалілася Барабаніха і для пэўнасці пакашляла: — Бачыш от: прастуда ад вясны не праходзіць. Табе трэба ехаць. На базары зараз выгаляла з мясам — можна добрую капейчыну выручыць.— Яна раптам падазрона зірнула на Барабана, паківала пальцам: — Ды глядзі ж там, не прадзешаві!

— Не прадзешаўлю. Галаў я спраўную маю.

— Э, ведаю, якая ў цябе галава. Вялікая, але пустая, як недаспелы гарбуз. Ураз аблапошаць.

— Лухту ты мелеш,— зазлаваў Барабан.— Етава-етава, калі мяне хто аблапошваў?

— А стары Вінцусь? Мо забыў, як ён цябе ■ ботамі ашукаў?

Барабан пачырванеў, бо з-за гэтых ботаў загорцы і цяпер не даюць праходу яму. А ўсё — сусед, каб яму ногі паадсыхалі!

У першую ваенную восень Вінцусь выменяў на базары добрыя кірзавыя боты за пуд жыта — тады немцы яшчэ не абабралі загорцаў да нітачкі. У Капцах старога сустрэў Барабан, і яму дужа спадабаліся новыя кірзавыя боты.

— Дзе ты іх дастаў, суседзе? Відаць, салдацкія?

Барабан разглядаў боты з усіх бакоў, зазіраў у халявы, мацаў пальцамі падэшву, і вочы яго гарэлі прагным агнём.

— І колькі ж за іх?

— Анікалькі, немцы ў Ганцавічах задарма даюць,— сказаў спакойна Вінцусь.— Хто хоча, той і бярэ.

Барабан паспешліва развітаўся і праз гадзіну ўжо быў у мястэчку. Хадзіў па вуліцах, прыставаў да паліцаяў, распытваючы, дзе тут бясплатна даюць боты, нават немцам паказваў на мігі, што яму трэба, але тыя балбесы нічога не разумелі і праганялі нахабніка. Нарэшце Барабан дапяў у камендатуру і тут таксама дапытваўся ў вартавога пра боты, пакуль на шум не выйшаў начальнік паліцыі Падгейнік. Даведаўшыся, што гэты лупаты палешук хацеў бы памяняць лапці на больш прыстойны абутак, Падгейнік загадаў выдаць яму новыя боты. Барабана за-

вялі ў асобны пакой і так распісалі гумамі, што дахаты бядак дабіраўся траха як не ўсю ноч.

— Успомніў? Ха-ха-ха! — зарагатала Барабаніха здзекліва і кпліва.— Ты ж тады прывалокся пабіты, на сіняках. Ледзьве адхаяла.

Яна зноў нагнулася над цэбрам, варочала і перамешвала зрэб'е, а Барабан маўчаў. Яму не было чаго казаць, не знаходзілася слоў у апраўданне, і ён моўчкі сшываў дратвай аброць, спадылба зыркаючы на жонку. Барабан не любіў, калі загорцы ўспаміналі пра кірзавыя боты, і ў тыя хвіліны гатовы быў з'есці старога Вінцуся.

Гэты вясковы балака і жартаўнік ужо не адзін раз выстаўляў Барабана на пасмешышча. І Барабан не забываў крыўду, помсціўся, і нават тады, калі вёз Вінцуся ў Ганцавічы, прымушаючы штохвіліны злазіць з воза, то не Гнядога шкадаваў, а таксама помсціўся. Але і Вінцусь не застаўся ў даўгу. Хутка пасля той паездкі ён пусціў на Барабана новую небыліцу, ды расказваў яе суседзям так праўдзіва, што яны адразу паверылі, а хто дык і прысеў з рогату.

Калі верыць Вінцусю, было гэта так. Барабаніха аднойчы завалакла Барабана на балота і прымусіла грабці сена. Надоечы той хапянуў лішку, а тут балотная парнасць, аваднеча і такая млявасць у целе, што граблі проста выпадваюць з рук. Сонца высока, да вечара далёка, і дарма Барабан паглядаў на неба — яно было чыстае, лагоднае. Ніякай надзеі на дождж, хоць ляж ды памры ад спёкі і назойлівай аваднечы.

— Ты варушыся, а то сонны як муха,— пачала нервавацца Барабаніха.— Дождж каб не пайшоў. Вунь як прыпарвае.

— Маўчы лепей,— агрызнуўся Барабан.— Бо зараз хмару выклічу.

Дражнячыся з жонкай, ён на момант перастаў грабці, крыкнуў у сінюю далеч балота:

— Эге-гей! Хмарка, сюды! Хмарка, сюды! — пагроб трохі, зноў крыкнуў: — Хмарка, сюды! — Пагроб і яшчэ: — Эге-гей! Хмарка, сюды!

На табе і хмарку. Выплыла з-за лесу — попельна-шэрая, ціхая, без ветру. Кінуўшы граблі, Барабан укленчыў пад кустом лазы, схіліўся ў зямным паклоне.

— Госпадзі, блісні! Госпадзі, блісні!

Варухнуўся лазовы куст, шорхнула сухая асака, і перад вачыма ў Барабана засвяціўся сноп іскраў. На цемі

імгненна выскачыў гузак, і, хапіўшыся за яго, Барабан прастагнаў:

— Госпадзі, чым ты?

З жаху ён азірнуўся і зрабіў гэта вельмі своечасова, бо над ім, цішком падкраўшыся з-за лазняку, стаяла Барабаніха і трымала ў руках граблі дзяржальнам уперад.

— Я табе пакажу — госпадзі! Я табе — блісну!

Магчыма, гэта была Вінцусева выдумка, але Загор'е ахвотна паверыла ёй і шчыра, ад душы смяялася з Барабана. Баючыся здзеклівага, вясёлага смеху, ён стараўся абмінаць людскія шумныя зборні, не часта паказваўся загорцам на вочы. Цяпер у руках Барабан трымаў шыла і думаў, што не пашкодзіла б ім прапароць Вінцусю язык, а заадно і жонцы, каб не ўспаміналa ўсялякую дрэнь.

— Так што сам паедзеш на базар,— выпрасталася над цэбрам Барабаніха, хапілася рукой за паясніцу.— Ой, у крыжах забалела. Якая я нямоглая! Адно ж глядзі, не прадзешаві! Упарадкуешся з мясам, дык мыла не забудзь купіць. Кепска без мыла. У лузе мыю, а хіба гэта мыццё?

Работа ў Барабана не клеілася: шыла лезла не туды, куды трэба, ірвалася дратва.

## 3

Барабан ненавідзеў Вінцуся, але на хутарах было не багата мужчын, і, калі нявыкрутка якая, хочаш не хочаш, прыходзілася клікаць старога на помач. Вінцусь таксама не любіў Барабана, але, калі той завітваў з нейкай новай просьбай, ішоў памагаць, таму што ў Загор'і надзвычай была ў пашане суседская выручка і талака.

З самага ранку дзень выдаўся халодны і ветраны. З-за шэрай навалачы хмар жоўтай плямай прасвечвалася сонца. Дзень быў няласкавы, пахмуры і паганы, як і настрой у старога Вінцуся. На Барабанавым панадворку каля свінога карыта таўкліся куры, за хатай, на папары, хадзіў Гняды, вецер варушыў грыўкі пабурэлага бур'яну, жоўтага баркуну. Каля плота, чуючы нешта нядобрае, непакоіўся вялікі рыжы казёл, прывязаны шнурам да прасла. Вінцусь стаяў побач, а Барабан, укленчыўшы над тачыльным кругам, вастрыў нажы. З сянец раз-пораз выглядвала Барабаніха, мыючы начоўкі пад вантробы.

— Паўлюк, хопіць ужэ табе маліцца над гэтым кру-

гам,— не выцерпела яна.— Можна падумаць, што каня збіраешся паваліць.

— Ніяк табе не ўнаровіш! — падняўся з наўколенцаў Барабан.— Але ж і праўда — досыць тачыць. Нажы вострыя як брытвы.

Выгляд у яго вясёлы, непрытоена-радасны. У Вінцуся, наадварот, твар пахмуры і заклапочаны, саламяны капялюш ссунуты на патыліцу.

— Павел, чуеш? А мяса куды?

— На базар, куды яшчэ? З рукамі панясуць.

— Не купяць.

— Чаму?

— Казлінай будзе ванець. Казёл стары, дык і будзе смярдзець. Пабачыш: адвернуцца гарадскія насы.

Цяпер наадварот: твар у Барабана пахмуры, заклапочаны, нават спалоханы, а ў Вінцуся выгляд усмешлівы, хітраваты і вясёлы.

— Дык што ж рабіць?

— Не бядуй. Я ведаю спосаб.

— Які ж?

— Трэба ў адначассе рэзаць. Я, скажам, па шыі, а ты вунь тое, што ў казла пад жыватом адвісла, чыркянеш. Толькі разам трэба, па камандзе. Зразумеў?

— Зразумець зразумеў, але ж ці праўда гэта, ці не смяешся ты?

— Во табе крыж! Дзядамі праверана. Мяса будзе, як з казляняці малога — ніякага табе духу.

— Калі так, то давай і па твайму спосабу,— пашкроб пераноссе Барабан.— Абы купілі.

— Ты маладзейшы, то станавіся ззаду,— распарадзіўся Вінцусь.— Як ухопіш у руку, скажы мне і лічы да трох.

Барабан прысеў каля растрывожанага казла, палез пальцамі ў доўгую рудую поўсць.

— Знайшоў?

— Яшчэ не. Не бярэцца, зараза! Ну вось: узяўся! — зарагатаў Барабан.— Лічу да трох. Раз! Два! Тры!

Яму раптам стала смешна і весела. Хіхікаючы, Барабан пацягнуў нажом, і тое, што з такой цяжкасцю было знойдзена пад жыватом у старога казла, цяпер ужо акрываўленае, слізкае і гадкае, засталося ў кулаку. З немым енкам Мітрафан узвіўся на дыбкі, упаў на калені, падхапіўся і, быццам нітку, парваў моцны бялізнавы шнур.

Вінаваты быў Вінцусь, але ён не зазяваўся, не прамарудзіў. У самы апошні момант яму зрабілася шкада гэта-

га рагатага прыгажуна, і рука з нажом бязвольна апусцілася, пальцы распчаміліся, нож ціха ўпаў у траву. Казёл ужо быў невядома дзе: перабег панадворак, як страла, пранёсся паўз сад, міма копанкі і, ламаючы галлё, прапаў недзе ў алешніку. На траве, дзе ён бег, як хто працягнуў ланцужок з чырвонага бісеру.

— Дзе казёл? Што вы нарабілі, анціхрысты? — з сянец ужо бегла Барабаніха.— Дзе казёл, пытаюся?

Бязмоўны стаяў Барабан, спалохана і здзіўлена глядзеў на свой мокры кулак, недарэчна думаючы, што нож аказаўся надзіва востры. Ціснучыся бліжэй да плота, уцякаў з чужога двара стары Вінцусь. Раструханая, страшная і бязлітасная бегла з сенцаў Барабаніха.

— Вось дык уліп! — выдыхнуў Вінцусь у канцы саду.— І нагі маёй тут больш не будзе.

Ля плота, пачуўшы кроў, замяўкаў кот. Загаласіў, заплюскаў вачыма, чакаючы свежыны. Гаспадар са злосцю шпурлянуў кату ягоны здабытак, выцер аб порткі рукі і пусціўся па свежым следзе наўздагон уцекачу. Асочваў казла па ружовых пырсках, якія цямнелі на лісці трыпутніку і дзікага шчаўя. За папарам, у алешніку, раслі ваўчкі, лапушыўся густы бабоўнік, і тут ужо нельга было разгадаць, куды, у які бок цурыў Мітрафан.

— Хоць дадому не заяўляйся,— уздыхнуў Барабан і ўжо марудней пацёгся ў бок Выжараў.

У гэты час, калі ён смыкаўся па лесе, заглядваючы пад кожны куст і кожны вывараць, Барабаніха шукала казла ў Капцах, лётала ад ляшчыны да ляшчыны, залезла на вышэйшы курган і адтуль азірала наваколле. Атрымаўшы кухталя ад маці, круляваў паўз суседскія двары і агароды заплаканы Лявонік. Нават Кутчышыны Коля і Ваня, якія ў гэты дзень былі вольныя ад паства, у пошуках казла бегалі па кустах і навакольных імшэчках, павысалапліваўшы языкі.

Мітрафан прапаў невядома дзе. Быў і няма. Дзікі боль і жах, мабыць, загналі бедака ў нейкую нетру і глуш, нават і не здагадаешся, дзе шукаць. Мала надзеі, што казёл выжыве, а калі і выжыве, то заядуць ваўкі. І дзень, як знарок,— няласкавы, ветраны, пахмурны.

Надвячоркам, калі ў лесе, ужо ля самых хутароў, зарыкалі каровы, першай на свой панадворак вярнулася Барабаніха. Прысела па парозе — стомленая, злосная, з пустымі, папухлымі вачыма, кіпула каля сябе замашны бярозавы біч. Сядзела, божкала, а калі блізка ў крапіве

заторгалі крокі, натапурылася, прыціхла. З-за рога хаты ціха, крадком выйшаў Лявонік.

— Ну і як? Знайшоў?

— Не-а, не знайшоў. Аблазіў усе куткі і закуткі — як скрозь зямлю праваліўся.

Запыханы, чырвоны і нявясёлы прыбег Кутчышын Коля.

— Няма нідзе,— развёў ён рукамі.— А так жа шукаў! А так жа шукаў!

З-за варыўні стрымгалоў вылецеў Кутчышын Ваня.

— Дзіва, дый годзе,— сказаў ён голасам брата.— Ажно ногі забалелі, столькі папабегаў.

Блізка каля хаты цераз плот перавесіліся вішні. Яны шкадавалі хлопцаў і працягвалі ім праз частакол галінкі, на якіх чырванелі сакавітыя, духмяныя ягады. З глыбіні саду вецер даносіў ачмуралы пах белага наліву. Але хлопцы не знайшлі Мітрафана, і таму прапала ўсялякая надзея на жменьку чырвоных, даспелых вішань, на некалькі яблычак-ападкаў.

— Пайшлі,— уздыхнуў Коля.

— Пайшлі,— уздыхнуў Ваня.

Яшчэ не сцямнела, калі на панадворку — стомлены і прыгнечаны — паказаўся Барабан. Ён таксама ўздыхнуў і зусім бездапаможна апусціўся на кант цэбра. Але яму не трэба было весці сябе так неасцярожна, так неабачліва — усяго праз нейкую хвіліну ён зразумее гэтую сваю памылку. Яму трэба было ўцякаць адразу, як толькі ступіў на панадворак, і тады абышлося б, бадай, без страт, але Барабан быў стомлены, прыгнечаны і не мог здагадацца, з якой гэта нагоды каля парога ляжыць бярозавы хлыст.

— І ты думаеш, што я табе дарую казла? — Барабаніха хапіла гнуткі біч і ўжо заносіла яго над галавой.— Апаломак! Пустадомак ты! Гэта ж паслухаўся таго старога дурня, таго ёлупня.

— Етава-етава...

— На табе — етава...

Барабан уцякаў, увабраўшы галаў у плечы, бег спачатку паўз сад, потым выбег на бульбяное поле і ўцякаў, уцякаў без аглядкі. Пасярод поля нечакана ўбачыў, што бульба цвіце — цвіце, як абліўшыся ружовым буйным цветам. Усё поле ўсыпана вялікімі ружовымі кветкамі. «Чаму так доўга не адцвітае бульба?» — мільганула недарэчная думка. Але адказу не было, таму што позаду, цяжка сапучы і спатыкаючыся, бегла Барабаніха. Раз-по-

раз яна ўзмахвала рукой, і кожны гэты яе рух Барабан адчуваў па тым, што бярозавы дрын з крэктам апускаўся яму на плечы, апякаючы агнём скуру праз тонкую мультановую кашулю.

Барабан таксама спатыкаўся ў няроўных разорах, ногі блыталіся ў густым бульбоўніку, і ці то ад спорнага бегу, ці то ад крыўды ў роце набралася поўна сліны. Ён хацеў сплюнуць на хаду, але ўжо моцна балелі лапаткі, і ён уцякаў без аглядкі, а сліна ўсё сачылася, і Барабан раптам зразумеў, што гэта яго абарона, апошняя надзея, адзіны шанц пазбавіцца пагоні. Ён раптам павярнуўся і плюнуў — рашуча, без шкадобы, плюнуў проста ў твар жонцы.

Гэта было так нечакана і раптоўна, што Барабаніха стала, як уперлася ў сцяну, бярозавы біч упаў у разору, у лапушысты бульбоўнік. Яна стаяла і хакала ротам, хапала паветра, якога ёй было мала. Барабаніха не магла зразумець, што здарылася. Ёй падалося, што з неба раптам ляснуў пярун, стрэліла гармата, разарвалася бомба. Падалося яшчэ, што гэта апошні міг яе жыцця, і Барабаніха ад страху і жаху залямантавала на ўсё поле:

— Ой, людцы, ратуйце! Забіў! Забіў! — Яна хапілася рукамі за шчокі, за лоб, абмацала, што ўвесь твар мокры, і ў голасе яе прыбавілася роспачы.— Далібог жа, забіў! Во і мазгі пацяклі.

Барабаніха, ашаломленая, стаяла пасярод бульбянога поля, а ўжо блізіўся вечар, з усіх бакоў насоўвалася халодная шэрань, збіваўся лямцамі туман у лагчынах. Барабан выбіўся ў канец засеўка і тут ішоў ужо няспешна, павольна. Сёння яму прыйдзецца начаваць у хляве, на сенавале. Заходзячы на свой хутар паўз сажалку, з другога боку, Барабан уздыхнуў:

— Етава-етава. І свету цяжка, і зямля стагнала...

# Раздзел пяты

## 1

Рама ў акне, здавалася, трэсне, не вытрымае такога груку. Але Жучка не шкадавала раму, не думала, што планкі трэснуць, і з усёй сілы латашыла кулаком па крыжавіне акна.

— Насця, ты спіш хіба? А ці забыла, што ў лахачы дамаўляліся?

Скрыпнула драўляная засаўка — дзверы адчыніліся.

— От прапрышчыла трохі ў печы, ды дай паляжу, думаю. Натупалася я за гэты месяц.— Насця зірнула на неба, ці чыстае яно, пазяхнула і павяла рукой, запрашаючы ў хату: — Заходзьце, а то на двары пастойце, пакуль якія хадакі абую.

— Пачакаем. Хутчэй адно збірайся.

Ішлі на Выжары, на імшэчак, дзе ўперамежку з параснікамі п'янлівага багуну густа кусціцца лахачоўнік. Загор'е ад малога да вялікага ўжо ведала, што там даспелі ягады — буйныя, прадаўгаватыя, а багата іх — возам не вывезеш. За Выжарамі пасвілі быдла Кутчышыны хлопцы і нагледзелі тут ягадную седлавіну. Загор'е абрадавалася такой навіне і паслала за Выжары ледзь не ўсіх сваіх гаспадынь.

Па звілістай лясной сцежцы першай ішла Кутчыха, бо не чые ж, а яе хлопцы знайшлі такі ўраджайны, шчодры лахачоўнік. За Кутчыхай, пазвоньваючы вёдрамі, браліся Піліпіха і Жучка. У канцы талакі гулка шлэпала гумовымі — не па назе — ботамі маленькая Насця. У лес лахачоўніцы бралі і Алену Драздову, але яна не пайшла, бо апошнія дні нешта кволілася, падхворвала.

— Прыйшоў Пятрок — упаў лісток,— зірнуўшы на белы бярэзнік, сказала Кутчыха.

— Прыйдзе Ілля — наробіць гнілля,— дадала Піліпіха.

Лес, аднак, стаіць зялёны, свежы, як вясенні, а дарога — хай яе кадук. То гразкія балацявіны, то гнілыя ператочыны, то карані чапляюцца за ногі. Далей яшчэ горш — пасярод дарогі, ад краю да краю, разлілася шырокая лужына. Вада цвіце, зялёная ад броснi. Кутчыха прыпынілася: боты ў яе парваныя. У Жучкі боты новыя, нядаўна купленыя, і дзіўна, што аб гэтай яе пакупцы яшчэ не ведаюць суседкі.

— Чаго ты стала? Тут жа плытка,— сказала Жучка і рашуча пайшла цераз калюжыну. Ногі шуснулі ў яму, новыя боты з халявамі схаваліся ў вадзе.— Ой, і праўда глыбока,— спалохалася Жучка.— Вада ажно да портак дастае.

— То ж у цябе порткі ніжэй калень,— засмяялася Піліпіха.— Зірні сама.

Жучка, плёхаючы ботамі, перабегла лужыну, лапнула сябе па спадніцы.

— Такі ж праўда. Гумка пэнкнула.

Бабы, пакепліваючы з такой прыгоды, укруга абмінулі калюжыну, а Жучка выліла з ботаў ваду, потым дагнала суседак. Вось і Выжары. Па ўзгорыстай градзе калісьці прайшоўся агонь. Але слядоў пажару ўжо не відаць, толькі маладыя сосны абгарэлыя ля камялькоў. Ружавее невысокі яшчэ верас, у лагчынах падняўся ягаднік. Града вузкім, бы язык, клінам спускаецца ў балотца, на беразе якога Кутчышыны хлопцы нагледзелі такое мноства лахачоў. Балотца адчулася па тым, што ў лесе перабіваючы гарэнкі водар жывіцы, пацягнула сырасцю і цвіллю, дыхнула п'янлівым пахам багуну. Вецер не шумеў у кронах дрэў, і пах багуну быў асабліва моцны і церпкі.

— Прыйшлі! — выгукнула Піліпіха.— Глядзіце, колькі тут ягад!

— Мае хлопцы не падвядуць,— заганарылася Кутчыха.

Жанкі выбіліся на самую стру́гу. Гэта мяжа, граніца, пераходная паласа паміж балотцам і сухім грудам. Без усялякага парадку на струзе перамяшаліся белы бярэзнік, кашлаты хвойнік, пахмуры алешнік. Унізе, цесна пераплёўшыся, растуць лахачоўнік і багун, пружыніць пад нагамі зялёны мох, узбоч, бліжэй да сухога, прыткнуўся ажыннік уперамежку з высокай крапівой. Нават у самую гарачыню тут сыра, трымаецца прахалода, і каровы ў спёку ратуюцца на струзе ад пякучай заедзі — сляпнёў і аваднечы.

— Я ўжэ збіраю,— паведаміла Жучка.— Станавіцеся і вы, бабы.

З лахачоўніку відаць імшэчак. На ім, як стагі сена, стаяць сіваватыя кусты лазы і крушыны. Піліпіха зірнула на балотца, штосьці ўспомніла, гледзячы на лазняковую кудру, і борздзенька павярнулася да суседак:

— Чуеце, ці не тут Вінцусь і Хвядос упалявалі ваўчыцу?

— Хто іх ведае, можа, і тут? — пацепнула плечукамі Кутчыха.— Дык жа не ваўчыцу, а нямецкага пёса.

— Паціхніце вы, знайшлі што ўспамінаць,— прыкрыкнула на іх Жучка і неўпрыкмет павяла вачыма па Насці.

— Гаварыце, мне мала абыходзіць,— бадзёра азвалася з лахачоўніку Насця.— Не тут забілі, міма той кудры мы праходзілі. Пакажу, як назад ісцімем.

Але яна сказала не тое, што падумалася ёй, калі пачула размову суседак. Яна схлусіла. Напамінак аб аўчарцы зноў пекануў па сэрцы доўгім пакутлівым болем. Зноў яна

бачыла жоўтыя іклы, белы снег з ружовымі плямамі. Насця не хацела, каб гэтую яе разгубленасць заўважылі жанкі, і пашылася ў самы гушчар, як быццам знайшла там процьму ягад. На сярэдзіне стругі і праўда было многа лахачоў — вісяць шышкамі, хоць сашморгвай усёй жменяй. Але прадаўгаватыя, як фасоліны, бобкі выслізгваюць з пальцаў, не хочуць брацца. Пальцы, заўсёды такія спраўныя і паслухмяныя, быццам адзервянелі.

Насця думала пра Сямёна, успамінала той халодны зімовы вечар, калі, абмарозіўшы нагу, Сямён прыклыпаў дахаты. Пучкамі пальцаў загрукаў у шыбу, і па тым, як лёгка, па-свойску дрынкае тонкае шкло, Насця пазнала: гэта ён! Упусціла ў хату, зашчапілася, занавесіла вокны, потым запаліла каганец. Сямён скінуў залубянелую суконную бравэрку, сцягнуў боты, крывячыся з болю. Раскруціў анучы, і Насця ўбачыла, што вялікі палец на правай назе пасінеў і распух. Відаць, доўга Сямён ішоў праз завіруху, праз люты мароз, калі так пасінеў і распух палец. Насця наліла ў тазік халоднай вады, паставіла перад Сямёнам — халодная вада памагае суняць боль. У цеплыні памарожанаму целу робіцца яшчэ горш.

— Немцы бываюць? — спытаў Сямён, калі боль у назе трохі суцішыўся і ў вачах трохі пасвятлела, праяснілася.— Гэта ж прамоклі боты, а нанач мароз хапіўся. Насілу дапяў.

— Не трывожся,— супакоіла Насця.— Наязджаюць, але рэдка. Гэтай зімой немцаў у Загор'і не бачылі.

Сямён прыйшоў у партызаны яшчэ тым летам. Пасля таго як сыноў зжыла са свету крываўка, пачарнеў, не знаходзіў сабе месца дома. Насця не пускала, але ўпёрся, не даўся гаварыць і — пайшоў. Ужо год з нечым, як Сямён у лесе. Немцы, калі прыязджалі ў Загор'е, не чапалі Насцю, таму што нічога не ведалі пра Сямёнава партызанства. Потым у атрад пайшоў Барабан, і таксама было ціха. Пашнырыўшы ў ахвоту па пустых сялянскіх клунях і паграбах, немцы і паліцаі ні з чым адпраўляліся ў Кругловіцкі бункер, дзе стаяў іхні гарнізон. Часта з Ганцавіч наведваўся начальнік паліцыі Падгейнік з аўчаркай на павадку, але і ён нічога не здолеў пранюхаць. І Загор'е, і Сяло ўмелі маўчаць, умелі хаваць свае крэўныя тайны.

— Немцы сюды і нос баяцца паткнуць,— паўтарыла Насця.— Свету божага не відаць — такая халепа круціць.

Яна садрала з Сямёна брудную, закарэлую бялізну, дала чыстае, каб пераадзеўся. Пасля сабрала павячэраць,

выцягнула з-за бажніцы запыленую кварту і паставіла на стол. Сама села насупраць Сямёна і, не зводзячы вачэй, глядзела, як ён есць. У хаце было цёпла і ўтульна, а за сцяной гула завіруха, вецер выў у коміне, патрэсквалі кроквы, як быццам бура збіралася сарваць страху, каб адабраць у людзей гэтую цеплыню і ўтульнасць — апошняе іх шчасце і радасць.

— Глыні і ты. Я накапаю кроплю,— прапанаваў Сямён, расчырванеўшыся ад выпітай самагонкі, і зірнуў на покуць.— Добра ўмееш хаваць.

— Цябе ж чакала,— засаромелася Насця.— Ты от еш. Выпі і еш. Знябыўся, здарожыўся.— Насця памаўчала, уздыхнула.— Не хадзіў бы ты, Сямён, адзін поначы. Яшчэ на гэтых нехрысцяў нарвешся. Зноў жа, адзежы людскай не маеш.

— Нічога не зробіш. Трэба ісці, калі пасылае камандзір. Расстраляць аднаго знаёмага загадана. Вадакачку ў Ганцавічах ён павінен быў узарваць. Пайшоў на заданне і не вярнуўся. І міну, гад, недзе запратарыў.

— То мо ты не ў парцізанах, калі сваіх знаёмых страляеш? — спалохалася Насця.

— Такі ён мне свой! — сціснуў зубы Сямён.— Куля яму сваячка.

— А каго ж табе забіць трэба? — халаднеючы ад жаху, папытала Насця.

Сямён наліў у шклянку, выпіў і, пажаваўшы гурка, сказаў з усмешкай:

— Многа ведаць захацела. Ваенная тайна. От застралю гадаўца, тады і дазнаешся...

Насця, нічога не разумеючы, паслала Сямёну за печчу, на палку — там цёпла і з хаты не відаць. За сцяной шастаў вецер, выў у коміне, патрэскваў кроквамі. Насця яшчэ не ведала, што гэта іх апошняя цёплая і ўтульная ноч, не ведала, што раніца будзе жахліваю і крывавай. Калі Сямён заснуў і застагнаў у сне, яна здагадалася, што ён захварэў, бо лоб стаў гарачы і ліпкі. Яна падумала: дасць бог, нічога не зробіцца, калі перадпюе дома, у цяпле і спакоі. Насця не спала, чуйна прыслухоўвалася да завірухі і шкадавала Сямёна, а каб ведала тую ліхую долю, то не пашкадавала б яго. Выперла б такога — хворага, з балючай нагой — у завею, на дзікі мароз і холад: мажліва, і выжыў бы, уцалеў бы ён.

Яна так і не даведалася, каго меўся застрэліць Сямён. Тайна пайшла за ім следам, у сырую і халодную магілку.

Потым, калі ачомалася, калі трохі аціх у грудзях боль, Насця не раз задумвалася, ці выпадкова гэта, што паліцэйская зграя, якая ўсю зіму вачэй не паказвала ў Загор'е, паявілася тут якраз у той дзень, калі Сямён заначаваў дома. Гэта мала было падобна на выпадковасць. Насця перабірала ў памяці ўсіх сваіх знаёмых, усіх суседзяў, але навокал жылі цудоўныя, ціхія і добрыя людзі, нават Барабан, былы панскі ляснік, пайшоў у атрад, і пра кожнага з іх грэх было падумаць што-небудзь благое. Насця пакутавала, вярэдзілася душой і сэрцам, яна хацела забыць свае горкія думы і ўжо забывала іх пакрысе, ды вось на табе — зноў гэтая заклятая нямецкая аўчарка.

Шыючыся ў гушчар, Насця адыходзілася ўсё далей і далей ад сябровак. Іх галасы чуліся недзе за спіной, і калі жанкі клікалі яе, Насця адгуквалася ім. Ёй хацелася пабыць адной. Яна думала пра сваё, горкае, выпакутаванае, а рукі абіралі і абіралі з махнатага вецця пругкія, з сінім налётам лахачы. Насця зірнула на вядро і здзівілася: здаецца, толькі ўвайшла на стругу, а ягад ужо набралася як не да рубчыкаў. Лахачы збіраюцца хутчэй, чым чарніцы. Не трэба так гнуцца, і ў паясніцы не баліць. Зноў жа бобкі буйнейшыя: раз, два і — цэлая жменя. З дому брала паўлітровы слоік, каб збіраць у яго лахачы, а потым сыпаць у вядро. Але збірыч не спатрэбіўся: ягад жа многа. Цяпер трэба напоўніць і шкляны слоік, бо грэх ісці дахаты з пустой пасудзінай.

— Насця, дзе ты прапала? — даляцеў густы, басавіты Піліпішын голас.— Мо памагчы табе?! У нас ужэ ўкоптур.

— Не-а, не трэба. Зараз і я выйду на дарогу.

Насця дазбірала слоік і, калі сабралася ісці, адчула, што кружыцца галава. Кружацца сосны, кружыцца белы бярэзнік, і церпка, ачмурэла пахне багун. Зямля ўцякае з-пад ног.

— Што з табою, Насця? — шкадаваннем сустрэла Жучка.— Бытта пахістваешся, як п'яная?

— Гэта так, пройдзе. Галава нешта закружылася. Мабыць, багуну надыхалася.

— І ў мяне баліць галава.

— І ў мяне,— дадала Кутчыха.

— Ого! Багун добра дурманіць,— сказала Жучка.— Можна ўпасці, як насапешся.

Кабеты пазавязвалі хусткамі вёдры і ўжо няспешна, марудней, чым уранкі, ішлі па няроўнай лясной дарозе.

Ішлі, і кожная, мабыць, думала, што ўжо не хутка лес зноў пакліча да сябе. Лахачы — прадвесніцы жніва. Калі паспелі лахачы, то нават не пытай: трэба брацца за серп.

## 2

За свой немалы век Вінцусь, напэўна, памяняў цяслярскіх сякер больш, чым знасіў палатняных кашуль. З гадамі сякеры траплялі ўсё цяжэйшыя і цяжэйшыя, а рукі ўсё слабелі і слабелі, трацілі былую сілу. Ужо можна было б не ўспамінаць нялёгкі цяслярскі занятак, але што тут паробіш, калі з Кругляка пахам маладога хлеба нагадвае аб сабе жыта, а ў асеці, дзе да малацьбы будуць падсыхаць снапы, ушчэнт струхлеў дашчаты памост.

Вінцусь садраў гнілыя дошкі, паслаў на іх месцы новыя цалёўкі, і толькі каля сцяны зеўрае вузкая, прадаўгаватая шчыліна. Сюды не хапае дошкі. Па цяперашнім часе не так проста расстарацца які-небудзь аполак, і з гэтай прычыны Вінцусь стаіць над дзіркай без настрою.

— У нас за хатаю ляжыць хвайная дошка,— здагадваецца пра дзедаў клопат Міцька.— Я з яе гойдашку ладзіў.

Вінцусь святлее з твару: іншы раз і добра, што пад рукамі круціцца гэты малы падшыванец.

— Ляжыць? То хіба пабяжы памерай, ці падыдзе на памост?

Рыпяць завесамі вароты, зачыняюцца за Міцькам. Праз хвіліну з таго боку варотцаў чуецца сапенне: усё, памераў.

— Дзед, адчыні! Мерку нясу.

Вінцусь расхлябешчвае форты, падпірае калком, каб зноў не зачыніліся, і здзіўлена глядзіць на Міцьку. Унук стаіць ля падваротніцы, шырока расставіў рукі і баіцца, каб яны ж хоць не варухнуліся і не збілі мерку.

— Ты што, рукамі мераў?

— Рукамі...

— Дуранько, трэба было метру ўзяць.

Вінцусь ідзе за хату сам, расцягвае драўляны складны метр — дошка акурат закрывае дзірку ў асеці. Трэба толькі абчасаць няроўныя берагі. Дошка, зашчэмленая пад пахай, плыве ў хлеў, падае на гліняны ток, а Вінцусь бярэцца за сякеру.

— Ай ды Міцька! Даўмеўся як.

Міцька маўчыць, дзедаў смех яго мала турбуе. Прысеўшы на бярозавы цурбан, Міцька ўважліва разглядае хлеў,

як быццам зайшоў сюды ў першы раз. Перагародкай з асінавых плашак хлеў раздзелены на дзве палавіны. У адной стаіць карова і яшчэ ёсць закутак для сена, а ў гэтым канцы невялікае гуменца. Яно і відаць, што гуменца. На драўляным гвазду, убітым у сцяну, вісяць рэзгіны і цэп, у кутку стаіць паташоўка — вялікая, у дзедаў рост, бочка. Сюды засыпаецца насеннае жыта. Звонку клёпка белая ад сухой цвілі, таму што ў вайну паташоўка разам з жытам была закапана ў зямлі.

— Дзед, а ты быў на вайне? — пытае Міцька.

На памосце Вінцусь прыладжвае дошку, грукае сякерай, і на момант гэты стук аціхае.

— Як табе сказаць?! Хто жыў у той час, лічы, усе былі на вайне.

— А партызанаў ты бачыў? — хоча яснасці Міцька.

— Эге ж, унучак! Не толькі бачыў, але і памагаў ім. Бывала, зойдуць скалелыя ад холаду, абагрэюцца і — зноў у дарогу. Дык як людзей не накарміць? Боты ў мяне былі новыя, яшчэ ненашаныя, на базары за жыта выменяў, тэж партызанам аддаў.

— І многа іх было?

— Як калі. І па адным заходзілі, а то часцей па двое, па трое. Праз нашы лясы, унучак, сам Каўпак ішоў. Каўпак — гэта генерал партызанскі. Уга, колькі войска ў яго было! Цэлая армія! У Гуце, суседняй вёсцы, іх штаб стаяў. Сам Каўпак жыў у хаце вучыцеля Юзіка Пакумейкі.

— А Каўпака ты бачыў?

— Хто яго ведае? Мо і бачыў. Сюдою, паўз Капцы ішлі каўпакоўцы. Мо дзён два ехалі іхнія абозы. Дык там многа ў тужурках гарцавала на конях.

Вінцусь перастаў грукаць сякерай, сюды-туды прайшоўся па скрыпучым памосце. Дошкі ляжалі роўна, чэпка, і можна было радавацца, што насціл такі моцны, вытрымае хоць цэлую гару снапоў. На памосце бялеюць свежыя трэскі, але не бяды: калі пазбіраць, то доўга маці не трэба будзе думаць пра падпалку. Вінцусь згроб у кішэню цвікі, узяў пад паху сякеру і, напаследак любуючыся сваёй работай, сказаў:

— А цяперачы пойдзем да Піліпіхі. Тэж прасіла гуменца падлатаць.

— Табе ж цяжка, дзед. Дай хіба я панясу сякеру.

— Ой, яшчэ ўпусціш, нагу пасячэш,— палохаецца Вінцусь. Стаіць, думае, супіць выцвілыя бровы.— Ну, калі так жадаеш памагчы, то на, унучак, метру нясі.

Міцька нясе складны метр, сточаны бляшкамі з тонень-кіх драўляных лінеек. Вінцусь нясе сякеру, і нікому не цяжка, яшчэ і як лёгка. Ісці трэба цераз усе хутары, у самы канец Загор'я. Але якая тут марока, калі так лёгка ісці. Міцька першым пхае нагой перакошаную брамку, першым ступае на чужы панадворак. Няхай бачыць Піліпіха і тая яе плакса Ірка, хто прынёс сюды складны метр! Без яго цесляру як без рук. Хто б рашыўся латаць без метра старое Ірчына гуменца, калі б не Міцька? Сітуацыю добра, відаць, разумее і Піліпіха, бо, радасная і растуханая, ляціць ужо насустрач:

— Праходзьце далей, чаго сталі? Я ж зранку чакала вас. Прыстарунак, ну, саўсім рассыпаўся.

А Ірка ёсць Ірка. Стаіць і скарэндзіць, нават пальцам поркае на Міцьку, як на якое заморскае дзіва:

— Мама, гэта той самы Міцька, што Мітрафана падвучваў, каб мяне рагамі калоў.

— Адчапіся, дзеўка,— махнула рукой Піліпіха.— Не да цябе мне.

— Але ж ужэ няма казла,— матыляецца вакол Міцькі сукеначка ў чырвоны гарошак.— Няма, няма! Больш не падвучыш, каб калоўся.

І праўда: няма Мітрафана, як май змаяваў бедака. Прапаў так, што Барабаны і грама казлінага мяса не спатрэбілі. Міцька хмурыцца, уздыхае, і ўсё яму тут здаецца дзіўным: дзіўная Ірка, дзіўная Піліпіха, нават гусі нейкія дзіўныя таўкуцца каля свінога карыта. Дзве гуські зусім голыя: пер'я няма на крылах, абшчыпаны шыйкі і спінкі. Там, дзе было пер'е, засталіся толькі сінія пішчы. Такі ж неважнецкі выгляд у гусака, а што гэта гусак, можна здагадацца хіба па моцнай дзюбе, па чырвонай кукардзе на галаве. Гусак, мабыць, саромеецца свайго жабрацкага ўбору, забірае гусек і вядзе іх далей ад людскіх вачэй — у густы алешнік за Піліпішынай хатай.

— Нічога, адрасце пер'е,— перахапіўшы Вінцусеў позірк, пачала тлумачыць Піліпіха.— Мо ты не дасі веры, але ў мяне чыстая бяда з гусямі была. Пакінула на развод, а то ж днямі прыйшла дахаты і за галаву хапілася. Ляжаць усе тры каля плота — дзюбкі паадкідвалі, лапкамі дагары. Ужэ і не дыхаюць. Заплакала я, абшчыпала збольшага пер'е і выкінула нежывых гусей у кусты. Хто ж іх будзе такіх есці? А сярод ночы валасы дыбам сталі: гусі гагочуць каля парога. Дальбо, думала: нячыстая сіла. Ажно ж не, раніцай пазнала: мае гусі, абшчыпаныя.

— Якая ж у іх халера ўбілася? — рагоча Вінцусь, і яму памагае Міцька: — Ха-ха-ха! Хі-хі-хі!

— Не халера, я вінаватая,— нахмурылася Піліпіха.— З таго году ў мяне вішнёвая настойка ў слоіку была. Настойку выпіў Хвядос, як дровы прывозіў, а вішні я пад плот высыпала, каб слоік памыць. І трэба ж гусям нарвацца акурат на тыя вішанькі. Падзяўблі ўсе да адной. І пап'янелі, і ляжаць як нежывыя. Якое шчасце, што не закапала іх, а ў кусты выкінула. Паляжалі паўночы, а зямля адцягнула, працверазіла. Ацёмначы прывалакліся пад свой дом.

— Добра, што малыя гуські якраз у картапельніку, па касцярозе пасвіліся,— хмурыць, як маці, тонкія броўкі Ірка.

— Ой, вы ж нікому не расказвайце,— спахапілася Піліпіха.— Смяяцца з мяне будуць.

Яна завяла цесляроў у хлеў, паказала работу. Хлеў у Піліпіхі нічуць не лепшы, чым у Драздоў. Яшчэ, можа, і горшы. Гліняны ток, як малацілі снапы, пабіты, вышчарблены цэпам, а ў Піліпіхі, відаць, не хапае рук, каб замясіць гліны і загладзіць вышчэрбліны. Праз дзіркі ў страсе свіціцца неба, але затое ў хляве светла і сонечна. У кроквах патрывожана крычаць ластаўкі: там іх гняздо. Ластаўкі баяцца груку сякеры і спалохана шмыгаюць то на двор, то ў хлеў.

— Дзед, раскажы яшчэ пра вайну? — просіць Міцька.

— Ат, што тут расказваць! Не абрыдла хіба?

— Не абрыдла,— Міцька крыўдзіцца сам і пачынае крыўдзіць дзеда.— Хвалішся, што парцізанаў бачыў многа. І сам ім памагаў. А чаму ж вы, такія смелыя, не забілі таго паліцая, што дзядзьку Сямёна сабакаю зацкаваў?

— Адкуль ты, блазнюк, ведаеш пра дзядзьку Сямёна? — торгаецца ў Вінцуся брыво.

— Людзі гаварылі, калі вы аўчарку прывалаклі з лесу. А цётку Насцю вадой паілі, каб не плакала.

— Не думай так, унучак,— па-сапраўднаму крыўдзіцца Вінцусь.— Той злыдзень Падгейнік хітры быў, што вуж. Лавілі яго доўга. І пад канец злавілі, павесілі на асіне каля Дзянісавіч. Хацелі і Хільду застрэліць, ды ўцякла. От бо зараза, праз колькі год аб'явілася!

— Добры дзень, сталяры-цесляры!

У варотах хлява стаіць аднаногі Хвядос. Ён таксама прыйшоў ладзіць Піліпісе прыстарунак, таму што тры-

мае ў руках такое ж начынне, як і дзед. Следам за Макаедам у хлеў бяжыць збянтэжаная Піліпіха.

— Галава мая садовая,— ганіць яна сваю бедную галаву.— Гэта ж я, Хвядос, і забыла, што цябе прасіла прыйсці з сякерай. Пабегла, дурніца, яшчэ і Вінцуся прасіць. Скажы: ці ж не ашаломленая я?

— Бывае і так,— апраўдвае Макаед віпаватую Піліпішыную галаву.— Затуркалася клопатамі, дык і не дзіва, што забыла.

— Ат, станавіся, Хвядос, ды будзем разам рабіць,— смяецца з прыстарунка Вінцусь.— Усё адно з сякерай стаіш.

На двух адмысловых майстроў работы ў прыстарунку, канечне, кот наплакаў. Макаед, якому цяжка нагінацца, абчэсвае дошкі, а Вінцусь, укленчыўшы на памосце, забівае цвікі. Суладна працуюць сякеры: «гах-гах» — адна, «стук-стук» — другая. Глядзіш, і таго клопату як не было. Хоць ты вазьмі ды пахвалі спраўныя цяслярскія сякеры. Яны і памост новы паслалі, і самі не затупіліся, а ў дадатак яшчэ і трэсак нарабілі — Ірчынай матцы на падпалку.

— То пайшлі ж у хату, мужчынкі,— запрашае Піліпіха, і цяпер не скажаш, што галава ў яе такая забыўлівая.— Пайшлі...

— От што, Яніна,— лагаднее душою стары Вінцусь.— Туды, пад восень, трэба будзе страху на хляве перанавіць. Гэта ж не дзела, каб дождж карове на рогі ліў.

— Не забудзь толькі кулёў дзесяць добрай саломы-праміцы выбраць,— раіць Хвядос.

— Выберу, выберу,— не ведае, як радавацца, Піліпіха.— А цяперачы ў хату ідзіце.

Славутыя загорскія цесляры як не цвітуць ад радасці. А Міцьку Піліпіха ў хату не запрашае. І гэта такая несправядлівасць, што ажно неба над Загор'ем пацямнела. Ці ж Міцька не памагаў дзеду? Яшчэ і як памагаў: і брамку перад ім адчыніў, і метр усю дарогу нёс. Чым той Хвядос лепшы? Мо якія дзве дошкі абчасаў, а ў хаце даўно.

Ірка не ведае, які ў Міцькі паганы настрой, і просіць дарэмна:

— Давай разам гуляць. Ну, давай...

— Не буду я з табою гуляць, занудаю такою!

Бразгае клямка, і на парозе стаіць Піліпіха.

— Міцька, дзе ты там? Во гасцінец вазьмі. Не задарма ж ладзіць асець памагаў.

Неба над Загор'ем пасвятлела. У руках Піліпіха трымае

па ёмкаму акрайцу хлеба і па вялікаму лычыку каўбасы. Левая рука цягнецца да Міцькі, правая цягнецца да Іркі.

— Ладна, буду гуляць з табою,— згаджаецца на Ірчыны ўгаворы Міцька.

— Я так і ведала! Я так і ведала,— цешыцца Ірка.

Міцька, выцершы сытыя губы, гуляе з Іркаю на зарослым быльнікам дварышчы. Куляецца ў траве і дзівіцца: аказваецца, і з гэтым чырвоным гарошкам можна гуляць не горш, чым з Мітрафанам.

### 3

Перапёлка ў жыце аж заходзіцца: жаць пара! жаць пара!

— Не бядуй, міленькая! — сказала ёй Насця.— Будзем і жаць.

Насця выправілася ў кузню. Абкруціла анучкай, каб не парэзацца, два сярпы, выйшла з двара і тут пачула густы пах спелага жыта. Ногі самі панеслі на Кругляк, дзе не пераціхаў плаксівы, растрывожаны крык перапёлкі.

Жыта адкрасавала. Каласы ўжо стаяць не старчма, асцюкамі ў бяздоннае неба — пахіліліся долу, абвіслі ад цяжару зярнят, напіўшыся расы і сонца, удосталь насмактаўшыся зямных сокаў. Насця расцерла на далоні каласок, палічыла зярняты і пацешылася, што іх многа ў коласе, што зярняты не счарніла галаўня. Жыта забрала ў цёплых ліпеньскіх раніц іх залацісты колер. Яшчэ дзеньдва, і яно даспее зусім. Твая праўда, перапёлачка: жаць пара!

Два сярпы віселі на згібе рукі, шчыльна прыціснутыя да грудзей. І сярпы былі варты такой увагі. Яны ўжо забылі, дзе і калі, у якой кузні каваль іх выкаваў. Кожнае лета яны ведалі адно: жаць і жаць, жаць цвёрдае, як чарот, жыта, зрэдку пшаніцу і авёс, жаць траву і бульбоўнік. Потым ім добра і ўтульна вісець над латай у застрэшку, астываць пасля гарачай работы, доўга помнячы цяпло маленькай шурпатай далоні.

У сярпоў з'еліся зубкі, лязо стала роўнае і гладкае. Але для чаго тады ў Сяле жыве чарадзей, вясковы ўмелец, каваль Костусь Танец? Ён агледзіць тупыя сярпы, па-новаму назубіць, загартуе разагрэтую сталь у чане з халоднай вадой.

Насціны сярпы, мабыць, ужо не першымі прыбудуць у Танцаву кузню. Перад жнівом там зарання выстройваец-

ца чарга на акоранай асінавай жэрдцы. Жанкі заходзяць у кузню і ў тым жа парадку, як хто зайшоў, вешаюць па жэрдцы свае натруджаныя ў жніво сярпы. Каваль таксама па парадку, не пытаючы чые, бярэ іх і правіць. Насціны сярпы баяцца, што месца ім дастанецца ў самым канцы жэрдкі, і, прытуліўшыся на згібе локця, паныла ўтаропіліся дзюбкамі на сцежку. Падобна на тое, што іх гаспадыня наогул не спяшаецца ў кузню, бо сцежка, абагнуўшы балотца, пабегла з Кругляка проста ў двор да Макаеда.

Вунь і сам Хвядос. Стаіць каля парога, крышыць параную бульбу курам. Хвядос яшчэ больш панылы, чым Насціны сярпы.

— Антоля, ад'язджаючы, прасіла, каб я сярпы і яе прыхапіла ў кузню,— сказала, падбягаючы, Насця.— Дзе яны ў цябе, давай хутчэй. Акурат жа да Танца сабралася.

— Згарaць яны сінім полымем, сярпы гэныя,— сярдзіта азваўся Хвядос.— На халеру яны мне?

— Ты чаго? Якая муха цябе ўкусіла?

— Тут і галаву можна скруціць ад усялякіх думоў,— ужо спакайней і лагодней сказаў Хвядос.— Тая ж, Антоля твая, і не думае прыязджаць на жніво. Пісьмо сёння Папіха прывалакла. Дак Антоля і піша, што Галя не пускае, просіць, каб яшчэ троху пабыла.

— То хай і пабудзе. Не бядуй вельмо, сажнём тваё жыта.

— Але, і Антоля радзіць, каб я наняў жанок.

Хвядос закульгаў на дрывотню, выцягнуў з-пад застрэшка два гарбатыя Антоліны сярпы, прынёс, падаў Насці. У добрай гаспадыні заўсёды два сярпы. Ніхто ж не ведае, як пашанцуе на жніве. Бывае, што і ломяцца сярпы, а тады хоць плач, калі няма замены. З двума сярпамі смялей на полі.

— Як даехала, не піша Антоля? — рашылася спытаць Насця.

— А якая яе трасца возьме? — адчайна махнуў рукой Хвядос.— Пісьмо прыслала, знацца, добра даехала.

Насця склала сярпы разам, закруціла ў адну анучку. Шчасце якое, што з Антоляй усё ясна: і даехала добра, і пісьмо прыслала. Насця ўздыхнула з аблёгкай, у вачах засвяцілася радасць, зніклі адразу ўсялякія трывожныя думкі. Усё ж там нешта ёсць у Галі, калі не едзе Антоля. А што да Хвядоса, то хай не турбуецца дужа: не асыплецца яго загончык. Самае важнае цяпер — як мага хутчэй

паспець у кузню, каб яшчэ застаць вольнае месца на той асінавай жэрдцы.

Ужо чатыры сярпы з Насцінай рукі насцярожна цікуюць за дарожкай, якая, мінуўшы Капцы, спускаецца ў лагчыну паўз лапаткую грэчку. Грэчка адцвітае і пачынае сям-там чарнець. Дарожка вядзе ў цэнтр Сяла, але гэта далекавата, і сярпы напрасткі цераз аселіцу заспяшаліся на ўскраі вёскі, дзе з незапамятных часоў стаіць старая кузня-развалюха. Калі Насця нарадзілася, то кузня ўжо была такой: закураная, дымная, урослая ў зямлю, з лата-най-пералатанай страхой.

Крывыя, скасабочаныя дзверы адчынены насцеж: заходзьце, людзі добрыя!

Насця зайшла, спынілася на парожку, уражаная: колькі ж тут сярпоў! Вісяць на жэрдцы з ружовымі, з сінімі і зялёнымі ручкамі, і так, без усялякай фарбы на драўляных дзяржальнах. У кузні цёмна ад едкага дыму, сыра і шумна. Не, гэта падалося: сярпоў не так і багата, большая палавіна жэрдкі яшчэ свабодная, не занятая.

— Колькі ў цябе сярпоў? Чатыры? — прыветліва спытаў Танец.— Нічога, управімся. Як не заўтра, то пасля-заўтра прыйдзеш забіраць.

— Пэўне, што паслязаўтра,— удакладніў Вінак Муха — рослы, хударлявы падлетак, заадно і малатабоец, і вучань старога каваля.— Завалілі ж работай.

Танец, высокі, немалады ўжо мужчына, стаіць ля кавадла, абапнуты зашмальцаваным брызентавым фартуком. Вінак такога ўбору яшчэ не зарабіў, бо стаіць каля печы ў палапленых штанах, з расхрыстанай грудзінай. Пад самым вокам у Танца на жылцы дрыгае круглая, што булбатка, барадаўка, а на шчацэ, як браўся рукой, чорная пляма. У Вінка такой булбаткі няма, але затое пляма большая, на ўсю шчаку. Яно і відаць, што вучань у Танца дужа здатны да кавальскай навукі.

— Як вы тут робіце? — здзівілася Насця.— Затхнуцца можна.

Сапе і ўздыхае дзіравы кавальскі мех, а Вінак чэкае і чэкае за дышаль, каб полымя хутчэй разгаралася ў горне і дабяла награвала жалеза. Танец, схіліўшыся над кавадлам, пазвоньвае малатком, а Насці аж млосна стала, ледзь выбегла на двор з гэтага едкага дыму, з гэтага гарачага, смярдзючага і шумнага пекла.

— Сямёніха, ідзі да нас,— клічуць Насцю.

За кузняй на мураве, схаваўшыся ў цянёк, кучкай ся-

дзяць кабеты. Насця азірнулася, пазнала сваіх, загорскіх, і абрадавалася. Спіной да Насці сядзіць Кутчыха, побач прымасцілася Піліпіха, а каго ж гэта засланяе віхрастай галоўкай непаседлівы, падгадаваны хлопчык? Канечне ж, гэта Жучка, а на каленях у яе падскоквае, круціцца, як уюн, Паўлік з Сяла. За Жучкай укруга пападалі ў траву Паўлікава мама, Зоня Занька, і яшчэ з дзесятак сельскіх кабет.

— Мы па цябе заходзілі,— азірнуўшыся на Насцю, сказала Кутчыха.— Дома не засталі.

— На Кругляк я забягала.

— Ці хоць добра спіць Паўлік? — дапытваецца ў Зоні Жучка.— Напалохаўся ж тады. Калі кепска спіць, то трэба ў шэпты вясці.

— Спіць, не крычыць у сне.

— Ясце хацу на ваўку пакатацца,— смяецца шчаслівы Паўлік.

— Я цябе пакатаюся! От дадому пайшлі,— паднялася з травы Зоня, і ўсім кінулася ў вочы, што за апошні час яна распаўнела, папpавілася, разбылася ў грудзях, нават ямкі на шчоках вызначыліся.

— Глядзіце, бабы! Мусіць, ці не зноў затаўшчала Максімава Зоня? — здзіўлена выдыхнула Піліпіха, калі Паўлік з мамай схаваліся за кузняй.

— А што ім доўга думаць? — ціха, як для сябе, сказала Насця.— Маладыя ж — і Зоня, і Максім. Сама што дзяцей вадзіць.

— І Люська Дземкава затаўшчала,— успомніла Кутчыха.

— І Зіпа Петрукова,— дадала Жучка.

Паўлік і мама выйшлі ўжо з-за кузні, выбіліся на дарогу, якая вядзе ў Сяло, і тут Насця заўважыла, што жанкі з любоўю, з незвычайнай пашанай глядзяць услед Зоні. Здзіўлена глядзіць Піліпіха, задуменна выцягнула галаў Кутчыха, аж прыўзнялася з травы Жучка. Божа, якія ж яны яшчэ маладыя, салдацкія ўдовы! Уздыхнула Піліпіха, у вачах Кутчыхі і Жучкі выразна прачыталася тужлівая, не мімалётная зайздрасць. Насця прыслухалася і пачула, што і ў самой яе сэрца б'ецца часта, адрывіста, усхвалявана. Сэрца баліць і ные.

— Пайшлі, бабы,— з горыччу, ціха прашаптала Насця.— Заўтра па сярпы вернемасё.

Каля кузні, праваруч ад селавой дарогі, дымяцца зялёныя шалашы. У шалашах Танец выпальвае драўляны

вугаль. Склаў у шліхты сухія яловыя плашкі, падпаліў, а каб дровы доўга тлелі, не згарэлі ў адначассе, зверху абкладаў іх свежым дзёрнам. Таму і здаецца, што дым ідзе з зялёных шалашоў. У дзёрне пароблены адтуліны, праз якія заходзіць вецер і не дае агню патухнуць. Калі агонь ачахне, пад дзёрнам будуць ляжаць чорныя, пражалелыя наскрозь і патрэсканыя асмалкі. Але гэта ўжо добры кавальскі вугаль.

— І Танец на зіму робіць запас,— падымаючыся з травы, сказала Піліпіха.— Узімку багата вугалю трэба.

— Бытта на восень і ў нас маюцца калгас зрабіць,— задумалася Жучка.— Мо тады і кузня лішняю будзе?

— Дурніца! Калі вобчае хаджайства, то, думаеш, і кузня не спатрэбіцца? Дарма! Хоць багацей жыць будзем.

Насустрач жанкам, запыхаўшыся, бяжыць Барабаніха. Пазнала суседак — зыркнула спадылба, разгублена, з нянавісцю. Думала, ашукае іх, прыбяжыць першаю ў кузню, ажно і самую яе запярэдзілі.

— Дзень добры, кабеты! — прывіталася Барабаніха.

Хто адказаў, хто прамаўчаў.

Апрача сярпоў Барабаніха нясе ў руцэ нешта закручанае ў хустку. Ражок хусткі адхіліўся, і відаць рыльца, заткнёнае кудзеляй.

— Подмазку Танцу памчала, злыдня! — сказала, азірнуўшыся, Кутчыха.— Няўжэ Танец паквапіцца?

Цяжка, панура, маўкліва ідуць удовы.

Над парыжэлай грэчкай устрывожана, сярдзіта гудуць пчолы. У пчол вялікая бяда: грэчка адцвітае, прападае дзіўны, казытлівы пах. Цераз поле нехта бег, і хоць бег, відаць, подаўна, грэчка не выпрасталася, не паднялася ў тым месцы, дзе добра відна здратаваная дарожка.

— Во тут якраз я Паўліка ратавала,— паказала рукою Жучка.— Аж да сярэдзіны поля забегла.

Цяжка, марудна ісці пад горку. Даймае паўдзённая спякота, стаіць парнасць. Лес зацягнуты сіняй павалокай смугі. Ноччу хутчэй за ўсё збярэцца на дождж.

У Капцах Піліпіха спынілася, павярнулася тварам на Кругляк.

— Чуеце? Перапёлачка азвалася.

Насця прыслухалася: перапёлка жаліцца ў жыце яшчэ больш самотна і плаксіва, чым раней. А можа, гэта толькі падалося?

# Раздзел шосты

## 1

Так і на вяселле не збіраюцца, як Насця збіралася на зажынкі.

Прачнулася рана-раненька, ледзь пасвятлела ў вокнах, надаіла і выгнала з хлява карову, пабегла, памагла Хвядосу. Вярнулася, запаліла ў печы, потым падмяла хату. Старалася, каб і пылінкі не засталося на падлозе, бо хто ведае, як задоўжыцца жніво, можа, і часу не будзе ўзяцца за той венік. Падумала і паслала на стол новы абрус. І калі ўжо ў печы прагарэлі дровы і можна было зачыняць юшку, пачала прыбіраць сябе. Перш-наперш памылася, прычасалася перад люстэркам, а каб валасы не рассыпаліся, сабрала іх у жмут і прыкалола на патыліцы грэбнем. Адале пакапалася ў куфры, апранула белую кофту-вышыванку, на галаву завязала паркалёвую хустачку. Калі жаць у белым, то не будзе так горача і млосна.

Яшчэ па расе Насця была на Кругляку. Знайшла канаўку, зарослую вострымі пруцікамі сіўцу, кінула туды акварачак з ядой, запасны серп, а паліваны гарлач з вадою акуратна, каб не разбіць, паставіла ў цяньку ад ракітавага кусціка. У гліняным посудку вада доўга трымаецца свежая і сцюдзёная, як толькі што з калодзежа. Над галавой мільганулася чайка, пракрычала нешта лагоднае.

— Дзень добры, поле!

Насця гэтага не сказала. Яна толькі падумала, што дзень выдаўся сапраўды харошы — ясны, сонечны, пяшчотны. І гэта шчасце, што цудоўнае надвор'е спалучылася з зажынкамі. Днямі была змена квадры, значыць, дажджы не павінны перашкодзіць жніву. Можна не баючыся хапацца за работу. Серп, які Насця трымала ўжо ў правай руцэ, і жыта, якое залацілася ў двух кроках, варты адзін аднаго. Серп востры, добра назублены, жыта высокае, сухое, пруткае — будзе і сярпу, будзе і жыту. Але Насця не спяшалася жаць — стаяла з прыходу, патаптаўшы гумовымі ботамі валошкі на абмежку. Першым снопам, зжатым у адзіночку, без сведак, яна не хацела пакрыўдзіць суседзяў, якіх дома, магчыма, затрымалі непакормленыя дзецi ці яшчэ якія не менш пільныя клопаты.

Суседкі, у якіх былі не пакормлены дзеці, убачылі Насцю праз вокны і адчулі сябе вінаватымі, што так доўга

прымушаюць яе стаяць на абмежку. Яны прыбеглі на поле разам, усе чацвёра. Пятай была б Антоля. Замест яе з двара выйшаў, скіраваўшы на Кругляк, папылы Хвядос. Здалёк ярка і сляпуча, як маланка, бліснуў серп.

— Няўжэ сам будзе жаць? — здзівілася Піліпіха і запытальна паглядзела на суседак.

— Свет хіба смяшыць,— нахмурыла бровы Жучка.— Ды яшчэ з адной нагою.

— Адправім дахаты,— сказала Насця.— І без яго тут управімся.

Мужчына з сярпом нервуе кабет. А бляск сярпа ўсё бліжэй і бліжэй. Хвядос ідзе і не ведае, што раззлаваныя жанкі збіраюцца прагнаць яго з поля, каб і свет не смяшыў, і сам сябе не сараміў.

— Варочайся назад, чалавеча,— запыніла Хвядоса Піліпіха, прыбраная, як і Насця, у белыя строі.— Не думай, што мы такія ўломкі. Сажнём і тваю палоску.

— Але, праўда, назад ідзі,— параіла Жучка.— Яшчэ пальцы сабе сажнеш.

— Не мужчынскае гэта дзела — жыта жаць,— прыбавіла ад сябе Насця.

Выходзіла, што Хвядос такое мяла, такі няўдаліца — нават блізка такога на поле нельга падпускаць. Але Хвядос не пакрыўдзіўся, не згарэў ад сораму за сваю няздаласць, наадварот, яшчэ і дзякаваць пачаў.

— Яно, канечне, бабам лацвей з сярпом завіхацца,— сказаў ён і тут жа намякнуў жанкам, што не застанецца ў даўгу.— Лепей пайду калёсы дзёгцям паквэцаю. Трэба будзе снапы вазіць.— Памаўчаў, акінуў вокам залацісты палявы абшар.— Аніштo жытцо ўрадзіла. З вясны нецікавае было, а як адкаласіла, то і е на што паглядзець.

— Але, добрае жыта, толькі рэдкае,— згадзілася Кутчыха, таксама ўся ў белым, святочная і ўрачыстая.

— Чаго ж мы стаім? — спалохалася раптам Алена і зірнула на свой двор, убачыўшы там Міцьку.— Вунь і хлопец ужэ прэцца сюды, а я і снапа яшчэ не нажала.

Белыя хусткі разышліся, разбегліся па сваіх палосках. Млосна тут будзе жнеям, горача будзе сярпам. Збажына ўсцешылася паяснымі паклонамі, што былі адбіты ў яе гонар, затым з такім жа спакоем прыняла і зямныя паклоны. Ужо не выпростваючыся, Насця зачарапіла поўную жменю жытніх сцяблін, пацягнула з-пад нізу сярпом, і каласы, сабраныя ў пучок, зрэзаліся ўсе, да каліва. І другі, трэці раз свіснуў серп. Жменя да жмені, і вось ужо ма-

ленькі сноп, сціснуты пасярэдзіне вязьмом, акуратна лёг на абмежак, у сінія, яшчэ росныя валошкі.

Насця, вядома, не развучылася вязаць тугія, важкія, як падняць, снапы. Гэты маленькі снопік будзе стаяць на покуці — так заведзена ад дзядоў, ад прадзедаў, каб першыя зжатыя каласкі стаялі на покуці. Шчадрыцца на большы сноп няма як, бо Насціна палоска не вельмі шырокая, можа, удвая вузейшая, чым у Барабанаў.

Іхні загон побач, па суседству. Але там яшчэ ціха, не шастаюць сярпы, не падаюць на сухую пожню пераплеценыя дзікім гарошкам тугія снапы. Кожнае лета Барабаны пачынаюць жніво пазней, калі суседзі адажнуцца ўжо далёка ад краю поля. Барабаніха, як агню, баіцца суроку, баіцца, каб хто не пазайздросціў яе жыту. І таму, што баіцца суроку, Барабаніха задоўга да жніва робіць чары: завязвае на вузел жменькі каласоў з берага поля.

— Нешта ж нашых паноў не відаць? — успомніўшы пра лісіную даху, сказала Насця Алене — Міцькавай маці.

— Хітруе, выжла! Іш, якія куклы пазавязвала. Зранку ў Сяло Барабаніха адправілася.

— Пэўна ж, адна жаць не стане,— здагадалася Насця.— Зноў некага наймаць пайшла.

Аленіна палоска правым краем мяжуе з Насціным жытам, левым краем стыкаецца з Кутчышыным шнурочкам, а далей, за Кутчыхай, б'юць паклоны разбуджанаму полю Жучка і Піліпіха. Хвядосаў засевак самы крайні ад лесу. Нечапаная спелая збажына там з трывогаю і зайздрасцю прыслухоўваецца да шоргату сярпоў, да шумнага, гарачага дыхання на суседніх палосках.

Шчыруюць жнеі. Алене падалося, што суседка злева жне хутчэй і спраўней, чым яна, пра тое ж падумала Кутчыха, Жучка аглянулася на Пілініху, Пілініха — на Жучку, і вось ужо не спыніць імклівых сярпоў, не разагнуць жаночыя спіны, не астудзіць гарачую руплівасць.

Пабліскваюць на сонцы сярпы, з шэлестам хіліцца збажына, трашчыць пад нагамі сухая пожня. Жанкі то адна, то другая хапаюцца за паясніцы.

Ніхто не прыйдзе, не паспагадае, не пашкадуе.

Жнеі намнога выперадзілі Насцю. Але поле здаўна добра помніць, што яна не гультай, не маруда якая. Спрытна ходзіць серп у Насціных руках, туга вяжуцца пухнатыя, важкія, сырыя яшчэ снапы. Яны палягчэюць, калі прасохнуць, калі ветрык прадзьме іх навылёт. Сохнуць

снапы ў бабках. Іх ужо багата ў Насці за спіной. І ўсё ж адстала Насця, засталася пазаду.

Суседкам памагаюць дзеці. Звалачы, сабраць снапы ў адну кучу, і то ўжо не абы-якая помач, менш часу марнуецца, каб паставіць бабку. Угамону няма на Алепінага Міцьку — носіцца па полі як угарэлы, і пожня яму не колецца ў босыя пяткі. З натугай, марудна, бо бярэ не па сваёй сіле, цягне сноп Піліпішына Ірка. На малечу з пагардай, і насмешкай паглядаюць Кутчышыны хлопцы — яны і свае снапы паднясуць, і Жучцы памогуць, і яшчэ часу хапае, каб смяяцца з малых. Коля і Ваня азірнуліся, убачылі, што цётка Насця адстала, і бягуць цераз пожню сюды.

— Цётка Насця, мы і вашы снапы будзем ставіць у бабкі.

— І я вам буду памагаць,— не забыў і Міцька пра торбу з сушанымі чарніцамі.

— Дзякуй, дзетачкі. Сама як-небудзь упраўлюся.

— Не адмаўляйся, хай падсабляюць,— азіраецца на гэты шум Алена.— Усё адно больш гойсаюць, чым робяць.

Насці хочацца заплакаць.

Насці хочацца піць. Раптоўная смага выветрыла губы, суха зрабілася ў роце. Добра, што паліваны гарлач стаіць у цяньку: вада не злецілася, свежая і халодная — аж ломіць зубы. Светлая, як расінка, сляза скацілася па шчацэ і капнула ў гарлач. Не трэба піць столькі многа вады, бо вось ужо і другая слязінка выбліснула з-пад вейкі. Але Насця піла, спатольвала смагу, і пакрысе праходзіла звярэдлівая, горкая, як гэтыя слёзы, жаласлівасць да самой сябе. Думалася: ніхто не спагадае, ніхто не пашкадуе. Ажно ж прыйшлі: і Коля з Ванем прыйшлі, і Міцька прыйшоў, ды вунь і Ірка бяжыць у гэты канец поля.

— Дзякуй, дзетачкі.

Насця зноў была знешне спакойнаю, зноў серп спрытна і ўвішна мільгаў у яе руцэ. Поле ведала, што яна не лодар і не абібок. Поле памятала яе іншую — маладую, шчаслівую. Якія валасы былі ў Насці — каса аж да пояса. Высекліся, пасівелі. Не цяперашняя, а тая — другая, шчаслівая — Насця калісьці жала тут жыта, а сыны Мішка і Шурык зносілі снапы. Лёталі, шаляніцы, па калючай пожні, дурэлі, крычалі на ўсё поле, і весела, хораша тады было Насці.

Няма Мішкі.

Няма Шурыка.

Бывала, на поле прыходзіў Сямён, і, хоць за серп не браўся, жыта, здаецца, зжыналася само. І гэта таму, што Сямён глядзеў на сваю Насцю цёплым, пяшчотным і лагодным позіркам.

Няма Сямёна. Пайшоў у магілу, забраў з сабою нерасказаную Насці партызанскую тайну. Якая бяда прывяла Сямёна дахаты ў тую завейную, марозную ноч? Куды ён збіраўся ісці раніцой? Жахлівую тайну Насці, мусіць, не разгадаць і да канца жыцця. Магілы ўмеюць маўчаць.

— Алена, чуеш? Ці ж хоць добра жне твой серп?

— Яшчэ і як! Танец умее зубіць сярпы. А твой?

— І мой добра жне. Адно і ведай: сцеражы пальцы.

Насця загаварыла да Алены, каб пазбыцца горкіх, няласкавых дум, каб развеяць сваю пякучую нуду і крыўду.

— Мо сядзем перакусім. Тут у мяне крышан сала з сабою е.

— Перацерпім як-небудзь. Ужэ ж і поўдзень скора. Падоім каровы, то чаго рэдзенькага пасёрбаем.

Мусіць, не забыць Насці нявыплаканы смутак, не пазбыцца звярэдлівых дум, не парваць тугую повязь, якая моцна, учэпіста звязала, як перавясла салому, дзень пражыты, дзень сённяшні, дзень заўтрашні.

Піць, зноў хочацца піць.

## 2

Сонца ўжо трэці дзень пячэ невыносна, плавіць зямлю і неба, нават на які міг не заслоніцца белым, як вата, воблакам.

Пот засціць вочы, млоснай гарачынёй патыхае разагрэтае жыта.

Сонца шкадуе жней і апоўдні смаліць так невыцерпна, быццам хоча прагнаць кабет з гарачага поля. Ім трэба хоць у паўдзённую спёку пабыць дома, пасядзець у цяньку, бо ў кожнай даўно ўжо баляць ногі, паслаблі рукі, ные ў крыжы — не разагнуцца. Але як ні дзіўна, людзі рады такому сонцу — сляпучаму, спякотнаму. Яны засмуціліся б, калі б гэтае шчодрае на цяпло сонца раптам засланіла попельная хмара і ліпуў асвяжальны, халодны і такі не патрэбны цяпер дождж.

Пасля абеду на полі свяжэе, спадае паўдзённая спёка, і тады жаночыя сярпы без памяці, без пярэдыху шчыруюць у збажыне. Добра назубіў іх стары Танец. Лавы жыта як і не было: усё поле застаўлена высокімі залацістымі баб-

камі. Выбілася ў канец загона Кутчыха, дажынае апошнія метры Алена, ды і ў Насці работы засталося не болей як на падвячорак. І тое, што вострыя сярпы збіраюцца святкаваць дажынкі, дужа цешыць і радуе Хвядоса Макаеда.

— Ці не запрагаць мне свайго Палазінца? — пытае ён у Насці.— Што ты на гэта скажаш? Вазіў бы снапы пакрысе.

Насця выпростваецца, трымае серп на вісу, а левай рукой хапаецца за паясніцу.

— Ой, сярэдзіну адабрала. Не, не спяшайся, Хвядос. Заўтра пачнём звозіць. Хай снапы яшчэ пастаяць, паветраюць.

— Заўтра дык заўтра,— згаджаецца Хвядос і не хоча глядзець на сваю палоску, якая сіратліва смягне наўзбоч поля.

Размову чуе Міцька, і яму здаецца, што без яго дарослыя наогул не даб'юцца ніякага толку.

— А што тут адкладваць? Можна і сягоння вазіць жыта.

— Ах, жэўжык! На возе захацеў паездзіць? — У Хвядоса сёння добры, лагодны настрой, і было б дзіўна, калі б Хвядос ад такога настрою не пакпіў з хлопца.— Лепей скажы: што ты з Іркаю ў жыце рабіў?

— Гуляў,— прызнаецца Міцька і чырванее ад сораму.

— А яшчэ што?

— Я не цалаваўся,— хоча заплакаць Міцька.— І Ірка не цалавалася.

— Ой і хітрун,— не верыць яму ні на грам стары жартаўнік.— Знацца, абазнаўся я?

Паміж залацістых пахучых бабак жыта плыве знакаміты жоўты капялюш. І яму захацелася ўзяць на зуб зерне, праверыць, ці падсохла збажына, вызначыць, ці не час перавозіць снапы ў гумны. Вінцусь, прыгінаючы лапцямі пожню, ідзе сюды, прыпыняецца за два крокі ад Міцькі.

— Ты чаго натапырыўся, як вожык?

— Папытай от, што ён у жыце рабіў? — смяецца Хвядос.— Папытай: хай скажа.

— І што ж ты, унучак, там рабіў?

— Я не хаваўся ў жыце,— пачынае плакаць Міцька.— І з Іркай я не любіўся.

То рагатаў адзін Хвядос, а цяпер на полі двое рагатуноў: стаяць і душацца ад смеху.

— Паціхніце вы, коні старыя,— заступаецца за Міць-

ку Насця.— Гэта ж да слёз хлопца давялі. Здзяцінелі, дальбо.

— Так і быць: пайду,— перастае смяяцца Хвядос.— Трэба рубель і вяроўкі паглядзець, каб заўтра было чым уціскаць снапы.

Міцька выцер слязінкі на вейках і больш не крыўдзіцца на сваіх мучыцеляў. Ірцы і праўду варта было б даць добрага пытлю, каб не выдумвала гульняў, з якіх смяюцца дарослыя. Макаед можа не ўзяць на воз, калі даведаецца, што Міцька пакрыўдзіўся. І Міцька без слёз, ужо спакойна глядзіць яму ўслед. Запоргала пожня, рыпнуў жоўты пратэз. У пяску адбіліся дзіўныя сляды: адзін — нармальны, чалавечы, другі — маленькі і круглы, як пячатка. З такімі пячаткамі маме прыносяць квіты на падаткі. І добра ж жывецца гэтаму ўсёвідушчаму Хвядосу: ходзіць па зямлі і ўсюды ставіць круглыя пячаткі, рыхтык які вялікі начальнік.

— Дзед, ты не ведаеш, дзе Макаеду адбіла нагу?

— На Вісле, дзе ж яшчэ. Там і твой бацька галаву злажыў.

На полі стала вусцішна і маркотна, ад жыта дыхнула гарачынёй, хоць паўдзённая спёка даўно пайшла на спад. Непадалёк на старой разгалістай дзічцы, чуючы надвячорак, трывожацца і крычаць груганы. І многа ж іх там! Дзічка ажно пярэстая ад крыклівых груганоў.

— Адкуль на дзічцы столькі варанякоў сабралася?

— Хто іх ведае, унучак. Можа, непагадзь чуюць, можа, начаваць будуць на дрэвіне.

Крыклівыя груганы, мабыць, трывожацца яшчэ і таму, што ўжо блізка ля дзічкі жнуць свой шнур Барабаны. Жнуць у тры сярпы: сама Барабаніха і дзве нанятыя ў Сяле маладзіцы. Цыбаты Лявонік на пару з бацькам ледзь паспявае зносіць снапы. Барабаніха не любіць даваць грошы за марную работу: не разагнецца, выцінаецца да знямогі і гэтым сваім азартам падганяе маладзіц, каб таксама не адставалі. Яна ўвапрэла, узмакрэла ўся, разагрэлася на сонцы: скінула з сябе кофту і жне ў адной споднян кашулі. Хустка з'ехала на шыю, валасы распатлаліся. Міцька зірнуў у той бок, і нешта знаёмае заўважылася яму ў сагнёнай постаці Барабанiхі. Міцька пазнаў гэтую белую постаць, пазнаў стракатую хустку, успомніў распатланыя валасы.

— То гэта ж яна, Барабаніха, выбегла тады голая з жыта! — здзіўлена прашаптаў Міцька і з трывогай глянуў на дзеда.— Помніш, я табе казаў пра русалку?

— Абмануўся ты, унучак. Хто возьме на сябе такі сорам!

— Не, гэта яна. Я ж пазнаў яе,— запярэчыў Міцька.— Тады не пазнаў, бо спужаўся, а цяпер пазнаў. Гэта яна — русалка.

— Адчапіся, хлопец,— абыякава адказаў дзед.— І не вярзі дурное, абы-што.

Спёка ўжо даўно пайшла на спад, стала лягчэй дыхаць. З боку Капцоў на поле пацягнуў свяжак, і ён, гэты ціхі і лагодны ветрык, раптам нарабіў непрыемнага клопату Барабанавым жнеям. Панюхала паветра і скрывілася Барабаніха, затулілі насы абедзве маладзіцы. Смуродны пах віўся з жыта, і Лявонік пабег туды, у збажыну, паглядзець, што там, урэшце, такое. На дзічцы, здаецца, галасней і трывожней закрычалі груганы.

— Мама, я нашага Мітрафана знайшоў! — гукнуў Лявонік.

— Няўжэ знайшоў? — зарадавалася Барабаніха.— Мы ж так шукалі, так шукалі!

— Вось ён ляжыць. Але здохлы ўжэ даўно.

Радасць на твары Барабаніхі імгненна прапала. Туляючы пальцамі насы, захіхікалі маладзіцы. З другога боку дзічкі, хаваючыся за бабкамі, надта паспешліва паплыў дахаты жоўты Вінцусеў капялюш.

— Дзед, куды ж ты? — наўздагон яму крыкнуў Міцька.

— Ат, адчапіся, унучак! Некалі тут мне лынды біць.

Сэрца ў Міцькі заныла.

Мітрафан, адкінуўшы галаў, ляжаў пасярод засеўка. Вакол была скапычана ладная грыўка жыта. Нават мёртвы казёл помсціў нялюбай сваёй гаспадыні. І доўга ж, відаць, памучыўся бядак, калі апынуўся тут. З вялікага болю ён у тую сваю апошнюю суботу гайсануў у лес, потым забег у Капцы, адтуль скочыў у жыта, але нідзе не было ратунку, і змардаваны казёл, выбіўшыся з сіл, упаў у жыце, каб ужо болей не падняцца. Ён біўся ў агоніі, дратаваў і камячыў вакол сябе збажыну.

— Етава-етава! Гэта ж каб знаў, што Мітрафан у жыце.

Над мёртвым казлом, якога падзяўблі груганы, стаяў, зайшоўшы з падветранага боку, Барабан і мыляў тоўстымі губамі, чухаў патыліцу.

— Чаго вырачыў бельмы? — напусцілася на яго Барабаніха.— Закапай хутчэй гэтую падлу, а то хоць з поля ўцякай.

Лявонік пабег дахаты, прынёс рыдлёўку, і Барабан, са-

ступіўшы з палоскі, пачаў капаць яму. Зямля на абмежку, нечапаная дзесяцігоддзямі, была цвёрдая і непадатлівая. Рыдлёўка выбірала дробныя каменьчыкі, жарству, потым пайшоў жоўты пясок. Мітусня і крыкі на суседняй палосцы прывабілі сюды загорскіх жней. Яны гуртам сабраліся каля дзічкі, і Барабан болей за ўсё баяўся іх цікаўных і насмешлівых позіркаў. Ён спяшаўся хутчэй выкапаць яму, і таму, што спяшаўся, рукі былі нязграбныя і непаслухмяныя, як граблі, не маглі ўтаймаваць рыдлёўку, якая не хацела лезці ў цвёрды, зляжалы грунт.

— І добра ж ты зарэзаў казла? — падлабуніла Барабана Жучка.— Адно жывёліна начынне і засталося ў руках.

— Няйнакш, на базар збіраўся ехаць? — паспачувала Кутчыха.

— Етава-етава, хто вас прасіў сюды,— агрызнуўся, чырванеючы, Барабан.— Іш, раскудахталіся.

— І праўда, Павел! Турні ты іх, каб аж пыл закурэў,— ашчэрыла жоўтыя зубы Барабаніха.— Насміхацца ўздумалі! — Яна з нянавісцю зірнула на кабет, уважліва агледзела Кругляк.— А Вінцусь дзе? Уцёк, стары псюк! Крый мяне божа, я мызу натаўкла б яму гэтай здыхляцінай. Памог, называецца, зарэзаць.

Барабаніха зноў агледзела поле, застаўленае бабкамі, але яна не ведала, што мае справу з цудатворцам і прарокам, які наперад угадаў гэтыя яе праклёны і пагрозы. Цяпер Вінцусь, напэўна, быў дома, адпачываў пасля шпаркай хадзьбы, хвалячы сябе і свой жоўты капялюш за вялікую мудрасць.

— Пайшлі, бабы! — сказала Насця.— Няма чаго тут стаяць!

— Але, пайшлі. Вечарэе ўжэ.

— Уходжвацца трэба.

— Аж ісці не магу.

— А мяне як хто калом змясіў.

Спружыніць, пстрыкае пад нагамі пожня, з травы падымаюцца і разлятаюцца ў розныя бакі шэрыя начныя матылькі. Кругляк не хоча адпускаць жней ад сябе і раз-пораз перагароджвае ім дарогу высокімі залацістымі бабкамі. Жнеі абмінаюць бабкі і зноў стомлена, паволі брыдуць цераз пацішэлае поле. Схіліўшы каласы ў нізкім паклоне, услед ім трывожна і маўкліва глядзіць няжатая Макаедава палоска.

— Ну, сястрыцы, заўтра Хвядосу без барышу не абысціся.

— Я за лямцы яго, калі без барышу.
— А ці сажнём за дзень?
— Дзіва што! У пяць сярпоў, ды каб не зжаць.
— Эх, і гульнём! Свету будзе моташна.

Па чырвонай ад вечаровага сонца пожні ўроссыпку паўзуць доўгія мітуслівыя цені. Два зусім кароценькія — гэта Ірка іМіцька. Плывуць, паўзуць па чырвонай пожні два маленькія чалавечкі.

А на старой дзічцы несціхана крычаць растрывожаныя, пакрыўджаныя груганы.

## 3

Да покату, да забыцця Загор'е гуляе дажынкі. У хаце было б душна. Хоць расчыняй ці не расчыняй вокны, а было б горача. І каб дарма не абліваццa потам, дажынкі Загор'е спраўляе ў Капцах, разаслаўшы настольнік з выпіўкай і закускай у цяньку ля старасвецкіх ляшчын.

З Капцоў добра праглядаецца Кругляк. Кабеты таму і закамандавалі Хвядосу рассцілаць настольнік з краю ляшчынніку, каб адсюль добра бачылася поле. Яно ўжо не такое прыгожае і прывабнае, як раней. Кругляк апусцеў: цягавіты Палазінец перавёз за дзень важкія пахучыя снапы ў хлявы і гумны. Толькі на Хвядосавай палосцы выстраіліся ў шарэнгу бухматыя бабкі: хай пастаяць яшчэ, паветраюць на скразняку. Поле апусцела, але гэтая палявая маўклівасць і пустата радуе загорцаў. Жніву канец — году вянец.

— Не сядзіце, кабеты, склаўшы рукі,— просіць Хвядос.— І ты, Вінцусь, не паглядвай. Адкаркоўвай от пляшку.

Усё лепшае Загор'е цярпліва хавала, зберагала на дажынкі. Белы настольнік спрэс застаўлены міскамі. Ачмурэла б'е ў нос пах часнаку і каляндры. Гэта ад сала, якое ўсё лета млела і вылежвалася на дне кубельцаў. У паветры расплыўся тонкі водар падсушанай каўбасы і паляндвіцы. Вішнёвым лістам, хрэнам і кропам пахнуць маласольныя гуркі, алеем, цыбуляй і далёкім морам пахнуць тлустыя селядцы. Усё лепшае Загор'е цярпліва хавала на дажынкі — свята сярпоў і мазолістых рук, свята апусцелага поля і ўсцешаных душ.

— За што ж піць будзем? — падняла сваю шклянку Насця.— Слава богу, хутка справіліся. І, без дажджоў абышлося.

— Дзіўная ты, Насця,— адламаўшы кавалачак хлеба,

сказала Піліпіха.— Яшчэ і пытае? За рукі свае карабатыя, за работу нашу зямную — от за гэта давайце і вып'ем.

— Пачакайце, бабы! — папрасіла раптам Алена.— За сябе мы заўсёды паспеем выпіць. Але, паспеем. А вось Хвядосавага каня не лішне было б успомніць добрым словам.

Нечаканая і такая ж дзіўная прапанова спадабалася жанкам.

— Правільна, Алена! Вып'ем за каня.

— За Палазінца!

— Што мы без яго рабілі б, га?

— Падымай шклянку, Хвядос.

Хвядос свяціўся ціхай, невыказнай радасцю, бо і яму перападала частка бясспрэчнай Палазінцавай славы. Дзе яшчэ знойдзеш такога добрага і цягавітага каня? Калі каня хваляць, тады і гаспадара не ганяць.

— То будзьце здаровы! — сказаў з гэтай радасці Хвядос, і яго гранёная шклянка марудна паехала дном у сіняе бязвоблачнае неба.

— За вясёлым сталом і чарка сакалом,— выказаўся пасвойму Вінцусь, і вочы яго зажмурыліся, а на худой шыі захадзіў востры кадык: коўць-коўць, буль-буль.

Пачалі закусваць. Парэпаныя рукі з усіх бакоў пацягнуліся да белага настольніка, каб хутчэй узяць што-небудзь з ежыва, каб хутчэй утаймаваць дзікі агонь, які раптоўна апёк нутро. Насцю трасло, яна прагна нюхала хлебны мякіш, шчокі яе пачыналі ружавець, гарачыня разлівалася па ўсім целе.

— Упары лепей скрыль сала,— параіў Насці лагодны, раздабрэлы Вінцусь.— Так і сп'янееш адразу, калі не будзеш есці.

— Хай на цябе халера, Хвядос! — выціраючы слязінкі на вейках, сказала Жучка.— Бы перац, моцная гáра.

Хвядос вінавата развёў рукамі, выцер крошкі на рыжых вусах.

— Удалася такая. Я і сам не спадзяваўся.

— Ой, а я п'яная ўжэ,— паскардзілася Кутчыха і хрумснула гурком.— Галава кругам пайшла.

На Кутчыху з недаверам глянула Піліпіха.

— А мне хоць бы што. Ані ў адзін зуб. Налівай, Вінцусь, хіба яшчэ па адной.

— Не ні столькі многа,— спалохалася Насця.— Яшчэ звалішся па дарозе.

— Нічога страшнага, калі і ўпадзе,— засмяялася Алена.— Зямля адразу працвярэзіць.

Піліпіха каўтанула тую кроплю, што накапаў у шклянку Вінцусь, правяла пад носам рукавом сачыка і з выклікам праспявала:

І шуміць, і гудзе — дробны дожджык ідзе,
А хто ж мяне, маладую, дый дадому завядзе?

— Тут і гаворкі не можа быць! — чапляючы на відэлец скрылік каўбасы, сказаў Хвядос.— Калі што якое, то я цябе дахаты адтарабаню.

Піліпіха, беручы хлеб з настольніка, пагразіла кашчавым пальцам:

— Хай лепей мяне Вінцусь завядзе, бо ў цябе, Хвядос, чорт у рабрыне сядзіць. Ага, чорт у рабрыне. Яшчэ цераз кусты павядзеш, зараза!

— А што тут такога? — здзівілася Кутчыха.— Антолі ж, лічы, болей як месяц нямашака дома.

— І я хачу напіцца! — выкрыкнула раптам Жучка.— Хай і мяне Хвядос дадому завядзе. І дарогу хай сам выбірае.

Пад ляшчынай ужо не было цішыні і парадку. Надышла такая часіна, калі, пасядзеўшы каля берага настольніка, дажынніцам захацелася гаварыць, жартаваць і смяяцца. Пра жаданне Піліпіхі дык не трэба і здагадвацца. Яна акуратна паклала відэлец з недагрызкам каўбасы, папраравіла густыя яшчэ валасы, паслабіла на шыі матузкі хусткі, і над Капцамі паплыла шчырая, самотная і шчымлівая песня:

Валодзя ты, Валодзя,
Мой аленькі цвяток.
Пайду з табой, Валодзя,
У ціхі наш садок.
Там пташкі-канарэйкі
Зноў жаласна пяюць
І нам з табой, Валодзя,
Разлуку прыдаюць.
Разлука ты, разлука,
У горкай старане
Нашто ты разлучыла
З Валодзяю мяне?

Песні трэба памагчы, песні трэба крылы, каб яна, набраўшыся моцы, узляцела аж да нябёсаў. І гэтыя крылы з'явіліся. Спачатку Насця, затым Жучка, затым Алена, і вось ужо нельга адрозніць паасобных галасоў у стройным, суладным хоры. Загорскія мужчыны таксама пачынаюць падпяваць: Вінцусь — дрыготкім, старэчым голасам, Хвядос — густым, моцным басам.

За туманам нічога не відна,
за туманам.
Толькі відна дуба зеляного,
толькі відна...

Слухае нерасмяглы на сонцы лес, слухае сіняя далеч, слухае чыстае, яснае неба.

Ды нільзя рабіні
К дубу перабрацца.
Відна, сіраціні
Век адной качацца...

Песня плыве над пасівелым ляшчыннікам, над зялёнымі забраснявелымі балотцамі, над апусцелым, сцішаным полем. Праспявалі яшчэ пра чырвоную вішню, што з-пад кораня выйшла, пра казака, які скакаў цераз даліну, і Загор'е, прывыкшы ўжо да песень, здзівілася, чаму зноў стала ціха ў Капцах, чаму не чуваць такіх дружных і прыгожых галасоў. Але тут, на шчасце, не здарылася нічога страшнага. Проста спевакі патаміліся, забалелі языкі, ды і Хвядос, неспадзявана зірнуўшы на белы настольнік, заўважыў, што там яшчэ многа і пітнога, і ўсялякага ежыва. За гэты яўны непарадак вінаватым Хвядос адчуў сябе і, каб не чуць папрокаў, весела сказаў:

— Ох, і піткі сабраліся! Усё ж цэлае стаіць, як і стаяла.

— Трэба, канечне, выпіць,— у лад Хвядосу сказаў Вінцусь.— З-за песень пра самае галоўнае забылі. Грэх вялікі.

Хвядос наліў у шклянкі, падняў высока сваю:

— Каб пілося і елася ды яшчэ хацелася.

— Хораша сказаў,— пахваліла яго Піліпіха.— Праўду, хораша.

Пахвала спадабалася Хвядосу, але ён не паспеў знайсці ёмкае слова ў адказ, таму што горычна, жудасна, наўсхліп заплакала Жучка.

— А чаму ж ты не ўстанеш, мой Алесік, мой сокал ясны? — прастагнала яна і закрыла вочы рукамі.— А чаму ты не вып'еш гарэліцы? А чаму не паспяваеш з намі?

Жучку не суцяшалі, таму што ведалі: не падымеш ужо яе Алеся, спіць ён у сырой зямельцы, на вясковых могілках, вярнуўшыся з фронту, прадзіраўлены кулямі, як рэшата. Маўчыць Хвядос, унурыў у калені сівую галаў Вінцусь. Мужчыны не ведаюць, што рабіць: ці суцяшаць жанок, ці і самім заплакаць? Пацямнела неба, уздрыгнуў старасвецкі ляшчыннік. Даўно ён не бачыў столькі слёз

адразу. Плача Жучка, захліпаецца Піліпіха, трэ кулакамі чырвоныя вочы Кутчыха. У бязгучным плачы трасецца Алена. Збялелая, самотная, растрывожаная сядзіць Насця.

— Годзе ўжо вам! Паціхніце, пакуль я дрын не хапіў,— прыкрыкнуў на жанок Вінцусь.— Падурэлі вы, ці што? Не вернеш слязамі, не падымеш мужчынак нашых, вечнае ім спачыванпейка!

— Але, твая праўда,— выцерла ражком хусткі вочы Жучка.— Не вернеш, не падымеш. Спяць арлы-сокалы нашы.

— Ты яшчэ шчаслівая, Ганна,— сказала, як папракнула, Піліпіха.— Твой Алесь хоць дадому прынёс свае косці. А дзе мне Піліпа шукаць? Знаць не знаю.

— А майго Анця ў Познані забіла,— уздыхнула Кутчыха.— Кажуць, бытта на польскай зямлі тая Познань.

— Ага, там,— пацвердзіла Алена, маркотна зірнуўшы па сяброўках.— І мой Адам у Познані ваяваў. Свой апошні ліст адтуль прыслаў. Гэта на Віслe — рака такая вялікая.

Насця маўчыць. Няма як ёй пахваліцца чужымі гарадамі і вялікімі рэкамі, дзе палеглі загорскія мужчыны. Сямён не паспеў пабываць там. Ён ляжыць тут, побач, каля сваіх сыноў. Перад жнівом Насця занесла на родныя магілкі па букецiку палявых валошак. Цяпер яны, відаць, пажухлі, асыпаліся. Пакрыўдзіцца Сямён. І Мішка з Шурыкам пакрыўдзяцца. Яны любяць жывыя, свежыя кветкі на сваіх пясчаных грудках.

Насці не трэба маўчаць, лепей плакаць, чым думаць і маўчаць. Але душа закамянела, вочы сухія, без слёз. Маўчыць Насця.

— Ты не маўчы, Сямёніха,— перастаў ужо злавацца Вінцусь.— Паплач, лягчэй стане.

— Выплакалася, слёз ужо нямашака.

— Вып'ем, салдаткі,— сказала, супакойваючыся, Жучка.— За майго Алеся і за Сямёна! Калі самі не могуць, то мы за іх.

— За Піліпа!

— За Анця!

— І за Адамка майго.

Да забыцця, да покату Загор'е спраўляе дажынкі. Белы настольнік, асабліва з таго боку, дзе сядзяць мужчыны, уроблены ў рыбіну луску, запэцканы тлушчам. Ціха ў Капцах, маркотна пад сівой ляшчынаю. І дзень ужо дагарае.

— Як ты маешся, Піліпіха? Дадому павяду,— спрабуе

падняцца Хвядос, але, зачапіўшыся пратэзам, падае назад, дзе сядзеў.

— Дык ты сам не можаш ісці! — дзівіцца Алена.— Надзюдзюкаўся...

Жучка ўзяла Хвядоса з левага боку, Кутчыха ўзяла з правага боку — павялі. Яны баяцца, каб Хвядос не ўпаў, каб не паляцеў потырч —моцна трымаюць пад рукі.

— Ці ты бачыў, Вінцусь? — ганарыцца Хвядос.— Як шаха вядуць. У каго гэта было да гібелі жонак? У шаха, здаецца.

Вінцусь не слухае. Згорбіўшы плечы, ён спрабуе ісці побач з Пілініхай.

— А лепшага жыта на кулі ты не забыла выбраць? — дапытваецца Вінцусь.— Я табе добра гуменца перакрыю.

— Не забыла, помню.

— І я табе буду памагаць,— чуе гэтую гамонку Хвядос.— Толькі скажы.

— Не спатыкайся, шах. Ідзі раўней. Дома, нябось, куры някормлены, свіння вішчыць.

— Воўк іх не забярэ — і курэй, і свінню.

Насця сабрала пустую радаўніцу, згарнула настольнік і пусцілася даганяць сваіх. Адной страшна стала ў ляшчынніку.

# Раздзел сёмы

## 1

Кружылася галава, прабіраў холад, слабка трымалі ногі. На здароўе магла паўплываць тая гулянка ў Капцах, а можа, пераходы якія?

Насця лячылася сама. Папарыла ногі ў гарачай вадзе, паціла адвару з малінамі. І адразу палягчэла. Хутчэй за ўсё Насця застудзілася на жніве: разагрэлася з сярпом, а потым хапіла халоднае вады. Вось табе і недамаганне. Яшчэ трохі паляжала на ложку, ухутаўшыся дзвюма дзяружкамі, і калі ўжо стала зусім добра, заманулася пайсці ў агарод, бо за гэты час, пакуль шчыравала на полі, грады, напэўна, заглушыла зелле.

Насця не любіла, каб у агародзе панавалі макрыца, касцярога, малачай. Узяўшы матычку, яна выпалала розную непатрэбшчыну, што нахабна вылерлася з зямлі, пакуль гаспадыня была на жніве. Зрэшты, можна было і не ста-

рацца, не знішчаць зелле да каліва, таму што агарод увабраўся ў сілу, усё тут ужо шумела і буяла. На самай сонечнай градцы, пакрысе жоўкнучы, папоўз у разоры агурэчнік. Насця засаліла на зіму коп дзесяць гуркоў, і яшчэ будзе. Сцелючы па зямлі ніжняе шырокае лісце, пачынае завязвацца ў качаны капуста. Лапушным, быццам косы, бацвіннем акрыліся чырвоныя буракі. Ім ужо не боязна апынуцца ў суседстве хоць з гарчаком, хоць з лебядою.

Каля плота, уздоўж неглыбокай разоркі смягнуць на санцапёку лісцістыя цымбуры тытуню-самасею. Кожны год, у канцы лета, Насця вырывае самасей з коранем, топча ў гразь ці выкідае ў крапіву. Але прыходзіць вясна, і зноў каля плота, на прызбе і проста на градках вылазяць светла-зялёныя каліўцы турэцкага мультану. І па тым, дзе ён расце, можна прасачыць колішнія Сямёнавы сцежкі-дарожкі.

Вось тут, над прызбай, Сямён чапляў сушыцца, знізаныя на дрот, тытунёвыя лісты. На плоце развешваў голыя цыбукі, каб потым, калі праветраюць, натаўчы ў ступе карашкоў — на домешак да пякучай і занадта моцнай табакі. Самасей рассяліўся па ўсім агародзе, і не выдраць яго, і не выпалаць. За пяць гадоў мультан змізарнеў, падрабнеў лісцямі, бо няма каму даглядаць яго: абрываць жоўтыя кветкі, ламаць пасынкі. Здзічэлы тытунь крыўдзіцца на такую абыякавасць да сябе, панура курчыцца каля плота. Самасею сумна, яму нават дзіўна, чаму ў агародзе — якое ўжо лета! — не паказваецца заядлы курэц з гэтай нізенькай нешаляванай хаты?

Занядбаныя, недагледжаныя кусты тытуню самотна стаялі над разоркай, але Насця яшчэ больш, напэўна, захвалявалася б, калі аднойчы турэцкі мультан не пасеяўся на градах зусім. Кожнае лета кабеце здавалася, што вось-вось з хаты выйдзе гаспадар, набярэ ў ахапак зялёных лісцяў і панясе сушыць на прыпеку. Але Сямён быў там, дзе тытунь не патрэбен, і Насця гэта добра разумела. Тым не менш, пад восень, выдзіраючы з градак усялякую непатрэбшчыну, яна, як бы незнарок, пакідала нечапанымі пару кусцікаў мультану, каб яны даспелі, асыпалі ў глебу маленькія, што макавыя, зярняткі, а вясной на тым месцы зноў узыдзе кволая тытунёвая расада.

Нельга было так доўга вярэдзіць сябе ўспамінамі, і Насця, яшчэ раз уздыхнуўшы, пайшла з агарода ў сваю ціхую, пустэльную хату. Насця пачынала баяцца гэтай няёмкай цішыні і заўсёды з неахвотай ішла ў сваю крэўную

непрыветлівую хату. З парога ў нос шуснуў застаялы пах жыта. Пах віецца ад каласоў, якімі з першага дня жніва была ўшанавапа покуць пад бажніцай. Насця павяла вачыма ўправа на сцяну і сустрэлася позіркам з Сямёнам. Чаго глядзіш, Сямён? Сумна табе тут? Ці, можа, хочаш паведаміць Насці тое, што не паспеў расказаць халоднай зімовай ноччу? Маўчыць Сямён, глядзіць на хату сумнымі, даверлівымі вачыма.

Насця падсунула табурэтку, села, аперлася локцямі аб стол і сядзела так — адпачываючы, нічога не робячы. Нават дзіўна, што пасярод лета рухавай, увішнай кабецінe няма чаго рабіць. Але гэта праўда. Бульбу яшчэ не хутка капаць, жыта зжата і звезена з поля, а лён таксама рана яшчэ рваць. Увесну Насця штосьці прамарудзіла, позна ўкінула семя ў раллю, і лён яшчэ не даспеў, стаіць за хатай зелянец зелянцом. Адносны зацішак паміж вялікімі работамі трэба скарыстаць умела, і, падумаўшы, Насця рашыла пайсці ў Ганцавічы. Заўтра будзе акурат нядзелька, базарны дзень, дык можна будзе, прадаўшы тое-сёе, набраць добрай крамы на сукенку і спадніцу, а то ж даўно не была ў крамнікаў, абнасілася зусім.

Прадаць на базары будзе што. Раніцай Насця зловіць на седале яшчэ соннага пеўня, звяжа яму крылы і возьме пад паху, а ў карзіну пакладзе грудку масла і два дзесяткі яек. Праўда, масла трэба збіць яшчэ. Думаючы так, Насця паднялася з-за стала, прынесла з каморы бойку, выцерла насуха, пасля ўліла два гладышы густой, хоць рэж, смятаны. Масла біла, прысеўшы на парожку сенцаў. Каб смятана не распырсквалася праз няшчыльнае вечка, абгарнула бойку чыстым ручніком. Біць масла — трэба цярпенне. Трэба бесперастанку таўчы калатоўкай смятану, абедзвюма рукамі наперамснку, бо ад такой напружанай работы скора запякуць далоні, таўчы, пакуль па калатоўцы не забялеюць першыя крошкі масла, а смятана ў бойцы зробіцца на ваду.

Насця была цярплівай кабетай, і доўга ці мала мінула часу, а масла памаленьку збівалася. Гэта адчулася па тым, што калатоўка ўперлася ў тугі камяк і далей няма ёй ніякага ходу. Насця паднялася з парожка, пайшла з бойкай у хату, вычарпала жоўтую груду ў міску з халоднай вадой. Пакуль масла не зацвярдзела, скатала яго ў круглую галку. Пайшла ў агарод, нарвала бурачнага лісця і абкруціла ім масла. У бурачніку яно не растае, не ялчэе, можа доўга ляжаць свежанькае, як толькі што збітае.

Цяпер засталася адна дробязь. Трэба паставіць на акне макацёр з курынымі яйкамі, пераглядзець кожнае на сонечнае святло і, калі яйка свежае — будзе прасвечвацца жаўток, акуратна выцерці яго анучкай і пакласці ў кошык побач з галкай масла. Насця хуценька перабрала яйкі, тугa завязала кошык старою хусткай і адчула нейкую прыемнасць на душы. Усяго патрошку, і тавару сабралася на продаж не горш, чым у людзей. З такім, зусім не бядняцкім, кошыкам, калі далучыць сюды яшчэ і пеўня, можна ісці хоць у самы стольны Мінск. Але Насця, вядома, пойдзе ў Ганцавічы, дык як жа так, што Загор'е яшчэ нічога пра гэта не ведае? Каго-каго, а Хвядоса трэба папярэдзіць, што Насця сабралася ў мястэчка, каб ён сам падаіў карову і ні на каго не спадзяваўся.

Хвядос быў дома. Сагнуўшыся над вядром з каламаззю, ён прыводзіў у парадак драбіны. З аднаго боку воза кола было ссунута на цэлую калодку, а Хвядос браў драўлянай лапаткай чорную, густую каланіцу і тоўстым пластам клаў яе на вышараваную да бляску вось. На траве ляжаў жалезны каштыль, якім затыкаецца вось, каб кола не спадала. І так, відаць, Хвядосу было прыемна валтузіцца з возам, што ён не пачуў, калі падышла Насця. Яна пабаялася, каб хоць не злякаць гэтую глухую цяцеру, і яшчэ за колькі метраў моцна кашлянула:

— Кхе-кхе!

Хвядос азірнуўся.

— А-а, гэта ты, Насця?

— Я-я, не палохайся. Заўтра, Хвядос, я хачу на базар пайсці. Але, пайду.

— Ідзі сабе. Як-небудзь дагледжу хату.

— Маю не трэба,— зарадавалася Насця, што Хвядос не пярэчыць.— Маю кароўку Міцька зажане ў хлеў, а Жучка падоіць. Ты хоць у сябе тут глядзі. Ці мо тэж папрасіць Жучку?

— Не трэба, сам не ўломак.

— То і добра. Чуеш, Хвядос? Табе нічога не трэба на базары купіць? А мо што на продаж маеш?

— Які там продаж! — нахмурыўся Хвядос і крыўдліва махнуў рукой.— Унь у збанах смятана стаіць — кісне.

— Гаспадар мне знайшоўся. Гэта ж так дапусціць, каб дабро прападала!

Прысеўшы на чужым парозе, Насця другі раз за дзень біла масла, а Хвядос, нядатны да такой далікатнай работы, меў клопат з каламаззю. Намазаў задція восі, перанёс

вядро ў перадок воза. Пярэднія восі былі на жалезным хаду, і пакуль Хвядос шукаў ключ, каб адкруціць кантовыя шрубы, пакуль клаў каланіцу, закручваў шрубы і нацягваў атосы, масла ў бойцы было збіта. Хвядос убачыў у місцы вялізную жоўтую груду, усміхнуўся, нешта ўспомніўшы:

— Я ж і казаў: пакуль вернецца Антоля, пуд масла можна сабраць.

Насця выцерла насуха рукі, узважыла на далоні зялёную ад бурачніку і круглую, як капусціна, галку масла.

— Як прадам, то мо што табе купіць, Хвядос?

— Нічога мне не трэба. Грошы сабе забяры.

— Мо сахарыны купіць?

— Не трэба сахарыны.

— А мыла? Пахучага выберу.

— На халеру мне мыла.

— То як сабе хочаш,— зазлавала Насця.— Дзірку ад абаранка я табе куплю.

Насця выйшла за брамку, прыпынілася, з канца ў канец агледзела Загор'е. Да каго першага зайсці — да Алепы ці да Піліпіхі? Мо таксама збіраюцца на базар? Але бязлюдна, ціха, пуста каля замшэлых, нізенькіх хат.

«От бо даліся ў знакі дажынкі! — падумала Насця.— Цэлы дзень адсыпаюцца бабы».

На сваім панадворку стаіць Барабаніха. Яна таўкла ў ступе ячмень і цяпер трасе апалушкі, вывейваючы з круп ячменную пацяруху. Пасля таго як галяком бегла цераз жыта, Барабаніха ні разу не хадзіла на базар. Насця гэта даўно заўважыла. І не раз думала: чаму? Не ходзіць, і ўсё, як сто баб адшаптала. А мо накуплялася ўсяго ўсялякага, што і той базар непатрэбен?

Тупкая сцяжынка паміж зрыжэлых чубкоў рамонку і зялёных грывак трыпутніку пабегла Насці насустрач.

На базар дык на базар.

Адно ж каб не праспаць. Заўтра трэба схапіцца яшчэ ацёмпачы. У прыцемках лягчэй будзе зняць пеўня з шастка, каб той гарлапан не спалохаўся і сваім крыкам не распудзіў сонных курэй.

## 2

Базар шуміць, хвалюецца, гамоніць, і яму ўжо цесна ў дашчапай агароджы, якою ўкруга абнесены не вельмі шырокі рынкавы пляц. Віруе людскі патоўп, рыпіць бота-

мі і лазовымі лапцямі, пярэсцяць уваччу чырвоныя каснікі і кутасікі на палатняных торбах. Пахне дзёгцем і конскім потам. Базар, уласна кажучы, пачынаецца па брукаванай вуліцы, аслоненай высокімі таполямі. Пад імі з прыходу пазаймалі месцы самыя хітрыя і ўпраўныя гандляры: хто б ні ішоў на базар, то ніяк не праміне павыстаўляныя напаказ кошыкі з яблыкамі і грушамі, з ягадамі і грыбамі.

Пасярод базарнага пляца пад гонтавай стрэшкай аж да самага плота, дзе каля вазоў жуюць сена распрэжаныя коні, цягнецца доўгі дашчаны прылавак. З аднаго боку прылаўка таўкуцца местачковыя пакупцы, ходзяць то ўзад то ўперад, але пакуль што нічога не купляюць. Гандляркі, якія стаяць з другога боку прылаўка, надзвычай высока цэняць свой сялянскі тавар, а местачкоўцам такія высокія цэны не падабаюцца. Яны ходзяць узад-уперад, цярпліва чакаюць пераломy ў хітрай гандлярскай палітыцы, адварочваюць насы, як быццам іх зусім не цікавіць ні свежае масла, ні курыныя яйкі. Тыя капрызныя насы, аднак, далёка не адыходзяцца, віжуюць каля прылаўка, каб апынуцца тут першымі, калі адчуецца нейкі зрух у цэнах.

Вірує натоўп, сыкаюць у кошыках гусі, кудахчуць куры. Свайго вогненнага пеўня Насця прадала адразу, як толькі ступіла на базарны пляц. Купіў, асабліва не цанаючыся, добры Насцін знаёмы, бухгалтар з сельпо Навум Шмуклер. А дзве груды масла, загорнутыя ў бурачнік, і яйкі пакуль што ляжалі навідавоку: не знаходзяцца пакупцы.

Насціна суседка, што гандлюе побач, апранута ў вышываную палатняную кашулю і шырачэнную, на зборках, чырвоную спадніцу. Палешукі любяць убірацца ў яркія, крыклівыя строі. Кабеты разгаварыліся, і высветлілася, што Насціна суседка родам з Раздзялавіч — вельмі глухой і забітай вёскі на Палессі. Вераб'ёў там называюць шворабамі, а на пеўня кажуць — кабан. Дзіўна чуць: на плоце кабан закукарэкаў.

Калі Шмуклер забіраў з Насціных рук вогненнага пеўня, кабета з Раздзялавіч пасмяялася:

— Чаловік, купі і майго кабана! Дзёшаво азьму.

Шмуклер азірнуўся на вазы, дзе паквіквалі парасяты, і не прыняў жарту:

— Свіней я не бяру.

— І шчо за чаловік?— здзівілася раздзялаўка.— Я ж не прашу, каб ты свінню купіў, ты кабана купі!

Цераз базарпую плошчу, узяўшыся рукою за партупею, ідзе ўчастковы Сымон Міронцаў. Тонкі і высокі, як жэрдка, ён быццам і не глядзіць на людзей, але тым не менш заўважае, што робіцца каля піўнога ларка, толькі прыйшоў, а ўжо ведае, якія цэны трымаюцца сёння. На баку ў Міронцава цялеплецца крывая, што турэцкая, шабля ў чорных ножнах, а на задніках ялавых ботаў пры кожным кроку пазвоньваюць бліскучыя шпоры. Міронцаў кіруецца да вазоў, дзе мызамі да драбін стаяць распрэжаныя коні: жуюць сена, выцягваючы яго з вербалозавых палукашыкаў. Трэба так любіць коней, каб кожную нядзельку стрымгалоў бегчы да іх. Міронцаў выбірае сабе рахманага на выгляд коніка, гладзіць па мордзе, чухае між вачэй, каб прывык да чужака, затым цуглямі расшчэмлівае каню храпу і пачынае лічыць зубы. Калі зубы цэлыя, яшчэ не зжаваныя, то тады гаспадар воза чуе пахвалу свайму маладому каню, учарашняму стрыгунку. І гэта так расчульвае добрага дзядзьку, што ён мацаецца рукамі ў сене, нешта хавае за пазуху і вядзе Міронцава ў цішэйшы закутак. Аб чым яны там гамоняць — невядома. Але назад Міронцаў ідзе ўжо куды весялейшым крокам, трохі ўлукаткі, шабля ў чорных ножнах абвісае, валачэцца па зямлі, а шпоры на ялавых ботах звіняць ужо гучней і меладычней. Мусіць, выгодная справа — лічыць конскія зубы.

— Заліў ужэ бельмы. А хто будзе за парадкам сачыць? — паглядзеўшы ўслед Міронцаву, сказала раздзялаўка.— Бітка не дай бог пачнецца ці хто з воза шчо сцібрыць?

— А хіба часта тут б'юцца? — здзівілася Насця.

— Які ж гэта базар без біткі? Туды вунь зірні,— кіўнула на піўны ларок раздзялаўка.— Бачыш? Зараз пабяруцца загрудкі. Не было тае нядзелькі, каб не схапіліся. Юшку спусцяць, мызы адзін другому панабіваюць.— Яна памаўчала, задумалася, нешта ўспамінаючы.— Аднаго разу тут жаночыну адну на горкі яблык сперылі. Калі ж гэта было? Ну, але— перад Янам. Ледзь жывая выцерабілася з натоўпу.

— А за што — ты не ведаеш?

— Дзіўно ты кажаш! Як-то не ведаю? — пакрыўдзілася Насціна суседка.— Тая жаночына ці не масла прадавала, а люсінка адна вазьмі ды пазнай на ёй сваю сукенку. У чырвоныя кветкі, штапельная сукенка. Добра я помню, шчо ў чырвоныя кветкі. Пазнала, знацца, і давай за каў-

тупы цягаць. Цягае і крычыць: «Людцы, памажыце зняць!» Цягае і крычыць: «Гэта ж мая сукенка!»

Сэрца ў Насці гулка забілася.

— І чым жа, скажы, тая фацэсія скончылася?

— Анічым! Садрала з плячэй сукенку, а жанчына ў адной кашулі вырвалася і, пакуль заявіўся Міронцаў, цурыла за смалакур, у кусты.— Насціна суседка раптам перапыніла расказ, хапіла за плячук мажнага дзядзьку, які, мяркуючы па адвіслым жываце, мог быць адмысловым кураедам.— Гэй, чаловік! Кабана купі! Харошы кабан. Гарласты!

— Свае дома вядуцца,— сказаў тоўсты дзядзька, разглядаючы ўбранства прылаўка.— А вось масла ў гэтай цёткі забяру.

Ён акуратна пераправіў грудкі масла ў свой аб'ёмісты кашэль, адлічыў грошы і падаў Насці.

— Дзякуй, цётка!

— Спажывайце на здароўечка.

Насця глядзела на вірлівы людскі натоўп, але людзі, якія безупынку снавалі то ўзад то ўперад па базарнай плошчы, раптам пачалі пераўтварацца ў высокую сцяну жыта, зіхоткага ад вячэрняга сонца і дажджавых кропель. Сцяна расла, набліжалася, выразна стаў відзён кожны каласок. Жыта было мокрае ад расы, бо ў той дзень, калі цераз Кругляк бегла голая Барабаніха, сапраўды ішоў дождж. Несумненна, гэта яе, Барабаніху, білі перад Янам па базары, і яна, хаваючы сваю ганьбу і сорам, уцякала дахаты пад сховай лесу і жыта.

— Яна высокая была?

— Хто —высокая? — не зразумела раздзялаўка.

— Жанчына тая, што сукенку садралі?

— А-а! Так бы і казала. Высокая. Я ж помню. І плясканая, бы дошка, як без грудзей.— Суседка падазрона паглядзела Насці ў вочы.— А ты скуль яе ведаеш?

— Проста так спытала.

— Ну, калі так...

Жыта, мокрае ад расы, пачало аддаляцца, мізарнець, прападаць з вачэй, і хутка там, дзе толькі што зіхацелі на сонцы каласы, зноў віраваў шумны людскі натоўп. Насця стаяла збялелая, расхваляваная. Жыта не засланіла чужую ганьбу. Барабаніха не ўцякла ад свайго сораму. Але ж адкуль на ёй узялася чужая сукенка? Гэта трэба было высветліць адразу, і Насця сказала:

— Магла і памыліцца люсінка. Ці мала па свеце адпальковых сукенак?

— Ды, пэўне ж, не абманулася. Сукенку люсінка сама шыла. Таму і пазнала — знаёмыя ж і шво, і крой, і нават ніткі.

— Тады скажы, калі ласка: чаму сукенка апынулася на той жаночыне?

— І-і, бытта сама не ведаеш? — шчыра здзівілася раздзялаўка.— Ты шчо? Вайну ўжэ не помніш? Забыла, як па лясах швэндаліся бандзюкі розныя? Уга! Хто ў партызанах быў, а хто чужыя кублы ды куфры патрашыў.

— Чаму ж, помню. Не забыла.

— Але, лазілі па хатах начамі. І да нас, помню, прыходзіў адзін,— нахмурылася раздзялаўка.— Ляворварам трос, каб палатно аддалі. Я і цяпер яго пазнала б, падлюку таго. Лупаты такі, вочы, як дзесяткі, а галава вялізная, што гарбуз. Вучыцелка па суседству жыла, то і яе, як ліпку, абабраў. Мо гэта і быў чаловік той жаночыны? Бацько мой па ім з дубальтоўкі страляў.

— Хто яго ведае,— сказала памяркоўна Насця.— У вайну ўсялякі зброд з нораў выпаўз.

Надзіва голас у Насці роўны і спакойны, але на душы такога спакою няма — на душы прыкра, непамысна, жахліва. Чаму ж горка і чорна на душы? Раздзялаўка, сама таго не ведаючы, гаварыла пра Барабана, бо гэта ў яго такія лупатыя вочы, такая вялізная галава. Гулка тахкае сэрца, болем адзываецца ў скронях. Насця думала і пра многае пачынала здагадвацца. Перад вачыма цугам праносіліся даўнія падзеі, пражытыя зімы і вёсны, месяцы і дні. Чаму ж так гулка тахкае сэрца? Насця думала, забыўшы, на якім яна свеце, чаго стаіць на людным базары, і гэтае яе хваляванне, падазроная маўклівасць і белізна на твары, мусіць, кінуліся ў вочы раздзялаўцы, таму што раздзялаўка недаўменна таўханула Насцю ў плячо.

— Заснула ты, ці што? Унь чаловік яйца хоча купіць.

— Але, бярыце, усе бярыце,— спахапілася Насця.— Тут роўна два дзесяткі. Можаце палічыць.

Базар разыходзіўся. Людзей стала менш, стала менш таўкатні, шуму, гармідару. У канцы прылаўка дзядзькі запрагаюць коней, нукаюць, пакрыкваюць на жонак, каб не заміналі пад нагамі. Фурманкі кіруюцца цераз пляц да брамы. Апоўдні, калі сонца пакоціцца за лес, на базары заўсёды становіцца цішэй і прасторней. Торг сёння ўдаўся Насці: усё прадала, нічога не трэба несці назад. І пакуп-

цы, здаецца, не скупіліся на грошы. Але ўдалы торг не радуе Насцю. Думаючы пра сваё, яна пяўцямна сабрала пажыткі, узяла на руку кошык і, адыходзячыся, сказала суседцы:

— То бывай! Мо калі сустрэнемся.

— Дзіва шчо! — усміхнулася раздзялаўка і пашкадавала: — А на майго кабана ніхто і не глянуў.

— Пайшла я. Трэба яшчэ па крамах палётаць. Саціну якога набраць, сахарыны купіць у Гладчыхі.

— А я пастаю яшчэ. Авось хто нарвецца.

Насця будзе смыкацца па крамах, будзе ісці дахаты, цераз гаці і ўзбалоткі, але хатнія клопаты будуць мала турбаваць яе. Ну, што з таго, калі Міцька не загнаў карову і яна, магчыма, паглуміла ўсю капусту? Насця будзе ісці, будзе думаць, будзе ўзнаўляць у памяці далёкія і блізкія падзеі, і многае ёй адкрыецца, і на тыя даўнія падзеі яна паглядзіць іншымі вачыма. Ужо блізка ля свайго Загор'я Насця зразумее, што нездарма ўвесь апошні час ёй сніўся Сямён, што нездарма на сэрцы жылі трывога і скруха, без канца мучылі пякучыя думкі, без канца балела і ныла душа.

## 3

Свечка, што гарэла на рагу стала пад бажніцай, магла нарабіць бяды. Ад блізкага, адкрытага агню вельмі ж проста маглі затлець на покуці сухія, як порах, каласы, а каб хапіўся полымем жытні сноп, то ўзяліся б гарэць і вышываныя ручнікі, якія доўгімі канцамі звешваюцца з бажніцы. Калі б гэта здарылася, тады ўжо нішто не ўратавала б хату— усё пайшло б з дымам.

Самаробная свечка патрэсквае, пырскаецца расплаўленым воскам, але Насця не глядзела на яе і, бадай, не заўважала, што кволы жоўты агеньчык трапечацца ў небяспечным суседстве з жытнім снапом. Можна было б запаліць лямпу, і яна яшчэ лепш асвяціла б цёмную хату, бо свечка гарыць кепска, куродыміць, агеньчык на вяршку кнота ледзьве квелее, пускаючы па сценах дрыготкія, палахлівыя цені.

Насця сабралася гаварыць пацеры. За гэтыя неймаверна цяжкія дні ў яе галаве склалася бязлітасная і суровая малітва. Вось таму і гарыць пад бажніцай свечка. Малітву Насця будзе гаварыць услых, укленчыўшы перад абразом Мікалая-ўгодніка. Але яшчэ рана, у грудзях яшчэ не вы-

спела тое, дзеля чаго наважылася маліцца, і Насця сядзіць, чакае гэтага шчымлівага і немінучага моманту.

Патрэсквае, куродыміць жоўтая васковая свечка. У хаце так маркотна і ціха, што нават чуваць, як сцяну точыць шашаль. За акном плыве густая летняя ноч, і яна такая доўгая, гэтая цёплая і зорная ноч, што, здаецца, няма ёй ні канца ні краю.

— Божа справядлівы, ці ёсць ты на небе? — шэпча Насця бяскроўнымі топкімі губамі.— Даруй і злітуйся, божа!

Страшна падумаць, што наважылася зрабіць Насця. Яна і сама баялася сваёй малітвы і таму не спяшалася ўпасці на калені, схіліць галаву ў зямным паклоне. Насця, хоць паважала звычаі дзядоў, маліцца не ўмела, а калі зрэдку і ўкленчвала перад абразом, то прасіла дабра, злагады, адпушчэння сваіх і чужых грахоў. Але сёння склалася бязлітасная, смяротная малітва. Слова за словам паўтараючы яе, жанчына думала пра свайго Сямёна, пра яго недарэчную смерць. І ўсё ж пачынаць малітву Насця чамусьці баялася. Яна ў рэшце рэшт магла памыліцца, магла нешта не ўлічыць, забыць у сваім доўгім, звярэдлівым роздуме, і тады цяжкі грэх лёг бы на яе душу. Варта толькі стаць на калені і вымавіць услых тыя гарачыя, выпакутаваныя словы, як неба аслепіць Загор'е сполахамі маланак, стрэліць пярун і над дзядзінцам, дзе стаіць Барабанава хата, узаўецца страшнае полымя, выбухнуць клубы чорнага дыму, крывавымі водбліскамі асвеціцца ўсё наваколле. Такую жудасную кару Насця прыдумала сваім крэўным ворагам. Пра гэта была яе справядлівая і суровая малітва.

Насця глядзела на кволы агеньчык свечкі і, перад тым як укленчыць перад абразом, зноў і зноў узнаўляла ў памяці не такія ўжо даўнія падзеі. Яна баялася памыліцца, і таму ў гэтым звярэдлівым роздуме ўсё было важна: кожная драбніца, кожнае незабытае слова. І чым даўжэй думала Насця, тым болей упэўнівалася: памылкі няма і не можа быць. Сваё сэрца не схлусіць. І — гэты неўтаймоўны боль у грудзях. Калі б не было болю, Насця, бадай, не прыняла б блізка да сэрца тое, што пачула на мястэчковым базары. Яшчэ дзень назад боль тлеў у грудзях, як вугельчык у попеле, а цяпер ён разгарэўся, забушаваў з новай сілай, і не дае спакою, і без канца вярэдзіць горкія ўспаміны, незаступленыя раны на душы.

Насця думала пра Барабана. Людцы добрыя! Чаму

вось такімі, як ён, хціўцамі і хітрунамі, яшчэ нямала за-гнюшаны свет! Насця адразу падумала пра Барабана, як толькі там, на базары, раздзялаўка пачала расказваць пра лупатага чалавека, які пад канец акупацыі лазіў па чу-жых варывеньках і кубельцах, нажываючыся на людскім горы. Вядома ж, гэта быў ён, Барабан. І гэта па ім страляў разззлаваны бацька тае раздзялаўкі. Насця цяпер добра ве-дала, чаму на руцэ Барабана застаўся глыбокі сіні шрам. Тады, пасля вайны, гэты сіні шрам увёў у зман загорцаў, і яны памякчэлі, многае даравалі былому панскаму лес-ніку.

Насця не магла памыліцца. Барабан не доўга быў у ат-радзе — уцёк і да самага вызвалення хаваўся, час ад часу наведваючыся ў глухія палескія вёскі і на хутары. Насця сама, на свае вочы бачыла цэлую гару ўсялякіх строяў у Барабаніхі. Зноў жа лісіная даха. Адкуль яна ў гэтай растрэпы і скнары? Хутчэй за ўсё шыкоўнае лісінае футра калісьці насіла старая настаўніца, пра якую Насці раска-зала на базары гаварлівая раздзялаўка.

Барабан перастаў хавацца, вылез з цёмнай нары, калі даведаўся, што сведкаў яго здрады не будзе. Ніхто не ўспомніць, ніхто не скажа, ніхто не выдасць. Атрад Бар-сукова перад самым вызваленнем трапіў у засаду каля Гаўрынчыц на лясной дарозе. Недарэчная выпадковасць пагубіла хлопцаў, пагубіла ўсіх да аднаго. На той лясной дарозе цяпер брацкая магіла. І на стромкім чатырохгран-ным абеліску дваццаць рускіх і не рускіх прозвішчаў. Нас-ці пра гэта расказалі людзі, якія былі ў Гаўрынчыцах. Яна ўсё-такі знойдзе час, пойдзе туды, паглядзіць на хлопцаў, з якімі быў разам яе Сямён. Наогул ісці трэба не адклад-ваючы, пакуль яшчэ не пажухлі кветкі. Як жа да Сямё-навых пабрацімаў ісці без кветак?

Дзіўна, але Насця амаль дакладна можа назваць час, калі Барабан уцёк з партызанскага атрада. Яна разгадала тайну, якую Сямён забраў з сабою ў сырую магілу. Цяпер Насця ведала, чаго ён, абмарозіўшы на лютым холадзе нагу, пасярод ночы прыйшоў у Загор'е. Сямён павінен быў расстраляць Барабана, свайго суседа, павінен быў звесці са свету гэтага шкурніка, гэтага ашуканца і злыдня. Кару Барабан заслужыў справядлівую. Даўшы міну, яго пасла-лі ў Ганцавічы ўзарваць вадакачку, але палахлівец збаяў-ся смерці і не вярнуўся ў атрад. Насустрач марознай но-чы, цераз халепу і завіруху Сямён ішоў у Загор'е, каб выканаць загад свайго камандзіра.

Хай трохі паспакайнее з работай, Насця ўсё-такі выберацца ў Гаўрынчыцы, наведае брацкую магілу на глухой лясной дарозе. Насця павінна апраўдаць Сямёна перад таварышамі і камандзірам. Яна прынясе на іх магілу букецік сціплых палявых кветак і раскажа Барсукову, што Сямён невінаваты, растлумачыць, чаго яго суровы загад застаўся нявыкананы і чаму ходзіць па зямлі гэты лупаты шкурнік і злыдзень — Барабан. Камандзір зразумее Насцю, даруе Сямёну яго віну. Насця ўмее ладзіць з людзьмі, а каб паддобрыць непадкупнага Барсукова, яна пакладзе ля стромкага абеліска букецік сціплых палявых кветак.

Самае жахлівае, самае страшнае якраз і было ў тым, што Сямён не змог выканаць суровы камандзірскі загад. Барабан уцалеў, застаўся жыць. Насця доўга пакутавала, доўга думала і ўсё-такі на многія пытанні знайшла адказ. У тую завейную ноч, дабраўшыся ў Загор'е, Сямён, перш чым пагрукаць у акно сваёй хаты, заходзіў да Барабанаў. Ён павінен быў, не адкладваючы, выканаць прысуд сваіх таварышаў. І, вядома ж, ён невінаваты, што Барабана не аказалася дома — той ужо адседжваўся ў нейкай схованi. Сямён уважліва агледзеў чужую хату і, не знайшоўшы нічога, пайшоў дахаты, каб раніцай нанова пачаць пошукі палахліўца і здрадніка.

Але раніцой было другое — быў п'яны і нахабны Падгейнік, была зграя паліцаяў, была лютая, ікластая Хільда. Паліцэйскі гарнізон, можна сказаць, стаяў зусім побач — у Кругловічах, а туды, цераз лес, бадай, і пяці вёрст не набярэцца. Тыя пяць вёрст, нягледзячы на завіруху, Барабаніха адолела адным махам — пабегла і выдала ворагам Сямёна. Вось чаму раптоўным і нечаканым быў налёт паліцаяў, вось чаму марозным золкам снег каля Насцінай хаты афарбаваўся ў чырвоны колер.

Насця не магла памыліцца. І ўсё ж яна баялася пачынаць сваю страшную малітву — сядзела каля стала непрыкаяная, задуманая.

У хаце ціха, незвычайна ціха і жудасна. Патрэсквае свечка, ацякае ў слоік з жытам расплаўлены воск, палахлівыя, дрыготкія цені мітусяцца на сценах. Да чаго ж вусцішна, горка і жудасна! Насця ўтаропілася на кволы агеньчык свечкі і раптам адчула, што ў хаце яна не адна. Яна адчула на сабе праніклівы, патрабавальны і дакорлівы позірк. З фатаграфіі на Насцю глядзеў Сямён — глядзеў занепакоена, глядзеў з папрокам. Сямёнаў пільны по-

зірк нібы пацвярджаў: памылкі няма. Насці стала сорамна перад гэтым уладным, дакорлівым і патрабавальным позіркам.

Яна паднялася з-за стала, вінавата ўсміхнулася Сямёну, як бы папрасіла ў яго прабачэння. Укленчыўшы, яна пачала маліцца, адбіваць зямныя паклоны, і гэта была дзіўная, суровая малітва, у якой перамяшаліся радкі з «Отча наш», з «Багародзіцы», з «Творцы неба і зямлі». Насця слаба помніла малітвы, ды ёй і не трэба было тое, што гаварылі перад іконамі дзяды і прадзеды — у яе была свая, Насціна, малітва.

— Божа высокі, божа справядлівы! Хлеб наш надзённы! Дай нам днесь і пакінь нам даўгі нашы, яка ж і мы пакідаем даўжнікам нашым. Не вядзі нас у блуд, збаў нас ад лукавага. Пакарай, божа, грэшніка Паўла Апацкага! Пакарай, божа, грэшніцу Вулю Апацкую! Просіць гэта раба твая, Насця Санцэвіч, просіць за супруга свайго, Сямёна Санцэвіча. Выратуй, божа, яго нявінную душу. І пашлі, божа, маланкі на галовы лукаўцаў, што промеж сябе мы Барабанамі клічам. І хай пярун стрэліць у хату іху, і хай ясным полымем возьмецца хлеў іхі. Божа справядлівы! Да свяціцца імя тваё! Да будзе воля твая! Амінь!

Насця малілася, многа разоў паўтарала гэтую страшную і суровую малітву. Насця адбівала зямныя паклоны, шаптала ў паўзмроку горкія, пякучыя словы, і невядома было, колькі ўжо часу яна стаіць на каленях. Яна была ўпэўнена, што Барабанаў спасцігне бязлітасная кара, і ўвесь свой вялікі боль аддавала малітве.

Дагараючы, пачала тухнуць свечка. Насця паднялася, каб запаліць новую, і раптам яна ўздрыгнула ад страху, закалацілася, лоб пакрыўся ліпкім, халодным потам. Гэта было неверагодна, гэта было жахліва. У вокнах, рассоўваючы змрок, білася яркае святло, нібыта блізка нешта гарэла, і ўсе шыбы ў вокнах былі падсвечаны ружова-чырвоным бляскам.

— Што ж я нарабіла? — прашаптала Насця, кідаючыся да акна.

Але гэта быў не пажар. Насці падалося, што нешта гарыць зусім побач. Займаўся ясны і пагодлівы летні ранак. Неба на ўсходзе барвавела, налівалася чырванню. Такое барвовае неба каго хочаш можа ўвесці ў зман. Такая сакавітая чырвань на ўсходзе звычайна бывае перад зменай надвор'я — па ўсім відаць, трэба чакаць зацяжнога дажджу.

# Раздзел восьмы

## 1

Лета спачувала людзям, спрыяла іх клопатам — не гнюсіла, не пасылала дажджу, каб яны спакойна шчыравалі з сярпамі на палетках. І калі жыта было сабрана і звезена ў хлявы і гуменцы, лета раптам успомніла, што гэтая яго дабрата нікому ўжо не ідзе на карысць. Ад спёкі на лугавінах парыжэла ўжо трава, паскупела паша, а ў дайніцах увачавідкі паменела малака. І тады пакрапаў дождж — спачатку ціха і нясмела, а потым лінуў вадаспадам. Яно і добра, што пайшоў такі спорны і цёплы дождж-грыбасей. Да восені ён яшчэ паспее паправіць скупую пашу, напоіць сады і агароды, бо ад гарачыні бульба пабурэла і пачала ўсыхаць, без пары звяў і пажоўк агурэчнік, а яму яшчэ цвісці ды цвісці.

Пад шум дажджу, які безупынку лапатаў за акном, Насця, седзячы на ўслоне, пільнавала, каб у добра напаленай печы не падгарэў малады хлеб. З чалеснікаў б'е гарачы дух, пахне рошчынай і аерам. Круглякі сырога цеста Насця любіць саджаць на аеры. Можна, канечне, пячы хлеб і на высеўках, пасыпаўшы іх на драўляную лапату, але тады і смак не той, і боханы не такія пульхныя і пахучыя. На лапату Насця рассцілае аер, і хлеб у яе заўсёды пахучы і духмяны. Пайшоў дождж, і добра, што пайшоў, бо невядома, калі б сабралася Насця спячы, хоць на поспыт, свежага хлеба з маладога жыта.

Б'е з чалеснікаў гарачы дух, на ўсю хату запахла аерам. Калі пахне аер, то ўжо нельга марудзіць: трэба хутчэй выцягваць боханы з печы, бо паджалее, учарнее скарынка, а гэта вялікая ганьба для руплівай гаспадыні. Насця паднялася з услона, і праз хвіліну пяць залацістых боханаў занялі пачэснае месца на чыста выцертым шкапчыку. У хаце як быццам пасвятлела, як быццам сонца выблісяула з-за хмар. Але свяціўся хлеб — пяць маленькіх сонейкаў. Насця пакрапіла боханы вадой, каб не цвярдзела скарынка, накрыла беленькім палатняным ручніком. Адно сонейка, самае большае і добра выпечанае, закруціла другім ручніком, ушчаміла пад паху і выбегла з хаты — на цёплы праліўны дождж.

Насця кіравалася да Хвядоса. Напэўна ж, і яму хочацца пасмачыцца свежанькім духмяным хлебам з маладога жыта. Для сваёй патрэбы Хвядос, бывае, нешта мудраге-

ліць сам. Але які хлебапёк, такі і прыпёк. Насця бачыла тыя Хвядосавы лемяшы: сырыя, ацеслівыя, з мноствам асцюкоў, бо, каб не застраміць рот, трэба не ленавацца, трэба добра прасеяць муку. Хвядосу яшчэ шанцуе, што яго работу не бачыць Міцька. Той падшыванец адразу пацвяліўся б: «Гаспадыня, хлеб не ўдаўся, пад скарынкай кот схаваўся!» І гэтаму няўдаліцу Хвядосу Насця нясе на поспыт яшчэ цёплы і пахучы бохан. Калі раздумацца, то Хвядосу і паспагадаць трэба: ужо ж болей за месяц чалавек жыве адзін, без Антолі, перабіваецца на чэрствай скарынцы.

— Хвядос, я табе хлеба прынесла. Яшчэ цёпленькі, гарачанькі яшчэ.

— Прынесла? То пакладзі на стале.

Вось табе і маеш: так бегла, так бегла, а тут хоць бы грам падзякі.

— Падымайся, абібок! Падзівіся хоць, што за скарыначка блісчастая. Золата, а не хлеб.

Падымацца Хвядосу не хочацца. Ён ляжыць на ложку не раздзеты, заспаны, і яму, мусіць, непрыемна, што прыйшла суседка. Твар у яго пахмуры, бровы насуплены. Пад шум дажджу Хвядос соладка драмаў. Жоўтая драўляная нага, прыстаўленая да біла, сведчыла, што гаспадар хаты надоўга залёг у ложак і турбаваць яго, прыпамсі, не варта.

— Падымайся, кажаш? А куды? А навошта? — без усялякага настрою буркнуў Хвядос.— Дождж, бачыш, выбіў з каляі. От пакарміў свіпства ды і дрыхну сабе. А што рабіць?

— Паляжы,— памяркоўна сказала Насця.— Намэнчыўся-такі ж за жніво.

— Каб не нага, то якая там пакута.

— Але, кепска без нагі.

Хвядосу не хочацца падымацца з ложка, Насці не хочацца ісці з хаты, не выслухаўшы падзяку за хлеб. Хіба варта было мокнуць, каб вось так, ні з чым, пайсці з хаты? Насця падсунула табурэтку, села і заглядзелася ў акно. Там не пераціхае дождж, лапоча па лісцях сліў, вада рагамі сцякае па шкле. Цяпер у лясах, напэўна, зноў пракінуліся праўдзівікі, бо дождж цёплы, без грымот — самы грыбны дождж. Насця хоча сказаць пра грыбы Хвядосу, паварочвае галаў, і словы заміраюць у яе на губах. Чакайце, што сталася з Хвядосам? То ляжаў насуплены, як сыч, а цяпер і не пазнаць, што гэта той, ранейшы Хвядос. Зморшчкі на лбе расправіліся, твар палагаднеў, у вачах невя-

дома што — ці хітрасць, ці пяшчота. Выгляд у Хвядоса такі, быццам ён, пакуль Насця глядзела ў акно, глынуў вялізную лыжку пахучага баравога мёду.

— Насця, будзь добрай, падай мне маю нагу,— ласкава просіць Хвядос.

— А ты чаму сам не возьмеш?

— Не дацягнуся. Далекавата стаіць.

— Ляжы ўжо. Падам.

Насці трэба было ўцякаць, не браць у рукі тую жоўтую дзеравячыну, а проста — уцякаць. Але яна не даўмелася, чаму ў гэтага абібока такая лагодная міна, і таму спакойна падышла да ложка, падала Хвядосу яго нагу. Спачатку Насця не зразумела, якога ліха раптам забалелі рукі ў запясцях, потым убачыла, што яе рукі, як абручамі, сціснуты кашчавымі валасатымі пальцамі. Насця спалохалася, ледзь не войкнула з болю. Жоўты пратэз, абкручаны рамянямі бандажу, з грукатам упаў на падлогу.

— Пусці, Хвядос! Здурэў ты, ці што?

— Не крычы, Насця. Нікога ж у хаце пямашака.

Варсістыя пальцы не слабеюць, не выпускаюць Насціны рукі з жалезных абдымкаў. Пальцам даручана, нягледзячы ні на што, утрымаць гэтую каравокую збянтэжаную жанчыну, і яны верай і праўдай служаць гаспадару. Насця тузаецца, спрабуючы вырвацца з жалезных абдымкаў, але не паспела яна нават запярэчыць, як рукі яе раптам аказаліся злучанымі разам, моцна прыціснутымі да Хвядосавых грудзей. І вось ужо нейкая неймаверная сіла, учапіўшыся за плячо, садзіць яе на ложак, беражліва, асцярожна хіліць на белую падушку. У твар Насці хлынула кроў, гулка затахкала сэрца.

— Пусці, Хвядос! Людзі ж могуць зайсці.

— А па мне хоць цар няхай заходзіць.

У Насці памлелі ногі, здранцвелі рукі, у яе больш няма сілы бараніцца ад такога вялікага нахабства і распусты, няма сілы выдзерці Хвядосавы паганыя вочы. Ужо адчулася пад галавой падушка, ужо блізка-блізенька чужое гарачае дыханне. Насця спалохалася гэтага перарывістага, гарачага дыхання, яна чырванела, згарала ад сораму, і калі рукі аслаблі зусім, Насця раптам успомніла Антолю. Не сёння-заўтра Антоля прыедзе, а як ёй будзе паглядзець у вочы, і, падумаўшы так, Насця ціха і трудна прастагнала:

— Хвядос, дурань! Пусці! Я ж Антолі раскажу! Дальбо, раскажу.

Насціна хітрасць удалася, бо Хвядос не быў бітым дурнем, апроч таго, ён, відаць, добра ведаў сваю Антолю. Пагроза асвяжальна падзейнічала на яго вар'яцтва, Хвядос разняў рукі, адкінуўся на падушку, штурхануўшы Насцю ў плячо.

— Ідзі адсюль. Іш, незачэпа якая. Можа, я пажартаваць хацеў?

— Добрыя жартачкі, калі ў пот увагнаў.

Насці чамусьці было сорамна, прыкра і няёмка. Яна саромелася Хвядоса, як быццам чула нейкую сваю віну перад ім. Адбегшыся да стала, Насця папраўляла скамечаныя валасы, завязвала хустку і не глядзела на ложак — глядзела ў акно, дзе па-ранейшаму лапатаў дождж і было шэра, як падвячоркам. Зусім не скажаш, што на двары яшчэ лета — задажджылася, нахмурылася, як у познюю восень.

— Але ж ты і сараматнік, Хвядос,— збіраючыся ісці, папракнула Насця.— Накінуўся, бытта з галоднага краю. А твая ж Антоля спраўнейшая за мяне — і мякчэйшая, і бялейшая з твару.

— З чужой бочкі і квас смачнейшы,— крыва ўсміхнуўся Хвядос.

— Помню, некалі ты добра за Антоляю ўлягаў.

— Ідзі от лепш. Не грай на нервах.

Хвядос падняўся з ложка, сеў, спусціў босую нагу на падлогу. Звесілася з ложка і пляскатая калашына, пазначыўшы пустату ў тым месцы, дзе павінна была быць другая нага. Не падымаючы вачэй, Хвядос глядзеў на жоўты пратэз, які трэба было прычапіць да сябе, але ён ужо саромеўся Насці, не мог пры ёй агаліць куксу, паказаць сваё калецтва. Твар у Хвядоса зноў панылы і кіслы. Зараз ужо нельга было падумаць, што ён пакаштаваў мёду — хутчэй за ўсё глынуў якога-небудзь горкага цытвару.

— І праўда, пайду я. Дождж ужэ, здаецца, пацішэў.

Насця думала, што Хвядос пакрыўдзіўся і цяпер нават бачыць яе не хоча. Мужчыны ж усе на адзін капыл: чуць што, дык і ў гонар адразу, без хвігі не да носа. Але няпраўда: Хвядос зірнуў на Насцю без крыўды, нязлосна. У рэшце рэшт вінаваты быў ён сам — звар'яцеў, распусціў рукі, і за гэта трэба прасіць у суседкі прабачэння.

— Святая ты, Насця,— не мяняючы позы, сказаў Хвядос.— Святая, і ўсё тут.

Насця ўжо стаяла ў парозе, трымаючыся за ручку дзвярэй.

— Гэта я — святая? Смяешся, Хвядос. Ты б спытаў: ці часта я малюся?

— Ды я не пра тое. Беражэш ты сябе. Мусіць, моцна любіла Сямёна, калі і па сённяшні дзень помніш?

— Я і цяпер яго люблю. Не мёртвы ён для мяне. Калі хочаш, Хвядос, я не магу, каб каго не любіць. А чаму? Бо адна жыву, з адзіноты сплакалася. І Антолю, і Міцьку Драздовага люблю. Я мо і цябе, злыдзень кульгавы, люблю.

Каб не заплакаць, Насця выбегла з хаты, не паглядзела, ці шчыльна зачыніліся дзверы. Шчокі ў яе гарэлі агнём, і на дажджы гэтая цяплынь на шчоках адчулася яшчэ больш. Насця спяшалася на свой хутар, і ў яе на душы было спакойна, не было трывогі і ранейшай прыкрасці. Хай прыязджае Антоля — у вочы ёй Насця будзе глядзець смела. Прынамсі, не трэба будзе таіцца, хаваць позірк.

Шуміць дождж, залівае лагчынкі і калюжыны — цёплы, зацяжны дождж-грыбасей. Добра, што ціхі, без грымот. Калі страляе пярун, Насця баіцца заставацца адна ў хаце і заўсёды ўцякае да Антолі або Жучкі. Разам весялей перачакаць грымоты. Кепска жыць адной. Во і гэтая бяда. Насця не ведае, што рабіць з Барабанамі. Ці то пайсці заявіць у міліцыю, ці то пачакаць яшчэ? І не кожны можа парадзіць Насці, і не з кожным можна абмовіцца.

Хай ужо прыязджае Антоля: што яна скажа?

## 2

Здзіўленымі, спалоханымі акенцамі Загор'е глядзіць на Макаедаву хату. І дзе, скажыце, падзеўся Хвядос у такі шчымлівы і ўрачысты момант? Яму неадкладна трэба бегчы ў краму па цукеркі, ды і цэлага фунта падушачак, відаць, будзе мала, каб спаўна аддзячыць Міцьку Дразда за яго пільныя і зоркія вочы. Не хто ж іншы, а ён, Міцька, першы ўбачыў, што ў Капцах паказалася цётка Антоля. Потым цётку Антолю ўбачыла Ірка Пілінішына, потым гэтую валацугу, несусветную падарожніцу згледзела Насця. І вось ужо Загор'е ўсё, апрача, мабыць, Хвядоса, ведае, што вярнулася Антоля.

Напрасткі праз лужыны дзеці пабеглі насустрач цётцы Антолі, каб узяць што-кольвечы з яе рэчаў, таму што з такой паклажай, як у цёткі, вельмі проста замучыцца і зваліцца пасярод дарогі. Міцька нясе вербалозавы кошык, у якім былі чарніцы Галі на гасцінец, Ірка нясе махры-

стую кашміроўку, якая пабывала ў далёкім свеце і цяпер шчасліва вяртаецца назад. Але і ў Антолі багата яшчэ чаго засталося: хатуль за плячыма, у адной руцэ чорная сумка, у другой — брызентоўкі. Дарога на калюжынах, і Антоля ідзе босая, шкадуючы глуміць добрыя туфлі па гэтай сырасці і плюхоце.

— От я і дома, дзетачкі,— радуецца цётка.— Здэцца, сто гадоў тут не была.

— А ваша жыта даўно зжата і звезена ў хлеў,— паведамляе Міцька.— Мая мамка жала.

— Не адна твая,— пярэчыць Ірка.— І мая жала, і цётка Насця, і ўсе, усе жалі.

— Якія ж вы ў мяне харошыя! — хваліць Антоля дзяцей, як быццам гэта яны сабралі з поля яе збажыну.— Я вам гасцінцаў прывезла. Любіце халву з арэхамі?

— Любім!

— Любім!

Міцька з аднаго боку, Ірка — з другога, і разам яны вядуць цётку Антолю на роднае селішча. Загор'е бачыць, Загор'е цешыцца з разумных і дасціпных сваіх дзяцей. Яны ўжо мінулі Капцы, спускаюцца ў лагчыну. Насустрач подбегам спяшаецца Насця.

— Антоля, міленькая, дзе ты бавілася так доўга? Як жа з'ездзілася табе? Ці ж хоць не абакралі ў дарозе?

Яны абняліся, пацалаваліся. Яшчэ лягчэй стала Антолі, бо ўжо і Насця адабрала ў яе чорную сумку. Зноў кінуліся ў абдымкі. Насця агледзела Антоліну немалую паклажу і падумала, што дарма спытала пра злодзеяў.

— Добра мне з'ездзілася,— сказала Антоля, калі ўнялася першая радасць сустрэчы.— Жулікаў тых і ў вочы не бачыла. Дарма адно баялася. А вы тут як маецеся? Як Хвядос мой?

— І мы добра маемся. Хвядос твой сянцом азапасіўся, скаціну дагледзеў, грэх што казаць. І мне памагаў.

— Ён у мяне такі — спагадлівы, не гуляка.

Насця апусціла вочы.

— Ты, Антоля, пра сябе расказвай. Чаму так доўга не ехала? Як Галя? Ці ж хоць здаровая?

— Здаровая. Немаўлятка ў яе.— Антоля азірнулася на дзяцей, зашаптала таямніча: — Ты ж адно не расказвай нікому. Бяда ў Галі. За нейкага шалапута замуж выйшла. Несамастаяцельны такі чалавек. Таму я доўга і не ехала, што бяда ў Галі. Сядзела, угаворвала.

— Каго ўгаворвала?

— Ну, шалапута таго, Васіля Галінага. Запіваецца дужа. Во і пры мне разоў колькі п'яны як гразь прыходзіў. Праўда, не лаецца, не б'ецца.

— І як жа Галя жыць будзе з такім? — спалохалася Насця.

— Надумалася я Галю дадому забраць. Тут ён у мяне смалы нап'ецца, цытвару наглытаецца. Тут я хутка яму ўпраўлю мазгі. Ты ж хоць, Настачка, не прагаварыся каму. Сорамна.

— Не прагаваруся, не клапаціся дарма.

— На зіму я іх забяру. Адаб'ю ціліграму, што захварэла, а як прыедуць, то ўжэ і не пушчу назад.

— І праўда — захварэй, міленькая.

Антоля ідзе ледзь што не подбегам, размаўляе з Насцяй, а сама раз-пораз кідае позірк на свой хутар. Нічога там не змянілася, пакуль гаспадыня была ў адлучцы. Хата на месцы, хлеў на месцы, калодзежны журавель стаіць як стаяў. Не хапае на дварышчы аднаго Хвядоса, і гэта трошкі крыўдзіць гаспадыню.

— Ты што нахмурылася? — зірнуўшы на Антолю, спытала Насця.— Кепскае што ўспомніла?

— Стамілася я. Гэта ж табе не жартачкі: столькі сутак у дарозе.

— То не маўчы. Расказвай, што бачыла, што чула?

Антоля паправіла на плячы хатуль, прыцішыла хаду, і твар яе асвяціўся нейкім светлым і прыемным успамінам.

— Багата чаго бачыла. Таўкатня на вакзалах, тлум, гоман, народу — не прабіцца. А як у Ленінградзе поезда чакала, то белыя ночы бачыла.

— Белыя но-о-чы? — здзівілася Насця.— А якія ж хоць яны? І ці бываюць такія?

— Бываюць. Сама на свае вочы бачыла, то і лгаць не буду. Ну, як табе вытлумачыць? Белыя ночы — гэта калі наўколе светла, як днём. Не! Светла, як падвячоркам, але гэта не дзень, а белая ноч.

— Дзівосы, дый годзе! Адпак жа скажы, Антоля: як там людзі спяць? Пры такой віднаце?

— Якія людзі?

Насця засаромелася, азірнулася на Ірку і Міцьку.

— Хіба не ведаеш? Мужыкі з жонкамі. Пра іх пытаюся.

Антоля таксама азірнулася на дзяцей, і раптам ёй стала весела ад Насціных смешных пытанняў. Вось-вось засмяецца, за бокі хопіцца — так весела Антолі.

— Дзівачка ты, Насця! А хіба ж як інакш спяць? Заплюшчаць вочы, і ўсё, і ўжэ цёмна ім.

— Я дык мо не змагла б жыць там, дзе белыя ночы,— прызналася Насця.— Спі і — бойся.

— Змагла б. А як жа другія жывуць?

Апусцелым полем, дзе на пожні пасецца чарада кароў, бурымі стажкамі сена каля хлявоў сустракае Загор'е Антолю. Абапал дарожкі, яшчэ сырой пасля дажджу, ветрык пакалыхвае зрыжэлыя стамбурыкі трыпутніку, прыгінаецца да зямлі сухі быльнік. З піскам над галавой носяцца маладыя ластаўкі. Загор'е даўно ўжо засумавала па Антолі, і цяпер насустрач ёй бразгаюць дзверы, рыпяць весніцы. Дайце ж падзівіцца і пацешыцца, хоць адным вокам глянуць на падарожніцу, якая ездзіла ў далёкі і невядомы свет, дзе на вакзалах гармідар і таўкатня, дзе стаяць такія чароўныя, дзіўныя і таямнічыя белыя ночы!

Загор'е ўмее прымаць сваіх блізкіх людзей.

Старыя і скрыўленыя весніцы выпусцілі на вуліцу Піліпіху.

— Антоля! Няўжэ гэта ты прыехала? Дай хоць абніму, заразу!

Потым рыпнулі пахілыя варотцы ў двары Кутчыхі.

— Любенькая! А мы ж усе вочы прагледзелі.

Страшна дапытлівыя і цікаўныя ў Загор'і брамкі. Рып — Аленіна. Рып — Жуччына. Жанкі бягуць, сапуць, задыхаюцца. Апярэджваючы маці, па сцежцы перакідваюцца маладыя жучаняткі — Генік і Волька. Яны ведаюць, чаго бягуць. Тыя разы цётка Антоля прывозіла ім з Ганцавіч нямала якіх ласункаў. То ж блізенька зусім, а што цяпер будзе, калі цётка вярнулася з такой вялікай дарогі?

— Мамачка, а наша цётка Антоля такая добра-добрая.

І ўжо няма як Антолі ісці дахаты, няма часу рупіцца за Хвядоса, думаць пра гаспадарку. Трэба ж уважыць суседкам, расказаць, дзе была, што бачыла, што чула. Той далёкі і незнаёмы свет, які выкраў з Загор'я Макаедаву Галю, бянтэжыць і хвалюе жанок. Яны войкаюць, што бываюць, аказваецца, такія светлыя ночы, калі можна нітку ў іголку зацягваць, дзівяцца, што ў цягніках цесна і спаць там трэба па вузенькіх лаўках. Але яшчэ больш павагі сабе прыбавіла Антоля, калі пачала расказваць пра мора — такое ж таямнічае, як і белыя ночы.

— А якое яно вялікае, а глыбокае — страх бярэ. Уга, Беламор'е! Гэта вам не сажалка Барабанава. Там і рыбы поўна, і шкрабаў усялякіх.

Дзівяцца не надзівяцца жанкі, слухаюць не наслухаюцца. Вось жа пашанцавала Антолі — мора бачыла! І ніхто не заўважыў, як цішком падышла Барабаніха, спынілася, ажно рот разявіла, слухаючы. Паддобрыцца, відаць, захацела, выбегшы насустрач Антолі, але спазнілася, бедная. Памрэ, і ўжо не будзе ведаць, што на свеце ёсць дзіўныя белыя ночы. Затое морам яе не здзівіш.

— Скажы, Антоля: а жабы ў моры водзяцца? — спытала Барабаніха з-за чужых спін.— Павінны быць, калі столькі макрэчы. У нашай сажалцы і то яны квакаюць.

Ці ж варта было б столькі часу ездзіць па свеце, каб адказваць на такія недарэчныя і будзённыя пытанні?

— Ты што, Вуля? Блёкату аб'елася? — сказала пакрыўджана Антоля.— Ляпнула, як астопкам па гразі. Дзе ты бачыла, каб у моры жабы вадзіліся? Там жа вада з соллю.

Жанкі заўсміхаліся, пераглянуліся паміж сабой: далібог жа, які талковы чалавек спытаў бы пра такую відавочную бязглуздзіцу. Жабы ў моры! Барабаніха, відаць, і сама адчула кпіны і насмешкі ў вачах суседак. Яна пачырванела, нервова сцепанула плячыма, буркнула пад нос:

— Ну і што, калі спытала? Хто ж ведаў, што тое мора насолена.

Барабаніха тут была лішняй. Ёй наогул не было чаго тут рабіць, і яна адчула гэтую варожасць да сябе. Яе брала злосць, яе трасло, калаціла, твар яе пабіла на ружовыя плямы. Збіраючыся ісці, Барабаніха раптам адчула патыліцай чыйсьці востры, як іголка, пранізлівы позірк. Павярнулася і аж уздрыгнула. Позаду ў яе стаяла Насця. У Насціным позірку была пагарда і нянавісць.

— Куды ж ты, Вуля? Пастой з намі,— ледзь стрымліваючы сябе, сказала Насця.— Раскажы, адкуль у цябе лісіная даха? Помніш, ты яе паказвала мне?

Барабаніха пабялела, ружовыя плямы на шчоках прапалі.

— Якая лісіная даха? Нічога я табе не паказвала,— замітусілася яна.— Пляткарка ты, Насця! Не верце ёй, бабы, зводніцы гэнай.

— Хай сабе і зводніца. Але ж, здаецца, тая даха табе прыкарацъ. Бытта з чужога пляча.

— Адстань, не лезь сляпіцаю ў вочы,— прастагнала Барабаніха і, ужо адбегшыся, пагразіла: — Пачакай жа, галетніца! Прыйдзе коза да воза. Скулу ў бок, а не грошай я табе пазычу!

— Баярыня ў лісінай хвутры,— з'едліва сказала Насця.

Не аглядваючыся, Барабаніха папраставала на свой дзядзінец.

— Так ёй і трэба, апельцы бязмозгай,— сказала Жучка.

— Пайшла — як мыла наелася,— засмяялася Кутчыха.

— За што ты яе турнула? — здзіўлена паглядзела Антоля на бледную, растрывожаную Насцю.— Нештачкі я нічога не разумею?

— Вечарам раскажу. Таіцца не буду. Усім раскажу,— сказала Насця, і дзве слязінкі скаціліся ў яе па шчоках.— А зараз разыдземся, бабы. Антолі трэба спачыць з дарогі.

— А халва? — у адзін голас выгукнулі Міцька з Іркай.

— Ой, дзетачкі! Як я забыла пра вас?

Дзіўныя гэтыя дарослыя. Ці ж можна забываць пра гасцінцы?

— На табе, Міцька. А гэта табе, Ірка. І вам, Генік і Волька.

Вербалозавы кошык і кашміроўку дзеці ахвотна памянялі на халву з арэхамі. Такому выгоднаму абмену мала хто не пазайздросціў бы.

— То што тут у вас здарылася? — спытала Антоля ў Насці, калі яны засталіся ўдзвюх.— Нездарма ж ты напала на сухарэбрыцу гэтую.

— Доўга расказваць. Я потым табе раскажу, добра? А цяпер супачынь трохі. Ды вунь ужэ і вусач твой выйшаў з хаты. Стаіць, выглядае.

— Злосны стаіць,— кінуўшы позірк на свой двор, захвалявалася Антоля.— Каб хоць жа не біўся. Мала што без нагі, а так, бывае, уперыць. І здаровы не направіць.

— Кінь дурное! Столькі часу не бачыў і — біцца? Ён цябе цалаваць пачне.

Антоля смялей адчыніла скрыпучыя варотцы.

## 3

На мяжы каля старой дзічкі ляжала міна. Ні апусцелае поле, ні быльнікавая мяжа, ні сама старая дзічка, бадай, ужо і не маглі ўспомніць, адкуль тут узялася міна — круглае, іржавае пудзэлка смерці. Міну ці то згубілі, ці то знарок закапалі ў зямлю, побач з кучай камянёў і ламачча, далей ад людскіх вачэй. Але той чалавек, які калупаўся на мяжы, быў надзвычай лянівы, і міну закапаў досыць неакуратна і неахайна. За колькі гадоў вятры выдзьмулі жарсцвяк, ліўні змылі пясок у разору, і міна агалілася, вы-

паўзла наверх. Яна ляжала на мяжы — іржавая, маўклівая да пары да часу, а старая дзічка, убачыўшы такую страшную суседку, пачала жоўкнуць з жаху, і гэтая яе трывога адразу перадалася ўсяму наваколлю.

На Кругляку, паміж уздзірванелых межаў, дзе высыхаў і чарнеў быльнік, выразна адчуваліся туга, патоля, неўпытоены смутак. Поле зажурылася ў прадчуванні бяды, полю хацелася ўспучыцца, лопнуць з адчаю і болю, каб раскалолася зямля, каб у чорную прорву паляцела ржавае пудэлка смерці. Але ў поля не ставала сілы. Яно багата працавала ўлетку, пакуль не накарміла загорцаў, і зараз у яго не было сілы і моцы што-небудзь зрабіць. Яно стомлена маўчала, журылася, набракала халоднымі асеннімі дажджамі і неверагодным смуткам. Над старой дзічкай, над счарнелай, вытаптанай пожняй зусім невысока ляцелі жураўлі, і ў іх гарачым курлыканні таксама была жальба і скруха.

Поле прадчувала бяду.

Нацянькі паўз самотную дзічку, паскрыпваючы навенькімі лазовымі лапцямі, ішоў Вінцусь. Ён здзівіўся, што жураўлі ляцяць так нізка, прыпыніўся і задзёр галаў услед крыкліваму жураўлінаму кліну. На вачах у Вінцуся круціліся слёзы. Ён ужо не мог сказаць дакладна, колькі сустракаў і праводзіў птушыных выраяў на сваім доўгім, выбоістым, як грэбля, веку. Дзікая паншчына і галеча, тры жудасныя вайны не зламалі гэтага двухжыльнага чалавека, колішняга здараўца і асілка. Час, пасерабрыўшы галаў, не мог саўладаць з ім. Пасярод поля стаяў высокі, дужы яшчэ паляшук у крамным пінжачку, з нязменным жоўтым капелюшом на галаве. Вінцусь яшчэ не ведае, што лёс назбыткуе з яго, назбыткуе вераломна і каварна, жорстка і бязлітасна. Вінцусь пастарэе ўсяго за адзін момант, усяго за адну хвіліну абвіснуць, згорбяцца яго плечы. Тое, што не змаглі дзесяцігоддзі, зробіць адзін толькі міг — маленечкі, кароценькі, як ускрык.

Вінцусь стаяў, глядзеў услед жураўлям, і яму раптам заманулася зжаваць салодкі пернік, які з учарашняга дня ляжаў у кішэні пінжака. Пернікамі Вінцуся пачаставала Насця Сацэвіч. Яна выгодна збыла на базары шаргунок сушаных белых грыбоў і з тае вялікае радасці пахапала ледзь не поўную торбу фабрычных пернікаў. Дала Міцьку, дала Ірцы, пачаставала Кутчышыных хлопцаў, потым сустрэла Вінцуся і яго пачаставала. Вінцусю не было куды браць гасцінцы, дык ён падставіў саламяны капялюш.

І вось цяпер, як піць, заманулася пасмачыцца Насціным дарункам. На жаль, пернік аказаўся сухім, цвёрдым, як костка, і яму адразу давялося вяртацца назад у цёмную кішэню. Трэба размачыць і тады з'есці. Вінцусь уздыхнуў, апусціў голаў.

Скрыпнулі лазовыя лапці, паўз адзінокую дзічку праплыў жоўты саламяны капялюш.

З краю поля, бліжэй да лесу, хадзіла чарада кароў. Статак пасвіў нехта з Кутчышыных хлопцаў — Ваня альбо Коля. Адзін быў у школе, а другі глядзеў статак. Пастушок, відаць, укалеў на сырым ветры і, нацягаўшы ламачча, распаліў на ўзлеску цяпельца. Мокрае хварасцінне гарэла слаба: касцёр куродыміў, белы дым слаўся па кустах і лагчынках. Блізка ад таго месца, дзе гарэў агонь, самапасам хадзіў спутаны Палазінец, і калі сюды даставала воблака дыму, сівы конь з галавой хаваўся ў ім. Воблака рассейвалася, і Палазінец падымаў голаў ад скупой пашы, стрыг вушамі і працяжна ржаў у асенні прастор. Палазінец шукаў вачыма свайго дружка — Барабанавага Гнядога, з якім прывык пасвіцца разам, але Гняды даўно не паказваўся на полі, і Палазінец сумаваў, маркоціўся па ім. Стары замуляны конь любіў свайго ўкормленага і дагледжанага дружка і, не могучы зразумець, куды ён падзеўся, чакаў Гнядога, клікаў яго да сябе тужлівым працяжным іржаннем.

— І-га-го! І-га-го! — час ад часу разносілася над апусцелым полем.

Палазінец пераставаў іржаць, але не нагінаўся над пашай — стаяў і глядзеў удалячынь, чуйна прыслухоўваючыся да навакольных гукаў. Сюды, на Кругляк, з-за пабурэлых Капцоў далятаў дзіўны, незнаёмы рокат, які то прыбліжаўся, то аддаляўся зноў. Дзіўны рокат палохаў старога каня. З таго боку пагорка, за Капцамі, працаваў трактар — падымаў зябліва, пераварочваў чорныя скібы раллі. Трактара пабойваўся не адзін толькі Палазінец. Патрывожаныя шумам, на дзічцы занепакоіліся груганы. Часам яны здымаліся з дрэва, кругамі хадзілі над полем і, не адчуўшы вялікай небяспекі, зноў садзіліся на старую дзічку.

Трактар лапатаў і лапатаў без канца, без перадышкі, і з кожным разам рокат яго чуўся ўсё бліжэй і бліжэй. Было відаць, што ён вельмі хутка ўправіцца з работай каля Сяла і пяройдзе на Кругляк, разарэ і тут быльнікавыя межы. Полю даўно было мулка і цесна ў гэтых межах, яно задыхалася на вузенькіх шнурках, саромелася сваёй

крыўдлівай церасналосіцы. Але поле не ўзрадуецца і не ўсцешыцца нечаканаму вызваленню, таму што трактар прыйдзе на Кругляк ужо тады, калі дзічка будзе стаяць пакалечаная і счарнелая, з перабітымі і апаленымі агнём галінкамі.

Уцалелыя груганы, з крыкам носячыся над пожняй, доўга не сядуць на дзічку, помнячы тое страшнае полымя, якое ў адзін момант параскідала іх па ўсім полі.

Незнаёмы трактарыст пастаіць каля ўчарнелай, скалечанай дзічкі, здыме шапку і, горбячы плечы, ціха пойдзе назад.

Поле журылася, пабракала трывогай і смуткам.

Поле прадчувала бяду.

Яно хацела зберагчы, уратаваць кірпатага свавольніка і неслуха Міцьку Дразда.

Апоўдні ён бег са школы. Размахваў палатнянай торбачкай, дзе ляжаў новенькі буквар, і кіраваўся проста сюды, пад дзічку, на якой сярод жоўтага лісця яшчэ зелянелі маленькія, як цацачныя, грушкі. Увосень дзікія грушкі трацяць горыч і даўкасць, імі можна наталіць голад, бо дахаты яшчэ бегчы і бегчы. Старая дзічка затрэслася ад жаху, убачыўшы, што палатняная торбачка матляецца над быльнікавай мяжой, і блізка ўжо, блізка куча камянёў, і блізка ўжо тая хвіліна, калі высока, з грукатам узаўецца страшнае полымя.

Дзічка, натапырыўшыся вострымі калючкамі, праклінала пустадомка, нелюдзя, ліхадзея, які ці згубіў, ці знарок закапаў каля крушні міну — круглае ржавае пудэлка смерці.

Дзічка праклінала вайну.

Ой, не бяжы, Міцька, пад старую дзічку!



# Кармакухня

Апоўдні завіхрыла, загуло; патрывожана, быццам восы, зазымкалі правады на слупах; за небагата часу скавала лужыны, што пасля нядаўняй адлігі скрозь чарнелі на выбоістай дарозе. Сухі ўзвей-вецер сярдзіта зрываў з шыферных дахаў цэлыя султаны снежнай пацярухі, засыпаў вочы, пранізваў, здавалася, наскрозь: адно і ратунку што стары кажушок, пададзеты пад лёгкую ватоўку. Ранкам, збіраючыся на ферму, Сямён Гайцюкевіч трохі цяплей апрануўся — як быццам нешта і ведаў пра завіруху. Але ўсё роўна рукі на холадзе пакрэплі нават і ў суконных рукавіцах, а пра ногі і казаць няма чаго — не грэюць кірзавыя боты.

За сцяной канюшні, дзе было трошкі зацішней, хлопец запрагаў у цяжкія — кутыя жалезам — сані наравістага, сівога як лунь Палазінца, намучыўся, змардаваўся, пакуль адзервянелымі пальцамі сцягнуў супонь хамута. Нарэшце можна было ехаць, і, кінуўшы на сані сахор, ён ужо нават узяў у рукі вераўчаныя, на вузлах, лейцы, як тут убачыў, што цераз сумёты праступе брыгадзір Алесь Жывуцкі — мужчына каржакаваты, рухавы, з сіне-чырвоным, акурат па сезону, носам. Выбегшы са снежнай каламуці ў зацішак, ён заклапочана азірнуўся па баках, паглядзеў на нізкае шэрае неба.

— Ліха ведае што тут робіцца! Свету божага не відаць. Сёння падвезці хвураж і то пакута. А што заўтра будзе? За ноч усё гурбамі заваліць — ні да стагоў, ні да капцоў не падступішся.

— Да вечара яшчэ не блізка. Можна і сена, і бульбы ў запас прывезці,— сказаў, падумаўшы, Сямён.— Каб заўтра не турбавацца. А там, глядзіш, і буран утаймуецца.

— Канечне ж, у запас! Канечне ж, утаймуецца! — зарадаваўся Алесь Жывуцкі, з ног да галавы абсыпаны снегам.— Дык ты пастарайся ўжо. Разумею, няўпраўка аднаму, але ж дзе другога падвозчыка ўзяць? — Брыгадзір цяжка ўздыхнуў.— Пераваліся ў Малым Сяле здараўцы мужчыны. Адны мухаморы-пенсіянеры засталіся. Чакай, а што,

калі стоража Яўхіма Шастуна папрасіць? Няхай падсобіць чым-кольвечы.

Сямён Гайцюкевіч, нацягваючы рукавіцы, адразу запярэчыў:

— Не трэба і прасіць завалу гэтага. Сам упраўлюся. Яўхім толькі і знае, што грэцца на кармакухні.

— Твая праўда. Якая помач з абібока? Не варта і прасіць,— нечакана перамяніў думку Алесь Жывуцкі і, накіроўваючыся за рог канюшні, наказаў: — Значыць, так. Сена на заўтра скінеш у катух, дзе раней племянны бык стаяў, а картоплю, дзве тачкі, як і заўсёды, прывязеш на кармакухню.

Стагі сена, высокія і доўгія, як аборы, сціրты саломы стаялі наводдаль ад фермы — на ўскрайку голага, без адзінага кусціка, выгану. Дарогу сюды, як ні дзіўна, яшчэ не перамяло снегам, затое вецер, вырваўшыся з-за густа пастаўленых будынін, ажно шалеў і свістаў у белым прасторы. Не зляжалае, не збітае ў пласты сена бралася кепска, наравісты вецер зрываў з сахара цэлыя ахапкі, і Сямён добра-такі ўвапрэў, расчырванеўся, пакуль, цераз сілу змагаючыся з бураном, накідаў пад рубель адны сані, а потым і другія.

Радуючыся, што прывёз каровам сена ў запас і заўтра ў такую кудасу зранку не трэба будзе рупіцца аб ім, хлопец выехаў з кароўніка і тут жа, каля варотаў, зацягнуў на сані цяжкую тачку. Хітраваты Палазінец, убачыўшы знаёмую тачку, сам паслухмяна скіраваў да свінарніка — не трэба і падганяць. Стары мудры конь, ходячы то ў возе, то ў санях, даўно ўжо вывучыў гэты, бадай, адзіны свой маршрут на фермаўскім пляцы і амаль усляпую, нізка апусціўшы галаву ад ветру, браўся праз глыбокія сумёты.

— Гэй, мой конік, гэй, мой сівы! Не бядуй, не журыся,— падбадзёрыў Палазінца Сямён.— Пастаіш каля сцяны ў зацішку, пахрупаеш сянцом, пакуль бабы збяруцца.

У белым сейве завірухі свінарнік, пабудаваны яшчэ ў пяцідзесятыя гады па нейкім знакамітым на той час праекце, здалёк чамусьці нагадваў велізарную гантэлю, якую невядомы велікан-асілак апусціў паміж прадаўгаватых, прыземістых кароўнікаў і цялятнікаў. Два зусім круглыя будынкі са спаховымі стрэшкамі злучаліся пасярэдзіне нешырокім пераходам, дзе месцілася кармакухня, і па гэтай прычыне свінарнік быў падобны на гантэлю. Сямён Гайцюкевіч прыткнуў Палазінца ў зацішку каля сцяны, кінуў яму ахапак зеляпцовага ядкога сена і асцярожна, каб не

пакаўзнуцца на гузаватым лёдзе, адчыніў дзверы ў кармакухню. Калі яшчэ не прыйшлі свінаркі, то каля напаленых катлоў можна будзе пагрэць адубянелыя рукі, перакінуцца слоўцам-другім з качагарам дзедам Агейкам.

У кармакухні было наўздзіў цёпла, ціха і, нягледзячы на даўно не беленыя сцены і брудную падлогу, нават утульна — як быццам зусім не ў свінарніку. Качагар, стоячы на драўлянай лаўцы, падслепаватымі вачыма пільна ўзіраўся ў дрыготкую стрэлку манометра, адначасова круціў медны вентыль на высокім, да самай столі, катле. Побач, амаль каля яго ног, на перакуленай, зарэпанай скрыні, у якой свінаркі звычайна таўкуць параную бульбу, прымасціўся дзённы сторож Яўхім Шастун. Увесь яго шчаслівы і супакоены выгляд сведчыў, што чалавек надзвычай рады і сваёй малатурботнай пасадзе, і гэтай дзіравай скрыні каля гарачых катлоў — што яму вецер, няўзнак яму кудаса.

Стары Агейка чуў, як ляснулі ўваходныя дзверы, павярнуў на шум галаў, але павітаўся з Сямёнам толькі тады, калі падкруціў тугі вентыль і, здаволена крэкнуўшы, спусціўся на падлогу з раскірачанай драўлянай лаўкі.

— Праходзь, праходзь, хоць пагрэешся,— запрасіў ён і, кіўнуўшы на кормазапарнік, з гонарам зазначыў: — А я тут з катламі маракую. Што ні кажы, тэж цехніка!

— Я і праўда замёрз як цюцька,— прызнаўся Сямён.— Мяце, круціць — свету белага не відаць.

— Замёрз, бо сам дурыла, размазня,— збянтэжыў хлопца сваёй бесцырымоннасцю Яўхім Шастун.— От каб жыў у горадзе, то ніякі буран не быў бы страшны.

Яму Сямён Гайцюкевіч нічога не адказаў, прысеў на бярозавым цурбаку перад кормазапарнікам, качаргою разварушыў жар у топцы, з асалодай працягнуў рукі да агню, адстаўляючы ўбок галаву ад нясцерпнага жару. Увосень фермаўскі слесар Пецька Заяц абодва катлы, і той, у якім запарваюць бульбу, і той, дзе грэецца вада, перавёў на апал саляркай, але цяпер, у вялікія маразы, паліва загусла, не паступае ў фарсункі, і качагару зноў давялося пілаваць, калоць, насіць у кармакухню сырыя дровы. Натупаўшыся за дзень, Агейка нішкам прымасціўся на пераверпутым вядры і маўчыць.

Маўчыць качагар, маўчыць Сямён, прыкусіў доўгі язык Яўхім Шастун. Калісьці ў яго, вясковага пасмешніка і балабона, на правай руцэ было шэсць пальцаў: замест вялікага чамусьці вырас спарыш — два тоненькія растапыраныя пасынкі. Яўхіму яшчэ ў маленстве прыляпілі заслу-

жаную мянушку — Шастун. Цяпер жа, пад старасць, мянушка гучала, прынамсі, несправядліва і абразліва, таму што для яе ўжо даўнавата не было абсалютна ніякіх падстаў.

Аднойчы, вяртаючыся з вяселля, Яўхім Шастун у вялікі мароз паспаў пад плотам — укарчанеў нашчэнт, ледзь не выпруціўся. Яго выпадкова знайшлі, адхаялі, адцерлі снегам, але чатыры пальцы, у тым ліку і знакаміты спарыш, не ўдалося выратаваць — адрэзалі дактары. Кукса, як ні дзіўна, падабалася яе ўладальніку. На палявыя цяжкія работы ён не хадзіў, сена не касіў, не гроб — прыстроіўся на ферме сторажам і, праседжваючы цэлымі днямі ў цёплай кармакухні, зарабляў сваю законную сотню рублёў. Змалку ведаючы гэтую славутую гісторыю з шасцю пальцамі, а можа, з-за нейкай другой прычыны, Сямён Гайцюкевіч чамусьці недалюбліваў Яўхіма, нават і тут, каля гарачых катлоў, ні разу не зірнуў у яго бок.

Сагрэўшыся каля агню, хлопец маўчаў, у сваім кутку, схіліўшы галаву на калені, здаецца, задрамаў стары Агейка, а Яўхім Шастун падумаў, што гэтае зацяжное маўчанне ніяк не ўжываецца з яго зласлівым характарам, і, гледзячы на Сямёна, зноў забухаў, як у бочку:

— Гэта ж такі паглядны хлопец! Рослы, плячысты, ды грамацей не абы-які. Школу кончыў, галава ў спраўнасці. А ён, гіцаль, на што яе спатрэбіў. На ферме, у гразі калупаецца. Ды табе, браце ты мой, у тым Пінску ці Баранавічах любая дзеўка сама на шыю павесілася б.

— Не павесілася б. Там стае і лепшых за мяне,— сказаў Сямён і, каб адчапіцца ад надакучлівых папрокаў, дадаў: — А, зрэшты, чаго вы прысталі да мяне? Каму якое дзела, што раблю, куды іду.

— Таму і прыстаў, што не разумею цябе. Твае ж гадкі, лічы, усе раз'ехаліся. І Коля Лойкаў, і Сашка Макаедаў. Адзін ты невядома чаго за конскі хвост ушчаперыўся. Эх, губашлёп! Мне б тваю маладасць, ці нудзіўся б я каля гэтых смярдзючых катлоў?

— І куды б вы скіравалі свае ступакі?

— А куды і ўсе! Хоць у Сібір, хоць на акіян-мора.

На закарэлым вядры раптам заварушыўся дзед Агейка, падняў галаву, дапытліва паглядзеў на хлопца, потым перавёў вочы на шчуплага Яўхіма Шастуна. Стары, дрэмлючы перад расчыненай топкай катла, відаць, чуў усю іхнюю гаворку, таму што, скінуўшы рэшткі сну, адразу заступіўся за Сямёна Гайцюкевіча:

— І чаго ты чэпішся да чалавека. От сядзеў бы сабе, як сядзіш. А то збэсціў ні за што ні пра што. На-маёму, маладыя самі павінны рашаць, што і як, дзе рабіць, куды ехаць. Іш ты, моладасці яму захацелася!

— Ды я гэта так, к слову прыйшлося,— на нейкі момант збянтэжыўся Яўхім Шастун.— І пра Сібір, і пра акіян-мора. Куды мне, сапраўды? Ды ўсё ж не разумею я некаторых. Глянь адно: хлопец, як Дунай, а прыпірышча дзе знайшоў — на ферме, у гразі, у брудзе.

— Ты б на сваіх дзяцей глядзеў, што табе — чужыя? — падымаючыся з вядра, усміхнуўся стары Агейка.— Здаецца ж, у цябе іх поўная печ была.

— Была, была! А цяпер пуста, гола ў хаце,— зазлаваў раптам Яўхім Шастун.— Але я не бядую, не скрабуць кошкі ў грудзях. Раз'ехаліся дзеці. Ваня на заводзе ў Брэсце, Нінка на фабрыцы трыкатажнай у Баранавічах, Алёшка рыбу на акіян-моры ловіць. І я спакойны за сваіх дзяцей. Хай ужо мы, старыя, за пусты працадзень спіну гнулі.

— Хто б сказаў, ды не ты. Здаецца, ні разу цябе не бачылі з касою ці граблямі.

— Уважыў бы, чалавеча, маё калецтва, а то я і пакрыўдзіцца магу.

Стары Агейка зноў стаяў на драўлянай лаўцы, зноў, правяраючы стрэлку, цупаў ногцем па запацелым шкле манометра, круціў непадатлівы вентыль. Дзіўны быў гэты нядошлы, самавіты, спаважлівы дзядок. Сямён Гайцюкевіч, мабыць, яшчэ і не нарадзіўся, а ён ужо тупаў на кармакухні — з дня ў дзень, з году ў год, у старых залапленых бурках, у зашмальцаванай да бляску ватоўцы. Рана падымаўся, позна вяртаўся дахаты і, мусіць, з тае прычыны, што сну не хапала, злаўчыўся спаць на хаду. Ад яго хаты да фермы цераз поплаў бяжыць роўненькая, як пад шнур, дарожка, якую ён вытаптаў, так што, ідучы, можна было спакойна і падрамаць. Недзе ў пачатку шасцідзесятых гадоў, калі ў Малое Сяло праводзілі электрычнасць, акурат на гэтай самай Агейкавай дарожцы паставілі слуп. Стары качагар, з раніцы шчыруючы на ферме, пра гэта, канечне, нічога не ведаў і, вяртаючыся прыцемкам дахаты, наткнуўся на слуп, сказаў яму «добры вечар» і зноў спакойненька патупаў далей з заплюшчанымі вачыма. Нейкі зламыснік, нейкі жартаўнік ці то і праўда бачыў, ці то проста выдумаў, як дзед Агейка спрасонку вітаўся з электрычным слупам, і з беднага старога ў Малым Сяле доўга строілі ке-

пікі, а такія людзі, як Яўхім Шастун, той выпадак заўсёды мелі пры сабе для злой насмешкі.

— От што, мурзач фермаўскі, ты ў маё жыццё не лезь,— зласліва і цяпер сказаў ён, пагладжваючы на жываце цёплы кажух.— Са мною размаўляць — гэта табе не са слупом вітацца. Дарэчы, не паваліўся яшчэ твой стары знаёмы?

— Не паваліўся, стаіць на дарожцы,— злазячы з лаўкі, без крыўды адказаў дзед Агейка.— Але ты, Яўхім, зубы мне не загаворвай. Усё адно карысці з цябе калгас меў як з казла малака.

— Дзед Агейка намнога старэйшы за вас. Дык навошта збыткаваць з чалавека? — заступіўся за качагара Сямён Гайцюкевіч.— Правільна дзед кажа. Вы і дзяцей сваіх на лёгкі хлеб сілком выпхнулі з хаты. Добра ж я помню, як ваша Нінка ішла на аўтобус і плакала на ўсю вуліцу — так, беднай, не хацелася ехаць з роднай вёскі.

— Блазнюк! Смаркач! І ён яшчэ мяне вучыць...

Яўхім Шастун не паспеў дагаварыць, таму што акурат у гэты час шырока расхлябесціліся дзверы і ў кармакухню, ахутаны воблакам пары, уваліўся белы ад снегу брыгадзір Алесь Жывуцкі — заглянуў на цяпло, таму што, відаць, добра ўкарчапеў, аглядаючы брыгадную гаспадарку. Не адыходзячыся ад дзвярэй, брыгадзір атрапаў снег з кажуха, абмёў валёнкі старым дзеркачом, што стаяў у парозе, і толькі тады ўбачыў людзей каля гарачых катлоў.

— Ну і пагодка — кадук бы на яе! — быццам нейкую навіну, паведаміў ён.— Нанач, мусіць, яшчэ болей закруціць.— Алесь Жывуцкі крыху асвойтаўся ў цемнаватым памяшканні, пазнаў на скрыні Яўхіма Шастуна і сказаў гнеўна: — А ты чаго тут штаны праціраеш? У кароўніку, у цялятніку табе трэба быць. Там, можа, якая кароўка целіцца, можа, цяля нагу зламала. Сторож, называецца!

— Дык я ж толькі забег сюды,— бессаромна пачаў апраўдвацца Шастун.— Вунь яшчэ і снег на шапцы не растаў.— Ён падхіхікнуў, паказаў пальцам на дзеда Агейку і Сямёна: — Няхай от яны пацвердзяць — нядаўна я на кармакухні.

— Ведаю тваё «нядаўна». Мабыць, ад самай раніцы грэеш чэрава каля катлоў.

Алесь Жывуцкі, злуючыся, нервова выцягнуў з кішэні махрысты зашмальцаваны капшук, адарваў шматок газеты і, наслініўшы паперку, пачаў рабіць самакрутку. Тытунь у брыгадзіра, як ён кажа сам, фірменны, у нейкай ступені нават замежны. Яшчэ зусім маладым хлопцам, вяртаючыся

з фронту, Жывуцкі прывёз у партабаку жменьку тытунё-вага насення дужа знакамітага гатунку — бесарабу. За доўгія гады бесараб надзіва не вывеўся, не вырадзіўся ў яго гаспадарцы, не страціў свайго незвычайнага паху і водару. У Малым Сяле мужчыны даўно перайшлі на фабрычныя папяросы і цыгарэты, толькі, бадай, адзін брыгадзір не мог адвыкнуць ад самасаду. Дробненька крышыў бесараб, змешваў з карашкамі. Варта было паявіцца ў купе курцоў, як яго капшук ішоў па руках. І калі хто сама найбольш пасвіўся ў чужым капшуку, то гэта быў Яўхім Шастун — самы незаняты чалавек у Малым Сяле.

— Не гневайся, Авяр'янавіч. Хіба нельга пасядзець у цяпле з добрымі людзьмі? Я ж і каровак гляджу, і з цялятак вока не спускаю,— убачыўшы знаёмы капшук, ашчэрыўся сторож.— Лепей даў бы і мне на закрутку сваёй табакі. Як той казаў, пасядзім радком, абаўёмся дымком.

— На куры, а сядзець з табою часу няма,— Алесь Жывуцкі падаў Шастуну махрысты капшук, пачакаў, калі той выграбе добрую шчопцю бесарабу, і тады павярнуўся да Сямёна Гайцюкевіча: — Можа, і ты ў ахвотку пабалуешся?

— Дзякую, дзядзька Алесь. Я ж не куру.

— Ну і малайчына. Не прывыкай да гэтага зелля.

На сваёй драўлянай скрыні Яўхім Шастун круціў цыгарку, слініў паперку языком, мацаў у кішэні запалкі, скрыва пазіраючы на Сямёна, і калі цыгарка парэшце пыхнула блакітным дымком, ён зласліва захіхікаў:

— Праява, а не хлопец! Мала што ў горад не паехаў, дык не п'е, не курыць. Мусіць, і да дзяўчат — волік. Прывядзі напач каторую, дык уцячэ, дальбог, уцячэ.

— Між іншым я вашу Нінку люблю,— блазнуючы, сказаў Сямён Гайцюкевіч і здзекліва паглядзеў на свайго крыўдзіцеля.— Даўно, яшчэ ў шостым класе, яна мне спадабалася.

Яўхім Шастун як сядзеў на скрыні, так ледзь і не зваліўся з яе ад нечаканасці. На момант ён знямеў, выпусціў цыгарку з рук, і яна, упаўшы на падлогу, рассыпалася ў паўзмроку цэлым сейвам чырвоных іскраў. Сторож ад злосці растаптаў цыгарку нагою і спадылба ўперыў сярдзітыя вочы ў хлопца, які, душачыся смехам, стаяў наводдаль.

— Табе! Мая Нінка! Іш, чаго захацеў! Ты маю Нінку не чапай! Не табе раўня, як той казаў, не па Сёмцы шапка. Маёй жа Нінцы і хвутра заморская патрэбна, і боцікі цёплыя з высокім абцасам. А што ў цябе? Вунь пуга ў руцэ ды Палазінец аблезлы.

— Затое ў цесця панчоха, мабыць, біткам набіта,— зразумеўшы Сямёнаў жарт, умяшаўся ў размову стары Агейка, які да гэтага часу моўчкі сядзеў каля катла і засяроджана глядзеў на агонь.— Сам жа нічога не з'ясі. Ці садавіна якая, ці скварчына — усё на базар валачэш.

— Ты мне ў зубы не глядзі — я ж не конь! — запырскаўся слінаю Яўхім Шастун, імгненна павярнуўшыся на голас.— Гэта ў цябе, мурзатага, у хляве пуста. А ў мяне, дзякуй богу, дзве дойныя кароўкі ды пяць парсюкоў з мацёрай. На лета ж я, відаць, і сваю цяпліцу змудрую. Чытаў у газеце? Нам, савецкім прадпрымацелям, на гэты конт палёгка выйшла, поўная воля дадзена.

— Тым болей, не шкадуй для зяця панчоху развязаць,— падміргнуўшы Сямёну, сказаў Алесь Жывуцкі.— Я і не думаў, што ты такі багацей. Бачыш, прадпрымацель знайшоўся! Як сена касіць, то рука баліць, як цяпліцу мудраваць, то і памачы не просіш.

— І ты, Авяр'янавіч, на мяне! Дык ведай: сваёй Ніпцы я знайду лепшага чалавека. І будзе жыць прыпяваючы. Не тое што за гэным смаркатым інжынерам па конскіх хвастах.

На свеце, відаць, мала такіх цярплівых людзей, як Сямён Гайцюкевіч: ён не кінуўся да Яўхіма Шастуна, не хапіў загрудкі, хоць зрабіць гэта варта было б за яго абразлівыя, крыўдлівыя словы — Сямён адно скрыва глянуў на свайго крыўдзіцеля, моўчкі сплюнуў сабе пад ногі і адышоўся ўбок. Толькі цяпер, калі ў прасторнай кармакухні на момант стала ціха, у самым цёмным кутку, куды не даставала святло ад цьмянай лямпачкі, усе пачулі звон вядра і, павярнуўшыся на той звон, убачылі каля скрыні з тоўчанай бульбай Стасю Павяльчук, свінарку, старую дзеўкувекавуху. Яна, мусіць, нядаўна зайшла ў кармакухню, таму што ля столі яшчэ вілося воблака марознай пары, і ўсё ж Стася, напэўна, чула мужчынскую спрэчку каля чорных катлоў — як быццам са шкадобай паглядзела на Сямёна Гайцюкевіча і, узяўшы вёдры, сказала:

— Паехалі па картоплю. Час не ранні — ужо шарэе.

— Як жа ехаць, калі свінаркі не сабраліся?

— Астатнія там, каля буртоў. Мяне паслалі, каб вёдры ўзяла.

Пасля цёплай кармакухні па двары было стыла і холадна. Завея не аціхла, наадварот, падвячоркам усхадзілася з яшчэ большай сілай: вецер не дае дыхнуць, засыпае вочы калючай жарствою. Палазінец увесь белы ад снегу, каля

сапей намяло гурбу. Пакуль Сямён Гайцюкевіч адвязваў лейцы, маўкліпая Стася Павяльчук стаяла збоку. Потым, калі конь скрануў сані з месца, яна спагадліва спытала:

— Скажы, і чаго гэты куксаты чэпіцца да цябе?

— Хто яго ведае? — няўцямна пацепнуў плячом Сямён.— Усё з вёскі ў горад праганяе.

— Дык ты і едзь. Не век жа інжынерам па дастаўцы хвуражу быць.

— Буду бачыць. Мо на тое лета паступлю вучыцца.

У голасе Стасі Павяльчук чуліся цёплыя, спагадлівыя ноткі, і за гэтага «іжынера» Сямён Гайцюкевіч не пакрыўдзіўся на яе. Вінавата ж тут не Стася, а фермаўскі слесар Пецька Заяц. Пасля вучылішча ён нейкі час, год ці два, смыкаўся ў раённай «Сельгастэхніцы» і бачыў там, як сам расказваў, цэлую плойму розных інжынераў: па ўгнаеннях, па запчастках, па тэхніцы бяспекі і яшчэ процьму іншых. Вярнуўшыся ў Малое Сяло, Пецька і занёс сюды незвычайны навукова-тэхнічны прагрэс: сябе пачаў называць інжынерам па рамонту абсталявання, брыгадны пастух Мікалай Ціхан стаў інжынерам па выгану статка на пашу, а Сямён Гайцюкевіч з лёгкай Пецькавай рукі «перакваліфікаваўся» ў інжынера па дастаўцы фуражу на ферму.

— Правільна зробіш. Вучыся, калі галава ёсцека,— трохі па часе азвалася Стася Павяльчук.— Вучыся, а то такія, як Шастун, усё жыццё будуць у вочы пароць.

Сямёну ўсё ж балела, яму пякло за тыя незаслужаныя абразлівыя словы, але ён стараўся не выдаць свайго хвалявання і таму, тоячы крыўду, адказваў бадзёра:

— Што мне насмешкі старога балбатуна! Глупства адно. Шастун жа не толькі на мяне — на ўвесь свет злы, як сабака.

— Ты б, Сямён, і праўда дзе-небудзь за вуглом прыціснуў яго Нінку. Увосень бачыла, як яна прыязджала з горада. Спраўная, скажу, дзеўка вырасла. Высокая, з цябе, грудастая, і з твару як быццам нічога.

— Рана яшчэ мне жаніцца,— засаромеўся Сямён і, мяняючы гаворку, весела запрасіў Стасю: — Лезь у тачку — як бачыш заімчу на буртавое поле. І вёдры сюды ж кідай.

Палазінец, застаяўшыся на холадзе, лёгка цягнуў груваськія сані праз сыпкія сумёты, а за свінарнікам, на чыстай дарозе, адразу пусціўся трушком — не трэба і пугай махаць. Буртавое поле на ўскрайку фермы, побач з шэрымі стагамі сена і сціртамі саломы. У зацішку каля апошняга

стога курчыліся на холадзе свінаркі. Убачыўшы фурманку, Манька Лявонава і старая Струкачыха выйшлі са сваёй схованкі, пабралі вёдры і моўчкі пачалі чакаць, калі Сямён Гайцюкевіч адкрые бурт з бульбай.

— Хутчэй ты, а то баб памарозіш,— папрасіла Стася Павяльчук.— Бачыш, пасінелі, як курыцы.

— Нічога, яшчэ ўвапрэюць ад работы.

Стары бурт, як наліха, скончыўся — давялося адкрываць новы, нечапаны. Вархні слой зямлі ўмёрзся, стаў быццам камень — не ўбіць, не ўцяць тонкім ломікам. На такі выпадак Сямён Гайцюкевіч хаваў каля стога цяжкую жалезную вось ад перадка. Але і пудовай воссю, завостранай у кузні, давялося добра памахаць, сколваючы зляжалыя, нібы прасаваныя, земляныя пліты. Нарэшце паказалася салома, у бурце зазеўрала вялікая дзірка. Падбеглі жанкі, разгрэблі салому, расшырылі жарало і дружна, здаецца, у адзін момант насыпалі тачку ўкоптур. Завезлі на ферму, высыпалі ў катлы і прыехалі па другую. Ціснуў мароз, гула і выла завіруха, было дужа холадна, і, каб сагрэцца, свінаркі без лішніх размоў і абгавораў хапалі вёдры, награбалі бульбу і хуценька высыпалі ў тачку.

Яны ўжо ўправіліся з работай, Сямён Гайцюкевіч ужо засыпаў мёрзлай зямлёю дзірку ў бурце, калі паблізу, на коўзкай дарозе, нечакана, увагнуўшы голаў у каўнер, прабегла белая Снягурка. З невялікай сумачкай у руцэ, з ног да галавы захляпаная снегам, яна нават не зірнула на людзей, быццам не заўважыла іх, і гэтак жа імкліва, як і з'явілася, схавалася ў снежнай каламуці. Бралася на вечар, усё вакол пашарэла, і цяжка было разгледзець, што за дзіўная Снягурка прабегла паўз буртавое поле, але Стася Павяльчук, цікаўная і вострая на вочы, усё ж пазнала яе.

— Авой, бабы! — усклікнула Стася.— Дык гэта ж Шастунова Нінка!

— І мне падалося, што Нінка,— сказала Манька Лявонава.— Дальбог, яна.

— Мусіць, з Кукова, з аўтобуса, ідзе,— разважліва дадала Струкачыха.— Шкада нават: чаго ў такую кудасу перціся?

— Прыспічыла, мабыць,— Стася Павяльчук хацела яшчэ нешта сказаць, але зірнула на Сямёна і тут жа спахапілася, потым па чарзе штосьці шапнула сяброўкам, і тыя асуджальна завойкалі, захіталі галовамі, пільна ўзіраючыся ў сіні прысмерк, у якім схавалася Нінка.

— Ну што там у вас? Чаго адразу змоўклі? — пацікі-

віўся Сямён Гайцюкевіч і таргануў лейцы.— Чым вас так Нінка здзівіла?

— Ды нічога такога,— збянтэжылася Стася.— Проста паліто ў Нінкі нейкае як быццам заморскае. Вось мы і прыглядаемся.

Кабеты яшчэ ўсё ўтаропленa ўзіраліся ў снежную каламуць, у іх вачах свяцілася незвычайная дапытлівасць і цікаўнасць, але Сямёна ўжо непакоіў іншы клопат. Як толькі хлопец таргануў ляйчыну, дужы Палазінец лёгка, быццам нейкую цацку, папёр цяжкія сані цераз буртавое поле, з узвалка на ўзвалак, праз мёрзлыя клыгі зямлі, паўз кучы саломы каля старых, растрыбушаных даўно капцоў, і трэба было сачыць, каб тачка не перакулілася, каб не рассыпалася бульба. Свінаркі ішлі цугам за санямі, утульваючы галовы ад ветру, а сляды, дзе толькі што прабегла Шастунова Нінка, адразу ж засыпала снегам. Пакуль валаводзіліся з бульбай, Сямён Гайцюкевіч ужо забыў крыўду, забыў пустую балбатню Яўхіма Шастуна, і, гледзячы на перамеценую дарогу, ён чамусьці пашкадаваў Нінку: ці варта было ёй выбірацца дамоў у такую халепу? Ад Кукова да Малога Сяла вёрст пяць, калі не болей, і Нінка, напэўна ж, удубянела ўся, пакуль праз глыбокія сумёты выбілася на вясковую, зацішную вуліцу.

— Не марудзьце, кабеткі! — выкіроўваючы Палазінца да дзвярэй кармакухні, цераз плячо гукнуў Сямён.— Цямнець пачынае.

— Мінут колькі пастаіш каля катлоў, дык і тачка будзе пустая,— супакоіла вазака Стася Павяльчук і пажартавала: — Ці не да Нінкі спяшаешся? Ну-ну! Цяпер ужо можна.

Сямён Гайцюкевіч не зразумеў гэтага яе намёку, нічога не дапетрыў у яе жартоўным голасе і, прывязаўшы лейцы да дзвярэй, разам з марозным воблакам уваліўся ў цёмную кармакухню. Тут усё было гэтак жа, як гадзіну назад. Высока пад столлю цьмяна блішчэла электрычная лямпачка, булькалі, пускаючы густую пару, гарачыя катлы, і людзі былі тыя ж: стары Агейка стаяў на драўлянай лаўцы і правяраў манометры, потны і расчырванелы, у зашпіленым кажуху сядзеў Яўхім Шастун, крыху зводдаль ад яго патупваў брыгадзір Алесь Жывуцкі. Чацвёртым у кармакухні быў фермаўскі слесар Пецька Заяц, які завітаў сюды пасля таго, як Сямён паехаў па бульбу. Відаць па ўсім, тая спрэчка паміж мужчынамі, што пачалася яшчэ пры ім, і не спынялася. Гэта Сямён Гайцюкевіч зразумеў па тым, як

зыркаў спадылба Яўхім Шастун, як первова грыз недакурак Алесь Жывуцкі, а Пецька Заяц, мелькам зірнуўшы на Сямёна, працягваў перапыненую размову:

— І зусім не дзіўна, што з Малога Сяла ўцякаюць маладыя. Якая ім тут радасць? Клуба няма, кіно ў школе круцяць, аўтобус не ходзіць. А вазьміце нашу ферму. Гразь, плюхота. Ні людскіх будынкаў, ні механізацыі, ні добрых дарог. Вось і сёння вечарам трэба будзе забіраць малако. А ці праб'ецца сюды машына?

— Праб'ецца! Сяргей Яромчык — шафёр спрытны, вучаны,— расціраючы ботам недакурак на сырой бруднай падлозе, упэўнена сказаў Алесь Жывуцкі.— Праб'ецца! Помню, летась на балота ехалі, дык ніпачым яму ні гразь, ні калюгі. Вецер, а не шафёр!

— То гэта ж Сяргей! — запярэчыў Пецька Заяц.— А калі хто другі? Увапрэцца ў сумёт і будзе стаяць да раніцы.

— Факт, не забяруць сёння малако. Скісне ў цяпле. Ці адзін раз было такое? — зласліва азваўся са сваёй скрыні Яўхім Шастун.— Праўду Пеця кажа. Калі б хвайны клуб мелі, каб добрыя дарогі наладзілі, ды яшчэ каб заработак быў, наўрад ці пабегла б маладзёж з вёскі. А так што? — Стораж на момант запнуўся, убачыўшы за два крокі ад сябе Сямёна Гайцюкевіча, і зноў забубніў — глуха, прастуджана: — Во і ён, малады хлопец. Ну, пакуль што гібее на ферме разам з намі, старымі пнямі. А прыйдзе вясна, дык, думаеце, утрымаеш яго тут? Уцячэ! Хоць у Сібір, хоць на акіян-мора.

Праз адчыненыя дзверы, носячы бульбу, свінаркі напусцілі холаду, і, адчуўшы, што пад кажушок залазіць мароз, Сямён Гайцюкевіч сеў на бярозавым цурбаку перад гарачай топкай, з асалодай пачаў грэць пакрэплыя рукі. Бліжэй да агню падступіўся Алесь Жывуцкі, зашпіліў на гузікі расхрыстаную грудзіну Пецька Заяц. Развязваючы махрысты капшук, брыгадзір сярдзіта сказаў:

— Заладзіў, як попка. Акіян-мора! Акіян-мора! Ведай жа, Яўхім: усе, хто паехаў, неўзабаве вернуцца назад. Будуць у Малым Сяле і гожыя дарогі, і прыстойны клуб, і новая ферма.

— Чакай Пятра — сыру з'ясі. Усе ўцякуць. І твой Сяргей Яромчык уцячэ, і вось ён, Заяц, назад у «Сельгастэхніку» папрэцца, і вось гэты конскі інжынер драпака дасць.

— Не дам! Застануся тут, на сваім котлішчы,— адчуваючы, як гнеў зноў завалодвае ім, пацвяліўся з Шасту-

ном Сямён Гайцюкевіч.— Вазьму вашу Нінку замуж, зрублю новую хату і буду жыць як караль!

— Ты маю Нінку не руш! — ледзь не ўзвіўся пад столь Яўхім.— Яна ж і паехала ў горад, таму што на яе стаць няма ў нас жаніхоў. Але, няма! Усе смаркатыя, нягеглыя. Думаеш, і Стася Павяльчук не выйшла б замуж, каб знайшла ў гэтым балоце сабе раўню! Не знайшла. Так і мая Нінка. Не вернецца яна, не чакай, даўгалыгі.

У куце кармакухні, каля скрыні з бульбай, бразнула пустое вядро, зазвінела, пакаціўшыся па гузаватай падлозе, і праз момант потная, расчырванелая Стася Павяльчук стаяла насупроць Яўхіма Шастуна. Сямёну падалося, што дзеўка-векавуха вось-вось кінецца на стаража, учэпіцца ў валасы, але Стася надзіва спакойна сказала:

— Не хваліся, чалавек, сваёй Нінкай. Прыехала ўжо твая дачушка крэўная. Насыпалі картоплю з капцоў, дык бачылі: ледзь пацягнулася праз гурбы.

— Прыехала, то і добра. Пагасцюе дзень-два,— узрадаваўся Яўхім Шастун.— Заўтра акурат кормніка абвалю. Будзе што даць Нінцы ў сумку. Даўно ж я не бачыў яе — ад самай восені, лічы.

— Вельмі не радуйся. Не адна твая Нінка прыехала.

— А з кім жа? Напэўна, з кавалерам? Яна, мая Нінка, такая: каго хочаш аблапошыць. Дзеўка ж румяная, сакавітая. Пабягу, хоць пабачу зяцька дарагога.

— Бяжы, бяжы! Не з зяцьком, а з пузам твая Нінка прыехала.

— З якім пузам? — не зразумеў Яўхім Шастун і адразу ж зніякавеў, знерухомеў.

Стася Павяльчук, здзекуючыся з ашаломленага фермаўскага стаража, узялася ў бокі, выпучыла жывот, і ён пад лёгкай ватоўкай абазначыўся вялікім круглым гарбузом.

— Вось з такім. З пузам-гарбузам.

На момант Сямён Гайцюкевіч аж аслупянеў: дык вось, аказваецца, чаго перашэптваліся кабеты каля капцоў, убачыўшы на дарозе Нінку? Крактануў у кутку стары Агейка, спачувальна пераглянуліся Пецька Заяц і Алесь Жывуцкі, а Яўхім Шастун то бялеў, то чырванеў, яму не хапала дыхання, нязграбнымі пальцамі ён шкробся каля горла, спрабуючы расшпіліць кажух, і гузікі, вырваныя жывасілам, шумна пырснулі на падлогу. Расхрыстаны, збянтэжаны ўшчэнт, стораж воўкам кінуўся да дзвярэй, па дарозе траха не збіў з ног Струкачыху, на двары зача-

піўся за тачку, але астояўся і ў адно імгненне знік у шэрай каламуці.

— Ну як, будзеш хваліцца сваёй Нінкай? — засмяялася наўздагон Стася Павяльчук.— То-та ж, падсмалены корч.

— Не варта было так жорстка,— паспачуваў Яўхіму Алесь Жывуцкі.— Як тут не глядзі, а бяда ў чалавека.

— Так яму і трэба,— рашуча, з непрыхаванай злосцю запярэчыў дзед Агейка.— Абрыдла слухаць: «Мая Нінка, мае дзеці!»

— Хай кусае цяперачы пальцы,— збіраючыся ісці, сказаў Пецька Заяц.— Што хацеў, тое і займеў.

Прамаўчаў, не азваўся, не абмовіўся нават слоўцам адзін Сямён Гайцюкевіч. Яму было прыкра, яму было непамысна, ён чамусьці саромеўся глядзець на людзей, і калі ад дзвярэй Струкачыха раптам гукнула, што тачка даўно апарожнена, вельмі зарадаваўся і — засмучаны, нязграбны, цыбаты — адразу ж выбег на двор. Ужо добра сцямнела, па-ранейшаму круціла завіруха, прыціскаў мароз, і толькі тут, каля саней, калі ўзяўся за ляйчыну, у яго грудзях варухнулася запозненае шкадаванне і да свайго зласлівага непрыяцеля Яўхіма Шастуна, і да яго гарадской шалапутнай Нінкі.



# Наводшыбе

Цераз поле, яшчэ не ўзаранае і не засеянае пасля жніва, марудна сунецца Жыбуртовічава хата — растрыбушаная, з выдзертымі вокнамі, без дзвярэй і без коміна. Над гонтавым дахам, збуцвелым і пабурэлым ад старасці, курыцца пыл, кружацца саломінкі, шматкі паперы. Дзень сыры, непагодлівы, і вецер, залятаючы ў пусты зруб, варушыць на гарышчы розны друз, выдзьмувае праз дзіркі, разносіць над шэрым полем.

Наваколле аж скаланаецца ад рокату магутнага трактара з шырокімі — ледзь не метровымі — гусеніцамі-балотаходамі. Збоку здаецца, што Жыбуртовічава хата не вы-

трымае гэтага шалёнага грукату — паваліцца, рассыплецца на плашчакі, вылужацца з гнёздаў кроквы, і дах пахіліцца, з'едзе на здратаваную каровамі пожню. Але хата, зрубленая калісьці з баравога стрыжняку, не рассыпаецца, стаіць чэпка на дубовых палазах-валакушах.

У лагчынах палазы глыбока ўразаюцца ў сырую зямлю, і тады трактар натужваецца з усіх сіл, захліпаецца матор, а трасы напінаюцца, як струны,— вось-вось пэнкнуць, парвуцца, што ніткі. Ад пастаяннага тузання вуглы хаты патрэскваюць, пагрозліва рыпяць кроквы.

— Гэй ты! Не рві, як стаеннік! — крычыць, бялеючы, Жыбуртовіч і махае кулаком трактарысту Юзіку Лойку, які праз задняе акенца раз-пораз выглядвае з кабіны.— Дом разбурыш, гіцаль етакі!

Жыбуртовіч, каржакаваты, ужо немаладых гадоў мужчына, спатыкаючыся ідзе побач з хатай, абурана хітае галавой. Мінаючы чарговую лагчыну, трактар тузаецца асабліва рэзка, зноў рыпяць і стогнуць кроквы, трашчаць сцены. Жыбуртовіч мітусліва хапаецца за рог хаты, як быццам і праўда можа нешта зрабіць, калі яна раптам пачне бурыцца. З-пад кусцістых, выцвілых брывоў выблісквае ваўкаваты позірк, ад страху абвісае ніжняя губа — сіняя, бы пераспелая сліва.

— Юз-зік, цішэй ты!

— Не чуе трактарыст, крычы, хоць лопні,— спаважна, як самому сабе, гаворыць Гаўрыла Трафімчык.— Дзіва, такі грукат. А ты, Мікалай, і не бядуй дужа. Не разваліцца твой палац.

— Уга, не бядуй! Страха ж ледзьве ліпіць.

Трафімчык, высокі і худы, як цыбук, ідзе крыху воддаль — слініць «прыміну», жмурыць хітраватыя вочы. Жыбуртовіч нервуецца, а Гаўрылу, мусіць, і клопату мала, што Юзік так неасцярожна гоніць трактар і што старая хата трашчыць, хістаецца на дубовых палазах. Увесь свой век Гаўрыла Трафімчык меў справу з сякерай, долатам, гэблем, і Жыбуртовіч, калі наважыўся перабірацца ў вёску, ведаў, каго ўзяць сабе ў помач.

— Дзела надумаў, братка,— хваліць Гаўрыла Жыбуртовіча.— Што ты бачыў на сваім хутары? Цемра, гразь. А тут, у сяле, зажывеш па-гарадскому. Усё ж у хаце: і радзіва, і кіно сваё.

— З торбай па свеце пайду з-за гэтых пярэбараў,— хмурыцца Жыбуртовіч.— Добра, хоць хату даўмеўся на валакушу паставіць. Усё менш выдатку.— Пачуўся горкі

ўздых.— Во і ён, Юзік шалапутны, сама меней дваццатку здзярэ за трактар.

— І дасі — дзе ж дзенешся? Грошай тых у цябе, мабыць, і куры не дзяўбуць.

— Якія грошы, якія куры? — прытворна жаліцца Жыбуртовіч.— Дачка, як замуж выходзіла, усе шклункі выцягнула. А яшчэ сыны, трасца іх матары...

— Не паверу, Мікалай. Ты ж на такой выгодзе жыў. Там табе і паша, і лясок. А якая картопля! А жыта! І ўсё — нялічанае.

— Думаеш, калі жыў на хутары, то і злодзеем быў?

— Я і не кажу, што ты злодзей,— хіхікнуў Гаўрыла.— Але ж нечым карміліся твае каровы і свінства.

— Скулле лопала, пакуль навыбіваю па кустах лішні абярэмак сена. Зноў жа, як толькі восень, дык з лесу не вылазіў — жалуды збіраў. Затое, праўда, галодным ніколі не сядзеў.

Над Жыбуртовічавай хатай пішчаць, ходзяць кругамі патрывожаныя вераб'і. Ад самага хутара яны гоняцца за трактарам, не баючыся шалёнага грукату, шмыгаюць у хату і з дзікім вэрхалам вылятаюць назад. На гарышчы, пад латай ці яшчэ ў якім закутку, мусіць, прыляпілася вераб'інае гняздо, у гняздзе маглі быць позні птушаняты, і таму вераб'і пішчаць, трывожацца, не адстаюць ад трактара. Яны не разумеюць, з якой яшчэ прычыны хата раптам зрушылася з месца і пасунулася немаведама ў якую далеч. Вераб'ям няўцям, куды і навошта іх утульнае і цёплае гняздо цягне гэтая жалезная пачвара, якая лапоча на ўсё поле і страляе, перхае горкім, смярдзючым дымам.

— Добрага гаспадара і вераб'і не пакідаюць. Ляцяць, як прывязаныя.

— Табе б усё кпіць, Гаўрыла.

Жыбуртовіч не ведае, чым яго ў наступны раз падколе языкаты Трафімчык, і тужліва азіраецца. Ззаду, цераз усё поле, цягнуцца глыбокія сляды ад дубовых палазоў. У лагчынах, дзе зямля сырая, сляды блішчаць, як зашклёныя. Хутара адсюль не відаць. Падгалле заслонена рудым алешнікам, шэрай смугой. На хутары засталася адна Мар'я. Цяпер яна корміць парсюкоў, робіць вобмешку бычку. Радуецца, нябось, старая выжла. То ж з дня ў дзень скрэндзіла, не давала праходу: сумна тут, на хутары, ад газоўкі вочы аслеплі, ад работы курч у рукі ўбіўся. Жыбуртовіч лічыў сябе спраўным гаспадаром, чалавекам,

якому бог не пашкадаваў розуму, але, гледзячы на штодзённыя згрызоты, усё ж не стрываў — рашыў перабірацца з хутара, бліжэй да людзей, бо, калі сказаць па шчырасці, яму і самому абрыдла жыць каля лесу, у прыкрай адзіноце.

— Ну во, галубіца, будзе табе і радзіва, і електрыка,— падумаў Жыбуртовіч пра сваю Мар'ю і не заўважыў, што сказаў гэта ўслых.

— Што, што? — наструніў вушы Гаўрыла.

— Ат, нічога.

— Бачыш, Мікалай, што нарабіў хутар,— пахітаў галавой Гаўрыла.— Сам з сабой пачаў гаварыць.

Над полем па-ранейшаму разлягаецца басавіты рокат матора, патыхае смуродным дымам. Трашчаць сцены, рыпяць кроквы. Старая хата паслухмяна, як цяля на вяровачцы, сунецца за трактарам, пакідаючы на пожні глыбокія разоры ад палазоў. Па-ранейшаму над дахам курыцца пыл, кружацца саломінкі, пішчаць, непакояцца патрывожаныя вераб'і.

Дзень сыры, ветраны.

Трактар на момант спыняецца, і з кабіны, ляснуўшы дзверцамі, высоўваецца Юзік Лойка.

— Дзядзька Мікалай, паказвай, дзе пляц?

— Бытта я не паказваў? Ля Сцёпкі Бондара стань. Вокнамі да вуліцы. Чуеш?

Новая вуліца, якая толькі пачала забудоўвацца, Жыбуртовічу падабалася мала. Пустая ж, голая копань: ні бычку папасвіцца, ні качцы ў вадзе паплюхацца. Жыбуртовіч круляваў тут і дзень, і два, дахаты вяртаўся пахмуры, прыгнечаны і нарэшце рашыў сяліцца насупраць Сцёпкі Бондара. Ля яго сядзібы хоць зямля ніштаватая: уродзяць і бульба, і гурок. Ды і сам Сцёпка чалавек памяркоўны, ціхі — будзе добрым суседам. Жыбуртовіч падновіць хату, перасыпле варыўню і хлявец, пасадзіць малады садок. Хоць на старасці зажыве як людзі.

— Лепей бы ты новы дом паставіў,— ні з таго ні з сяго параіў Гаўрыла.— Развязаў бы панчоху, га? Не будзе гэтая развалюха глядзецца ў сяле. Зрублена яшчэ па-даўнейшаму.

Уперадзе, за шэрым полем, пачынаецца вёска — вялікая, як зачапіцца воку, з новымі і старымі хатамі, з гонтавымі і шыфернымі дахамі, з зялёнымі яшчэ садамі і прысадамі. Наводшыбе, крыху зводдаль ад сяла, сіратліва туляцца тры сядзібы. Уласна кажучы, гэта і ёсць новая

вуліца. Яе забудоўваюць такія ж, як і ён, Жыбуртовіч, перасяленцы, былыя хутарчукі. Першым на копані атабарыўся Сцёпка Бондар: выштукаваў дом як ляльку, перавёз хлеў і варыўню, выкапаў калодзеж. У другім, таксама спраўным, дамку жыве Андрэй Макавец. Трэцяя хата, маленькая, з падслепаватымі вокнамі, наспех пацягнутая жоўтай охрай, належыць удаве Вольцы Ціхановіч. Уздоўж вуліцы, далёка ў поле, бягуць роўным строем чорныя электрычныя слупы. Правады дрыжаць ад ветру, звіняць і гудуць, як быццам хочуць папярэдзіць людзей: выходзьце хутчэй на двор, хлебам-соллю сустракайце свайго дарагога суседа.

— Ашалюю хату, паквэцаю хварбай — будзе яшчэ стаяць,— трохі памаўчаўшы, адказаў Жыбуртовіч.— Я ўжо і дошак на шалёўку прыстараўся.

— Ну, калі так, то будзе глядзецца.

— Хопіць з мяне і етава жытла.

Жыбуртовіч увачавідкі павесялеў, усміхнуўся сам сабе, вышэй падняў галаў. Хата ўдала перанесла падарожжа: ці не паўтары вярсты ехала цераз поле, але, на шчасце, не рассыпалася на плашчакі. Трактар, грабучы бліскучымі гусеніцамі зямлю, разварочваецца ўжо з другога боку новай вуліцы. Юзік Лойка, прымяркоўваючыся паставіць хату вокнамі акурат да вуліцы, робіць шырокі круг. Жыбуртовіч забег наперад трактара, нервуецца, махае рукамі — паказвае Юзіку, дзе яму спыніцца. Вераб'і спалохаліся крыку, шалёнага грукату і кудысьці зніклі.

Трактар нарэшце спыніўся. Юзік Лойка ляснуў дзверцамі і з гусеніцы саскочыў на зямлю.

— Буду адчапляцца. А ты, дзядзька, вымай кашалёк. Брыгадзір шкуру спусціць, калі ўведае пра калым.

— Хто ўведае — Алесь Крывулька? — перапытаў Жыбуртовіч, корпаючыся ў кішэні.— Не бойся ты яго. То ж і на тым тыдні Алесь у мяне дома быў.— Жыбуртовіч выняў пухнаты кашалёк і адразу нахмурыўся.— Колькі ж табе?

Але Юзік не паспеў адказаць. Гулка, як стрэл, ляснулі спружынай весніцы, і са свайго дварышча выйшаў Сцёпка Бондар. Трактарны гул, відаць, застаў яго за сталом, бо Сцёпка на хаду выцірае рукавом тлустыя губы. Жыбуртовіч адразу заўсміхаўся. Што ні кажы, а добрага суседа займеў. Бачыш, не даеў, лыжку кінуў, а выбег сустракаць яго, Жыбуртовіча. З такім суседам на якое свята і па чарцы не грэх будзе выпіць.

Сцёпка Бондар павітаўся з кожным за руку, потым, як бы саромеючыся, з-пад нізу зазірнуў у вочы Жыбуртовічу.

— І ты, Мікалай, перасяляешся? Даўно пара. А скажы, хто табе гэты пляц паказаў?

— Сам выбраў,— адказаў Жыбуртовіч.— Доўга хадзіў, прыглядаўся.

— Шкада, Мікалай, але ты не будзеш тут будавацца.

— Чаму гэта — не буду?

— Сын жа ў мяне жаніўся — мо чуў? Дык дзе яму гняздо віць, як не ля бацькі? Для сына я гэты пляц бярог.

Жыбуртовічу стала горача, дрыготкімі пальцамі ён расшпіліў гузікі пінжака, потым зноў зашпіліў.

— Мне сам старшыня сельсавецкі сказаў: дзе хочаш, Акімавіч, там і сяліся.

— Тады дзе майму Славіку скажаш будавацца? — зазлаваў ужо і Сцёпка Бондар.— Дзе па-твойму?

— Як дзе? — перапытаў Жыбуртовіч і павёў вокам вакол сябе рукою.— Вунь колькі поля гуляе.

— Дык сам і цягні сваю туды хату,— рашуча сказаў, як загадаў, Сцёпка.— А гэты пляц я не дам. Сын жа ў мяне, разумееш?

Спрэчка пакуль што не сварка, але і да сваркі ўжо недалёка. Трафімчык стаіць збоку, сусліць цыгарэту, прыслухоўваецца і, калі мужчыны пачынаюць пырскацца слінай, вырашае, што і яму пара ўмяшацца, падаць свой голас.

— Мікалай, паслухай мяне, старога і неразумнага,— разважліва гаворыць Трафімчык.— Нашто табе станавіцца Сцёпку ўпоперак дарогі? Гэта ж як добра, калі дзеці жывуць побач. Ці захварэе хто, ці што пазычыць, падсабіць — не бегчы ж за свет.

— І праўда, што мне каштуе перацягнуць хату вунь да таго слупа? — не стрымаўся і Юзік Лойка.

— Насупроціў Андрэя Макаўца пляц тэж добры,— радуецца такой нечаканай падтрымцы Сцёпка Бондар.— Далібог, я б і не пярэчыў, каб сын, Славік мой, не жаніўся. Ляснік ужо і лесу на хату адбіў.

Жыбуртовіч трохі паспакайнеў, пастаяў, падумаў і, нарэшце, крыўдліва, з прыкрасцю махнуў рукой.

— Так і быць, уступлю пляц. Каму другому — не, а табе, Сцёпка, уступлю. Разам жа на хронце былі.

Натужна гудзе трактар, дрыжыць зямля — Жыбуртовічава хата зноў сунецца ўздоўж вуліцы. Насупраць сваёй

сядзібы стаіць Андрэй Макавец з жонкай Анэляй. Яны зводдаль азіраюць Жыбуртовічаву хату, перамаўляюцца, а калі трактар спыняецца каля іх, адразу змаўкаюць.

— Здароў, сусед,— ступіла насустрач Жыбуртовічу Анэля.— Даўно тут стаім, чакаем.

— Мо помач якая трэба? — падае руку і Андрэй.

— Дзякуй, якая тут помач? — спрабуе ўсміхнуцца Жыбуртовіч, але ўсмешка выходзіць змушанай, вымучанай.— Я таго і гляджу — ці не сабраліся і вы мяне прагнаць, як Сцёпка Бондар?

— Ціпун табе на язык! — пляснула рукамі Анэля.— Мы так рады, так рады.— Яна павярнулася да Андрэя, шукаючы падтрымкі.— Праўда ж, Андрэй, мы так чакалі, так чакалі.

— Але, чакалі.

— Чалавек я памяркоўны,— пахваліўся сваёй дабратой Жыбуртовіч.— Уступіў плац Сцёпку Бондару. Але нашто яго Славіку хата? Сёння жаніўся — заўтра развядзецца. Маладзёж цяпер кручаная пайшла.

— Хто ведае, мо і будуць жыць,— паціснула плячыма Анэля.— Славік сваю Гэльку любіць бытта. То ж і ўчора, падвячоркам, цалаваліся каля хлява.

Жыбуртовіч убачыў, што да гэтага часу трымае пухнаты кашалёк, і хуценька апусціў руку ў кішэню.

— Значыць, суседзямі будзем.

— На ўлазіны прыйдзем,— усміхнуўся Андрэй Макавец.— Вядома, калі паклічаш.

— А хіба ж не! Добра пагуляем. Я і гарманіста сышчу.

Анэля паправіла на галаве хустку, агледзела поле і, сярдзіта зыркнуўшы на Андрэя, сказала як да сябе:

— Пляц бытта выгодны. Адна бяда, што зямля тут пустая, нішчымная.

— Адкуль табе ведаць, што пустая? — насцярожыўся Жыбуртовіч.

— Як жа, дарагі сусед, не ведаць? Летась во на гэтым грудку капусту пасадзіла. Усё лета рачкавала, а што вырасла? Шулячкі адны. Нават шаткаваць не было чаго.— Наском сандалета Анэля пакалупала зямлю.— Сам жа ткале глядзі — пясочак, мылец.

Жыбуртовіч маўчыць, разгублена талопіць вочы ўніз. Зямля з-пад Анэлінага сандалета выграблася сапраўды марная — жаўцяк, голы пясочак. Шкуру парвеш, а ці вырасце тая капусціна або агурок?

— Каля Волькі Ціхановіч зямля куды цікавейшая,—

як бы незнарок абмовіўся Андрэй Макавец.— Картопля ажно градусы распірае.

— Няўжо праўда? — дзівіцца Жыбуртовіч.— Што ж мне рабіць? Мо бліжэй да Волькі пасунуцца?

— Табе жыць, сам і выбірай, дзе сяліцца.

Жыбуртовіч не на жарт задумаўся. Сіняя губа-сліва зноў адвісла, пальцы на руках прыкметна падрыгваюць. Нарэшце ён рашаецца:

— Такі праўда — пасунуся да Волькі. Ты ўжо не гневайся, Анэля. І ты, Андрэй. Зямля ж, халера яе...

— Ой, што ты, Мікалай,— засмуцілася Анэля.— Мы так рады былі, так рады.

Жыбуртовіч павярнуўся, вачыма пашукаў Юзіка, папрасіў хораша:

— Тузані яшчэ хату. Акурат напроціў Вольчынага двара стань. Добра, га?

— Ніяк табе, дзядзька, не ўнаровіш.

— Дык я ж не за так прашу.— Жыбуртовіч выразна, каб бачыў Юзік, паляпаў па кішэні.— Не заесць цябе твой Крывулька. Скажаш, у мяне быў.

Юзік Лойка ўскочыў у кабіну, трактар стрэліў сінімі колцамі дыму, і Жыбуртовічава хата, пакалыхваючыся на дубовых палазах, слухмяна папаўзла цераз поле. Жыбуртовіч і Трафімчык прыпусцілі ўслед. Ніхто не бачыў, як хітра пераміргнуліся Анэля і Андрэй. Але выгляд у іх быў такі засмучаны, быццам толькі што яны страцілі самага дарагога чалавека.

Мусіць, ад сырасці лабавое шкло ў трактары запацела, кепска відаць. Юзік працёр шкло анучкай і зніякавеў, убачыўшы прама перад гусеніцамі Вольку Ціхановіч. Яна стаіць, абапёршыся на сухаваты кій,— мажная, высокая, у шэрым каптане і квяцістай хустцы. Гэтая таксама, мусіць, рада новаму суседу. Дзіўна толькі, што выйшла сустракаць Жыбуртовіча з сукаватым кіем. Трактар вось-вось наедзе на Вольку, але яна і не думае саступаць з дарогі.

— Уцякай, цётка, а то расплюшчу, як жабу! — крыкнуў Юзік у акенца і з усёй сілы націснуў на тормаз.

Волька, спатыкаючыся ў разорах, падбегла бліжэй, тузанула за дзверцы, парнула ў акенца кіем.

— Заварачвай аглоблі! — скамандавала Юзіку.— Каму кажу! Заварачвай. Каб і духу твайго тут не было.

Жыбуртовіч, яшчэ нічога не разумеючы, з трывогай паглядзеў на Трафімчыка.

— Што яна там размахалася?

— Падыдзем, пабачым.

Раз'ятраная Волька тым жа сукаватым кіем спаткала і Жыбуртовіча.

— Ідзі, ідзі! Даўно чакаю. Бач, што надумаў — каля мяне будавацца!

— Здурэла ты, ці што? — наблізіўшыся, зласліва сказаў Жыбуртовіч.— Блёкатам, відаць, аб'елася.

— Будзеш каціцца покатам, як я аб'елася блёкатам! — Волька расчырванелася, чорныя з сярэбранымі пасмачкамі валасы выбіліся з-пад хусткі.— Лепш пайду ўтаплюся, чым такога суседа мець. І не думай нават.

Жыбуртовіч, просячы падмогі, разгублена пазірае то на Трафімчыка, то на Юзіка, які ўжо вылез з кабіны і стаіць побач.

— І чаго етая кудла да мяне вяжацца?

Волька абаперлася на кій і не варухнецца — стаіць чырвоная, потная, злосная. Зараз яе, здаецца, і трактар не зрушыць з месца.

— Не дам, каб ля мяне сяліўся. Не дам і — усё тут.

— Ета чаму — не дасі? Па якому праву?

— Спрацівеў ты мне. Вочы б мае цябе не бачылі! — выгукнула Волька.— Хіба забыў, як я ў цябе наймічкай была. Дзве зімы тваіх дзяцей гадавала, хоць свае ў нішчымніцы сядзелі. А ты, ваўкалак, што мне даў? Паўмяшка жыта і — прагнаў з двара.

— Калі тое было,— паспрабаваў апраўдацца Жыбуртовіч.— Леташні снег успомніла.

Волька запхнула кій пад пахай, паправіла валасы, каб не лезлі ў вочы. З выклікам і нянавісцю зірнула ў твар Жыбуртовічу:

— Ды ў цябе ж зімой і снегу не выпрасіш. Помніш, аднойчы напрадвесні ў мяне сена ні каліўца не асталося. Прыйшла да цябе. І што? Ты ж, скупердзя, нават гаварыць не даўся. От як! — Волька па-мужчынску цыркнула слінай скрозь зубы.— А то ж буракі брыгадныя. Сам пакраў, а ўсю бяду на мяне зваліў. Добра, што ў праўленні разабраліся, хто злодзей, а хто — не.

Жыбуртовіч збялеў, памкнуўся да Волькі, злаўчыўшыся, хапіў за канец кія, але Волька спрытна вывернулася, кій балюча торкнуўся Жыбуртовічу ў пухлы жывот.

— Сыдзі з дарогі, а то абязвечу,— засыкаў ён, як гусак.— Іш, звадыяш!

— Чаго сліву адвесіў? Думаеш, баюся? — Волька пе-

рад самым носам Жыбуртовіча патрасла сваім грозным дрынам.— Як сперажу паўз плеч, то і духу не ўкажаш. Нават каўкнуць не паспееш.

Гаўрыла Трафімчык, не ўмешваючыся ў сварку, моўчкі стаіць побач. Юзік Лойка, прыкрываючы рот даланёй, захіхікаў.

— Што тут смешнае ўгледзеў? — крута павярнулася да яго Волька.— Ану марш у кабіну!

— Нікуды я не палезу,— бокам адступаючыся ад Волькі, сказаў Юзік.— Мне ўжо на балота трэба.

— Ах, ты — гэт-так!

Нечалавечая сіла раптам падхапіла Юзіка за папружку, тузанула, і не паспеў ён ачомацца, як апынуўся ў кабіне трактара, плюхнуўшыся на сядзенне.

— Ты што, цётка, цыбулю ела?

— І не рэкні, мурзач! — Волька пабарабаніла па кабіне кіем.— Круці свае жалезкі. І хутчэй, пакуль я добрая.

Юзіку было балюча, было сорамна, аднекуль нахлынула злосць, і ён хапіўся за рычагі.

— А хоць пазабівайцеся тут!

Трактар шалёна зароў, рэзка рвануўся з месца, аж скаланулася Жыбуртовічава хата, жаласна зарыпелі кроквы. Волька, кінуўшы кій, крутанулася ўбок, каб не зачапіла зрубам.

— Куды ты?! — нема закрычаў Жыбуртовіч і пабег следам за трактарам.— Стой, кажу!

Але Юзік, асеплены крыўдай і злосцю, нічога не чуе і не бачыць. Трактар прэцца па ямах і буграх, хата хістаецца, трашчыць, ледзь не развальваецца.

— Стой, гіцаль, стой!

У канцы новай вуліцы, каля апошняга электрычнага слупа, Юзік спыніўся. Пакуль дабег Жыбуртовіч, ён паспеў адчапіць трос, ускочыў у кабіну, і трактар, выхапіўшы гусеніцамі пласт зямлі, крута развярнуўся, загрукатаў па вуліцы.

— Трасцу ж я табе заплачу,— падбягаючы, выгукнуў Жыбуртовіч. Згарнуў знакамітую фігуру з трох пальцаў, паказаў у спіну Юзіку.— О дзе твой калым...

Трактар ужо мінуў Бондараву сялібу, праехаў паплоўчык, выбіўся на прасёлак. Жыбуртовіч зморана апусціўся на парог. Паволі, не спяшаючыся, падышоў Гаўрыла Трафімчык, без шкадобы і спачування паглядзеў на былога хутарчука. Усміхнуўся, але ўсмешка тут жа прапала.

— От дык Волька! Стала, як салдат са штыхом. І чаго яна чэпіцца да цябе?

— Кадук яе ведае. Нейкае жыта прыпляла, буракі. Пайду на пошту, патэлефоню, каб забралі Вольку ў той дом, дзе дурныя.

Жыбуртовіч сядзіць на вышчарбленым парозе, суцішаны, пакрыўджаны. Сядзіць, хмурыцца. Успомніў родны хутар, Падгалле, сварлівую Мар'ю, і з языка міжволі сарвалася:

— Ах Мар'я, Мар'я! Ета ж так падвяла пад дурнога хату...

Неспадзявана вярнуліся Жыбуртовічавы вераб'і. Яны аблёталі ўсе суседскія двары, выведалі, дзе тут можна разжыцца чарвякамі і мошкамі, перазнаёміліся з тутэйшымі родзічамі, і новае знаёмства, пэўна, прыйшлося даспадобы, таму што на гарышчы ўсчаўся вясёлы і свавольны птушыны гвалт. Вераб'ёў ужо не палохае, не трывожыць тая жалезная пачвара, якая, дыхаючы смуродным дымам, прыцягнула іх цёплае і ўтульнае гняздо на гэтае пустое, халоднае і не абжытае яшчэ поле.



## Каламутная вада

У Малым Сяле, дзе ў крайняй хаце ад лесу жыве Дзімка, няма рэчкі. Укруга вёскі цягнуцца засмужаныя сухадолы, гразкія балотцы і камяністыя пагоркі. На сухадолах грыўкамі стаіць бярэзнік, за гразкія імшэчкі і ператокі чыны ўчэпіста трымаецца шэры алешнік, а на пясчаных выдмах, апрача сіўцу, лебяды і конскага шчаўя, нічога болей не расце.

Напэўна, сотні гадоў жывуць тут людзі — выкошваюць у лагчынах марную траву, пасуць на няўдобіцы статак, але ім, здаецца, і гора мала, што ў Малым Сяле няма рэчкі. А хлопцам нельга без вады. Няма рэчкі, і няма вясёлых забаў, няма разгону, а ў самую спёку хоць і праўда

ў ночвах купайся. Сорамна прызнацца, але Дзімка рачнога шчупака толькі на малюнку бачыў.

Прырода моцна, бессардэчна пакрыўдзіла маласельцаў. Як быццам у насмешку, яна прыстаралася для іх нешырокую, звілістую канаву, што паціху струменіцца паўз Дзімкаву хату, цячэ далей цераз балоцісты поплаў і губляецца ў змрочным алешніку. Дзесьці там, далёка, яна ўпадае ў Цну. Несправядліва ўсё ж: каму Цна, а каму — гэтая мізэрная канава, у якой вада заўсёды пратухлая, іржавая, з каляровымі скалкамі.

Дзімка сумаваў па рэчцы, зайздросціў дзецям, якія нарадзіліся каля вялікай вады. Там і рыбы поўна, і купайся колькі хочаш. Там акуні і плоткі, а тут лупатыя жабы і чорныя пляскатыя жукі. Вось бы ўзяць экскаватар і прачысціць канаву, паглыбіць дно, выраўняць аерыстыя берагі. І дзіўна, што знайшоўся чалавек, які быццам падслухаў Дзімкавы жаданні. Аднойчы Дзімка ўбачыў непадалёку ад сваёй хаты самы сапраўдны экскаватар. Рыпелі на лябёдках тоўстыя трасы, пакручвалася страла, зубасты коўш раз-пораз падаў у канаву і выплёхваў на бераг рыжую балотную твань.

— Дзядзька, што вы тут капаеце? — спытаў Дзімка ў экскаваторшчыка, калі той на момант вылез з кабіны.— Рэчку?

— Якую табе рэчку? — здзівіўся дзядзька.— Чорнае мора капаю! Чуў пра такое?

— Чуў.

— Дык ідзі і не перашкаджай мне.

Дзімка не пакрыўдзіўся, бо і крыўдзіцца не было за што.

Чалавекам, які так дарэчы падслухаў Дзімкавы жаданні, аказаўся калгасны старшыня Фянота. І хоць ён, як высветлілася, зусім не думаў унаравіць хлапчукам, а болей клапаціўся, што ў спёку няма дзе паіць жывёлу, Дзімка быў удзячны яму. Надвячоркам экскаватар перабраўся ў другое месца, за чэзлы алешнік, пакінуўшы на ўспамін аб сабе кучу торфу і немалую прадаўгаватую сажалку. Выкапаць Чорнае мора ў мурзатага экскаватаршчыка, відаць, не хапіла духу і цярпення. Але і без таго мора Дзімка прыйшоў у захапленне: гэта ж столькі вады! Ужо і па рэчцы можна не сумаваць, і канаву не трэба глыбіць.

Зімой, калі падмерзне балацявіна, кучу рыжага торфу перавязуць на ферму, а з вясны бераг сажалкі пачне за-

растаць аерам, брацца чаротам і рагозам. Нехта і назву прыдумаў — Фянотава сажалка. Адно толькі кепска: купацца ў ёй нельга. Паспрабавалі хлопцы сунуцца — з дна ўсплыў патрывожаны торф, вада ўскаламуцілася, стала нешто дзёгаць. Вылезлі на бераг чорныя, як чэрці. Але непадалёк, за шэрым алешнікам, была яшчэ адна Фянотава сажалка. І хлопцы пабеглі туды, і там надзіва дно аказалася глiністым, вада не чарнела і не рабіла Дзімкавых сяброў падобнымі на тых мурзатых стварэнняў з пекла. Першая сажалка была назаўсёды забыта, і адзіным гаспадаром тут застаўся Дзімка. Цяпер ён ужо нікому не зайздросціў.

Бераг Фянотавай сажалкі пакрысе травянеў, зарастаў аерам, асакой і рагозам. На грудку, далей ад вады, пачалі прабівацца ружовыя пруткі вербалозу. Сажалка зарастала, а Дзімка сталеў, пайшоў у школу, і калі скончыў трэці клас, ужо нельга было нават здагадацца, што такую прыгажосць выкапаў экскаватар. У траве паблісквала люстэркам гожае невялічкае азерца. Вада, добра адстаяўшыся за колькі гадоў, зіхацела на сонцы, рассыпалася залатымі іскаркамі. Над сажалкай пырхалі матылькі, паволі кружыліся сінія стракозы.

Калі Дзімку было сумна, ён прыбягаў на сажалку і падоўгу сядзеў тут у адзіноце. Глядзеў, як над вадой кружацца сінія стракозы, і думаў, што яны вельмі ж падобныя на маленькія верталёцікі. Іншы раз Дзімка рабіў папяровыя караблікі і пускаў іх па вадзе. Падхопленыя ветрыкам, яны пагойдваліся на хвалях і ўпарта плылі насустрач небяспецы. Пасярод сажалкі іх чакалі буры і штормы, жахалі маланкі і грымеў гром, але белыя каравелы ўдала прыставалі да незнаёмага берага. А яшчэ Дзімка любіў шпурляць па вадзе дробныя каменьчыкі. Не проста кінуць, а каб той каменьчык праляцеў, як ластаўка, і некалькі разоў падскочыў, пакуль уткнецца ў траву з другога боку сажалкі. Дзімка ведае сакрэт: трэба выбіраць пляскатыя каменьчыкі-пліткі, а пляскачыкі могуць адбіцца ад люстра вады і пяць, і шэсць разоў.

Але бывалі дні, калі Дзімка, захапіўшыся гульнямі, не прыходзіў на сажалку. І тады Фянотава сажалка сумавала, крыўдзілася, што пра яе забылі. На самоце, у цішыні ёй пачыналі ўжо дакучаць камары і мошкі, матылькі і сінія стракозы. Сажалка хмурылася, цямнела і пускала па вадзе слабыя кругі. Над лесам садзілася сонца, змрок гусцеў, а кругоў рабілася больш і больш. Яны не-

чакана ўзнікалі то пасярэдзіне сажалкі, то каля берага. Часам чуўся булькат, ціхі ўсплёск. Сажалка сумавала, нервавалася без Дзімкі. І ён прыбег і ўбачыў на вадзе мноства кругоў, пачуў ціхі ўсплёск. Здагадка ашаламіла: у Фянотавай сажалцы завялася рыба!

Увесну, калі віхлястая канава разліваецца, рыба магла прыплысці з Цны. Рыбу маглі таксама занесці птушкі, бо Дзімка сам бачыў каля сажалкі дзікіх качак. Да пер'я прылепліваюцца рыбіныя ікрынкі, і качкі пераносяць іх з аднаго месца ў другое. Чыстая вада не можа быць без рыбы. Але смешна, што рыба завялася ў Малым Сяле, дзе яе зроду не было. Дзякуй вам, добрыя качкі!

Фянотава сажалка, калі меркаваць па кругах на вадзе, ажно трашчала ад рыбы. Сажалка стамілася гадаваць дураслівых карасёў і вельмі хацела падзяліцца з Дзімкам сваім багаццем. Але Дзімка глядзеў, як надвячоркам або перад навальніцай дурэе рыба, і нічога не мог зрабіць. У яго не было рыбацкай снасці, хоць жаданне злавіць жывую рыбку ўсё большала. Дзімка ажно пахудзеў. На шчасце, у нядзелю бацька сабраўся ў Ганцавічы. Ён пасмяяўся з дзіўнай сынавай просьбы, але ўсё ж прывёз добры канец зялёнай жылкі і некалькі сапраўдных рыбацкіх кручкоў. У той жа дзень Дзімка пабег у ляшчыннік, выразаў гнуткіх дубцоў на вудзільны, змайстраваў вудачку, накапаў чарвякоў і за вячэрай папрасіў:

— Мама, ты мяне заўтра збудзіш рана. Як будзеш карову на пашу выганяць, добра?

— Гэта ж чаму, сынок?

— Рыбу пайду лавіць у Фянотавай сажалцы.

— А жабу ты не зловіш?

— Ну, сказала! Карасёў прынясу.

— Ясь, ты чуеш? Дзімка заўтра карасёў прынясе.

— А смятана ў нас е? — весела папытаў бацька.— Кажуць, карасі ў смятане вельмі смачныя.

— Е, е! Я і снедання не буду рабіць. Свежай рыбкі паямо.

Раніцай выйшаў Дзімка за весніцы, а старыя вязы, што растуць каля хаты, зашумелі, галінкамі калыхнулі. Дзівяцца вязы, дзівіцца поплаў: і куды гэта бяжыць па расе заспаны пастушок з такім доўгім дубцом і маленькім вядзерцам у руках? А тут яшчэ і сусед, несусветны зайздроснік Змітрок Цыган, сустрэўся на поплаве. Ён худы і доўгі, як цыб. На плячы Змітрок нясе касу. Убачыў у Дзімкі вуду і — вочы на лоб.

— Куды, малеча, бяжыш? Няўжэ дзе рыба завялася?

— У Фянотавай сажалцы,— прызнаўся нехаця Дзімка.— Праўда, я не рыбу, а толькі кругі на вадзе бачыў.

Бліскучая каса адразу спаўзла з плячэй.

— Хто б падумаў, што ў гэтай лужыне рыба е? Ну, лаві, лаві. Блізка касіць буду, то пагляджу...

Змітрок, абіваючы гумовымі ботамі расу, мінуў сажалку і пайшоў далей. Бліжэй да лесу на поплаве вырасла ніштаватая трава. Там ужо свішчуць, пабліскваючы на сонцы, дзве касы. Змітрок далучыўся да грамады. А Дзімка застаўся на беразе сажалкі. Разматаў вуду, пачапіў на кручок прынаду. Ой, і холадна, мусіць, будзе чарвяку ў стылай ранішняй вадзе!

Пасярэдзіне сажалкі разышоўся шырокі круг. Дзімка яшчэ не ўмее закідваць вудачку, каб не патрывожыць ваду. Каля берага, у аеры, нешта плёхнула. Над лесам вышэй паднялося сонца. Дзімка сядзіць і не дыхае, бо рыба не любіць шуму. Адчуўшы Дзімкава хваляванне, нават сажалка прыціхла. Паплавок, зроблены з гусінага пяра, не варухнецца, не дрогне. Дзімка не зводзіць вачэй з белага пяра. Паплавок падскочыў, прыўзняўся, зноў лёг плазам. Прайшла яшчэ секунда, і раптам пяро калыхнулася, стала старчма і схавалася ў вадзе. Дзімка, не помнячы сябе, ірвануў вудзільна ўверх, і над сажалкай, апісаўшы дугу, бліснула серабрыстая маланка.

Жывы кавалачак срэбра трапятаўся ўжо на беразе, у густой траве. Дзімку хацелася скакаць ад вялікай радасці, крычаць на ўсю ваколіцу. Малое Сяло павінна ведаць, які ў ім жыве шчаслівы чалавек! Дзімка кінуў вудачку, выхапіў з травы бліскучую маленькую рыбку. Яшчэ нямала клопату каштавала, каб, не ўмеючы, зняць карася з кручка. Але і тады, калі шустры карасік апынуўся ў вядзерцы з вадою, шчаслівы чалавек адчуваў, як у грудзях шалёна тахкае сэрца.

І зноў гусінае пяро плазам ляжыць на вадзе. Дзімка то зірне на сажалку, то залюбуецца карасікам, які, супакоіўшыся, плавае на дне вядзерца. А ўжо блізка свішчуць косы, чуюцца людскія галасы, карацейшымі становяцца цені. Дзімка хмурыцца. Хіба ж не ведаюць балбатлівыя касцы, што іх галасы палохаюць рыбу? І дзядзькі быццам зразумелі, што ім нельга шумець. Уторкнуўшы косы ў купіны, яны кіруюцца сюды. Першым шыбуе Змітрок Цыган — абяцаў жа паглядзець на Дзімкаву рыбалку; за Змітраком, выціраючы потны лоб, ідзе Дзям'ян Ломскі; за

Дзям'янам ледзь не подбегам коціцца круглы, што кацёлка, Хведар Заяц. За іх спінамі адпачываюць на прыгрэве бліскучыя косы і аж да самага лесу плывуць тры зялёныя пракосы.

— Няўжэ і праўда злавіў? — дзівіцца Змітрок.— Каб не ўгледзеў на свае вочы, то не паверыў бы.

— Але, ладная плотка,— хваліць Дзімкаў улоў лахматы Дзям'ян,— Акурат паўхвунта заважыць.

— То якая ж плотка, калі падлешчык,— смяецца таўсматы Хведар.

— І не плотка, і не падлешчык,— смяецца ўжо і Дзімка.— Карась гэта!

— А што ж яшчэ? Карась,— запэўнівае Змітрок і бярэ карася ў рукі.— Рыбакі мне называюцца!

— Адна трасца — ці плотка, ці карась.

Дзядзькі закурылі, пусцілі ў неба сіні дым, селі на траву. Лаві, Дзімка, пацеш старых дзівакоў! Хвалюецца рыбак, не зводзіць вачэй з гусінага пяра. І Фянотава сажалка зразумела, адчула Дзімкава хваляванне. Невядома, чым яна там падмагла, але неўзабаве пяро ўздрыгнула, зноў стала старчма і паехала ў ваду.

— Цягні, Дзімка! — падхапіўся з травы Змітрок.— Цягні, бо сарвецца, акаянец!

Дзімка пацягнуў, і над галовамі касцоў бліснула яшчэ адна серабрыстая маланка. Другі карась улавіўся намнога большы, чым першы. Ён мацней трапятаў у траве, выпручваўся, латашыў хвастом. Дзімка ўжо спраўней зняў рыбіну з кручка, і карась, быццам які заморскі цуд, пайшоў па руках.

— Дальбо, цэлы хвунт.

— Вышэй бяры. Паўкілі яму сама меней.

— Яшчэ б адзін такі, і добрае смажэнне выйдзе.

Змітрок шпурлянуў у аер недакурак і стаяў над вядзерцам нейкі дзіўны, збянтэжаны, у вачах чыталася зайздрасць, і па гэтым было відаць, што ў яго галаве круціліся неразумныя думкі. Дзімка сцяўся, адчуўшы нядобрае.

— Аднак тут гэтых карасёў да халеры,— сказаў Змітрок і пачухаў патыліцу.— Не шкодзіла б і сабе нацёгаць на сняданак.

— А чым ты яе лавіць будзеш? — спытаў Дзям'ян.— Лапцем хіба?

— Можна нешта прыдумаць. У мяне дома кош е. Два пуды картоплі лезе. А што, калі — кашом?..

Змітрок паглядзеў на мужчын, чакаючы адабрэння.

— Кош, канечне, не сак, але чаму ж — папробаваць трэба.

— То нясі ткале свой кош.

— Я хуценька. Адна мінута...

Над Фянотавай сажалкай навіслі чорныя хмары. Дзімка збялеў, але перайначыць нічога не мог. Сажалка ўсё-такі не яго — калгасная, а Змітрок не такі чалавек, каб уважыць, паступіцца. На бяду і жыве ён зусім блізенька. Вунь ужо і назад бяжыць з велізарным кашом, у якім, бадай, схаваліся б два такія хлопцы, як Дзімка. Неспадзявана варухнуўся ветрык, пахіліў аер і рагоз. У вядры пляснуў хвастом карась, не разумеючы, што за зверская сіла выхапіла яго з вады.

Яшчэ на хаду Змітрок пачаў расшпільваць гузікі кашулі.

— Галоўнае, трэба ваду ўзбоўтаць,— павучаў ён дзядзькоў.— Дно тарфяное, дык хутка скаламуціцца. А тады яе — кашом, кашом! — Змітрок першы плюхнуўся ў сажалку і ўжо адтуль падбадзёрыў: — Смялей, мужыкі. Вада цёплая, як у лазні.

Таўсматы Хведар, застаўшыся ў чорных сацінавых трусах да калень, азірнуўся на Дзімку, весела падміргнуў:

— Ты вуду прымі! Яшчэ ўчэпіш за што...

— Не прымай, Дзімка,— зарагатаў Дзям'ян.— Будзе тапіцца, то выцягнеш.

— Хутчэй вы там, маруды!

Сажалка спалохалася вялізнага каша, сплеценага з дубовай дранкі. Вада завірыла, забулькала. На пясок адна за другой пабеглі цёмныя хвалі.

— Дзям'ян, ты ля берага тапчы, ля берага!

— А гразішчы тут!

— Гэта ж добра, што торфу багата. Хутчэй вада скаламуціцца.

Дзімкава вуда, непатрэбная цяпер, ляжыць у траве. З перавернутай бляшанкі распаўзліся чарвякі, шыюцца ў зямлю. На вачах у Дзімкі круцяцца слёзы. Яму балюча глядзець, як дзядзькі боўтаюцца ў вадзе. Пасля такога разбою Фянотава сажалка не будзе любіць Дзімку. Мог бы абмінуць Змітрака, не лезці ў вочы з гэтай сваёй вудачкай. Сажалка пачарнела, узбурылася. Зводдаль, уторкнутыя ў торф, сумна звесілі доўгія дзюбы тры касы. Яны саромеюцца Дзімкі. Ім трэба касіць траву, таму што хутка падсохне раса, трэба касіць, а не займацца глупствам.

— Змітрок, няма тут рыбы!

— А ў хлопцавым вядры што? Хвост сабачы?

— Выходзіць, і праўда е.

Змітрок увішна махае кашом. Апусціць з дужкай у сажалку, падвядзе да берага і выхапіць наверх. З дзірак ва ўсе бакі свішчуць тонкія струменьчыкі. Пуста. І зноў кош чэрпае ваду. Ёсць! У кашы штосьці бліснула, затрапятала.

— Злавіў! — нема зароў Змітрок.— Злавіў!

— Няўжэ злавіў?..

— Пакажы?..

У руцэ Змітрака выпручваецца, б'е хвастом фунтовы карась. Яму крыўдна, што яго злавілі. Карась варушыць ружовымі жабрамі, разяўляе рот, просіцца назад у сажалку. Але яго мовы, акрамя Дзімкі, ніхто не разумее. Карасік, пабываўшы ў шурпатых мужчынскіх далонях, ляціць на груд, у траву.

— Вы ля берагоў тапчыце! — крычыць на дзядзькоў чырвоны і мокры да вушэй Змітрок.— Не давайце, каб рыба ў аеры хавалася.

— Ды топчам жа,— бурчыць Дзям'ян.— Як можна лепш?

— Ні мінуткі не стаім,— пакрыўдзіўся Хведар.

Карасік прыдаў лаўцам настрою і азарту. З новай сілай закіпела, забурліла вада. Дубовы кош стаў зусім шчаслівы.

— Лінь! Глядзіце, лінь!

— Карась!

— Яшчэ лінь!

На вачах у Дзімкі слязінак няма. Круглымі гарошынкамі яны ўжо коцяцца па шчоках.

— Весялей, не драміце! — падбадзёрвае лаўцоў увішны Змітрок.

Дзям'ян і Хведар так не касілі, як апантана, без супачынку боўтаюць сажалку. Вада пачарнела, стала падобнай на смалу. Выкочваюцца на бераг пеністыя хвалі, па ўсёй сажалцы лопаюцца бурбалкі. З тарфянога дна пухіркамі падымаецца балотны газ. У каламутнай вадзе не хапае кіслароду, рыбе няма чым дыхаць. Як і думаў Змітрок, яна ашалела, ачмурэла ад балотнага газу. Карасі б'юць хвастамі, высоўваюцца з вады, шчэлепамі прагна хапаюць паветра. Рыбу цяпер можна лавіць голымі рукамі. І кош не дрэмле.

На траве вакол сажалкі блішчаць ужо сапраўдныя кара́лі з серабрыстых карасёў і лінёў. Віруе вада, драпежнічае дубовы кош.

— Хопіць на сёння! — сказаў нарэшце Змітрок і, мокры, заляпаны ў твань, вылез на бераг, кінуўшы ненасытны кош у рагоз.— Яшчэ калі парыбалім...
— Змёрз я, бы цуцік,— паскардзіўся Дзям'ян.
— Добра ўлавілі,— радуецца Хведар.— Будзем дзяліць.
Лаўцы абышлі ўкруга сажалку, падабралі з травы серабрыстыя каралі, знеслі ў адну кучу. Не сарамеючыся Дзімкі, знялі мокрыя трусы, выкруцілі і, калі трохі падсушыліся на сонцы, адзеліся, селі дзяліць рыбу.
— Э-э, Змітрок! Не хітры, ты ўжэ такога палажыў сабе.
— Падалося табе, Дзям'ян. Я правільна дзялю, пачэснаму.
— А мне, Змітрок, вунь таго лінька. Акурат усім па два ліні выйдзе.
Рыбу падзялілі. Дзядзькі падняліся з травы, закурылі і тут апомніліся, што іх косы цэлую раніцу прастаялі без работы. Але касіць ужо нельга: высока паднялося сонца, раса высахла.
— Пойдзем дахаты,— сказаў Змітрок.
Сваіх карасёў ён высыпаў у кош. Хведар знізаў на вербалозавы дубчык. Сваю дзель Дзям'ян завязаў у кашулю. Вузел важка адчуўся ў руцэ. Улоў не абы-які, а значыць, і пахваліцца можна. Дзям'ян паварочваецца, шукае вачыма Дзімку і шчыра дзівіцца:
— Ты што, хлопец? Плачаш?
— Не-а, не плачу,— матнуў Дзімка бялявай галоўкай і строс са шчок дзве слязінкі.
Дзям'ян збянтэжыўся, спахмурнеў, бо адразу здагадаўся, чаго плача Дзімка.
— Была б прычына раўці. Ну, пабоўталіся трохі, адвялі душу. А ты — і ў слёзы. Не румзай, я табе сваёй рыбы дам.
Дзям'ян развязаў кашулю, укінуў у Дзімкава вядро колькі асалавелых карасікаў.
— Дзімка, ад мяне тэж вазьмі,— сашморгнуў з вязанкі дзве рыбіны таўсматы Хведар.— І ты, Цыган, дай!
— За што яму рыбу? Не памагаў,— пацiснуў плячыма Змітрок.— Бачыш, расплакаўся! Бытта мы ўсю рыбу палавілі? Засталося яшчэ і рыбаку такому...
Пабраўшы косы, дзядзькі пайшлі. Зашоргала трава пад нагамі, паплыла звесіліся з плячэй доўгія косы. Спалохаецца Малое Сяло: пайшлі касіць, а нясуць што?

На выхадзе з поплава Дзям'ян азірнуўся. Каля сажалкі нерухома, задумліва стаяў Дзімка.

Фянотава сажалка яшчэ не супакоілася. Яна ўздрыгвала, пасылала на бераг шыпучыя хвалі. З вады выступалі і лопаліся белыя пухіры, плаваў падняты з дна торф. Плавала ціна, пакручваліся на хвалях зялёныя травінкі і абламаныя вяршкі аеру. Над сажалкай не пырхалі матылькі, не кружыліся сінія стракозы.

Не хутка адстаіцца каламутная вада.



## Старыя жорны

Каля хлява Карпей стругаў яловыя калкі, каб залатаць імі дзіркі ў плоце, а то ж куры, хай на іх немач, залазяць у градкі і здзёўбваюць маленькія пуплы гуркоў разам з пахучым жоўтым цветам. Аберуч трымаючы за тронкі востры струг, Карпей саскрэбваў з жардзін кару і бачыў, як з хаты выбегла Алена, зірнула на ранішняе, яшчэ чырвонае, сонца і борздзенька схавалася пад паветкай. Адтуль яна выскачыла з ахапкам сухіх трэсак і слязамі на вачах.

— Трэба ж так нагою ўгрэць! — скрывілася ад болю Алена, пачухала пабітае калена і пачала сварыцца на Карпея: — Мужык ты мне, ці хто? Каторы раз жонка б'е ногі, а яму хоць бы што! Выкінь ты адсюль гэтыя праклятыя жорны. Дакуль яны бесталку будуць стаяць пад паветкай.

— Так ужэ і праклятыя,— кінуўшы струг і заглядваючы пад паветку, разважліва сказаў Карпей.— Помніш, пасля вайны цаны не было нашым жорнам. Уга! Суседзі яшчэ як радаваліся, што ёсцека дзе скруціць жменьку жыта.

Боль у Алены пакрысе праходзіў, і яна ўжо без ранейшай злосці адказала:

— Дзіва што радаваліся. Мы ж нічога з іх не бралі за мліва. А жорны добрыя былі...

— Але, добрыя. Лёгка круціліся,— пацвердзіў Карпей і, на момант задумаўшыся, спытаў не то ў сябе, не то ў Алены: — А ці не рана пускаць іх на злом?

— Выкідай, што тут думаць? Хлеба цяперачы хапае. А батоны прывозяць куды лепшыя, чым той даўнейшы велікодны пірог.

Накульгваючы, Алена пайшла распальваць у печы, а Карпей, забыўшы пра свой занятак, стаяў каля паветкі, і на яго заклапочаным маршчыністым твары адбілася нерашучасць. Ён думаў пра Алену і не мог пагадзіцца з ёю. Ну, пабіла калена, прыскулела трохі, дык трэба ж хадзіць асцярожней, абачлівей, каб не сунуць ногі абы-куды. Вунь колькі гадоў жорны стаялі на дрывотні, не замінаючы гаспадару, то і яшчэ пастаяць. Карпей нахмурыў лахматыя бровы, зайшоў пад паветку і тут зразумеў, што Алена ўсё-такі праўду казала. Калі жорны не разбіваць, то варта хоць пашукаць для іх якую лепшую схованыь: пад паветкай і без таго цесна. Жорны загарадзілі сабою добрую палавіну дзвярэй, і, каб зайсці сюды, трэба бокам пліпічыцца ў вузкім праходзе, а як на Аленін стан, то гэты праход павінен быць удвая шырэйшы.

Карпей разглядваў з усіх бакоў жорны і бачыў, што яны рассохліся, ледзьве ліпяць. Ножкі, вычасаныя з яловых кругляччкоў, пабіў шашаль, дошкі карыта пачарнелі, і ў самым днішчы прасвечваюцца шчыліны. Карпей дзівіўся, што без догляду так хутка занялалі жорны, хоць было б яшчэ дзіўней, каб яны ўцалелі да гэтага часу. Пад паветкай усё ж не ў хаце: тут сыра, праз дзіркі ў дзвярах не раз засякаў дождж, і таму жорны пакрысе буцвелі, трухлелі. Як ні круці, а цяпер усё роўна іх прыйдзецца выкінуць.

Карпей шырэй расчыніў дзверы, паспрабаваў выцягнуць жорны на двор, але духу не хапіла, і тады Карпей зняў верхні, заседжаны курамі, камень, адкаціў пад плот. У карыце намацаў дзве ржавыя шасцярні і жалезную аблупленую корбу. «Адкуль яны тут?» — падзівіўся Карпей і, успомніўшы, што да чаго, выкінуў непатрэбныя жалязякі ў крапіву. Натужваючыся, зноў пацягнуў жорны, і цяпер яны лягчэй сарваліся з месца, разграбаючы ножкамі трэскі, праехалі трохі больш, як у першы раз. Але Карпей ужо стаміўся, груваcткія жорны былі яму не пад сілу. «Старасць — не радасць,— падумаў Карпей.— Без памачы тут, відаць, не абыдзешся».

Ён выйшаў з дрывотні і, аддыхваючыся, пачаў чакаць, калі на вуліцы пакажацца хто-небудзь з суседзяў. Карпею рупіла няскончаная праца, у яго наогул было многа клопату, і ён як не з абурэннем убачыў, што па вуліцы, гор-

бячыся, ідзе старая Сэльчыха. Яна ішла марудна, апіраючыся на кій, дык сапраўды: не клікаць жа на помач старую, нямоглую кабету? Карпей бачыў, як цяжка ісці Сэльчысе, і, паспачуваўшы ёй, ужо без ранейшай прыкрасці спытаў:

— Куды ты сабралася, Матруна, з самай раніцы?

— У краму іду, куды ж яшчэ? — павярнулася на яго голас Сэльчыха.— Кажуць, свежага хлеба прывезлі.

— Не бачыў, каб хто нёс,— паціснуў плячыма Карпей.— Але ж крама цяпер, улетку, адчыняецца рана. Так што ўпаўне маглі прывезці свежага хлеба.

— Колькі мне, бяззубай, трэба яго,— уздыхнула Сэльчыха.— Вазьму бухеначку, то і ляжыць у шкапчыку, пакуль не счарсцвее.

— Дык ідзі ж, Матруна, не стой,— Карпей ужо не рады быў, што зачапіў старую Сэльчыху.— Ідзі, а то ўвесь хлеб разбяруць.

— Майго не возьмуць, не бойся ты вельмо.

Сэльчыха пайшла, і яшчэ не паспела яна схавацца з вачэй, як на вуліцы паказаўся Панок, і Карпей зноў абурыўся. Вуліца проста здзекуецца з яго: замест таго каб паслаць на падмогу здаровага, дужага мужчыну, яна шле то старую Сэльчыху, то гэтага маленькага, шчуплага чалавечка. Абмінаючы лужыны, Панок ціснецца бліжэй да платоў — відаць, таксама спяшаецца ў краму, бо пад пахай у яго тырчыць скручаная ў трубку магазінная сумка. Карпей падумаў, што не варта клікаць на помач Панка — які з яго толк,— але жорны пад паветкай ужо былі зрушаны з месца, апроч таго, каля хлява, прыслоненыя да сцяны, стаялі неакораныя жэрдкі. І Карпей гукнуў худому і шчупламу, як абшчыпанаму, суседу:

— Здароў быў, Аляксей! Ты не вельмо спяшаешся?

— Во ў краму бягу,— без асаблівага настрою спыніўся Панок, убачыўшы цераз плот Карпея.— Хлеба трэба купіць. А што?

— Помач невялікая спатрэбілася. Жорны ніяк не магу выпхнуць на двор.

— Ну, гэта можна. Як жа не памагчы, жывучы па суседству? — ужо весялейшым голасам сказаў Панок, зарадаваўшыся, што Карпей прапаноўвае не вельмі цяжкую работу.— То ж дзе яны ў цябе?

— На дрывотні стаяць,— паказаў рукой Карпей і паскардзіўся: — Сіла ў мяне ўжэ не тая. Раней бы не прасіў помачы.

— І не скажы, сусед. Пастарэлі мы...

Панок павесіў на плот рыжую сумку і ўслед за гаспадаром уціснуўся пад паветку. Удвух, як і спадзяваўся Карпей, выцягваць жорны было спадручней. Панок, нягледзячы на свае нешырокія плечы, нечакана аказаўся пруткім у руках: як ухапіўся за ножкі, то і не выпусціў, пакуль жорны не апынуліся на двары. Іх адцягнулі ад дзвярэй, каб не заміналі, бо Алена можа зноў прыбегчы па трэскі, прысланілі да плота, вытаптаўшы расу на крапіве, і Панок, здымаючы з плота сумку, сказаў:

— Глядзі, як скасабочыліся. Хутка і зусім рассыплюцца.

Карпей атрос з сябе пыл, таксама зірнуў на залепленыя павуціннем жорны і абыякава махнуў рукой:

— Столькі тае бяды. От зараз вазьму сякеру ды на дровы пасяку.

— Дарма ты так,— як бы з дакорам пахітаў галавой Панок.— Я дык свае ў хляве паставіў. Зрабіў памост, каб не было сыра, а зверху сенам прыкідаў. І стаяць жорны цэленькія...

— Ты ж заўсёды ўпраўны ды разумны быў,— сказаў з'едліва Карпей, хоць, наадварот, не злавацца, а дзякаваць трэба было Панку за дапамогу.— Колькі помню, усё выгадваеш нешта.

— І жыць-то трэба ўмець,— буркнуў Панок, ушчаміў сумку пад паху і хуценька пайшоў з двара.

Карпей патаптаўся каля жорнаў, пачухаў патыліцу, ужо шкадуючы, што мо дарма ўпікнуў Панка мінулым. Пастаяў, паразважаў, потым зазірнуў пад паветку, выйшаў адтуль, трымаючы ў руцэ цяслярскую сякеру. Зноў шкроб патыліцу, зноў тантаў ботамі крапіву вакол жорнаў, і яму ўжо не хацелася разбіваць іх, не хацелася нішчыць тое, што калісьці зрабіў сваімі рукамі. Тады, у пасляваенныя гады — а ведама ж, якія былі яны, халодныя ды галодныя — Карпей сам, відаць, не дапетрыў бы змайстраваць жорны, калі б не Алена. Ну, канечне ж, ён і думкі не меў пра ўласныя жорны, але аднойчы Алена як не з плачам прыбегла ад Панка, да якога, бадай, усе суседзі хадзілі з млівам.

— Ты паглядзі, Карпей,— ставячы на стол саламяную каробку з мукою, сказала Алена, расчырванелая ад гнева.— Саўсім распанеў Панок. Гэта ж падумаць! Колькі таго жыта было, а ён, халернік, аж два гарцы мукі ўзяў за жорны.

— Няўжэ ўзяў? — не паверыў Карпей.

— Хіба ж я лгу? Цяперачы там Сэльчыха меле, дык Панок і над ёю трасецца, каб хоць не ўцякла без гарца.

— Ад яго ўсё можна чакаць,— перастаўшы дзівіцца, сказаў Карпей.— Разам жа на хронце былі, дык Панок усё па абозах агінаўся.

Абураючыся на суседа, Карпей сабраўся ісці з хаты, бо на двары было багата пільнага, неадкладнага клопату, але ў парозе яго нерасцігла Алена, заслаціла сабой дзверы.

— Як ты сабе хочаш, а да Панка я болей не пайду,— рашуча заявіла яна.— Рабі свае жорны, Карпей! І не круці носам, а рабі. Хопіць ужэ таму халерніку нажывацца з нашых гарцаў.

Такой настырнасці і рашучасці Карпей не чакаў ад Алены, а таму не стаў адмаўляцца: узяў малаток і пайшоў на выган шукаць гранітныя валуны. Не кожны валун прыдатны для жараноў: патрэбен не шэры, а ружовы граніт, і найлепш, каб быў ён не вельмі зярністы, бо граніт з буйнымі зернямі хутка змолваецца і крышыцца,— праз які год ці два рабі новыя жараны.

Карпей ішоў на выган, дзе, як помнілася яму, ляжалі якраз такія — ружовыя — гранітныя глыбы. На выхадзе з вёскі неспадзявана сустрэўся з Панком, чамусьці разгубіўся, хацеў схаваць за спіну малаток, які нёс у руцэ. Але пранырлівы Панок ззорыў гэтую яго разгубленасць, убачыў вялікі кавальскі малаток і, не таячы сваёй цікаўнасці, спытаў:

— І куды гэта сабраўся, суседзе? — Панок змераў позіркам Карпея, тарган уў уверх падбародкам, паказваючы вачыма на малаток.— Струмант, нябось, не так сабе захапіў?

— Камень для жорнаў шукаю,— не стаў хлусіць Карпей, бо Панок, відаць, і сам здагадаўся, куды ён ідзе.— Ты ж, кажуць, муку ад баб забіраеш. Ссыпку нейкую выдумаў...

У Панка зноў таргануўся падбародак, на твары адбілася трывога, але ён неяк саўладаў з сабой і, апраўдваючыся, сказаў:

— Выдумляюць, не слухай ты. Калі і вазьму гарнец мукі, то што з таго? Стараюся ж, каб усім добра было. І жорны сам зублю, і на замок іх ніколі не зачыняю.— Панок пастаяў, падумаў і раптам ліслівa зазірнуў Карпею ў вочы: — А ты, суседзе, не туды ідзеш. На выгане няма

добрых валуноў. Сам шукаў, дык ведаю. Гэта каб на Кругляк пайшоў. Там ружовага граніту хоць заваліся.

— Кажаш, на Кругляк, на поле, трэба ісці? — перапытаў Карпей.

— Але, там пашукай,— пацвердзіў Панок.— А на выгане няма талковых камянёў.

І Карпей паслухаўся Панка: краем мінуў вясковы выган, на якім здалёк чарнелі шэрыя глыбы валуноў, пайшоў на Кругляк і смыкаўся па полі як не да самага вечара. Хадзіў ад адной глыбы да другой, малатком сколваў пласцінкі граніту, але ружовы, не моцна зярністы камень не трапляўся. Валуны, відаць, ужо нехта аглядаў і раней, бо на іх бялелі свежыя сколкі, і Карпей раптам здагадаўся, што тут быў Панок і што ён, той куслівы здрок, ашукаў Карпея, накіраваўшы на поле, дзе граніту з ружовым крапам не было.

Карпей зазлаваў, вярнуўся на выган і тут лёгка знайшоў два ружовыя валуны. Назаўтра перавёз дадому і пачаў абсякаць камяні зубілам, на злосць Панку ляскаючы малатком на ўвесь панадворак. Граніт быў цвёрды, зубілы тупіліся, і Карпею не адзін раз давялося вастрыць і загартоўваць іх у кузні. Праз дні два валуны ўсё ж былі абгладжаны як і мае быць; Карпей акаваў жараны жалезнымі абручамі, потым звязаў драўляную раму, абшыў карыта сухімі бярозавымі дошкамі. А калі круглыя камяні ўжо ляжалі на сваім месцы, высветлілася, што не хапае самага галоўнага — млёна. Карпей абстругаў яловы калок і пайшоў з ім у кузню. Сусед Сэлька быў добрым кавалём, да таго ж ніколі не адмаўляў у якой-небудзь просьбе. Ён забіў у тарэц калка жалезны шпень, нацягнуў рэхву і, падаючы млён Карпею, сказаў задаволена:

— Бяры, цяпер млён нізашто не расколецца.

Карпей падзякаваў Сэльку і, падумаўшы, дадаў:

— От зляскаў такія-сякія жорны, дык хай стаяць сабе.

— І правільна зрабіў,— адобрыў Сэлька, выціраючы замазучаныя рукі аб закарэлы брызентавы фартух.— Не ўсё ж таму Панку з жанок паборы здзіраць. Я ўжэ сам падумваў пра жорны, ды здароўя няма.

Сэлька ўздыхнуў, зайшоўся доўгім, пакутлівым кашлем, і гэта як бы пацвердзіла, што ён гаварыў праўду. Сэлька прыйшоў з фронту і з таго часу не мог вычухацца ад хваробы: у грудзях сядзеў асколак, не даваў дыхаць.

— А млён добры, не паколецца,— ужо наўздагон гукнуў каваль.

Дома, перад тым як пусціць у ход жорны, Карпей заўважыў, што млён яшчэ не вельмі роўны — жанкі хутка панабіваюць мазалі. Узяў гэблік, абгладзіў дзяржак, потым выскраб млён кавалачкам шкла, вышараваў заечай шкуркай. Але можна было і не старацца: за які тыдзень шурпатыя далоні так адпаліравалі, выгладзілі млён, што ён ажно заблішчаў. Гэта было і не дзіўна, бо клопаты пра жорны якраз супалі з дажынкамі, і суседкі адна за другой неслі да Карпея маладое пахучае жыта. Новыя жорны стаялі ў сенцах, мліва заўсёды ішло пры адчыненых дзвярах, каб не вельмі пыліліся сцены, і скрогат камянёў разносіўся далёка па вуліцы. Хаваючыся за платамі на сваім панадворку, Панок чуў гэты скрогат, чуў і шалеў ад злосці, а неяк усё ж не вытрымаў, прыбег да Карпея.

— Кажуць, ты жорны сабе змудрыў? — спытаў ён.— Я ж бо і чую: млён ляскае.

— Зрабіў, і вельмі ўдалыя,— хмурачыся, адказаў Карпей, а жорны пахваліў знарок, каб узлаваць Панка.— Круцяцца лёгка. Папробуй...

Панок пакруціў жорны, пацмокаў языком, і было відаць, што ён пазайздросціў Карпею, але адкрыта зайздросціць было няёмка, і Панок таксама пахваліў новыя жорны:

— Праўду кажаш, Карпей. От ужэ не думаў, што ты такі майстар.— І, нагнуўшыся да Карпея, спытаў даверліва: — Няўжэ нічога не бярэш за мліва?

— Не бяру і браць не буду! — сказаў як адрэзаў Карпей.

— І дарма. Усё-такі свой мазоль трэба шанаваць.

Панок пайшоў, злуючыся на Карпея, на ўвесь белы свет, і доўга яшчэ не мог паверыць, што от так, задарма, Карпей пускае суседзяў да сваіх жорнаў. Панок круляваў па дварышчы, слухаў, як скрогаюць суседавы жорны, і яму, відаць, хацелася заткнуць вушы ад гэтага ненавіснага скрогату жорнавых камянёў.

А жорны ў Карпеевых сенцах, бадай, ніколі не сціхалі — круціліся і днём, і вечарам. Кабеты яшчэ зранку займалі чаргу: хто намерваўся змалоць жыта, хто хацеў здзерці на крупы гарнец пшаніцы, а часам жанкі, не вельмі таячыся, прыносілі на мліва солад. І на гэта ў кожнага былі свае сямейныя прычыны: то радзіны, то вяселлі, дык як тут абыдзешся без вясёлай чаркі? Адна Сэльчыха, мабыць, ніколі не малола соладу: яе Сэлька не піў, шануючы сваё слабое здароўе, і Карпей быў здзіўлены, калі ад-

нойчы, на згоне зімы, убачыў у Сэльчысінай саламянай сявеньцы сухое прарошчанае жыта.

— Для якой жа гэта патрэбы? — спытаў ён і толькі тут угледзеў, што ў Сэльчыхі ўчарнелы твар, а вочы мокрыя ад слёз.

— Хіба ты не чуў? Мой жа Сэлька злёг. Ужэ які дзень не падымаецца,— заплакала Сэльчыха, і горкія слёзы закапалі ў сявеньку з соладам.— Не паправіцца ён.

— Не дурыся, Матруна. Што ты пляцеш? — спалохаўся Карпей.

— Ды ўжэ ж бачу, што кажу,— выцерла заплаканыя вочы Сэльчыха і яшчэ мацней налягла на млён.

Карпей стаяў каля жорнаў, збянтэжаны нечаканай навіной, і раптам глянуў у сявеньку, з якой Сэльчыха жменькамі чэрпала прарошчанае жыта і засыпала ў жорны. Зярняты ў сявеньцы былі зморшчаныя, з двума вусікамі расткоў. Потым Сэльчыха выбірала муку з жорнаў, абмятала карыта гусіным пяром, і здавалася, што з адтуліны ў сявеньку сыплецца чорная мука. Праз дзён колькі Карпей быў на пахаванні, сядзеў за жалобным сталом, а ўваччу ўвесь час стаяла тая саламяная сявенька з соладам.

Пасля таго як памёр Сэлька, соладу Сэльчыха, здаецца, больш ні разу не малола: на руках у яе засталося трое малых дзяцей, дык трэба было і апрануць, і пракарміць іх, а не пускаць на глум жыта, якога мела не вельмі багата. А Панок, мусіць, пільнаваў Сэльчыху, бо калі на часе яна паказалася на вуліцы з жоўтай саламянай сявенькай, ён выскачыў з брамкі і пачаў лагодна прасіць:

— Чаго табе, Матруна, ісці да Карпея? Станавіся ў мае жорны ды мялі сабе. Я толькі што назубіў камяні.

— Ці не ўсё роўна, у чыіх жорнах малоць? — адмахнулася ад яго Сэльчыха.

— Прыходзь, Матруна. Цяпер жа я ад цябе гарцаў не буду браць.

Панок запыняў ля сваіх варот яшчэ і Ганну Тадорыну, і Броньку Петрусёву, гаварыў ім тое ж самае, але жанкі, як змовіўшыся, абміналі Панкоў дом. Ішлі да Карпея, і жорны тут то круціліся амаль бесперастанку, ад ранку да вечара, то надоўга сціхалі — у залежнасці ад таго, які запас зерня быў у сялянскіх засеках і паташоўках. Карпей радаваўся, што суседкі не ідуць да Панка, і стараўся добра глядзець свае жорны. Зубіў жараны, падбіваў кліны, каб лепш круціліся камяні, але не так ужо і лёгка

было цягаць млён, і тады Карпей надумаўся прыстасаваць шасцерні, каб круціць жорны корбай.

Ён схадзіў у МТС, выпрасіў у трактарыстаў патрэбныя жалязякі, а дома, прысеўшы каля жорнаў, доўга мудраваў, як бы лепш прыладзіць сваю механізацыю. Калі б жывы быў Сэлька, дык, канечне, той адразу даўмеўся б, што і як тут зрабіць. У Карпея ж з гэтай задумай нічога не выйшла. З прыкрасцю на сваю няздаласць ён закінуў корбу і дзве зубчаткі ў кут, а неўзабаве высветлілася, што яны і зусім не патрэбны. На калгасным двары ўстанавілі шатрак з электрычным маторам, каб на месцы драбіць жывёле фуражнае збожжа, і людзі, досыць хутка ацаніўшы выгоды тэхнікі, рынулі з млівам туды. Маторны шатрак не раўня, вядома, ручным жорнам. Тут не трэба пяцца, з усёй сілы налягаць на млён: высып зерне ў прыёмны бункер і чакай, калі гатовая мука напоўніць мяшэчак.

Карпей не горшы быў за сваіх суседзяў і, калі выпадала пільная патрэба, таксама хадзіў у шатрак, а ручныя жорны сіратліва стаялі ў сенцах, пакуль Алена не заўважыла, што тут яны здорава замінаюць. Карпей перацягнуў жорны пад паветку, і яны глівелі ў сырасці не адзін год, а гаспадару неяк і ў галаву не прыйшло, што драўляную раму даўно патачыў шашаль.

Гэтая яго безгаспадарчасць надта кідалася ў вочы цяпер, калі сонца высака паднялося над хатамі і затапіла святлом увесь панадворак, высушваючы на траве ранішнюю расу. Карпей стаяў каля жорнаў, трымаў на вісу сякеру, якую вынес з-пад паветкі, шкроб патыліцу і не мог падняць руку на крывыя, скасабочаныя жорны. Усё ж з імі трэба было нешта рабіць, каб яны не тырчэлі каля плота, і Карпей занёс над галавой руку з сякерай, і пляскаты абух ужо гатовы быў абрынуцца на жорны, але тут Карпей адчуў, што з вуліцы на яго нехта глядзіць. Ён падняў вочы і ўбачыў, што каля варотцаў стаіць старая Сэльчыха.

— Ну і як? Прывезлі хлеба? — апускаючы сякеру, спытаў Карпей.

— Прывезлі, дзве буханачкі купіла. А нашто мне дзве? Мусіць, ад зайздрасці — хлеб жа такі свежанькі, нават цёплы яшчэ.

— То і добра, калі свежы.

Сэльчыха не так сабе спынялася каля варотцаў: хацела, мусіць, нешта спытаць у Карпея, але забыла пра сваю думу і пайшла каля плота — сухенькая, сівая, з двума боханамі хлеба пад пахай. Карпей правёў яе вачыма,

зноў замахнуўся сякерай, і зноў яму перашкодзілі. На гэты раз у варотцах паказаўся Панок — адхіліў нагою брамку і, хмылячыся, ішоў да Карпея. Падышоў, паставіў на траву рыжую сумку з хлебам, глянуў на жорны і здзівіўся:

— Ты яшчэ не разбіў іх? А я думаў, што ад іх толькі камяні засталіся.

Карпей глядзеў на Панка і бачыў, што ён нечага хоча, а чаго — не мог здагадацца.

— Паспею. Тут і работы на пяць мінут,— сказаў Карпей і, перакінуўшы сякеру ў левую руку, папляваў на далонь.— Гэта ж табе не новыя жорны рабіць.

— Слухай, Карпей,— пачмыхаў у нос Панок.— Я ішоў з крамы і падумаў: ты от разаб'еш жорны, а камяні куды дзенеш? Выкінеш, напэўна?

— Выкіну, на халеру яны мне.

— От бачыш, не патрэбны яны табе,— зарадаваўся Панок.— Не выкідвай, лепш мне аддай. У маіх жорнах камяні даўно змалоліся. Верхні жарон дык зусім пляскаты, як блін.

— Бяры. Вунь ужэ адзін ляжыць,— паказаў на крапіву Карпей.— Бяры ды каці ў свой двор.

— Я табе за іх якую пяцёрку перакіну.

— Не трэба мне тваёй пяцёркі! — абурыўся Карпей.— Бяры от, пакуль даю.

— То я мігам... Толькі хлеб занясу.

Панок, радуючыся, амаль подбегам пайшоў з двара, і як толькі ён адышоўся, з сянец выглянула Алена:

— Карпей, а чаго гэты халернік да цябе ўнадзіўся? Так сабе ён не ходзіць да нас.

— Ведама чаго! Просіць, каб жараны я аддаў.

— Скулу яму ў бок, а не жараны! — чмыхнула Алена.— Бачыш ты! Трухлявы як пень, а яшчэ пра нешта думае.— Яна пакруціла галавой, дзівячыся з нахрапістага Панка, і сказала рашуча: — Аброны бог, не аддавай! От разбівай жорны ды ідзі снедаць.

Карпей разбіваў скрыпучыя, скрыўленыя жорны, сярдзіта грукаў сякерай, і яму сапраўды варта было спяшацца, бо ў хаце стыла на стале гарачая бульба, а каля хлява стаялі неакораныя жэрдкі — іх трэба абстругаць і залатаць плот, каб куры не залазілі ў агарод і не дратавалі гурочныя градкі, якія пасля нядаўніх цёплых дажджоў успучыліся жоўтым пахучым цветам.

# Славік на каламажцы

Аўтобус мог апазніцца, мог, наадварот, прыйсці вельмі зарана, і Пятрок Амельяновіч, пыхкаючы ад шпаркай хады, радаваўся, што паспеў на прыпынак у самы раз. У гэты перадвячэрні час шаша-камяніца была ціхая і пустэльная. Толькі зрэдку па ёй з мяккім шэлестам прабягуць адзінокія «Жыгулі» ды, вынырнуўшы з лагчыны за паваротам, праляціць, як страла, ашалелы матацыкліст.

Аўтобусны прыпынак зрабілі акурат пасярэдзіне спаховага пагорка, і адсюль у ясныя дні, калі даль не завалажана смугою, выразна відаць канцавыя хаты Малога Сяла. Блізенька зусім — вярсты дзве ці набярэцца, і, мусіць, з-за гэтай блізкасці, а больш верагодна з-за таго, што каля сотак старога Гупшынка палявы прасёлак упіраецца ў гразкую балацявіну-ператочыну, якая і летам высыхае не заўсёды, аўтобусы ў вёску спрадвек не хадзілі.

Маласельцы, калі выпадала пільная патрэба адлучыцца ў Ганцавічы ці яшчэ куды, усё ж марнавалі нямала часу, каб па лужынах і калдобінах, праз гнілую балацявіну выбрацца на шашу і там сесці ў аўтобус або проста прагаласаваць спадарожнай машыне. Для маладых ног нейкія дзве вярсты, канечне, не дарога, але такім пажылым людзям, як Пятрок, іншы раз цераз сілу хадзіць па бездаражы, асабліва вясною і ўвосень, калі сугліністы прасёлак раскісне, набрыняе вадою.

Ён, Пятрок, не лічыў сябе слабаком, нямоглым старым — адчуваў яшчэ і спрыт у руках, і сілу ў шырокіх плячах, і, безумоўна, ён адолеў бы хоць пяць, хоць дзесяць вёрст, у лівень і снегапад прыбег бы на шашу, таму што вячэрнім аўтобусам з далёкага Данбаса меўся прыехаць сын Славік з жонкай і маленькім Алёшкам. Унука дзед яшчэ ні разу не бачыў, а толькі па сынавых пісьмах ведаў, што жыве дзесьці на свеце непаседлівы і разумны — увесь у дзеда! — белагаловы хлопчык Алёшка.

Чакаць ужо нядоўга — вось-вось з лагчыны выкаціцца на пагорак запылены аўтобус, і Пятрок нават уявіў, як хопіць на рукі ўнучка, як прытуліць яго да грудзей і панясе дахаты, у Малое Сяло. Але аўтобуса ўсё няма і няма, шаша па-ранейшаму ціхая і бязлюдная. З нейкай прыкрасцю, пачынаючы ўжо непакоіцца, Пятрок азірнуўся вакол і ўбачыў, што стаіць каля драўлянай будкі, якую дарожнікі сумысна зрабілі, каб людзям было дзе хавацца ў

непагадзь. Ён зайшоў пад спаховую стрэшку, сеў на скрыпучую лаўку, перакапаўшыся, што адсюль таксама добра відаць шаша. Каб супакоіцца, крыху суняць трывогу, яму дужа патрэбен Алёшка, ну, канечне, і Славік з жонкай.

Сонца ўсё ніжэй апускаецца над полем, і Пятрок, унурыўшыся ў свае думкі, не заўважыў, што пачаў злавацца на сына. І як тут не злавацца, калі той, адцураўшыся роднай хаты, ужо ці не пяць гадоў дома вачэй не паказвае. Як паехаў вучыцца на шахцёра, то хіба толькі зрэдку кароценькім лістом пацешыць старых бацькоў: жыў, здароў, чаго і вам жадаю. Хоць, зрэшты, на Славіка гэта і падобна. Рос ён занадта маўклівы, ціхі і спакойны. Вучыўся сяк-так, у табун троек не часта заганяючы чацвёрку, а калі скончыў дзесяць класаў, то пайшоў рабіць у «Сельгастэхніку» слесарам. З Малога Сяла многія ездзілі на працу ў раённы цэнтр, і бацька не пярэчыў Славіку. Усё ж пры справе, не бадзяецца бесталку. Пятрок, адным словам, быў задаволены сынам і толькі пасля таго прыкрага выпадку пашкадаваў, што не ўзяў хлопца да сябе ў будаўнічую брыгаду. Ціхі і спакойны быў Славік, і хто б мог падумаць, што з-за маладой неразумнай галавы ён абняславіць родную хату, наробіць столькі сораму і сабе і бацькам.

Цяпер, за даўнасцю часу, багата чаго забылася, але галоўнае ўсё ж засталося ў памяці. Запомнілася ў першую чаргу, што здарылася гэта ў разгар лета, на пачатку жніўня, акурат праз месяц, як Славік згаварыў сабе месца ў райцэнтры. З калгаснага двара, дзе будавалі новы свінарнік, Пятрок у той дзень дахаты прыпёрся рана, перакусіў на скорую руку і выйшаў на двор, дзе яго чакалі безліч непаробленых спраў. Надоечы ён прывёз сасновых абрэзкаў з піларамы і скінуў у канцы плота, бо да хлява па вузкім праходзе машына не магла праехаць. Ужо колькі дзён куча драўляных аполкаў ляжала пад старым вязам, колючы гаспадару вочы, і, каб суседзі, чаго добрага, не падумалі, што ён несусветны гультай і лодыр, Пятрок узяў ручную каламажку і пачаў перавозіць абрэзкі пад павець. Грузіў як пацягнуць, цяжка ўпіраўся ў дышаль, вяртаючыся з дрывотні, пільна ўглядаўся ў канец вуліцы, дзе неўзабаве павінен быў паказацца Славік. Хлопец ён дужы, касцісты — удвух нічога не варта будзе пераправляваць усю гэтую кучу. Але не толькі сынава помач цешыла Петрака, была і іншая прычына для радасці: у Славіка сёння першая ў жыцці палучка, і бацька не мог дачакац-

ца, калі ён прынясе грошы. Вядома, якія яны ў маладога слесара, а ўсё ж не лішнімі будуць у гаспадарцы.

Здаецца, дужа і не шчыраваў Пятрок — часта прысаджваўся, перакурваў, не зводзячы вачэй з вясковай вуліцы, а куча абрэзкаў увачавідкі меншала. Сонца, гледзячы на такую гультайскую работу, таксама не спяшалася апускацца з неба. Чырвонае і бесклапотнае, яно заблыталася ў галлі густалістага вяза, павісла невысока над хлявом. Машына, якая кожны падвячорак прывозіць рабочых з Ганцавіч, напэўна, ужо прыйшла ў Шашкі, на аўтобусны прыпынак. Пятрок пачакаў яшчэ трохі, і сапраўды з-за канцавых хат Малога Сяла паказаўся чалавек. Але гэта быў не Славік. Па вуліцы чынна і спаважна цялепкаў пажылы ўжо мужчына Генік Танцаў, які быў у «Сельгастэхніцы» за кладаўшчыка. Унурыўшы галаў, паўз Петракову сядзібу следам прабег шафёр Юрак Струкачоў. Ён, як і Генік, мусіць, не заўважыў за высокім частаколам Петрака — прайшоў міма моўчкі, не павітаўся.

А вуліца не спяшалася пацешыць старога Амельяновіча: Славіка няма і няма. Ужо крыху па часе паўз шчарбатыя платы замільгала танклявая фігура Юлінага Івана — таксама з сельгастэхнікаўскай «лятучкі». Ён ішоў як не подбегам, не звярнуў увагі нават на дзяўчат, якія тоўпіліся каля клуба. Іван чамусьці пільна прыглядаўся на Петракоў панадворак, і гэта затурбавала, затрывожыла Петрака. Адчуваючы нешта нядобрае, ён выйшаў на вуліцу, насустрач суседскаму хлопцу, плечуком прыпёрся да шурпатага вяза.

— Дзядзька Пятрок, вы свайго Славіка чакаеце? — усхвалявана спытаў потны, расчырванелы Іван.— Дык не чакайце! Не прыйдзе ён, у Шашках ля канавы п'яны як гразь ляжыць.

Пятрок адчуў, як усяго яго, ад галавы да ног, быццам абліло кіпетнем, агнём загарэліся шчокі і вушы — ад вялікага сораму і ганьбы.

— Няўжо мой Славік? — не паверыў, пакінуўшы сабе нейкую надзею, Пятрок.— Мо там хто другі? Мо ты абмыліўся, хлопча?

— То хіба я вашага Славіка не ведаю. Ён! Вылезлі мы з «лятучкі», а Славік ужо ляжыць пад арэшынай.

— Хай бы ты падняў, як-небудзь дацягнуў бы.

— Не даў рады. Толькі грошы выняў. Думаю, залезе хто чужы ў кішэню, то да капейкі выграбе,— сказаў, вінавацячыся, Іван і падаў Петраку грошы.— Не ведаю,

колькі іх тут, не лічыў. А Славіка тузаў і так і гэтак, нават за вушы круціў — ляжыць, не падымаецца.

Пятрок запіхваў грошы ў кішэню штаноў, і рукі ў яго дробна-дробна дрыжэлі.

— З кім гэта ён, не ведаеш?

— Гоша ў іх брыгадзірам. Відаць, з ім. Гоша брандахлыст такі: навічка не прапусціць без абмыўкі.

Ясна было, што ў ціхую, спакойную хату прыйшла вялікая бяда, і, зусім аглушаны, збянтэжаны ёю, Пятрок бездапаможна азірнуўся. На нейкі момант яго позірк запыніўся на каламажцы, кінутай ля кучы абрэзкаў, і вушлы Іван адразу скеміў, пра што падумаў замаркочаны сусед.

— Дзядзька Пятрок, можа, падсабіць? Двум усё-такі лягчэй будзе.

— Хай ужо, адзін спраўлюся, а табе і так дзякуй.

Не ведаў Пятрок, ніколі нават не падумаў бы, што старая рыпучая каламажка на двух колах, з доўгім пашарпаным дышлем спатрэбіцца не толькі, каб траляваць гной на соткі, перавозіць абрэзкі, а часам прыцягнуць мяшок мукі з магазіна. Ах, Славік, Славік, у каго ты ўдаўся такі? Слабавольны, мяккі, спатыкнуўся на роўнай вярсце, ды так, што бацьку і свет нямілы. Рыпела коламі старая каламажка, бразгалі лёсткамі драбіны; Пятрок не помніў, як мінуў канцавыя хаты, праскочыў ператочыну каля Гупшынка, выбіўся на выбоісты прасёлак, адкуль ужо добра была відаць шаша, абсаджаная выгоністымі ліпамі і таполямі.

На аўтобусным прыпынку нечакана, як саломінка, за якую, топячыся, можна ўхапіцца, усплыла надзея: а што, калі Іван Юлін памыліўся? Добра было б, каб ён памыліўся. Але Славік, нягодны, п'яны Славік, быў тут. Згарнуўшыся ў абаранак, ляжаў ён далёка ад канавы, у глыбіні арэшніку — ці адпоўз сам, ці паспагадала чыясьці ласкавая душа, адцягнула ў кусты, каб не было відаць з шашы. Пятрок паднатужыўся і неяк дахітрыўся ўмясціць цыбатага Славіка ў кароценькую каламажку, падсунуў пад галаў згомтапы пінжак, і, пакуль бацька, уздыхаючы, валаводзіўся з сынам, той нават не варухнуўся, толькі адзін раз замармытаў у сне, скрыгітнуў зубамі. Крычаць, біць, караць Славіка цяпер без карысці, і, адчуваючы, як у грудзях гулка тахкае сэрца, Пятрок узяўся за дышаль.

Яму трэба было пачакаць, прынамсі, яму варта было пастаяць у кустах хвілін колькі, але Пятрок не ведаў, што па дарозе з мяшком пад пахай бяжыць Рэйда, суседка і

несусветная пляткарка, ён нічога гэтага не ведаў і, не спадзеючыся каго-небудзь сустрэць, смела выпхнуў каламажку з арэшніку, траха не збіўшы кабету з ног. Яны спалохаліся абое: Пятрок збялеў, як мел, а Рэйда ад нечаканасці ледзь не выпусціла мяшок — падхапіла ўжо на ляту і, разагнуўшыся, адразу ж пазнала свайго суседа.

— А-а, гэта ты, Пятрок? Пералякаў ты мяне — глядзі, каб не прыйшла выстрыгаць,— заўсміхалася ўзрадаваная Рэйда і, супакойваючыся пасля перапуду, сказала з дакорам: — Але ж і ногі ў цябе, сусед! Не раўнуючы, як у маладога выжла. Ад самага дому бягу, бягу і ніяк не ўганюся.

— А чаго ж ты мяне даганяеш? — забыўшы пра Славіка, пра сваю бяду, здзівіўся Пятрок.

— Як чаго? Я ж акурат пры акне сядзела, калі ты хапіў каламажку і наўскапыта паджгаў па вуліцы. Куды гэта, думаю? Выбегла на двор, а тут Іван Юлін ідзе. Пытаю: які скрут на Амельяновіча найшоў, не ведаеш? У Шашках, кажа, у магазін муку жытнюю прывезлі — поўную машыну. Ну, я хваць мяшок і следам за дзедам. Выбегла ў канец Сяла, а ты ўжо далёка за Гупшынкам махаешся.

— Кажаш, мукі захацела купіць?

— Ага, мукі — жытняй. Два кормнікі ў мяне, а хіба ж ад лебяды нарасце тое мяса? Думаю, каламажка ў цябе вялікая — і мой мяшок прытуліцца. Удваіх і везці было б лягчэй.— Толькі цяпер Рэйда апусціла вочы ўніз, мелькам зірнула на каламажку і аж квохнула ад прыкрасці: — А ты, бачу, паспеў ужо хапіць мяшок.— Але прыгледзелася лепш і з абурэннем папракнула Петрака: — Ці не збыткуеш ты з мяне, сусед? Хіба гэта мука? На каламажцы, па-мойму, твой Славік ляжыць.

— Ну, Славік, а табе што?

— Нічога мне, што мне? Напіўся, то хай спіць. Во як гарэлкай дыхціць.— Рэйда зморшчыла арэшак-носік, азірнулася і таямніча прашаптала: — А ты не бойся мяне. Я ж нікому не раскажу, што твой Славік...

— Ішла б ты сваёй дарогай, кабетка! — насупіў бровы Пятрок і, каб адчапіцца ад нахрапістай суседкі, паўтарыў чужую хлусню:— А муку і праўда ў Шашках прадаюць. Бяжы, пакуль крама не зачынілася.

— Бягу, бягу, а ты не турбуйся за мяне. Я ж ніколі нікому нічога!

Тоўстая і нізенькая, як ступа, Рэйда пакацілася цераз

брукаванку ў Шашкоўскую краму — цяпер, па-летнім раскладзе, сельскія магазіны рабілі да позняга вечара, а Пятрок, ушчэнт засмучаны гэтай непажаданай сустрэчай, з крыўдай і злосцю папхаў скрыпучую каламажку па няроўным, выбоістым прасёлку. Ужо і хавацца няма сэнсу, можна ісці смела, бо хто ж паверыць, што гэтая бязносая зводніца заўтра не раззвоніць па ўсёй вёсцы пра Славіка, пра яго, Петракову, ганьбу. У языкатай суседкі, вядома, было сваё імя — ці то Анэля, ці то Альбіна, але маласельцы інакш і не называлі яе — усё Рэйда ды Рэйда. Іш ты, два кормнікі! Пятрок надоечы бачыў на суседчыным панадворку худых, лычаватых падсвінкаў, і было дзіўна, што яны шукалі каля плота розныя былінкі, саломінкі, бралі ў зубы і насілі сабе ў хлеў,— мусіць, падсціналіся. З ранку да вечара цягаючыся па хатах, Рэйда не мела часу расстарацца падсцёлу, каб свінням было суха. І от павер такой бязглуздай: заўтра напляце пра Славіка мех і торбу, тым болей што мукі, канечне ж, сёння не купіць.

Петраку было крыўдна і горка, ён злаваўся на Рэйду і на скрыпучую каламажку, злаваўся на разбітую, калдобістую дарогу, але ён усё-такі шкадаваў свайго маладога пустадомка: асцярожна пераязджаў калдобіны, мінаў клыгі, каб Славік не лупіў галавою аб лёсткі. А сонца, як знарок, затрымалася над зубчыкамі лесу і пукатым чырвоным вокам глядзіць адтуль насмешліва і здзекліва. Хай бы хутчэй апусцілася ноч, хай бы хутчэй змрок шчыльна аблажыў дарогу. Тады можна было б смела ехаць цераз Малое Сяло. Пятрок бачыў перад сабою разбітую, раскалашмачаную машынамі ператочыну, меркаваў, як яе лацвей пераехаць, зірнуў на нізовіну, і яму раптам захацелася згінуць, зікнуць, праваліцца ў прорву. З таго боку лагчыны, каля свайго плота кешкаўся стары Гупшынак — мяняў збуцвелае шула, і ён, відаць, таксама ўжо заўважыў на дарозе чалавека з каламажкай, таму што выпрастаўся і, засланяючыся далонню ад сонца, пачаў угледацца цераз ператочыну. Неба, аднак, не пачула Петраковай малітвы, зямля не раскалолася, схавацца не было дзе, і ён, згараючы ад сораму, павярнуў каламажку дышлем уперад — цягнуць усё ж лягчэй, чым папіхаць, і марудна пабраўся па гразі. Вылез на сухое, праехаў яшчэ трошкі па грудку, стаў каля Гупшынкавага плота і, апраўдваючыся, кіўнуў на Славіка:

— Бачыш, якога бугая тарабаню. Апаілі дурня.

— Малыя дзеці — малы клопат, вялікія дзеці — вялікі

клопат,— разважліва сказаў Гупшынак, і Петраку спадабалася, што ў старэчых вачах няма ні насмешкі, ні зласлівасці.— Маладзёж цяперачы такая пайшла — сваім розумам хоча жыць, а розуму таго і не хапае.

— Гоша на рабоце Славіка звёў, брыгадзір. Кажуць, брандахлыст нейкі.

Стары Гупшынак няпэўна махнуў рукою, зірнуў на Петрака, убачыў на яго твары пакуту і шчыра, без кпіны параіў:

— Ведаеш што? Я от адгараджу прасла, а ты стань пад слівай за плотам. Сцямнее — тады і паедзеш. Вунь ужо і сонейка за лес зачапілася. Навошта табе, каб якая Рэйда бачыла? Зняславіць на ўвесь свет.

— Ды бачыла ўжо. Рэйда, хай на яе халера, акурат па дарозе ў Шашкі сустрэлася.

— Ну то і вуліцай не вязі,— жадаў дабра аднавяскоўцу стары Гупшынак.— Ты напрасткі, паўз ячмень, паўз платы едзь. Усё ж менш будуць бачыць.

— Як гэта я сам не даўмеўся? — зарадаваўся Пятрок.— Паўз ячмень яго, паўз ячмень, пустадомка!

Ён падзякаваў спагадліваму старому і, зноў павярнуўшы каламажку драбінамі ўперад, папхаў яе церад сабою. Шырокая лава яшчэ не зжатага ячменю пачыналася адразу за Гупшынкавым плотам. Прасёлак тут раздвойваўся: адна, шырокая, дарожка вяла на вясковую вуліцу, другая, вузейшая, бегла агародамі, паўз платы — позаду двароў. Сюдою намнога бліжэй — трэба толькі праехаць краем поля, мінуць старыя сажалкі, а там ужо і свая хата, ратунак ад вялікай няславы. Нейкі момант Пятрок пастаяў на раздарожжы, пазыбаўся, павагаўся ў нерашучасці: ехаць па вуліцы — там людзі, ехаць нацянькі — там разоры, бугры, камяні. Уварвеш рукі, запарышся, а ці яшчэ выпхнеш тую каламажку?

Ён усё ж павярнуў бы, відаць, на вузенькую дарожку, паехаў бы па разорах, але тут, як на тое, прачнуўся Славік: падняў галаву, няўцямна паўзіраўся на бацьку, нешта прамармытаў і зноў бездапаможна асунуўся на пінжак. Толькі адзін міг бачыў Пятрок сынавы вочы: пустыя, нежывыя, бяздумныя, але яго праняла жудасць, узяў страх — аж уздрыгнуў усім целам. Востра, балюча свядомасць апёк дакор: каго выгадаваў, каго пусціў на свет? Ці ж варта было гэтак патакаць сыну, каб сёння бачыць яго пустыя, халодныя вочы. Жах, які жах! І ён, бацька, яшчэ павінен туляцца па агародах, хаваць свайго пуста-

домка ад людзей — не, няхай бачаць, няхай смяюцца, няхай паказваюць пальцамі.

Сорам і крыўда, ганьба і гнеў — усё перамяшалася ў ім, і Пятрок, не помнячы сябе, крута выруліў каламажку на шырэйшую дарожку. Не адчуваючы сілы, пхаў і пхаў перад сабою Славіка і ўжо не зважаў, што сынава галава падскоквае, б'ецца патыліцай аб лёсткі. Пачаліся канцавыя хаты, і тут ён, спішаючы хаду, глянуў на адзін, на другі двор, з надзеяй азірнуўся на трэці. Божачкі, куды ж падзяваліся людзі? Ніхто не спяшаецца пабачыць яго, Петрукову, ганьбу, ніхто не хоча пасмяяцца з яго, пакпіць. Вуліца пустая, бязлюдная — як вымерла. Не бразне клямка, не стукне фортка, не рыпнуць весніцы. З абурэннем і нянавісцю Пятрок аглядаў пустую вуліцу, не верыў, што ў Малым Сяле перавяліся цікаўныя, дапытлівыя мужчыны і жанчыны. Мінуў яшчэ колькі маўклівых хат, і нарэшце, хоць раз за сённяшні дзень, яму пашанцавала. Уперадзе паказаўся магазін, ён быў яшчэ не зачынены, а галоўнае, чаго так хацеў Пятрок, там гаманілі людзі: хто прыйшоў нешта купіць, хто прыцягнуўся проста так, пакалякаць, а гаспадыні кожны падвячорак чакалі каля магазіна статак з пашы.

— Вось дзе яны! Не дзіва, што і вуліца пустая,— пад'язджаючы бліжэй, ледзь не весела сказаў Пятрок.— А ў мяне, людцы, радасць вялікая. Славік, сынок, першую палучку бацьку вязе.

— То і зарабіў жа добра, калі з каламажкай прыйшлося ехаць.

Жанкі, павярнуўшыся на голас, захіталі галовамі, завойкалі, заахалі, і кожная, напэўна, падумала, што на свеце яшчэ нямала сродкаў, каб дзеці слухаліся і не сарамацілі бацькоў.

— Лазіну вазьмі, Пятрок, лазіну! — сказала Куксачова Соня.— Ды па рэбрах, па рэбрах!

— Пад калодзесь вязі,— параіла Насця Заваротная.— У цэбар галавою, у цэбар!

— Дзе тая Стэфа? — азірнулася наўкол Юля Лявонава.— На яе месцы я Славіку ўсе вушы апалола б.

— Пятрок, можа, падаць што? — высунуўся з акна, пачуўшы шум, крамнік Веця Маргун.— Палечыш заўтра сынка.

— Дубінай палячу!

Пятрок зноў пхаў каламажку перад сабою, яму было брыдка, было сорамна адчуваць патыліцай спачувальныя,

а то і зласлівыя позіркі суседак, але ён не ўцякаў ад людзей,— наадварот, ён шукаў іх. Пятрок прыглядаўся ўздоўж вуліцы, спадзеючыся зноў каго-небудзь сустрэць, і тут яму яшчэ раз пашанцавала. У клубе, які быў ужо недалёка, акурат скончыўся вячэрні сеанс, дзверы расчыніліся, і на двор з жартамі і смехам пачалі вывальвацца хлопцы і дзяўчаты, паважна выходзілі пажылыя мужчыны і жанкі. Спачатку Пятрок зніякавеў, разгубіўся ад такой процьмы людзей, потым ён зусім недарэчы падумаў, што фільм, відаць, дужа цікавы, калі сабралася столькі народу. У Малое Сяло даўно ўжо не прывозілі нічога падобнага, і Петрака раптам узяў сверб прачытаць афішу, захацелася высветліць, што, урэшце, гэта за фільм такі, і ён рашуча звярнуў з тупкай сцежкі, падвёз Славіка пад самую сцяну клуба і, нічога не бачачы, утаропіўся на афішу.

Сонца ўжо зайшло, шэры змрок усё шчыльней уладней завалодваў наваколлем — крывыя чарнільныя літары расплываліся, мітусіліся ўваччу, але Пятрок упарта стаяў і разбіраў назву фільма. Людзі разбягаліся па хатах: адны са здзіўленнем глядзелі на Славіка ў каламажцы, адкрыта ўголас пасміхаліся, другія праходзілі міма, не рашаючыся што-небудзь сказаць. Апошняй з клуба выпырхнула шустрая чародка маладзенькіх дзяўчатак, бадай, Славікавых равесніц. Убачылі Петрака перад афішай, спыніліся здзіўленыя, а самая бойкая сярод іх — рыжая Верка, дачка Соні Куксачовай, аж усклікнула:

— Зінка, Гэлька! Дык гэта ж Славік у каламажцы!

— Ён, Славік,— пацвердзіла Зінка.

— Вось і выходзь за такога замуж,— фыркнула Гэлька.

Добра, што надыходзіў вечар, што шэры змрок усё шчыльней аблягаў зямлю і не было відаць, як Пятрок узмакрэў, увесь заліўся чырванню. Па вуліцы, падымаючы пыл, прайшлі каровы, пляц каля клуба апусцеў, тут нічога ўжо не заставалася рабіць. Каламажка зарыпела скрыпучымі коламі, праехала канаву, мінула Кутчышыну хату. Ад сажалак, якія цьмяна блішчалі на задворках, пацягнула сырасцю, блізка, каля Петруковай сялібы, залапатаў лістотай стары вяз, каля плота забялела куча сасновых абрэзкаў. Славік не прачнуўся, нават вухам не павёў, што яго, быццам якога пана, прытралялі пад самы парог. Злуючыся, Пятрок узяў сына на рукі, занёс на ложак, збольшага распрануў, а сам выйшаў на двор, дзе з

хлява даносіўся меладычны перазвон — Стэфа акурат даіла карову. Калі з поўнай дайніцай жонка паказалася ў варотцах, ён як бы з папрокам сказаў:

— Вунь я твайго Славіка ледзь жывога з Шашкоў на каламажцы прывалок.

— Што з ім? — жахнулася Стэфа і ледзь не выпусціла з рукі дайніцу.— Кажы хутчэй!

— Нажлукціўся з нейкім Гошам, брандахлыстам. Але ж і добра я Славіка правёз — паўз магазін, каля клуба. Хай бачаць людзі, хай смяюцца.

— Здурэў ты, ці што? — спалохалася Стэфа.— Не мог па задворках — паўз ячмень, адале — паўз сажалкі?

— Другі раз сама павязеш. Паўз ячмень, паўз сажалкі,— зазлаваў Пятрок і ўжо цішэй буркнуў: — Як піць даць у тваю радню пайшоў, чортаў сын. У дзядзьку твайго, у Язэпа, удаўся.

— У маю радню? А не ў тваю? О-го-го! Не мой жа, а твой родны брацік, Данілка, заліўшы бельмы, хлеў аднаго году спаліў.

Пятрок прыкусіў язык, моўчкі павярнуўся, пайшоў у хату і, нават не павячэраўшы, лёг спаць. Але спаў кепска, быццам на гарачых камянях: варочаўся з боку на бок, трашчаў спружынамі матраца, скрозь дрымоту чуў, як спрасонку стагнаў Славік, як усю ноч каля яго клапатала Стэфа. Раніцай яна загнала карову на пашу і, пакуль рабіць снеданне, пабегла па суседзях — не цярпелася ўведаць, ці багата чаго людзі гавораць пра яе байбуса. Славік ужо ачомаўся пасля ўчарашняга і, відаць, толькі чакаў, каб выйшла маці: падхапіўся з ложка, паматаў галавою, пачаў адзявацца. Са сваёй бакоўкі Пятрок бачыў, як сын корпаўся ў штанах, мацаўся ў кішэнях пінжака, але грошай, вядома, не знайшоў, вінавата зірнуў на бацькаў пакойчык і нішком цурыў з хаты.

Пятрок падняўся ўслед, стаў ля акна. Нават адсюль было відаць, што Славік ідзе прыгнечаны, нізка апусціўшы галаў. Славік уцякаў — уцякаў ад сваёй ганьбы і сораму, але, бядак, ён пакуль не ведаў, што яшчэ большая ганьба чакае яго ўперадзе. Па вуліцы, перад самым носам у Славіка, мільганулася жоўтай хусткай Рэйда: пастаяла ля адных весніц, сунулася ў другія, потым шмыгнула на Кутчышын панадворак. Доўга, аднак, не забавілася, выскачыла зноў на вуліцу, і тут — твар у твар — яны сустрэліся. Пятрок не ведаў, што расказала пляткарка Славіку, але бачыў, як сын горбіўся, схіляўся ўсё ніжэй, як раптам

узмахнуў рукамі, быццам адпіхнуў Рэйду ад сябе, і, не азіраючыся, пабег па роснай траве, уздоўж сажалак, міма платоў, паўз сцяну жоўтага даспелага ячменю. Пятрок ледзь не вынес галавою акно, зарагатаў голасна, на ўсю хату:

— Ага, даскуляла, дапякло! То-та ж, бацькава навука!

Вечарам, як і меркаваў Пятрок, каламажка Славіку не спатрэбілася: прыйшоў сам, ціхі, вінаваты, і аж дацямна падсабляў бацьку перавозіць на дрывотню сасновыя абрэзкі. Пятрок толькі пасмейваўся, гледзячы, як стараецца сын, бярэ аж цераз сілу, але маўчаў, не казаў ні слова. А што тут скажаш? Добры ён, Пятрок, лекар, добры! Славіку з таго дня як сто баб адшаптала: баяўся на пляшку нават глянуць, ніякае дружбы з тым брандахлыстам Гошам болей не вадзіў. Праўда, яшчэ доўга на работу і з работы Славік хадзіў нацянькі — паўз сажалкі, чужымі задворкамі. Даўно зжалі ячмень, па-новаму ўзаралі і засеялі поле, а ён усё хадзіў вузенькай сцяжынкай, саромеючыся трапіць на вочы людзям. Сцежка яшчэ нішто, а як маладому хлопцу было ўседзець дома, калі зусім блізка клуб аж разрываўся ад музыкі і танцаў? Славік трываў, трываў і перад самымі ўжо халадамі, калі, здавалася, усе забылі пра яго ганьбу, сабраўся і пайшоў у клуб. Дзяўчаты здзіўлена пераглянуліся, заўсміхаліся, а рыжая куслівая Верка, падміргнуўшы сяброўкам, нявінна спытала:

— Славік, а на чым ты прыехаў? На «Жыгулях»? На тых, што з дышлем?

І скажы ты: надоўга, як смала, прыліпла да хлопца мянушка: Славік на каламажцы, Славік падвязі! Чырванеў бядак, не ведаў, куды схаваць вочы. Але калі па часе ён наважыўся ехаць у Данбас, тая ж языкатая рыжая Верка сумавала больш за ўсіх. Вядома, не яе куслівы язык, не тая скрыпучая каламажка сталі прычынай таго, што Славік з'ехаў з дому, адцураўся роднага кутка. Нічога не зробіш: час такі, сёння ўвесь свет на колах, а Славік хіба горшы за іншых? Адслужыў у войску і таксама паехаў з дому. І знайшоў, няма чаго крыўдаваць: скончыў горны тэхнікум, робіць электрыкам на шахце, мае сваю сям'ю, добрую кватэру. А Петраку яшчэ адна радасць — тэлеграма: сустракайце, тата, едзем з Алёшкам!

Хай бачаць людзі, хай ведае ўнучак — ён, Пятрок Амельяновіч, слаўны, клапатлівы дзед. Бягом прыбег на шашу і сядзіць, чакае не дачакаецца дарагога Алёшку. А ён, малы шэльма, напэўна, ужо зусім блізка: вунь за

тою лагчынай, вунь за тым паваротам, дзе над густымі прысадамі светла ўсміхаецца сонца. Неўзабаве адтуль даляцеў гул, шаша пачала ўздрыгваць. Яшчэ хвіліна, і з лагчыны на пагорак выскачыў аўтобус з вялікімі запыленымі вокнамі. Пятрок падхапіўся, пабег насустрач і ўжо на хаду закасаў рукаў пінжака, глянуў на гадзіннік — глянуў і чамусьці засмяяўся: аўтобус не апазніўся, не паспяшаўся — прыйшоў, як і трэба яму было, роўна а сёмай гадзіне.



# Валуны цераз вуліцу

## 1

Шырокім нажом бульдозера Вася Рылка раўняе вуліцу: дзе счэша земляны горб, дзе засыпле гразкую калюжыну, дзе пад корань вынішчыць зараснікі бур'яну. Каля платоў, у густым бур'яне, трапляюцца крушні, і тады нож бульдозера скрыгоча, рассоўваючы па баках зляжалыя груды камянёў. Вялікія валуны Рылка спіхвае на абочыну: пазней прыйдзе цягач і вывезе іх куды-небудзь за ваколіцу.

У канцы вуліцы, каля крайніх хат, хутаючыся ў воблакам пылу, нечакана паказваецца чырвоны матацыкл. Едзе дарожны майстар Толік Праходскі. Белы шлем прывязаны да руля, а жоўтыя валасы на галаве майстра растрапаліся ад хуткай язды. Матацыкл параўняўся з бульдозерам і прыпыніўся. Праходскі, не злазячы з сядзення, памахаў рукой, што, відаць, азначала: трэба выйсці з кабіны і выслухаць нейкі новы загад.

— Вось што, Васіль,— распарадзіўся майстар, калі па бліскучай гусеніцы Рылка спусціўся на зямлю.— Як хочаш, а вуліцу да вечара трэба спрафіліраваць. Асфальтаўкладчыкі падганяюць.

— Буду старацца,— развёў рукамі Рылка.— Толькі не ведаю, ці спраўлюся? Хіба каб дацямна парабіць?

— А чаму ж і не! — ажывіўся Праходскі.— Нічога не станецца, калі і пераначуеш тут. Здаецца ж, Бярозаўка — твая вёска?

— Мая... Да жаніцьбы я жыў у Бярозаўцы.

— Вось і добра. Пераначаваць будзе ў каго.

Чырвоны матацыкл, віхляючы паміж гранітных глыб, пакаціўся па зруйнаванай вясковай вуліцы. Над платамі, над бур'яном і чартапалохам зноў курыцца пыл. Ён забіваецца ў кабіну бульдозера — асядае на потных руках, скрыпіць на зубах. Ці ж пойдзе калі на спад д'ябальская спякота? Але, на шчасце, сонца ўжо нізка схілілася над вёскай, і бульдозер нарэшце прыпоўз да канцавых хат.

— Эге ж! — прысвіснуў Рылка, спыняючы бульдозер.— Будзе мне тут марокі!

Абапал вуліцы ляжаць два сівыя, замшэлыя валуны. Яны такія вялікія, што няма, здаецца, сілы, якая вывернула б іх з зямлі. Рылку раптам працінае хваляванне. Ён з маленства помніў гэтыя абветраныя, патрэсканыя валуны.

## 2

Вунь той гарбаты камень, што ляжыць з левага боку вуліцы, калісьці, пакуль не аброс мохам, сваёй прыгажосцю славіўся на ўсю Бярозаўку. У шэры граніт былі ўкраплены бліскучыя пласцінкі слюды, серабрыстыя зярняты кварцу, і таму валун ззяў на сонцы, як царскі трон. Летнімі падвячоркамі на ім любіў сядзець шчуплы і смяшлівы Сцяпан Аліфер. І гэта была найвышэйшая несправядлівасць, таму што толькі Тафіля — і сваёй паставай, і голасам, і мажнай фігурай — магла прэтэндаваць на такое пачэснае месца.

У Тафілі быў свой валун. Ляжаў ён цераз вуліцу, якраз насупраць старэнькай хаты. Адзін смех, а не камень: пляскаты, як стол, шэры, без бліскучых крапін слюды і кварцу — звычайны палявы валун. Але Тафіля не зайздросціла суседу: што бог паслаў, тое і добра.

Цёплым падвячоркам Аліфер першым выходзіў на вуліцу, закурваў люльку і ледзь не з нагамі залазіў на свой «царскі» трон. Сядзеў, думаў і раз-пораз паглядваў на Тафілін двор. Тафіля ў гэты час сама што завіхалася па гаспадарцы. Бразгала вёдрамі, давала есці свінням, а потым бегла па ваду ў калодзеж, які быў выкапаны каля Аліферавага валуна.

— Добры дзень, Тафілька! — аклікаў яе Аліфер, думаючы, што Тафіля пройдзе і не прывітаецца.— Як жывеш? Як здароўе?

Тафіля спынялася каля калодзежа, ставіла вядро на край старога, збуцвелага карыта. Як і заўсёды, Тафіля была расчулена такой увагай, твар яе расплыўся ў шчаслівай усмешцы.

— Анічога маюся. Дзякуй на добрым слове! А ты як?

— Ды так сабе. Было прыхварэў, то яшчэ і сёння хрып у грудзях.

— Прастудзіўся, мабыць,— паспачувала Тафіля.— Трэба чай ліповы піць.

Рыпеў калодзежны журавель, гулка бразгала вядро аб струхлелыя сценкі зруба. Тафіля выліла ваду і нечакана паскардзілася:

— Зноў пяску начэрпала. От каб хто пачысціў калодзесь, а то крынічка чвырам забілася.

— І тын пара замяніць,— у тон ён азваўся Аліфер.— Як ачуняю, то і склічу талаку.

Чысцілі калодзеж гуртам, усёй вуліцай. Але здарылася гэта пры некалькі незвычайных абставінах. Сцяпан Аліфер і Тафіля аднойчы як бы памяняліся месцамі. Тафіля сядзела на сваім пляскатым камені, а па ваду, з люлькай у зубах, выйшаў Аліфер. Ён чэрпаў ваду, грымеў коваратам, а Тафіля — ціпун ёй на язык! — узяла ды паздароўкалася:

— Дзень добры, Сцяпанка!

— Дзень добры, Тафілька!

І люлька — прыгожая, з меднымі абадкамі на муштуку — выпала з зубоў Аліфера, булькнула ў калодзеж. Глыбока ўнізе пачуўся глухі ўсплёск.

— Ах ты, жарабіца скалазубая!

Сцяпан Аліфер ускіпеў ад гневу, кінуўшы вядро, папраставаў цераз вуліцу, каб пакараць дзябёлую суседку, якая не ў час распусціла язык. Але на камені Тафілі ўжо не было. Адбегшыся на свой панадворак, яна баязліва выглядвала з-за вугла.

— Далібог, не хацела я! — прасіла літасці Тафіля.— Каб мне язык апух, калі я думала благое.

— Ідзі і даставай люльку,— пырскаў слінай Аліфер.— Як хочаш, так і даставай.

Тафіля не адважвалася сварыцца з Аліферам, помнячы, на якім баку вуліцы стаіць калодзеж. Хапіла хустку на плечы, пабегла ўздоўж платоў, і з суседскіх двароў,

дзе на момант знікала тая чырвоная хустка, смеючыся, выходзілі мужчыны. Бярозаўка прывыкла бачыць старога Аліфера з вялікай люлькай у зубах, Бярозаўка не жадала, каб ён маркоціўся без гэтай уцехі.

— Ай ды Тафіля! — браў смех мужчын.— Трэба ж так!

І вось ужо зарыпеў журавель, нехта спусціўся ў калодзеж, пачаў падаваць наверх вёдры з каламутнай вадой. Каля студні разлілася шырокая лужына, вырасла куча жоўтага жвіру, выцягнутага з дна калодзежа.

— Знайшоў!

Люльку, быццам які самародак, вынялі з вядра. Аліфер ледзь не плакаў ад радасці і ўжо гатоў быў дараваць суседцы, але апошнія дні ніхто не бачыў яе на камені. Пасядзеўшы ў адзіноце на сваім валуне, Аліфер пачаў непакоіцца. Яму ўжо не хапала суседкі, яму было сумна, а Тафіля не выходзіла з хаты, час ад часу выглядваючы з акна. І цярпенне ў Аліфера лопнула. Як толькі ў акне насупраць зноў варухнулася фіранка, ён, захваляваўшыся, крыкнуў:

— Тафіля, выйдзі на вуліцу. Мірыцца будзем.

Тафіля, здавалася, толькі і чакала гэтага знаку, каб заняць сваё законнае месца на пляскатым камені.

— Клікаў, Сцяпанка? — голас у яе ціхі, вінаваты.— Ці мо падалося мне?

— Канечне, клікаў,— заварушыўся неспакойна Аліфер.— Сумна нешта стала. Ты ўжэ, Тафілька, даруй мне.

— Гэта ты мне даруй. Я ж усё нарабіла.

— Забудзь, Тафілька,— ласкава сказаў Аліфер.— Нават і добра, што так выйшла. Хоць калодзесь пачысцілі.

Нядаўнія ворагі сядзелі на сваіх валунах такія добрыя, такія лагодныя, што, здавалася, пасля гэтага яны больш ніколі не пасварацца. Тафіля і Аліфер пагаварылі пра вясковыя навіны, заўтрашнюю пагоду. А час ужо быў не ранні: сонца хавалася за лесам, на балоце закрумкалі жабы. Каля калгаснага клуба жаласна запілікаў гармонік. Аліфер прыслухаўся, і ў старэчых прыжмураных вачах заскакалі вясёлыя маладыя чорцікі.

— Ну, што за моладзь пайшла? — скрывіліся ў пагардзе яго губы.— Нават граць не ўмеюць. От мы, бывала!

— Так-так, Сцяпанка! У нас талкавей выходзіла.

— Я ж добра помню нашы гулянкі,— заблазнаваў Аліфер.— І цябе помню, Тафілька. От дзеўка была — румяная, сакавітая!

— Нявеж праўда, Сцяпанка? — не паверыла Тафіля і, здаецца, падрасла на камені.

— Была, была! Ну, няўжэ не помніш, як мы на сенажаці мурог заграбалі?

— Помню, Сцяпанка.

— А як сена ў копы насілі?

— Помню, Сцяпанка.

— А помніш, якое там салодкае сена было?

Тафіля раптам падхапілася з каменя, пачырванела, асмыкнула спадніцу і спалохана зыркнула па баках — ці няма каго побач?

— Што ты сказ-з-заў?

— Як што? Пра тое ж самае — пра сена салодкае... А ты плакала пасля, каб замуж браў.

— Дурны ты, Аліфер! Гэта ж плешча такое,— зазлавала Тафіля.— Дурны як бот. Нехта падумае, што і праўда.

— Гы-гы! Я і сёння яшчэ магу насіць сена. Чуеш, Тафіля?

— Ах ты, псюк гнілы! З цябе ж парахно сыплецца.

Стары Аліфер папярхнуўся смехам, перастаў блазнаваць, бо ў Тафіліных параўнаннях не ўсё яму спадабалася. Падхапіўся з валуна, растаптаў ботамі жоўтыя галоўкі рамонкаў, якія кучамі раслі вакол каменя, плюнуў з прыкрасцю і абурэннем.

— Калі я, па-твойму, бот, дык хто ж ты, Тафілька? Ага! Лапаць з левай нагі. Во хто ты!

— Хай сабе і лапаць,— аж пабялела Тафіля.— А ты хлус! Гэта ж выдумаць такое. І свет не бачыў, і людзі не чулі.— На ўсякі выпадак яна адступіла ў брамку, грукнула зашчапкай.— Пустадомак ты! Мо забыў, як у калгас не хацеў пісацца?

На Аліфера быццам трасца напала — тупнуў нагой, запырскаўся слінай.

— Бо дурань быў. Напачатку не ўшалопаў, што да чаго, а як ушалопаў, то і каня, і калёсы завёў на вобчы двор. А ты што завяла? Ага, маўчыш? Галадранка, от хто ты! Памяло! У цябе ж рот большы быў за твой хутар...

Такой абразы Тафіля ўжо не магла стрываць, але і сварыцца з Аліферам было рызыкоўна. Тафіля са злосці трасянула брамку, схавалася ў сенцах. Там пачуўся грукат, моцна бразнулі дзверы.

Стары, адзінокі Аліфер, затаіўшы крыўду на Тафілю, колькі дзён наогул не выходзіў з двара, і два валуны, адзін — шыкоўны, бліскучы, як царскі трон, другі — ня-

зграбны, шэры і пляскаты, доўга пуставалі абапал вуліцы.

Тафіля таксама мела свой гонар: бяжыць па ваду, дык нават і не гляне на вокны самотнай Аліферавай хаты.

## 3

У той час, калі тут, у канцы вёскі, ціха жылі, ціха варагавалі і потым гэтак жа непрыкметна мірыліся Тафіля і стары Аліфер, Вася Рылка хадзіў у школу, гойсаў з хаўруснікамі па вуліцы, не забываючы наглядваць, ці не пустуюць два валуны наводшыбе Бярозаўкі? Стары Аліфер і Тафіля былі яго хроснымі бацькамі, і ў тыя дні, калі валуны пуставалі, Вася хадзіў у госці. Малы падшыванец ад гэтых сварак меў пэўную выгаду.

Найпершым чынам ён заходзіў да Тафілі, і яна намазвала маслам скібку сітніцы, совала ў рукі, выпраўляючы Васю на вуліцу. З-за калодзежа, кешкаючыся на градцы тытуню, Аліфер бачыў, што хрэснік бегае па двары з не абы-якім пачастункам, і гэта Аліфера дужа нервавала. У сваю чаргу, ён клікаў хітрага Васю да сябе і намазваў лусту яшчэ таўсцейшую: каб тая лупатая Тафіля бачыла, што і ён, Аліфер, не горш за яе любіць і шануе дзяцей.

— Еш, рыбка,— прасіў Аліфер і таксама выпраўляў Васю на вуліцу.— Хай гэтая зводніца пазлуецца.

Тафіля паліла ў печы, тупала па хаце, і здаралася так, што кожны раз яна выглядвала праз фіранку, калі Вася выходзіў ад ненавіснага суседа з яшчэ таўсцейшай скібкай сітніцы, чым давала яна. Гэтага нельга было даравацъ Аліферу. І праз момант Вася зноў ужо быў у Тафілі, мачаў хлебам у кучку цукру на стале.

— Еш, Васёк! Я і больш пасыплю,— казала Тафіля. Стаяла каля стала, глядзела, як Вася есць, і мімалётная зайздрасць у яе прыходзіла.— Нябось, у таго старога казла цукеру і на хваробу няма.— І Тафіля горасна ўздыхала.

Аліфер і Тафіля, замаркоціўшыся ў адзіноце, пачыналі шукаць якой-небудзь злагады. Яны мірыліся, і тады Вася адыходзіў на другі план. Суседзі, забыўшы пра яго, зноў сядзелі на сваіх валунах, размаўлялі, а над імі плылі аблокі, чырвоныя ад вячэрняга сонца, над блізкім балотцам пад камарыны звон слаўся белы кужалёвы туман.

— Слаўная пагодка стаіць! — пхаючы ў люльку тытунь, казаў Аліфер.

— І туман нізка сцелецца,— радавалася Тафіля.— Грыбы пойдуць расці. Як камарна, то і грыбно.

У адзін з такіх вечароў Тафіля сядзела маўклівая і самотная. Нейк вінавата глядзела на Аліфера і не рашалася выказаць яму свой пякучы, тужлівы боль. Усё ж адважылася, расказала, што назаўсёды едзе да малодшай дачкі, і Аліфер ад нечаканасці аж падскочыў на сваім бліскучым валуне.

— А калі ж ты едзеш?

— Скора, мо на тым тыдні. Дзіцёнак у яе знайшоўся. А сама Гэлька здароўя не мае. Вось і паеду. Буду глядзець абаіх — і яе, і дзіцёнка.

— Раз так, то трэба ехаць,— уздыхнуў Аліфер, і ў яго вачах бліснулі слёзы.— Хто Гэльцы паможа, як не маці?

Развіталіся яны доўга і так сардэчна, як быццам разумелі, што больш ніколі не сустрэнуцца. Тафіля ў адной руцэ трымала авоську, а другой выцірала чырвоныя, заплаканыя вочы. Аліфер стаяў побач, пасярод вуліцы, і голас яго таксама здрадліва дрыжэў:

— То едзеш, Тафілька?

— Еду, Сцяпанка,— вінавата ўсміхнулася Тафіля. Пастаяла, памаўчала і выціснула скрозь слёзы: — Як жа ты цяпер будзеш? Нікога ў цябе няма — адзін, як пуп.

— Э, пражыву як-небудзь,— паспрабаваў пажартаваць Аліфер.— Забавіўся я на гэтым свеце. Трэба да сваёй Ганулі перабірацца. Заждалася яна мяне.

— Не пляці дурное! Табе яшчэ жыць ды жыць.— Тафіля крута павярнулася і ўжо на хаду сказала: — Ну то бывай, Сцяпанка.

— Бывай, Тафілька!

Пасля Тафілінага ад'езду стары Аліфер вечарамі сядзеў каля калодзежа адзін, маркоціўся, пакутаваў. Ён увачавідкі пастарэў, згорбіўся, вясёлыя іскрынкі ў вачах патухлі, і толькі люлька была ранейшая — цяжкая, грувасткая, з меднымі абадкамі на муштуку. Валун на другім баку вуліцы пуставаў. Перад ад'ездам Тафіля прадала хату, а новая, маладжавая гаспадыня не магла ацаніць усе вартасці нязграбнага пляскатага каменя, які дастаўся ёй ад Тафілі.

— Гэта ж, бач, як павярнулася,— уздыхаў Аліфер і клікаў да сябе Васю.— Пасядзі каля мяне, рыбка. Раскажы, як у школе вучышся?

— Добра вучуся. Толькі па спевах у мяне тройка.

— Не бяды, калі па спевах,— пагладзіў Аліфер Васю.— Чалавек родзіцца не толькі для таго, каб спяваць.

Прайшоў яшчэ год ці два, і неспадзявана апусцеў

і другі валун — шыкоўны, з бліскучымі крапінамі слюды і кварцу. Сцяпан Аліфер халоднай восенню прастудзіўся, захварэў і ціха развітаўся з гэтым светам. Яно і не дзіўна: у той час Аліферу на восьмы дзесятак павярнула. Вокны яго хаты забілі дошкамі, і нехта напісаў Тафілі пра яе суседа, але неўзабаве і адтуль прыйшла сумная вестка: няма ўжо і Тафілі.

Вася скончыў школу, пайшоў у войска, адслужыў. А два вялізныя валуны па-ранейшаму ляжалі цераз вуліцу. Толькі не было ўжо каму сядзець на іх. Старая Аліферава хата стаяла з забітымі вокнамі, пакуль зусім не згніла, і тады яе разабралі на апал.

## 4

...Вася Рылка вылез з кабіны бульдозера і стаіць ля валуна, на якім калісьці сядзела цётка Тафіля. Камень зарос сівым мохам, наўкруг падняліся быльнік і густая крапіва. У бур'яне і Аліфераў валун, што з другога боку вуліцы. Пры самай сцежцы з вясны там цвілі рамонкі. Цяпер каля каменя рыжэюць іх пажухлыя, сухія галоўкі.



# Пенсія

На стале, каля радыёпрыёмніка, завязаныя ў паркалёвую хустачку, ляжалі грошы. Скамечаныя рублі і траячкі, сінія пяцёркі і важны, як туз, чырвонец, здавалася, кусаліся, апякалі старэчыя пальцы, і Міхаліна кожны раз, не паспеўшы развязаць вузельчык, хуценька адхватвала руку. Грошай было багата — ледзь не паўсотні, і палічаны яны ўжо вельмі шчыгульна, але старой усё не верылася, што гэта, можна сказаць, прышлыя, амаль дармавыя грошы і што так цяпер будзе заўсёды, кожны месяц. Можна ўжо нават не хадзіць на работу — палоць буракі, рачкаваць у кукурузе, капаць бульбу, а паштальёнка акуратна — цот у цот — будзе насіць у хату пенсію. Ледзь стрымліваючы радасць і хваляванне, Міхаліна глядзела на ёмкі скрутачак, і ёй, узрушанай і спалоханай, сапраўды

здавалася, што дармовыя грошы балюча ўкусяць, апякуць пальцы, як толькі яна зноў развяжа хустачку.

Раніцай, як заўсёды, Міхаліна падаіла Зязюлю, зағнала ў чараду, працадзіла малако і толькі пачала распальваць у печы, як у дзверы нехта пагрукаў. Адчыніла і здзівілася: на парозе стаяла ружоваршчокая Райка Іванчукова, паштальёнка.

— Цётка Міхаліна, я вам пенсію прынесла,— вінавата, як апраўдваючыся, сказала дзяўчына.— Даруйце, трэба было ўчора, але ж, ведаеце, такі дождж ліў — з хаты носа не высунуць.

— Столькі тае бяды — учора, сёння,— супакоіла паштальёнку гаспадыня.— Я ж нават і не ведала нічога.

Райка адлічыла колькі трэба грошай, паклала з беражка стала і падала Міхаліне ручку:

— Распішыцеся во тутачкі.

Нязграбныя пальцы не прывыклі трымаць такую далікатную рэч, як звычайная вучнёўская ручка, але Міхаліна сабралася з духам і досыць спрытна, як падалося самой вывела на разлінаваным лістку нейкія крывулькі літар.

— Дзякуй, дзетачка!

— Спажывайце на здароўечка!

Райка перакінула цераз плячо важкую брызентавую сумку, развіталася і пайшла з хаты. Які момант Міхаліна нерашуча пастаяла ў роздуме, потым борздзенька зыбнулася да стала, ужо ў парозе дагнала паштарку, сунула ў руку скамечаную паперку.

— Вазьмі от рубель на абыходак. Адзікалону купіш. Радасць жа сёння такая!..

— Цётачка, даражэнькая, не трэба мне ваш рубель,— засаромелася Райка і адвяла руку.

— Не хочаш — не трэба, сільнічаць не буду,— пакрыўдзілася Міхаліна.

— Цётачка, дык мяне ж за хабар з работы прагоняць.

Паштальёнка шмыгнула ў дзверы, а Міхаліна вярнулася да стала, з нейкай унутранай бояззю пералічыла грошы, якія быццам з неба ўпалі, завязала ў паркалёвую хустачку, затым паставіла ў печ варыцца і сваё, і свіное, сама ж прысела на ўслончыку ля акна і, гледзячы на вуліцу, пачала чакаць малаказборшчыка Ігната Русакевіча. Кожнае раніцы ён аб'язджае на Буланчыку вясковыя двары, і гаспадыні выносяць яму — хто ў слоіку, хто ў вядзерцы — «лішкі малака», як пішуць у газеце. Воз і сёння марудна сунецца пасярод вуліцы, а Русакевіч,

прымасціўшыся на пустым бітоне, зыркае па баках, каб не прамінуць чый-небудзь двор. Вось ён праехаў паўз Тадорчыну хату, мінуў калодзеж. Каля Міхалінінай брамкі Русакевіч спыніў фурманку і крыкнуў зычным голасам:

— Міхаліна!

Але гэты вусач мог і не крычаць на ўсю вуліцу, таму што Міхаліна ўжо і сама выходзіла з хаты, трымаючы ў руцэ чысценькае ацынкаванае вядзерца. Пераліла малако ў бітон, пачакала, каб прыёмшчык запісаў і яе «літры» ў скамечаны сшытак. Русакевіч запісаў, ляснуў вечкам бітона і нечакана пахваліў:

— Добрае ў цябе малако, кабета! Не сіняе, як у некаторых.

— Сіняе? Бо ваду падліваюць. А ў мяне малако прама ад кароўкі,— заружовелася ад пахвалы Міхаліна.— Каго тут абхітрыш? — і параіла: — Не прымай, калі сіняе...

— Я і не прымаю. Во і сёння Нюрку Дземкаву ад воза турнуў. Карова ў цябе вадою доіцца, ці што? — пытаю. Пайшла галубіца, нават не азірнулася.

— Грэх вялікі малако разбаўляць,— павучальна сказала Міхаліна і сама не заўважыла, як з языка сарвалася: — А мне пенсію толькі што прынесла Райка Іванчукова. І кожан месяц цяпер будзе насіць.

— Пенсію? О, гэта добрае дзела! — парадаваўся за Міхаліну вусаты Русакевіч.— Можна ўжо і на работу не хадзіць. Спі сабе, колькі ўлезе, каб лой на пупе завязваўся.

— Што ты, Ігнат! Смяяцца пачнуць, калі буду гультайнічаць.

— Дзівачка! Хто будзе смяяцца? Заслужыла воддых, і ўсё тут. Лічы, усе гады пасля вайны на такіх, як ты ды Тадорка Барысава, калгас пратрымаўся. Рабіў брыгадзірам, то ведаю.

Калі Ігнат Русакевіч паехаў, Міхаліна вярнулася ў хату і, перастаўляючы ў печы гаршкі і варывам, задумалася: а мо і праўду кажа Русакевіч? Не варта ёй сёння перціся на поле палоць буракі. Хто яе папракне, што якую гадзінку паляжыць на ложку? Хай ужо Тадорка шчыруе на сваёй дзялцы: маладая яшчэ, мо адно цераз лета прыдбае пенсію. А наогул, Міхаліна не ўмела гультаяваць і не ведала, як гэта робіцца. Праўда, у яе ёсць фабрычны ложак, ёсць падушка з гусінага пер'я, ёсць вярблюджая коўдра, і — шчаслівая, супакоеная — Міхаліна, не зняўшы адзежу, гопнулася ў мяккую, яшчэ цёплую пасля ночы пасцель. Пакуль прапаліцца ў печы, можна

папесціцца, даць палёгку навярэджанаму целу, можна, урэшце, проста паляжаць, ні аб чым не думаючы. І Міхаліна лягла на правы бок, тварам да сцяны, паляжала трохі — не спадабалася шэрая, вышмальцаваная сцяна, павярнулася на левы бок — у вочы з акна сляпуча біла сонца, яна лягла на спіну і пачала глядзець на белую, з жоўтымі разводамі ад нягашанай вапны столь.

У печы гуло полымя, у шыбіну шкраблася галінкамі старая яблыня, на двары апантана гарлаў певень, а Міхаліна дрыхнула ў мяккай пасцелі, гультаявала, песціла спакоем і лагодай парэпаныя рукі, гузаватыя ад раматусу ногі. Ляжала так доўга ці мала ў нейкім замарачэнні і незразумелым здранцвенні, як раптам ёй падалося, прымроілася, што ляжыць яна на ложку не адна — пад вярблюджай коўдрай, галава да галавы, суседзяцца дзве зусім розныя, непадобныя жанчыны. Адна — сытая, распешчаная пані, другая — звычайная сялянка з чорнымі, патрэсканымі пальцамі ад цяжкай працы. Пані хацелася спаць — і ўвесь дзень, і ўсю ноч, сялянцы хацелася хутчэй выпаліць у печы і бегчы на поле — палоць буракі, жаць жыта, капаць бульбу. Пані з пагардай глядзела на прыгорбленую старую сялянку, сялянка проста ненавідзела сытую, разбэшчаную пані. Яны сварыліся паміж сабою, брыдка лаяліся, яны браліся залаб, цягалі адна адну за косы, паказвалі фігі. Дзве гэтыя жанчыны пад цёплай вярблюджай коўдрай так раззлаваліся, што нават не заўважылі, як у хату зайшла нейкая бесцырымонная дзяўчына, спынілася каля стала і адтуль пачала камандаваць трохі нахабным, але ўсё ж прыемным голасам:

— Асноўная стойка. Рукі на поясе, ногі разам, наскі асобна. Сагніцеся, затым рэзка выпрастайцеся. Пачалі! Раз, два, тры, чатыры! Зрабіце паварот тулавам улева, потым управа. Раз, два, тры, чатыры! Правую руку ўверх, левую сагнуць за спіну. Раз, два, тры, чатыры! Расслабце мышцы рук, шыі...

Распешчанай пані спадабалася, што ёй прапануюць невялікую размінку, бо пасля доўгага ляжання рукі і ногі як бы адзервянелі, зрабіліся вялыя і слабыя, і таму, як толькі нахабная дзяўчына загаварыла, пані адразу адазвалася:

— Ага, падымаюся. Во толькі спіхну з ложка гэтую старую кудлу.

Сялянка, наадварот, зазлавала, што незнаёмая дзяўчына раскамандавалася ў чужой хаце, як у сваёй, і, забыўшы

пра сытую суседку на ложку, сялянка пачала сарамаціць прыблудную нахабніцу:

— Ах ты, зякратая! Каб цябе самую сагнула ды не выпрастала. І не чатыры, а сто разоў. Іш ты, раскудахталася — а сама ты гнулася на полі, а сама ты палола калі буракі? Маладая, не ведаеш, што гэта такое. А я, лічы, ад самай вайны рачкую. Во і курч у рукі ўбіўся, і раматус у мяне. Памаўчала б лепей, а то як падымуся, дык хутка рот анучай заткну.

Ад сваіх жа крыўдлівых слоў, якія сказала, мабыць, уголас, Міхаліна прачнулася, расплюшчыла вочы і адразу спалохалася: не, гэта не сон, у хаце сапраўды быў нехта чужы, таму што той жа нахабны голас чуўся па-ранейшаму каля стала. Іншым разам, вядома, нават і думкі не ўзнікла б пра спалох, але на стале ляжала пенсія, каля стала размаўляла чужая дзяўчына, а хто ведае, які ў яе характар: чаго добрага, хопіць грошы і пабяжыць з хаты, дык ці дагоніш яе такую — маладую і шуструю. Радуючыся, што прачнулася так своечасова, Міхаліна адкінула вярблюджую коўдру, спаўзла з ложка і аж рот раскрыла ад здзіўлення: у хаце нікога не было, а дзявочы голас, прыемны і трохі нахабны, чуўся з радыёпрыёмніка, які стаяў на стале. Два дні радыё маўчала, а тут, кадук на яго, загаварыла ў самы непатрэбны момант, калі Міхаліна знячэўку задрамала. Праганяючы рэшткі сну, яна з прыкрасцю зразумела сваю памылку, успомніла, што кожны дзень, акурат у гэты яшчэ далёка не абедзенны час, па радыё перадаюць нейкую вытворчую гімнастыку.

— Во галава садовая! Трэба ж такому прымроіцца.

Пакуль Міхаліна па-панску раскашавала ў мяккай пасцелі, дровы ў печы згарэлі, нават жар пакрыўся шэрым налётам. Можна закрываць юшку — што не дварылася, само па сабе дапрэе на гарачым подзе. Міхаліна засланіла печ бляхай і падышла да стала. Ёй было соламна, ёй было прыкра, што дарма пакрыўдзіла дзяўчыну з радыё, хацелася папрасіць у яе прабачэння, але дзяўчына была далёка, можа, дзесьці ў Маскве, і Міхаліна, каб нішто не нагадвала пра яе, крутанула гузічак настройкі. Рэпрадуктар папярхнуўся, змоўк. І тут старая зноў убачыла паркалёвую хустачку з пенсіяй. Дармавыя грошы, не ўкрадзеныя нахабнай масквічкай, спакойна ляжалі каля радыёпрыёмніка і ўпарта чакалі моманту, калі іх возьмуць у рукі, занясуць у краму і пусцяць на важныя гаспадарчыя патрэбы.

Міхаліна глядзела на клуначак, і ёй зноў, як і раніцай, падалося, што гэтыя скамечаныя, прапахлыя потам траячкі і пяцёркі апякуць ёй пальцы, ледзь толькі яна дакранецца да іх. Адчуваючы і страх, і радасць адначасова, Міхаліна раптам усміхнулася, папракнула сябе: «Скажыце, людзі добрыя, ці ж не дурніца? Хіба грошы крадзеныя, з чужой кішэні?» Лічы, ад той самай восені, калі ў Малым Сяле арганізавалі калгас, Міхаліна зарабляла сабе пенсію, дзе толькі не набівала мазалі: і на полі, і ў свірне, і ў сушні. І цяпер яна мае поўнае права распарадзіцца грашыма, як сама пажадае. Вось зараз, вось у гэты міг пабяжыць у краму, накупляе ўсяго ўсялякага, што на вочы натрапіць: салодкіх пернікаў унучку Паўліку, нявестцы возьме хустачку, ды і свайго Анця каб не ўгнявіць — трэба набраць добрага корту на сарочку, а яшчэ лепей — купіць гатовую, фабрычную.

Пакуль Міхаліна разважала пра гасцінцы, у шыбіну, пагойдваючыся ад ветру, нецярпліва шкрабянула галінкамі старая яблыня. За дзесяткі гадоў, што расце тут, ля акна, яна прывыкла бачыць сваю гаспадыню на ганку то з вядром у руцэ, то з матыкай на плячы. Але сёння гаспадыня штосьці подаўна не паказваецца на двары, і яблыня затрывожылася, затурбавалася, схіляючыся ў паклоне, спрабуючы цераз шкло заглянуць у хату. Міхаліна пачула неспакойны шкробат па шкле, усміхнулася яблыні і, накінуўшы зашчапку на прабой, выйшла на вуліцу. Каля весніц пастаяла, падумала, паразважала, куды скіравацъ, перад кім пахваліцца пенсіяй. Але на вуліцы, калі не лічыць мурзатай дзятвы, пуста і ціха, хоць яно і не дзіўна — час летні, гарачы: усе дарослыя ў полі, хто на кукурузе, хто на бураках. Зірнула цераз вуліцу на сынаву хату і ўбачыла, што ў градах поркаецца нявестка, а побач кruціцца шаляніца ўнучак. Нявестка робіць даяркай, дык удзень часта прыбягае дамоў, каб справіць які-небудзь хатні клопат.

— Добры дзень, Волька! — павіталася Міхаліна, шкадуючы, што адразу не даўмелася заглянуць на сынаў панадворак,— Гуркі полеш?

— Палю, хай на іх трасца,— разагнула спіну нявестка.— Пасля дажджоў макрыца паперла, не дай ты рады.

— А мне пенсію прынеслі,— пахвалілася Міхаліна і, як бы апраўдваючыся, дадала: — Сёння, як у печы пачала паліць, і не мала. Без якога рубля пяць дзесятак.

— Добрая пенсія, аднак, большая, чым у другіх.

— Дык мне ж як ганаровай калгасніцы...

— Бабуля, ты ганаровая? — збянтэжыў Міхаліну дзіўным пытаннем калашман Паўлік.— Вось чаму ў цябе нос кручком.

— Ды хіба ж я вінаватая, такі ўжо вырас.

— Бабуля, а я цябе і ганаровую люблю.

Малы свавольнік ведаў, як паддобрыцца да бабулі, ведаў, што пенсія — гэта грошы, а калі ёсць грошы, то няма чаго трымаць іх пры сабе — трэба неадкладна бегчы ў краму, бо там лавачнік, пазяхаючы ад суму, чакае не дачакаецца іх. І Міхаліна гэта разумела, тым болей што грошы, калі брала са стала, не ўкусілі, не апяклі пальцы, і цяпер ім нават добра ляжаць на дне вербалозавага кошыка. Бабулі можна не баяцца, што пенсія выпадзе ці хто яе ўкрадзе, бо за другі канец дужкі кошык нясе Паўлік ды заадно раз-пораз паглядвае на беленькі скрутачак. Шаляніцы нават і падабаецца пільнаваць бабуліну пенсію, таму што бабуля ўсім, каго ні сустрэне, без усялякай асцярогі паказвае паркалёвую хустачку. Паказала кульгаваму Хвядосу, паказала старой Сымонісе і яшчэ некаму. Хвядос пажадаў спажываць на здароўечка, а Сымоніха сказала, каб у бабулінай хаце вялося і множылася ўсялякае дабро, і далей Міхаліна ідзе вясёлая, самая шчаслівая на свеце. Але, як на бяду, ужо блізка каля крамы са свайго двара вытыркнулася на вуліцу Нюрка Дземкава. Пустагаловая, з'едлівая, яна, сама таго не разумеючы, сапсавала добры настрой і Паўліку, і яго бабулі.

— Цётка Міхаліна, што ты там старой Сымонісе паказвала? — спытала прыткая на язык маладзіца, відаць, наўмысна стаўшы пасярод сцежкі.

— Пенсію мне далі. От у краму з унучкам іду.

Нюрка пляснула рукамі, спалохана вытарашчыла белыя, як у казы, вочы.

— Авоечкі, няўжо табе пенсію далі? Хаця і вядома: старасць — не радасць. Пайшоў на пенсію, а там, глядзіш, і на той свет пара збірацца.

— Скуляку табе на язык, мілка!

— Хіба ж не праўду кажу? Вазьміце Вінцю Макаедаву. Толькі раз ці два прынеслі ёй грошы і — канцы, і няма Вінці. А колькі, бедная, папабегала, каб выстарацца тую пенсію.

— Дурное ў цябе ў галаве,— зазлавала Міхаліна.— Трапло ты несусветнае, пустадомак. Я от ганаровую зарабіла пенсію, а табе ніякай не дадуць.

— Гэта чаму не дадуць? — узялася ў бокі Нюрка.

— Дык ты ж малако вадой разбаўляеш і здаеш Русакевічу.

— Выдумаў, стары псюк! — пачырванела ад нечаканасці Нюрка, саступіла са сцежкі і ўжо каля сваіх весніц азірнулася: — Магу паказаць, якое малако ад маёй Падласкі — адна смятана.

— Не трэба, я ж не прыёмшчык.

Рэшту дарогі Міхаліна ішла самотная, пакрыўджаная і, хоць на вуліцы сустракаліся новыя людзі, ужо не вымала з кошыка і не хвалілася паркалёвым клуначкам. Прамаўчала, не сказала нічога пра пенсію нават і ў краме. Да яе занадта позна прыйшлі калючыя, абразлівыя словы, якія яна хацела сказаць бессаромнай Нюрцы, але Нюркі побач не было, і Міхаліна, хмурачы бровы, з пашанай і любасцю пачала азіраць багатыя вітрыны і стэлажы. Што да Паўліка, дык той адразу забыў крыўду, як толькі яны пераступілі парог крамы, дзе ачмурэла пахла пячэннем, цукеркамі, халвою. Ён, малы хітрун, не памыліўся: дзябёлы крамнік, дзядзька Язэп, сапраўды сумаваў у адзіноце сярод розных мяшкоў, скрынь, кантэйнераў, скруткаў матэрыі. Заўмаг, відаць, дужа цаніў сваю прафесію, таму што, убачыўшы пакупнікоў, усхапіўся з табурэткі, забегаў, замітусіўся, ветліва ўсміхнуўся і Паўліку, і яго бабулі. Па вопыту ён ведаў, што можа купіць Міхаліна, і перайшоў у аддзел, дзе на драўляных паліцах ляжала мыла, пральны парашок, запалкі.

— Не, Язэп, мыла я не буду браць,— запыніла прадаўшчыка Міхаліна.— Ты мне салодкіх пернікаў адваж. Цэлае кілё.— І калі той адважыў, папрасіла: — Яшчэ і халвы адкалупні. Тэж кілё.

— Дык і цукерак узяць не зашкодзіла б,— падказаў белабрысы Паўлік.

— Ну, і цукерак возьмем,— згадзілася бабуля.

На сваім вяку Язэп, вядома, бачыў і не такіх багатых пакупнікоў, як Міхаліна і яе ўнучак, але цяпер бровы ў яго здзіўлена папаўзлі ўверх.

— Нябось кашалёк з грашыма знайшла?

— Хіба ты яго згубіў? Не, гэта мне пенсію прынеслі.

— Тады віншую, віншую.

— Дзякуй, чалавеча, на добрым слове.

Міхаліна ўлешчыла Паўліка, не забыла таксама пра пявестку і свайго Анця: адной купіла квяцістую хусцінку, другому — мультановую кашулю ў чырвоныя клетачкі,

акуратна, не хаваючы шчаслівай усмешкі, спакавала багатыя пакупкі ў кошык і, развітаўшыся з Язэпам, выйшла на вуліцу. Калі ішла сюды, у краму, вуліца была пустая, а цяпер на ёй то тут, то там мільгаюць стракатыя хусцінкі, выгаралыя на сонцы шапкі. Мужчыны і жанкі спяшаліся на абед — хто з поля, а хто [redacted] брыгаднага двара. Нікому цяпер не сядзіцца дома, бо дні стаяць гарачыя. І Міхаліна, гледзячы на ажыўленую вуліцу, правільна падумала, што нягожа ёй, такой здаровай і яшчэ не зусім старой, снаўдацца па вуліцы без пэўнага занятку, забыўшы пра недаполаную дзялку буракоў. Апроч таго, пасля размовы [redacted] Нюркай у Міхаліны прапала ўсялякая ахвота хваліцца пенсіяй, ды і, калі сказаць шчыра, ад пенсіі застаўся адзін успамін, таму што амаль усе грошы з белай хустачкі паслужлівы Язэп паклаў у магазінную касу.

— Пойдзем, Паўлік, нацяныкі, паўз агароды. Скарэй дома будзем. Мама твая, можа, забыла Зязюлю загнаць у хлеў, дык усе грады здратуе.

— А мне ўсё роўна кудою,— згадзіўся Паўлік.

Вузкую сцежку, якая ад самай крамы да Міхалінінай сялібы змейкай віхляе паўз ружовае ад цвету бульбянoе поле і вясковыя агароды, з вясны выбілі, утапталі сотні сялянскіх ботаў, і ісці па ёй нават лягчэй, чым па асфальце. Высока над галавой сонца пячэ няшчадна і неміласэрна, прыпарвае, відаць, к вечару зноў збярэцца на дождж. Лагодны ветрык даносіць пах кропу, агуркоў, квітучай бульбы. Але нават востры, ачмурэлы водар зямлі не можа заглушыць нясцерпны салодкі пах халвы і цукерак, што густа шыбае з вербалозавага кошыка. Сцежка вузкая, і гэта вельмі добра, што яна нешырокая: Паўлік не ўмяшчаецца на ёй і тэпае ўслед за бабуляй, адной рукой трымаючыся за бабуліну спадніцу, а другою — за магазінныя ласункі.

— Смачная, унучак, халва? — пытае бабуля.

— Смачная, бо з арэхамі,— смяецца задаволены ўнучак.

Бедны вербалозавы кошык, ён, відаць, палягчэў бы ўдвая, калі б сцежка была даўжэйшая, але, на шчасце, сцежка раптам крута павярнула ад бульбянога поля і па мяжы, а потым цераз садок і агарод прывяла проста на бабулін панадворак. У хаце Міхаліна выняла з кошыка клятчатую кашулю, акуратна паклала на стале і пачала дзяліць магазінныя пакупкі: на газету адсыпала з кулька жменьку цукерак, узяла колькі пернікаў, адшчыкнула нейкае куся-

ня халвы, астатняе зláжыла ў кошык, зверху накрыла купленай хусцінкай і падала кошык Паўліку.

— Гэта табе, [illegible] гэта дзеду.

— А дзед жа на балоце,— справядліва здзівіўся Паўлік.

— Нічога, у суботу прыедзе, то няхай пасмачыцца.

— Не будзе дзед есці халву,— запярэчыў Паўлік.— Ён сала [illegible] цыбуляй любіць.

— Бяжы ўжо, разумнічак мой,— засмяялася Міхаліна.— Скажы маме, што бабуля гасцінцы прыслала. Авось калі-небудзь і пра мяне, старую, не забудзе.

— Добра, скажу, каб не забыла.

Паўлік пабег, але ў насцеж расхлябешчаных дзвярах дарогу яму нечакана перагарадзіла шырокая, у складкі, спадніца. Шустры малы задзёр галаву і адразу пазнаў Тадорку Барысаву. Яна, мусіць, ужо даўно зайшла ў хату, але на парозе, здзіўленая, спынілася, убачыўшы цэлую гару розных прысмакаў з Язэпавай крамы.

— Заходзь, мілка, заходзь,— толькі цяпер заўважыла суседку Міхаліна і, перахапіўшы яе дапытлівы позірк, сёння мо ўжо ў дзесяты раз пачала тлумачыць: — Гэта ж пенсію мне...

— Ведаю, ведаю,— перабіла Тадорка, кіруючыся ў святліцу.— Русакевіч расказаў. Прыйшла з буракоў, падаіла кароўку і дай, думаю, пагляджу, куды гэта ты прапала?

— Ой, а мая ж Зязюля не доена яшчэ,— успомніла Міхаліна.— Пабягу хіба ў хлеў. А ты пасядзі, я не забаўлюся. Во цукерак, халвы папробуй. Ці, можа, хлебнага квасу наліць? Валяліся асушкі, дык надоечы зрабіла квасу.

— Калі смачны, то налі кубачак,— абрадавалася Тадорка.

— Смачны, смачны.

І з пузатага меднага гляка, які ажно пазелянеў ад старасці, Міхаліна наліла кубак пеністага квасу, падала Тадорцы, а сама хапіла на кухні дайніцу і подбегам паімчалася ў хлеў. Пакуль яна даіла карову, суседка смакавала густое і цягучае пітво, і яшчэ не паказалася ў кубку дно, а ў Тадоркі ўжо заблішчалі вочы, заружавеліся пухнатыя загарэлыя шчокі. Ну, не была б Міхаліна талковай гаспадыняй: квас удаўся на славу — рэзкі, густы, пахучы. Такога пітва, можа, нават і багі не каштавалі, і [illegible] гэтай думкай Тадорка апаражніла кубак, пажавала цукерку, ушчыкнула халвы, але, калі Міхаліна зайшла ў хату, прытворна абурылася:

— Зараза кудлатая, што ты мне піць дала?

— Разумееш, гэта я пайку дрожджаў укінула ў гляк,— працэджваючы малако, прызналася Міхаліна.— Вось і забрадзіў квас.

— Я-то і думаю: у галаве штось зашумела.— Тадорка ўважліва паглядзела на Міхаліну, убачыла ў яе вачах ледзь прытоены смутак і спалохана спытала: — Але ж ты, дзеўка, не ў гуморы. Ці не пакрыўдзіў хто?

— Ат, прызнавацца няёмка. У краму ішла, дык сустрэла Нюрку Дземкаву. Яна і кажа: дачдалася пенсіі, то хутка і на той свет трэба.

— Яе ж, бязмозгую, скарэй за нас з табою занясуць у хвойнік,— яшчэ больш пачырванела Тадорка ад абурэння.— Іш ты, на той свет...

— Вінцю прыпомніла.

— Не слухай ты апаломка, не бяры да сэрца. Гэта мне трэба гараваць: дзеці раз'ехаліся, Барыса машына задушыла. А ў цябе ж усё ёсцека: і Анцё твой жывы і здаровы, і дзеці пры табе, і пенсію, дзякуй богу, вырабіла немалую. А што да Вінці, то нябожчыца ўжо даўно кволілася жыватом.

Яна наогул была слязлівая і надта чуллівая, гэтая шчырая працаўніца і рупліўка Тадорка Барысава, але сёння пасля рэзкага і кіславатага пітва, ёй не хацелася ўспамінаць пра крыўды, думаць пра благое, наадварот, ёй хацелася весяліцца, спяваць, сваволіць, яна раптам падхапілася з клышаватага ўслончыка, наліла кубак хлебнага квасу, ледзь не сілком прымусіла выпіць Міхаліну, крыху глынула і сама, пасля кругам прайшлася па хаце і рашуча загадала:

— Не вешай носа, Міхаліна! Будзем разам спяваць. Я заводжу, а ты падпявай.

Старая яблыня, якую, мабыць, пачынаў бянтэжыць усё больш шум у хаце, шкрабянула галінкай па шыбе, як быццам падбадзёрыла: ага, спявайце, а я паслухаю, на што вы здатныя.

— Адна баба ў бубен біла,— грамавым голасам пачала Тадорка.

— А другая ў рог трубіла,— падхапіла Міхаліна.

— Кідай, баба, у бубен біць,— басам падвяла Тадорка.

— Пачынай у рог трубіць,— на высокай ноце скончыла Міхаліна.

Яблыня ля акна зноў шкрабянула па шкле, раз і другі: ага, добрая прыпеўка, і спявалі добра — заслухаешся.

— Але ж ты, Міхаліна, падпявала няправільна,— зара-

гатала чырвоная, вясёлая, дасціпная Тадорка.— Саўсім не так.

— Чаму ж не так?

— Дык тая ж баба не ў рог трубіла — у нешта мякчэйшае. Ха-ха-ха! Успомні, халера, як мы спявалі даўней.

— А, во ты пра што,— успомніла Міхаліна і сарамліва апусціла вочы.— Старыя мы ўжо пра дурное думаць.

Ружовашчокую неўгамонную Тадорку быццам чэрці па хаце носяць: круць туды, верць сюды, хлебанула з кубка, зірнула на качарэжнік і адразу новую забаўку прыдумала.

— Не сумуй, Міхаліна, зараз я з тваім Анцём у скокі пайду.

— То Анцё ж на балоце.

— На якім балоце? Дома ён,— Тадорка хапіла ў рукі доўгую і крывую качаргу.— Скажы, ці не твой Анцё? Такі ж цыбаты і згорблены.

— А музыка дзе? — паспрабавала суняць вясёлую сяброўку Міхаліна.

— А губы ў цябе на што? На губах, сястрыца, падыграеш...

Белабрысы Паўлік, які акурат у гэты час прынёс апарожнены кошык, застаў у бабулінай хаце немаведама што: нейкае дзікае гульбішча, цэлае вар'яцтва. Пасярод хаты, трымаючы аберуч чорную ад сажы качаргу, скакала потная, распатланая Тадорка, а вакол яе, раз-пораз прысядаючы, кружылася шчуплейшая і ніжэйшая ростам Міхаліна — гоп-гоп, топ-топ. Адна безупынку малаціла па падлозе аблезлымі, выбеленымі ў росах чаравікамі,— сеяла боб, другая дробненька перабірала стаптанымі, пакрыўленымі сандалетамі — рассыпала гарох. Тадорка напявала частушку, а Міхаліна падыгрывала ёй — трынькала пальцамі па губах, выцінала нейкую незразумелую, не чутую дасюль мелодыю. Старая хата стагнала, дрыжалі сцены, звінелі шыбы.

— Баба, ты здурэла хіба? — закрычаў здзіўлены і збянтэжаны Паўлік.— Дзед, мусіць, прыехаў. На брыгадны двор толькі што машына з людзьмі пайшла.

Міхаліна, зляканая ўшчэнт, стала як укапаная, адразу ж перастаўшы іграць.

— Дальбог, падзяцінелі на старасць.

Тадорка, ажно бурачковая з твару, паправіла распатланыя валасы і асцярожна, беражна паставіла «Анця» ў качарэжнік.

— Мусіць, пайду я ўжо. Карову пара выганяць на пашу.

Міхаліна, застаўшыся адна, на скорую руку прыбрала ў хаце, загнала Зязюлю ў чараду і да самага вечара няўцямна, непрыкаяна смыкалася па двары, чакала Анця. Але шалапут Паўлік, відаць, памыліўся: дзед з балота не прыехаў. І ў гэтую ноч, упарадкаваўшы на змярканні хатнія клопаты, Міхаліна спала моцным, непрабудным сном, і натура яе не раздвойвалася, як раніцай, і тая сытая, распешчаная пані больш не сварылася з ёю, не спіхвала з ложка, не соўгала ў нос фігі. На світанні, калі выразна пачалі абмалёўвацца абрысы старой яблыні ў акне, Міхаліне прыснілася бурачнае поле — чысценькае, ні зялінкі, а з краю — яе Міхалініна дзялка, зарослая свірэпкаю, хвашчом і лебядою, і Міхаліна, застагнаўшы ў сне ад вялікага сораму і ганьбы, пабегла на поле ратаваць буракі ад пустазелля. А на стале, каля радыёпрыёмніка, мірна ляжалі побач рэшта пенсіі ў паркалёвай хустачцы і гасцінец для Анця — мультановая кашуля ў вялікія чырвоныя клетачкі.



## Цёплая ноч

Двума ярусамі над галавой вісяць зоркі.

У ніжнім ярусе, на галлі старой разлапістай яблыні, сярод цёмнай шапаткой лістоты серабрыста пабліскваюць буйныя яблыкі, і яны вельмі падобныя на тыя сапраўдныя зоркі, што высвечваюцца скрозь рэдкае сіта яблыневай кроны. Таму і здаецца, што зоркі і яблыкі, калі глядзець на іх знізу, вісяць над галавой двума ярусамі.

Зоркі падаюць. То адна, то другая знічка раптам затрымціць на небе і, прачарціўшы вогненны пункцір, скоціцца за садам — на бульбяное поле альбо на канюшынішча. Жнівень — месяц зарападу. Гуп-гуп, гуп-гуп. А гэта ўжо гупаюць першыя спелыя антонаўкі. Падаюць часта — як зоркі. Гуп-гуп. Толькі іскрыстага следу не застаецца.

Пад старой яблыняй востра, да ачмурэння пахне канюшынай. Блізка за садам калгаснае канюшынішча, дык гу-

сты саладжавы пах плыве адтуль, з недалёкага поля. Скасіць атаву людзі патрапілі пад добрую пагоду: так пахне толькі сухое, не спляжанае дажджамі сена. На полі мужчыны і жанкі шчыравалі сённяшнім падвячоркам — граблі высахлую да чарнаты атаву і складвалі ў копы. На канюшынішчы быў і Мікола. Прыехаўшы з райцэнтра, дзе вучыцца на шафёрскіх курсах, памагаў бацькам, гроб і насіў тое пахучае сена. Работы было не дужа каб шмат, а ўсё ж стома адчуваецца: гудуць у плячах рукі, пашчыпваюць крывавыя мазалі на далонях. З непрывычкі гэта, бо Мікола, як скончыў школу, то цяжкай працы, лічы, у вочы не бачыць — усё лета вучыцца на шафёра.

Работу на канюшынішчы канчалі з першым прысмеркам. Разыходзячыся па хатах, калгаснікі кпілі адзін з аднаго, гучна жартавалі і смяяліся — радаваліся, што так лёгка і хутка ўдалося азапасіцца добрым сянцом на зіму. За вячэрай бацька Міколы, мусіць, ці не з той самай радасці, выцягнуў з кута запыленую бутлю, аплеценую пруцікамі вербалозу, і трохі нацадзіў у шклянкі сабе і сыну. Але піць Мікола адмовіўся — яшчэ не прывык да гэтага зелля, не бачыў у ім смаку.

Пакуль вячэралі, на зямлю спусцілася цёплая і зорная жнівеньская ноч. У такія ночы Мікола любіць спаць у садзе, пад старой разгалістай яблыняй, паслаўшыся на растрэсенай копцы пахучага сена. У хаце даймае духата, парнасць, а тут ціха і свежа, да раніцы трымаецца прахалода. На мурагу спіцца моцна і смачна, а калі прычэпіцца бяссонніца, што з людзьмі такога веку, як у Міколы, здараецца часта, добра пабыць са сваімі лятункамі-марамі на адзіноце, сам-насам. Ніхто не перашкаджае табе, ніхто не шастае між дрэў. Толькі ўсю ноч навылёт падаюць зоркі ды бесперастанку гупаюць долу спелыя яблыкі.

Гуп-гуп, гуп-гуп...

Праз шчарбаты плот, сцелючыся па зямлі, у сад цэдзіцца вадзяністы туман, а ў бульбоўніку несціхана трашчыць цвыркун. Пад паветкай мосціцца на седала і лапоча крылямі валацуга-певень. Прама пад яблыню з вокан хаты сеецца косы пасак святла — бацькі яшчэ не лажыліся спаць. Раптам святло ў хаце засціць цёмная постаць, чуваць, як брынчыць шыбіна.

— Антось, ты не спіш? Адчыні, браток! Позву твайму сыну прынёс...

Нехта шворкаецца каля дзвярэй, бразгае засаўка, і ўжо цэлы пук святла ўрываецца пад яблыню.

На парозе стаіць маці.

— Заходзь, Цімахвей. Каб яшчэ троху, то і не паспеў бы — мы спаць збіраліся... Заходзь.

У дрыготкім святле, што выбіваецца з сянец, Мікола пазнае позняга госця.

Цімох Галуза.

Вечны бадзяга, бядовы чалавек.

Цімох Галуза працуе ў сельвыканкоме ці то пасыльным, ці нейкім улікоўцам, аднак свайго службовага стала трымаецца мала. Часцей жа, як толькі хлопцам настае пара ісці ў войска, ён бярэ пук ваенкаматаўскіх позваў і разносіць іх нававбранцам. У дарозе можа прабыць і дзень, і два, а то і цэлы тыдзень, у залежнасці ад таго, як яго спатыкаюць гаспадары і якой моцы гарэлку ставяць на стол. Горкім п'яніцам Цімох, аднак, не быў, а да людзей уцякаў хутчэй за ўсё ад сваёй адзіноты, ад голых сцен у вялікай, як адрына, хаце. У навакольных вёсках, куды завітваў Цімох, яго запрашалі да стала, не абмінаючы ні чаркай, ні скаромнінай, давалі начлег, калі па двары ліў дождж і нельга было адаспацца дзе-небудзь у чужым стажку сена.

Але і пасля таго, як адгрымяць вясёлыя выправіны ў армію, адбухаюць бубны і пахрыпнуць усе вясковыя гармонікі, Цімох Галуза ў сваім сельсавеце доўга не заседжваўся. У яго быў незвычайны нюх на сямейныя ўрачыстасці, і яшчэ іншы раз не паспяваў прысохнуць пупок у немаўляці, як Цімох заяўляўся да шчаслівых бацькоў. Тлумачыў, што гэты яго візіт выкліканы пільнай неабходнасцю і што яму во зараз, во цяпер трэба «ўзяць» на вайсковы ўлік будучага салдата. А калі ў калысцы аказвалася не хлапчо, а плаксівае дзеўчанё, то і тут Цімох не губляўся: далікатна прасіў прабачэння, у душы бэсцячы сябе за непрадбачаны промах. Мужчыны на такія яго дзівацтвы глядзелі паблажліва, разумеючы гэтую маленькую хітрасць, а жанкі, як больш жаласныя натуры, спагадалі па-свойму:

— Хай бы ты жаніўся, Цімахвей? Каб ажаніўся, то мо і трымаўся б свайго кутка. Ты ж яшчэ не зусім канчаны басяк...

— Ды хто пойдзе за мяне, валацугу? — панура апускаў галаву Цімох Галуза.— Хіба што якая пенсіянерка? А з другога боку, дак ужо і не цягне на жаніцьбу.— Выпіўшы чарку, ён ажыўляўся, пунсавеў, у голасе прыбаўлялася злосці.— Хопіць! Нажыўся з адной! Не выпадала зноў браць у хату падпальшчыцу вайны.

— То хто ж ты сам будзеш, Цімахвей?

— Смяешся, Акуліна? — крыўдзіцца Цімох.— Голуб міру — во хто я! А ты? Ты, Акуліна, сама падпальшчыца вайны. І ўсе жонкі такія... А я — хатні голуб. І твой Алесь — таксама голуб міру...

За сталом дружна смяяліся, хоць кожны тут разумеў, што ў дачыненні да сябе Цімох Галуза гаворыць многа праўды. Ён нават знешне быў падобны да голуба — маленькага росту, нешырокі ў плячах, не надта мітуслівы і настырны. Характарам таксама ўдаўся роўным і мірным, не маючы з ім асаблівых клопатаў. Аднак ці не з-за гэтага яго ціхмянага нораву і здарылася тое няшчасце ў Галузавай сям'і. Мікола тады, напэўна, яшчэ хадзіў у пачатковую школу, калі рахманіцу Цімоха прыручыла да сябе Палашка, дачка вясковага крамніка, і жылі яны год колькі не сказаць каб дужа мілуючыся, але і не чуваць было, каб штодзённыя сваркі калацілі хату. Палашка была нядрэннай гаспадыняй: на вокнах віселі свежыя фіранкі, са сцен ашмоццем не звісалі парваныя шпалеры. Ды вось аднойчы да Галузаў на пастой папрасіўся новы бухгалтар калгаса — мужчына відны і сакавіты, не раўня, вядома, шчупламу Цімоху. Калі пайшлі чуткі, што бухгалтар заляцаецца да Палашкі, Цімох прапусціў плёткі міма вушэй: не застаў бухгалтара ў чужой пасцелі, дык няма чаго верыць розным зводніцам. Потым ён і сам быў не рады сваёй легкадумнасці. На згоне зімы, вярнуўшыся з нейкіх абласных курсаў, Цімох убачыў дома адно аблупленыя сцены ды пустую печ. Суседзі расказалі, што Палашка і яе сакаўны пастаялец, у якога, мусіць, былі нейкія больш значныя вартасці, чым у Цімоха, пагрузілі на машыну хатнія рэчы і выехалі ў невядомым кірунку. Шукаць іх Цімох не стаў, з гора пачаў выпіваць, ледзь утрымаўшыся на сваёй ціхай пасадзе, і да канца жыцця, як гаварыў, неўзлюбіў усё жаночае кодла, даўшы зарок ніколі больш не жаніцца.

У падрабязнасці гэтай сямейнай драмы Мікола чамусьці не ўнікаў: лічыў, што калі тут хто і вінаваты, дык у найпершую чаргу вінаваты сам Цімох. Бо калі б па-мужчынску прыструніў Палашку, даў ёй і таму праныру бухгалтару добрага прачуханца, то і не мусіў бы сёння туляцца па чужых дварах. Нягледзячы на розніцу ў гадах, Мікола адносіўся да Цімоха прыязна, па-прыяцельску — як да равесніка. Верагодна, на такія адносіны спрыяе сардэчная гасціннасць Міколавых бацькоў: вечнага бадзягу яны заўсёды прымаюць як роўнага, як свайго. Во і цяпер, пэўна, Міколава маці ўжо садзіць Цімоха за стол, частуе вячэ-

рай, а бацька, цішком радуючыся добраму выпадку, налівае ў шклянкі з той самай аплеценай вербалозам бутлі. Маці глядзіць, як Цімох прагна каўтае яшчэ цёплую бульбу, глядзіць і з ледзь улоўнымі адзнакамі бабскай жаласці і дакору хітае галавой. Пасля вячэры Цімоха, вядома, запросяць начаваць, як гэта было ўжо не раз, і ён будзе шчыра дзякаваць, аднеквацца, хоць сёння і праўда ў хаце на начлег не застанецца.

Трошкі счакаўшы, рыпнулі дзверы ў сенечках, пад яблыню зноў упаў шырокі пасак святла.

Мікола падняў галаву, паслухаў галасы каля ганка і сеў, мацаючы каля сябе пачак з цыгарэтамі. Спатыкаючыся ў шырокіх разорах і блытаючыся ў пакручастых ліянах гарбузельніку, якімі спрэс увіты агародчык, Цімох Галуза прастуе проста сюды, у сад. Ідзе абачліва, добра арыентуючыся ў цемры, бо, пэўна, ужо ведае, што недзе тут, пад яблыняй, павінен спаць Мікола.

— Прывітанне салдату! — як не крычыць Цімох і з усяго маху апускаецца побач, на шапаткое сена.— Ух-х, і духата ў хаце!.. Зварыцца можна...

— Тут, канечне, свяжэй. Ветрык гуляе,— абзываецца Мікола.— Я таксама з хаты ўцёк.

— І дурань, што пад яблыню! — рагоча Цімох, у якога настрою, відаць, прыбавілася пасля знаёмства з бацькавай бутляй.— Табе б зараз за дзяўкамі гарцаць, а то разваліўся пад яблыняй, як бугай. У арміі такой лахвы не будзе. Я табе вунь позву прынёс. На апошнюю камісію...

У вечаровай шэрані ярка ўспыхвае агеньчык. Мікола закурвае, падае цыгарэту Цімоху. Запалка тухне, і зараз пад яблыняй чырвона паблісквають ужо два светлякі ад цыгарэт.

— Няма ў мяне дзяўчыны,— з прытворнай скрухай жаліцца Мікола.— Расхапалі хлопцы, а мне і не дасталося. Пакуль вярнуся з войска, мо і падрасце каторая...

— І правільна, не спяшайся, салдат! — чамусьці зарадаваўся Галуза.— От я паспяшыў, дык людзей насмяшыў. Гэта ж нейкі скрут найшоў на бабскае кодла. Куды ні глянеш — адна распуста. Во і Палашка мая...

Цімох Галуза нервова зацягнуўся, наглытаўся пякучага дыму і заперхаў, раскашляўся, тручы кулаком каля вачэй. Цімох кашляў, аддыхваўся, і Мікола падумаў, што слязу ён выціснуў не ад дыму, а хутчэй за ўсё ўспомніўшы Палашку, якая так не па-людску абышлася з ім. Можна было прамаўчаць, урэшце, можна было забыцца на Цімо-

хавы словы, але ў душы Міколы жыў высакародны рыцарскі дух, і ён мусіў заступіцца за жанчын:

— Дарма, Цімахвей, мяшаеш з гразёю ўсіх жанчын без разбору. Не ўсе ж такія, як твая Палашка. Паглядзі, колькі шчаслівых сем'яў хоць бы ў нашай Бярозаўцы...

— І праўда, перацягнуў я палку. Гэта мая Палашка такая... Ух-х, падпальшчыца вайны! А хіба ж не быў я ў хаце голубам міру?

Міколу разбіраў смех, і, каб не выдаць сваю нястрыманасць, ён адвярнуўся, а «голуб міру», унураны ў самотныя думы, змоўк, падкурчыўшы пад сябе ногі на турэцкі манер. Ён доўга маўчаў, нервова глытаў дым, глядзеў кудысьці ўбок, за яблыню. Над садам плыла цёплая жнівеньская ноч, і па-ранейшаму зоркі над галавой віселі двума ярусамі. Пахла кропам, гарбузамі, пераспелымі яблыкамі, што раз-пораз гупаюць долу. У лісцях яблыні прашуміць вецер, і тады, перабіваючы ўсе астатнія пахі, у садзе разліваецца саладжавы водар сухой канюшыны.

— Скажы ты: дух які! — устрапянуўся Мікола.— Зграблі яе падвячоркам, дык копы яшчэ не ўлежаліся.

Цімох жвава падняўся на ногі, пстрыкнуў у траву недакурак.

— Кажаш, канюшыну зграблі? А табе, хлопча, не здаецца, што яе за ноч могуць перацягаць у свае хлявы? Тая ж Ядзя Давыдкіна першай прыйдзе красці сена. О, ведаю я гэтых удоў!

— Сёголета гадзіла ў касавіцу. Людзі колькі хацелі, столькі і нарабілі сена,— паспрабаваў супакоіць яго Мікола.— Вунь і ў Ядзі за хлявом стог, як гара, стаіць.

Але Цімох Галуза захваляваўся яшчэ болей:

— Душой чую, што Ядзя будзе красці сена. Ой, каб падпільнаваць! Усё ж, як ні кажы, я сельсавецкі работнік. Ты хіба дрыхні тут адзін, а я пайду пакрулюю па полі. Быць не можа, каб Ядзя не пакваплілася на чужое сена?..

Пад ногі Цімоху, мусіць, трапілася антонаўка, і ён раструшчыў яе, бо ў начной цішыні пачуўся сакавіты хруст яблыка. Потым з таго боку, куды пайшоў «голуб міру», даляцеў шоргат травы, трэск бульбоўніку. Упоцемках Цімох не здолеў намацаць мяжу і ламаўся нацянькі, па глыбокіх баразнах. Хруст лапушыстага бульбоўніку аддаляўся, чуўся ўсё слабей. Цімох Галуза выбіўся ў канец сотак, ступіў на канюшынішча, і ўсе гукі з таго боку адразу прапалі.

Канюшынішча адным краем агібае вёску, а другім спускаецца ў нізовіну, парослую шчытнікам, аерам і альховы-

мі кустамі. Амаль што ўпрытык да алешніку падступае пясчаная вуліца, забудаваная ўжо на памяці Міколы. Першым на няўдобіцы згрузіў кучу бярвенняў і выштукаваў з іх смалісты зруб калгасны брыгадзір Іван Давыдкін. Але хата так і стаяла нясканчанай, бо гаспадар раптоўна захварэў і нешта нядоўга забавіўся на гэтым свеце, а Ядзя, застаўшыся маладой удавой, мусіць, не мела багата грошай, каб давесці жыллё да толку. Старалася, каб пракарміць і адзець двое малых дзяцей, і тым была рада.

Без добрага даху, без належнага дагляду Ядзіна хата за колькі год пачарнела, пачала загніваць у вуглах. Да Ядзі прыязджалі пакупцы зблізку і здалёк, бо пайшоў погалас, што яна збывае хату, а сама перабіраецца ў горад, аднак пакупцы ні з чым вярталіся назад. Знаходзіліся і такія малойцы, што адным махам замахваліся і на Ядзю, і на яе недагледжаную хату. І зноў няздалыя жаніхі выкочваліся ад удавы як мыла наеўшыся. Ядзя, прыгожая і статная маладуха, альбо ведала сабе цану, альбо проста не магла забыць свайго чарнявага Івана. Апошнім часам у Бярозаўцы пошапкам гаварылі, што надоечы да Ядзі заблытаўся ў сваты Цімох Галуза і нават начаваў у яе, ды нешта не бачна, каб яго сватаўство кончылася ўдала: паранейшаму «голуб міру» бадзяецца з вёскі ў вёску, ад двара да двара.

Амаль ці не штодня сустракаючы Ядзю, сваю блізкую суседку, на вуліцы, Мікола спачуваў яе маўкліваму гору, а тут, пад старой разгалістай яблыняй, яго чамусьці агарнула шкадоба да Цімоха Галузы, гэтага гарушчага і няўдачлівага чалавека. Мікола слухаў, як у садзе падаюць пераспелыя яблыкі, і падумаў, што дарма Цімох падахвоціўся пільнаваць копы — Ядзя не пойдзе красці сена, не возьме на сябе такой ганьбы.

Ах, Цімох, Цімох, ну і недаверак жа ты! Міколу пачала закалыхваць дрымота, змружваліся вейкі, і тут на сотках пачуліся важкія крокі, хруст і шоргат бульбоўніку. Цімох Галуза, як прывід, выплыў з-за яблынь і скапыліўся на тое месца, дзе сядзеў раней.

— Ну і як? Злавіў Ядзю? — сонна і злосна спытаў Мікола.— Ах, Цімох, і недаверак жа ты...

— Ціха каля коп,— з сумам адказаў Цімох, як быццам і праўда шкадаваў, што не пашэнціла злавіць злодзея.— Пасяджу троху ды зноў пайду гляну.

— Схадзі, калі не лянуешся. А то кладзіся побач — коўдра вялікая.

— Спі, салдат! Я замінаць не стану. Аднаго толькі не дабяру да ладу: чаму Ядзя не прыйшла красці сена? Захварэла яна, ці што?

Цімох Галуза думаў пра нешта сваё, выпакутаванае і балючае, і тое балючае, пэўна, стрэмкай засела яму ў сэрцы. Ён курыў, глытаў дым і маўчаў. Маўчаў доўга, потым рыўком падхапіўся з сена, рымсцячыся зноў ісці на блізкае поле, і, ашморгваючы з сябе нябачныя ў змроку сянінкі, ні к сялу ні к гораду спытаў у Міколы:

— Чуеш, салдат, а ці ўмее Ядзя варыць капусту з грыбамі? Як па-твойму?

— Яна ж жанчына, дык усё павінна ўмець,— пазяхнуў Мікола, дзівячыся недарэчнаму пытанню.— А навошта табе гэта?

— А так. Проста я люблю капусту з грыбамі. Вось і ўспомніў. То спі, я пайшоў...

Сон змарыў Міколу адразу, як толькі адышоўся Цімох, і ў садзе стала незвычайна ціха. Прахапіўся ён на дасвецці. Цёплая жнівеньская ноч канчалася. Дол пад яблынямі быў усыпаны жоўтымі яблыкамі-падаанкамі. На яблыках і на траве выступіла раса. Пасля душнай ночы раса заўсёды густая, буйная, як боб. Коўдра ад расы звільжэла, і пад яе забраўся холад. Мікола таму і прачнуўся, што стала зябка і свежа — захацелася ў цёплую хату. Азірнуўшыся вакол сябе, ён зразумеў, што Цімох Галуза з поля не вяртаўся — раса не збіта, не відно ніякіх слядоў, і на душы стала нядобра, прыкра, быццам ён, Мікола, быў вінаваты ў тым, што вечны бадзяга зноў начуе дзе-небудзь у капе.

Збольшага прыгладзіўшы валасы, якія распатлаліся за ноч, Мікола асцярожна, каб не абрасіцца, скіраваў на мяжу і хутка выйшаў у канец сотак, на канюшынішча. Ужо амаль зусім развіднела. Цяпер канюшына не пахла так ачмурэла, як звечара: за ноч ветрык высушыў, прыглушыў востры саладжавы пах. Копы сена, якімі быў застаўлены палявы абшар, аселі, паменшалі і выплывалі з туману, як бабровыя хаткі. У адной з іх, гэтых «хатак», мабыць, размысціўся начлегам Цімох Галуза, што з ім здаралася ўжо не першы раз.

Мікола ішоў, збіваючы расу з бадылля, і незаўважна для сябе скіраваў у бок Ядзінай хаты, якую да вокан засланяў туман. Падыходзячы да нізовіны, адкуль віўся той клакаваты, як лямец, туман, Мікола насунуўся на растрыбушаную капу. Верх у яе быў скамечаны, сплюшчаны ўніз, і ў першы момант падалося, што капу раскалашмаці-

ла карова, бо ўчора надвячоркам у лагчыне якраз пасвіўся статак. Але, падышоўшы бліжэй, ён зразумеў, што каля капы былі людзі і нехта на ёй сядзеў ці ляжаў. З краю сена было ўціснута, акурат як сесці чалавеку, а побач з паўкруглай западзінай вылежана прадаўгаватае карыта, ў форме якога пазнаваўся адбітак чалавечага цела.

Зямля каля капы свежа чарнела, як быццам толькі што яе дратавалі нагамі. Той чалавек, які ноччу абжываў капу, відаць, сядзеў тут у глыбокім роздуме, нешта перажываючы — калупаў і калупаў наскамі чаравікаў падатлівую глебу. Аб яго ўзрушаным душэўным стане сведчылі кучкі попелу і дзесятак недакуркаў, кінутых побач. Мікола адарваў позірк ад зямлі, глянуў уздоўж абмежка і тут заўважыў, што з-за капы ў нізовіну цягнецца ланцужок слядоў. Яго зацікавіла, што след занадта шырокі — як бы ішоў не адзін чалавек. У нізовіне, дзе трава расла гусцей, сляды праступілі выразней, і стала ясна, што тут праходзілі двое. З правага боку ўмяціны ў шчытніку былі глыбейшыя, больш акрэсленыя, а леваруч, несумненна, ішла жанчына: сляды з левага боку так глыбока не западалі ў траву і відны былі слабей. Мяркуючы па тым, што раса апала на дасвецці, дарожка ў алешніку з'явілася нядаўна. У адным месцы лапік травы быў выбіты нагамі, быццам тут тыя двое доўга тапталіся, не рашаючыся ісці далей. Усё ж рашэнне было знойдзена, і ланцужок слядоў, крута абагнуўшы альховы куст, наўскос перасёк лагчыну і згубіўся ў пяску акурат насупраць пачарнелага дома, у якім не адзін год жыла самотнай удавой Ядзя Давыдкіна.

Трохі ўглыбіўшыся ў мокры алешнік, Мікола раптам злавіў сябе на думцы, што няёмка ўсё ж яму, маладому хлопцу, разгадваць чужыя сакрэты, і, чамусьці ўздыхнуўшы, ён з палёгкай павярнуў назад. Ён ішоў па сваім жа следзе, і ў яго больш не было ніякіх пытанняў ні да сябе, ні да таго вечнага бадзягі Цімоха Галузы. І сонца, нечакана выкаціўшыся з-за далягляду, свяціла яму молада і насмешліва.



# Сельскі карэспандэнт Саўка Халецкі

Калгасны паплаўнічы Саўка Халецкі сельскім карэспандэнтам стаў пры дзіўных абставінах. Аднойчы на пачатку вясны, калі лазовыя кусты ўздоўж канаў спрэс абсыпаліся жоўтымі пушыстымі коцікамі, а хлопцам і дзяўчатам, трошкі здзічэлым пасля зацяжной зімы, няўсцерп захацелася пусціцца ў скокі, загадчык клуба Раман Раманавіч Лівашоў разгарнуў свежы нумар раённай газеты «Савецкае Палессе» і аж пачырванеў ад гневу і абурэння. На другой старонцы знізу, у падборцы пісьмаў чытачоў, была надрукавана заметка пад знішчальнай назвай «Замок вісіць, загадчык спіць». Лівашоў як толькі зірнуў на загаловак, дык адразу падумаў, што ў газеце, мабыць, напісалі пра яго. Ён і не памыліўся — чула сэрца бяду.

«Гадоў колькі таму назад у Малым Сяле стары будынак пачатковай школы прыстасавалі пад даволі прыстойны клуб,— упіўся вачыма ў газетныя радкі Раман Раманавіч.— Памяшканне адрамантавалі, зашклілі вокны, уставілі новыя дзверы. Але радасць моладзі была заўчасная. Кожны вечар, а то і ўдзень наш клуб стаіць на замку. Загадчык Р. Р. Лівашоў, відаць па ўсім, любіць паспаць. Нядзіўна, што ў нас няма мастацкай самадзейнасці, не працуюць творчыя гурткі, даўно чыталіся лекцыі і даклады...»

У заметцы было яшчэ напісана пра танцы, якія бываюць гады ў рады, пра аддзел культуры і праўленне калгаса «Партызан», якія ніяк не прыструняць гультаяватага работніка культуры. Заметку, аднак, Лівашоў не дачытаў да канца, таму што друкаваны тэкст дражніўся, збыткаваў, калоў у вочы. Як тут не апраўдвайся, што ні выдумляй, сораму цяпер не абярэшся — абняславілі на ўвесь раён. Яно, канечне, і пра замок на дзвярах, і пра пустую сцэну — усё правільна; тут, як кажуць, не адбрыкнешся, але загневаўся Раман Раманавіч за другое: хто бачыў, каб ён калі-небудзь спаў, дрыхнуў, як пан, сярод белага дня? Іш ты, замок вісіць — загадчык спіць!

Ды болей за ўсё абурыла Лівашова тое, што скаргу ў рэдакцыю падаў самы блізкі яго сусед, стары чалавек Саўка Халецкі. Во яшчэ пісака, укусі яго сабака! Цэлымі днямі, з ранняй вясны да позняй восені, паплаўнічы, высокі і худы, як жэрдка, валачыўся па лугах і палях, ганяў хлопцаў з гароху і сланечніку, круціў пастушкам вушы, калі

чыя карова ці авечка заблытаецца ў шкоду. Меў ён гадоў пад пяцьдзесят, з суседзямі з-за сваёй прыкметнай у вёсцы пасады знаўся мала — усё бачком, усё ваўчком, апрача таго, грамата ў яго, як кажуць, кульгала на абедзве нагі, таму было вельмі дзіўна, што гэты непісьменны мармоль нашкрабаў відавочны паклёп у газету.

— Бач ты яго! — кіпеў ад злосці Раман Раманавіч.— Танцаў аблезламу казлу захацелася, лекцыі, даклады яму падавай!

Разгневаны Лівашоў выразаў паганую заметку пра сваю гультайскую работу, а газету з асалодай выкарыстаў дзеля вельмі пільнай патрэбы і, пастаяўшы добра за хлявом, надвячоркам усё-такі дачакаўся Саўку Халецкага, калі той задворкамі вяртаўся з абходу палёў. Стары паплаўнічы не здагадваўся, што дома яго чакаюць непрыемнасці, не ўяўляў, які люты бывае ў гневе звычайна ветлівы сусед Раман Лівашоў, ён нічога гэтага не ведаў і таму ішоў смела па леташнім бульбяніску, бядуючы, што так хутка нахапілася вясна, увачавідкі зашумела азіміна і цяпер спасу не будзе ад згаладалых за зіму кароў. Саўка, унураны ў свае думы, нават не прыкмеціў, як ад хлява мільгануўся цень, і праз момант сцежку яму перагарадзіў шчуплы і чорны, як грак, загадчык сельскага клуба.

— Здароў, Саўка! З поля, значыцца, дыбаеш? — зыркаючы злоснымі вачыма, спагадліва спытаў Раман Раманавіч.— Не стаміўся? Ногі не ўвярэдзіў за дзень?

— Халера іх не ўзяла, не баляць,— буркнуў паплаўнічы і здзіўлена глянуў на суседа:— А табе, Раманавіч, што за турбацыя?

— Хачу ў клуб запрасіць. Хутка дзяўкі прыбягуць, танцы пачнуцца. Магнітафон уключу — от ужо наскачашся да пакоту.

— Ці не кпіш ты, Раманавіч, ці не збыткуеш з мяне, нямоглага? Якія дзеўкі, якія танцы? Я і ў маладосці, бывала, па кутках ашываўся.

— Заладзіў — Раманавіч ды Раманавіч! — яшчэ больш ускіпеў Лівашоў.— А хто ж, калі не ты, на гэтага Раманавіча паклёп узвёў? Ды не выпучвай вочы, анёлак нявінны.

— Не разумею, што ты вярзеш, суседзе? — збянтэжана развёў рукамі Саўка Халецкі.— Душою перад табою не пакрывіў, слова не сказаў. Чаго ты прыліп, як смала?

Лівашова ад абурэння аж трасца брала: ну, ці не бачылі, людцы добрыя, які манюка, які хлус, які нахабнік гэты даўгалыгі Саўка! Ашальмаваў, абылгаў па ўвесь белы свет

і стаіць сабе быццам не лысы. Але пачакай жа, танцор чортаў: не адкруцішся, не адмахнешся рукамі! Пырскаючы слінай, Лівашоў палапаў у кішэні, выцягнуў адтуль шматок паперы і тыцнуў ім пад самы нос старому паплаўнічаму.

— Во глядзі! Заметка з газеты. Між іншым тваім прозвішчам падпісана: «С. Халецкі, селькор, калгаснік калгаса «Партызан».

— Але, бытта і праўда,— вытрашчыў выцвілыя, белыя вочы паплаўнічы.— Дзіва, дый годзе. Нічога ж я ў рэдакцыю не падаваў. Унукамі паклянуся, што невінаваты.

— Эх ты! Выліў цэбар гразі і, як заяц,— у кусты,— паківаў пальцам Лівашоў і, сабраўшыся ісці на свой панадворак, з'едліва падкалоў разгубленага суседа:— А ты ўсё ж завітай у клуб. Збэцаеш полечку. Вядома, калі нешта ў портках не памяшае.

Ад вялікага здзіўлення і збянтэжанасці ў Саўкі Халецкага адняло мову, і ён, быццам верставы слуп, яшчэ доўга, да самых прыцемак, стаяў каля хлява з абрыўкам газеты ў дрыготкай руцэ. У хаце, не верачы надрукаванаму, паплаўнічы перачытаў заметку, нават паглядзеў на яе праз святло электралямпачкі, але подпіс «С. Халецкі» не прападаў і, як ні дзіўна, прыемна лашчыў вока. Калі па шчырасці, думалася яму, то гэта, канечне, добра, што ў газетцы падсыпалі перцу гультаяватаму клубнаму граку, з другога ж боку, непакоіла пытанне, адкуль у рэдакцыі даведаліся, што ў Малым Сяле жыве такі талковы чалавек Саўка Халецкі? Сам ён і праўда заметку ў газету не пасылаў. Дзівячыся такой таямніцы, новаспечаны селькор не спаў бадай усю ноч: думаў, разважаў і нарэшце прыйшоў да высновы, што так, відаць, і трэба, калі крытычную заметку падпісалі яго прозвішчам.

— Ёсць разумныя людзі на свеце,— сказаў сам сабе паплаўнічы і пад раніцу моцна заснуў.

З Раманам Раманавічам ён цяпер стараўся не сустракацца, «збэцаць полечку» ў клубе таксама не рашыўся. Здавалася б, просценькая заметка ў газеце, а колькі перамен нарабіла яна ў жыцці Слаўкі Халецкага. На пажылога селькора спачатку суседзі пачалі паглядваць з асцярогай, потым яго паклікаў да сябе ў кабінет старшыня калгаса Алег Іванавіч Лебяда, пасадзіў у мяккае крэсла, распытаў пра сёе-тое і зусім нечакана выпісаў ніштаватую прэмію. Але болей за ўсё Саўку Халецкага здзівіў маласельскі паштальён Іван Муха. Аднае раніцы, можа, праз месяц па-

сля таго, як з дзвярэй клуба нарэшце знік пудовы замок, на заляпаным гразёю мінскім матацыкле ён падкаціў да Саўкавай хаты, каля варотцаў папіпікаў, выклікаючы на двор гаспадара, і калі той выглянуў з дзвярэй, пачаў звыкла расшпільваць тоўстую паштарскую сумку.

— Бяжы, браце, сюды,— весела вышчарыў паштальён жоўтыя ад табакі зубы.— Палучыш руп на хлеб ды на суп.

— Не разумею, які руп, адкуль? — спалохаўся Саўка, адчыняючы варотцы.— Ці не з неба зваліўся?

— Не з неба, а Гарбуз, рэдактар раённай газеты, прыслаў,— растлумачыў Іван Муха.— Ты ж пра нашага Лівашова напісаў? Дык вось за тую заметку табе ганарар выпісалі. І не руп, а цэлыя тры. Так што распісвайся і палучай грошыкі, багацей.

Саўка Халецкі не прытворна, па-сапраўднаму абураны напамінкам пра заметку ў газеце, левае брыво ў яго нервова торгаецца, і, незразумела ўсміхаючыся паштальёну, ён пачынае апраўдвацца:

— Не пісаў я нічога ў газету — колькі ўжо разоў казаць? Верыш, Антонавіч, не пісаў!

— Але ж не мне, а табе ганарар прыслалі,— разважліва нагадаў Іван Муха.

— Ну і што? Усё адно не пісаў. Гэта ж нейкі зламыснік падаў заметку ў газету, а мяне падпісаў. Знарок, нягоднік, ашальмаваў пажылога чалавека. Падумай сам: наліха мне здаліся яны: і чартоўскі клуб, і гэты грак Раман Лівашоў?

— Ты ці не ты, а грошы, калі ласка, палучы,— Іван Муха ўважліва прасачыў, каб Саўка акуратна распісаўся, сказаў зусім сур'ёзна: — Здаецца, я ведаю, хто накрэмзаў у раёнку пра наш клуб.

— Хто ж, Антонавіч, гавары хутчэй?

— Ты Пецю, Мікалая Дразда хлопца, прашчупай. Помніцца, акурат на згоне зімы ён цераз мяне пісьмо ў рэдакцыю падаваў.

— Гэта той малы падшыванец, што ў школу ходзіць?— недаверліва перапытаў Саўка Халецкі.— Ну і ну! Хто б падумаў, што ў Мікалая Дразда такі грамацей з'явіўся!

— Ты нішкам, спотай падкаціся — авось і прызнаецца.

— Дзякуй, Антонавіч, я яму, пісаку гэнаму, усе вушы абла́ташу.

Іван Муха спяшаўся, яго чакала багата такіх кліентаў, як Саўка Халецкі, пухнатая брызентавая сумка ажно адцягвала яму плячо, і, падаўшы зніякавеламу селькору руку, паштальён шустра застракатаў на сваім цягавітым ма-

тацыкле ўздоўж пахілых вясковых платоў. Застаўшыся адзін, паплаўнічы доўга разважаў, што рабіць з зялёнай траячкай: ці то спажыць як-небудзь з розумам, ці то выкінуць у крапіву? Ён ад прыкрасці нават скамячыў новенькую хрусткую паперку, але потым адумаўся, на шуле разгладзіў грошы рабром далоні, а праз колькі часу амаль подбегам ужо спяшаўся ў магазін. Купіў тут паўсеткі сваіх любімых цыгарэт «Прыма», падзівіўся з мноства тавараў на паліцах і ўжо зусім супакоены выйшаў на двор. Кіраваўся дахаты, раз-пораз акідваючы позіркам багатую пакупку, і нечакана яму падумалася, што быць сельскім карэспандэнтам зусім няблага — і ганарова, і грашавіта. За кароценькую заметку, бачыш, прыслалі аж тры рублі, а што было б, каб напісаць на цэлую старонку? Зноў жа Алег Іванавіч нездарма прэмію падкінуў, ды і тут, у магазіне, Алена Кавальчук абслужыла як найлепш: прапусціла без чаргі, выбрала сухой, не пакамечанай «Прымы».

Яшчэ паўгадзіны таму назад Саўка Халецкі так і кіпеў, каб накруціць вушы паганцу Пецю Дразду, а выходзіць, дзякаваць хлопца трэба. Гэта ж так добра ўдружыў: у Саўкі і аўтарытэт нейкі займеўся, і курыва, бадай, хопіць на месяц. Паплаўнічы нездарма адбухаў на свеце столькі гадоў, каб што-небудзь разумець у жыцці, і калі падыходзіў да сядзібы Мікалая Дразда, што тулілася ў засені старых яблынь і сліў, то ў яго было ўжо абдумана, як найлепей скарыстаць гэтага няздалага смаркатага пісарчука.

— Эге ж, хлопча, так і быць, не буду круціць табе вушы,— сказаў услых Саўка, адчыняючы тугую брамку.— Дарую свой сорам, сваю ганьбу.

Пеця быў дома — сядзеў за сталом, нешта спісваў у сшытак з тоўстай кнігі, прыслоненай да сцяны, рыхтаваўся, відаць, да ўрокаў. Хлопец убачыў паплаўнічага і раптам пачырванеў як бурак, заморгаў вейкамі, захліпаў носам, і здагадлівы госць адразу ззорыў гэтую яго разгубленасць, зразумеў, чаго затурбаваўся Пеця: чуе коцік, чыё сала ўходаў.

— А дзе ж бацькі? — бесцырымонна сядаючы на табурэтку, папытаў Саўка Халецкі і паклаў на калені сетку з «Прымай».— Мусіць, на рабоце?

— Ага, на рабоце,— пацвердзіў Пеця і яшчэ больш пачырванеў.— Тата на свінаферме, а мама цялятам пайшла даваць.

Светлавалосы, шчуплы хлапчук неспакойна круціўся на крэсле, не падымаў галаву, таму што яму, мабыць, сорамна было глядзець у вочы старому чалавеку.

— Навогул, я не да бацькоў прыйшоў, а да цябе, Пятро,— сказаў паплаўнічы.— Ды не круціся ты, бо порткі прадзярэш. Думаеш, я не ведаю, хто заметку падаў пад маім прозвіскам? Прызнавайся — ты?

— Я,— яшчэ ніжэй прыгнуўся да стала Пеця.— Сам не ведаю, як гэта выйшла.

— Не бойся, караць не буду, бо анічуць не крыўдую. Усё ж здорава мы з табою гэтага чорнага грака, заўклуба, прапясочылі! Да мяне прыбягаў, аж слінай пырскаўся. Ха-ха-ха!

Саўка Халецкі, здавалася, лопне ад гучнага рогату, так яму было смешна з таго несусветнага лодыра Рамана Лівашова, які яшчэ і сёння воўкам глядзіць на свайго суседа. Стары паплаўнічы быў маўклівы па натуры, і Пецця, ведаючы гэта, глядзеў на яго здзіўлена і спалохана. Хлопец не здагадваўся, чаго заявіўся ў хату незвычайна вясёлы чалавек, і толькі часта-часта лыпаў вачыма. Нарэшце Саўка Халецкі вырагатаўся, выцер слязу, што скацілася па шчацэ, і ўжо сур'ёзна загадаў Пецю:

— А зараз бяры, хлопча, ручку і чысты ліст паперы. Паколькі я ўжо законны сельскі карэспандэнт, то напішам з табою яшчэ адну заметку ў газету.

— Узяў,— пакорліва сказаў Пеця.— Пра што ж пісаць? Можа, пра лазню? Зусім жа яна разбурылася.

— Пра лазню — другім разам. А напішам мы пра наш магазін.— Саўка Халецкі зручней усеўся на табурэтцы, наморшчыў высокі лоб.— Я буду нагаворваць словы, а ты пішы. Адно каб без памылак было.

— Дыктуйце тады.

— Значыць, так. Стаў загаловак, ці як там называецца: «Гаспадыня за прылаўкам». Напісаў? Цяпер шуруй далей. У нашай вёсцы прадаўцом сельскага магазіна робіць ветлівая і сардэчная жанчына Алена Кавальчук. Усе калгаснікі адносяцца да яе з вялікай павагай...

Пеця Дрозд яшчэ не ведаў, што надоўга трапіў у кабалу да хітрага паплаўнічага, і таму, высалапіўшы язык, шчыра стараўся выкупіць сваю віну. Акуратна, без памылак, як ніколі, бадай, не шчыраваў і ў школьных сшытках, ён пад чужую дыктоўку апісаў заслугі Алены Кавальчук перад вёскай: і якая яна добрая, і якая працавітая ды паслухмяная, хоць сярод ночы падымі — прыйдзе ў мага-

зін і адпусціць усё, што хочаш. Затым Пеця падрабязна выклаў па паперы пра чысціню і парадак у магазіне, а ў канцы, са слоў свайго мучыцеля, пажадаў прадаўшчыцы доўгіх гадоў жыцця, моцнага здароўя і толькі тады, з палёгкай уздыхнуўшы, паставіў апошнюю кропку.

— Што, ужо кончыў? Які малайчына! — пахваліў Саўка Халецкі.— Калі так, то зноў падпішы маё прозвіска. Хай чытаюць людзі, хай радуюцца.

— Падпісаў,— сказаў Пеця і неўзаметку выцер узмакрэлы лоб.— Дзядзька Саўка, я магу вам і канверт даць.

— Але ж праўда, канверта ў мяне няма.

— Які вам — з кветачкай ці з самалёцікам?

— Карбунец яго ведае. Бадай, хай будзе з самалёцікам — мо хутчэй дойдзе.

Пакуль Пеця пісаў адрас рэдакцыі і заклейваў канверт, Саўка Халецкі важна сядзеў на табурэтцы і, гледзячы, як спрытна ходзіць пяро ў хлопцавых руках, думаў, што ў Малым Сяле наогул багата шустрых падшыванцаў, але такіх кемлівых і разумных, як Пеця Дрозд, бадай што і не знойдзеш. Бачыш, які пісар талковы: колькі таго часу змарнаваў, а заметку ў газету быццам намаляваў — спісаў аж дзве старонкі. Калі надрукаваць усю, то задрыпанай траячкай тут, мабыць, і не пахне.

— Вазьміце, дзядзька Саўка,— падаў Пеця акуратна заклееены канверт з самалёцікам і, ужо крыху павесялелы, пажартаваў: — Паштальён, шырэй крок, калі можна — дык бягом!

— Ага, добра ты пра паштальёна напомніў,— замест падзякі сказаў паплаўнічы.— У другі раз пададзім у газету, чаму ў нашай вёсцы пошты няма. Не маладзён жа я, каб так шыбка за Іванавым матацыклетам бегаць.

Заметку пра Алену Кавальчук надрукавалі роўна праз тыдзень, і шчаслівы Саўка Халецкі, выхапіўшы з рук Івана Мухі раённую газету, надоўга забыў, што ён ужо даволі пажылы чалавек, і да самага вечара як ашалелы насіўся па Малым Сяле, кожнаму сустрэчнаму тыцкаў у нос сваёй новай заметкай. Але ўсё паўтарылася, як і ў першы раз: хто пахваліў, хто паглядзеў скрыва, з насмешкай, а Раман Лівашоў зусім сур'ёзна распусціў чутку, што яго сусед здзяцінеў, звіхнуўся з розуму. Праўда, і Алег Іванавіч больш не запрасіў у свой старшынёўскі кабінет і не выпісаў прэмію, затое Алена Кавальчук, радасная, нібы дзеўка перад вяселлем, завяла яго ў бакоўку і паказала дэфіцыты — пляскатыя батарэйкі для кішэннага ліхтары-

ка, будзільнікі, бензапілу, сарочку з нейкім нянаскім надпісам.

— Выбірай, Сідаравіч, што душа пажадае.

— Навошта мне гэтая дрэнь? — закапыліў губу Саўка Халецкі, відаць, вырашыўшы, што як селькор мае права на капрыз.— Можа, на ёй, на кашулі заморскай, штось паганае напісана?

Ён выбраў сабе сіні будзільнік — стары даўно сапсаваўся, купіў дзве батарэйкі — ноччу, бывае, трэба выйсці на двор, памацаў з усіх бакоў пафарбаваную на чырвонае бензапілу «Дружба», пацмокаў языком і важна пакінуў магазін, нечакана выявіўшы, што гэта дужа прыемна, калі дзверы табе пачціва адчыняе сама прадаўшчыца. Поўны пыхі, што завалодала ім яшчэ там, у бакоўцы з дэфіцытамі, Саўка Халецкі няспешна ішоў па вуліцы, і калі хто сустрэчны вітаўся, то ледзь прыкметна ківаў галавою ў адказ. Адно засмучала яго: у рэдакцыі заметку скарацілі на добрую палову, а значыць, прапала надзея на вялікі ганарар, за які, прынамсі, можна было б прыдбаць ужо поўную сетку «Прымы».

— Іш ты, гарбузаўцы! Ім бы ўсё рэзаць ды рэзаць,— услых палаяў паплаўнічы раённых газетчыкаў.— На вожыка пасадзіць бы каторага за такія штукі.

Але смуткаваў ён нядоўга, бо новы будзільнік спраўна звінеў уранку, а ліхтарык са свежымі батарэйкамі свяціў надта ярка, і, прачнуўшыся сярод ночы, стары чалавек падоўгу перабіраў у памяці вясковыя навіны, якія маглі б зацікавіць рэдакцыю. Цяпер, як і ўсякаму творчаму чалавеку, яму кепска спалася, ён пакутаваў, ажно пахудзеў ад процьмы планаў і задум. З ганарару, што прыйшоў за Алену Кавальчук, падумаўшы, замест курыва купіў цэлы пачак канвертаў і як не кожны дзень, то цераз дзень валокся ў хату Мікалая Дразда і, калі дома не было дарослых, няшчадна эксплуатаваў паслухмянага Пецю. Адукаваны нявольнік, маючы за плячыма шэсць класаў, даволі талкова, часам без чужой дыктоўкі, пісаў заметкі, а Саўка Халецкі ў вялікім захапленні ад такога яго ўмельства забіраў тоўстыя канверты і перадаваў у рукі Івану Муху. Разам з Пецем яны напісалі крытыкулы, як называў заметкі стары паплаўнічы, і пра пошту, і пра разбураную лазню, і багата яшчэ пра што. Заметкі рэдакцыя друкавала, часам прыходзілі адмоўныя адказы, але гэта ўжо не засмучала Саўку Халецкага, таму што пісьмы ў газету з Малога Сяла ляцелі суцэльнымі касякамі. У Пеці, вялікага нявольніка

і пакутніка, на пальцах з'явіліся мазалі, яму даўно апрыкла ўся гэтая пісаніна, і аднойчы, убачыўшы ў акне знаёмую постаць, хлопец адным махам апынуўся пад ложкам і прытаіўся там як мыш. Саўка Халецкі патупаў па хаце, падзівіўся, чаму ў пакоях пуста, раптам убачыў на стале кнігі і сшытак, на якім яшчэ не засохла чарніла, і адразу даўмеўся, што тут да чаго. Ён нагнуўся, падняў коўдру і за нагу выцягнуў з-пад ложка свайго замардаванага памочніка.

— Не дурэй, хлопча,— павучаў паплаўнічы, ведучы Пецю да стала.— Сам жа ўблытаў мяне ў гэтую справу. Сядай, бяры лісток і шкрабай. Пра што ж гэта я маракаваў? Ага, дзеля справядлівасці трэба чыркнуць крытыкул пра нашу вуліцу. І Лебяда, і Лелес з сельсавета ездзяць, а ніхто не бачыць, што гразюка па калена.

Пра гразкую вуліцу Пеця, аднак, напісаў заметку з ахвотай, таму што яму і самому надакучыла абмінаць глыбокія калюжыны, прабіраючыся паўз платы, але тым не менш хлопец усё больш пачынаў ненавідзець старога паплаўнічага, свайго мучыцеля і прыгнятальніка. Маючы вялікі запас канвертаў, той кожны раз знаходзіў прычыну спатрэбіць іх на «апшчэсценную», як казаў, справу. Слава сельскага карэспандэнта, а так нязменна падпісвалі яго заметку ў газеце, надавала Саўку Халецкаму небывалага гонару, і, па свайму абавязку абыходзячы калгасныя палеткі, ён уважліва прыглядаўся да ўсяго, што варта было б пакрытыкаваць. Як толькі прыносілі свежы нумар раёнкі, Алег Іванавіч Лебяда ўжо і сам выхопліваў яе з рук паштальёна, ліхаманкава праглядаў ад першай да апошняй старонкі, шукаючы заметак з калгаса «Партызан». Старшыня не менш, чым Пеця Дрозд, ненавідзеў цяпер паплаўнічага і дужа шкадаваў, што ранняй вясной выпісаў яму прэмію.

Саўка Халецкі, паверыўшы ў сваю бязгрэшнасць, добра-такі ўкусіў калгаснае начальства: першы раз напісаў, што грэчку ў калгасе пасеялі няроўна, з агрэхамі, а потым, ужо на пачатку лета, паведаміў у рэдакцыю, што бурачныя плантацыі густа зараслі свірэпкай, і гэтыя дзве заметкі ў газеце надрукавалі пад рубрыкай «Трывожны сігнал». Забіраючы з Пецевых рук чарговы канверт з крытыкулам, асцярожны паплаўнічы кожны раз прасіў, каб той, абрунь бог, не сказаў нікому, што піша заметкі за Саўку Халецкага, але нейкім чынам, ці то прагаварыўся сам селькор, ці то яго тайну выдаў вушлы паштальён Іван Муха,

пра незвычайную эксплуатацыю чалавека чалавекам у Малым Сяле даведаўся Алег Іванавіч Лебяда. Будучы па справах у маласельскай брыгадзе, старшыня калгаса, мужчына грузны і тоўсты, як снежная баба, напаткаў на вуліцы Пецю, усёй сваёй магутнай масай прыціснуў беднага хлопца да збуцвелага плота і прачытаў натацыю.

— Шалапут ты гэтакі, смаркач! За каго пішаш? За гэтага абібока Халецкага? Ды яго ж самога даўно трэба раздраконіць у газеце. От скажу твайму бацьку, хай папругу возьме за такое дзела,— Лебяда страшна вытрашчыў круглыя, як шары, вочы, думаючы да паўсмерці напалохаць Пецю, але раптам палагаднеў, падабрэў і ўжо спакойным, нават ліслівым голасам папрасіў: — Ладна, пра папругу я гэта так, да слова. Але вось што, Пеця. Калі Саўка Халецкі зноў пачне мудрыць заметку пра непарадкі ў калгасе, скажам, пра сенакос ці пра тую ж свінаферму, дзе твой бацька робіць, дык ты, браток, мне перадай.

— Добра, перадам,— згадзіўся Пеця.— Калі што якое, адразу да вас у праўленне прыбягу.

Старшыня калгаса пасля гэтай сустрэчы паспакайнеў, ужо без ранейшага страху браў у рукі раённую газету, але дарма ён паглядаў у акно, марна ўзіраўся ў кожнага хлапчука. Пеця Дрозд у праўленне не бег, і ў гэтым, як высветлілася, у яго не было патрэбы. Неўпрыкмет надышло гарачае лета, скончыліся заняткі ў школе. Амаль паўмесяца Пеця яшчэ хадзіў у вучнёўскую вытворчую брыгаду — разам з сябрамі палоў кукурузу, прарывалі буракі, а потым стаў вольны як птах. На лузе за вёскай стракаталі касілкі, трактарысты акучвалі бульбу, непадалёк ад вясковага выгану пяшчотным блакітам разліўся лён, жоўтым полымем ускінуўся лубін — адцвіў і дружна пайшоў у струкі. Пеця куляўся ў копах сена, весяліўся як хацеў, калі ж прыходзіла чарга, пасвіў на выгане кароў і дужа радаваўся, што цяпер Саўка Халецкі радзей дакучае яму. З надыходам лета ў паплаўнічага прыбавілася турбот, паменела вольнага часу, але і Пеця стаў хітрэйшы і разумнейшы. Убачыўшы, што брамку адчыняе яго мучыцель, хлопец ужо не хаваўся пад ложак — стрымгалоў вылятаў у сенцы і па драбінах хуценька, як малпа, карабуліўся на гарышча. Паплаўнічы звыкла тупаў па хаце, заглядваў ва ўсе закуткі, Пецю, вядома, не знаходзіў і вяртаўся дамоў з пустым канвертам за пазухай.

І ўсё ж Пеця не ўсцярогся, не ўпільнаваў Саўку Халецкага: той застаў яго знянацку ў самым нечаканым

месцы — на вясковым выгане, дзе хлапчук адпасваў чаргу. На пашы, мокрай ад расы і ўчарашняга дажджу, яшчэ стаяў густы туман, каровы, згаладалыя за ноч, папоўніцы хапалі ядкую траву, а пастушок, утульваючы галаву ў каўнер курткі, ад сырасці і ранішняй прахалоды хаваўся ў зацішак каля пахілых кустоў алешніку. З сівога туману, якім быў спавіты і травяністы поплаў, і лубінавы палетак непадалёку, раптам выплыў нейкі высозны прывід і, гучна лаючыся, пачаў набліжацца да кустоў. Пецця прыглядзеўся і з жахам пазнаў у ім старога паплаўнічага. Пастушку захацелася схавацца, уцячы куды-небудзь, праваліцца хоць у прорву, але ён успомніў пра статак і застаўся на месцы.

Саўка Халецкі падышоў бліжэй, прыпыніўся і здзіўлена паглядзеў на Пецю. Твар у паплаўнічага быў чырвоны ад злосці, Саўка стомлена пахістваўся на цыбатых нагах, у руцэ ён трымаў вялікі лазовы кош, ледзь не ўкоптур напоўнены зялёнымі, яшчэ дробнымі струкамі лубіну.

— Пішы, Пятро, пішы! — мала што не закрычаў чырвоны і потны Саўка Халецкі, трасучы кашом, а другою рукою корпаючыся за пазухай.— Вось табе лісток, вось канверт, вось аловак. Пішы, Пятро, пра старую Вінцю, зладзейку несусветную. Ведаеш, учора я быў у хворага пляменніка, заначаваў, бо звечара ліў дождж, а сёння іду паўз палетак і чую — шум у лубіне! Падкраўся, а гэта Вінця струкі шчыпае. Забраў крадзенае, і вось добра, што цябе сустрэў.— Паплаўнічы паставіў кош пад альховы куст і зноў пачаў патрабаваць: — Пішы, Пецця! Хоць Вінця мая далёкая сваячка, а ўсё адно пішы. Як гэта сваіх парасят карміць народным лубінам?

Саўка Халецкі ледзь не лопаў ад злосці — ятрыўся, на чым свет стаіць лаяў Вінцю, нарэшце, змогся, уціхамірыўся і, забыўшы кош з лубінам, зняможана паблытаўся дахаты па роснай траве. Туман пачаў ужо радзець, расплывацца па нізках. Паказалася з-за лесу невысокае яшчэ сонца, і адразу пацяплела, Пецю перасталі брацць дрыжыкі. Крыху сагрэўшыся, ён пакінуў алешнік і зайшоў ад лубіну, каб каровы не лезлі ў шкоду. Стаяў на абмежку, пільнаваў чараду, не ведаючы, што рабіць з Саўкавымі пакамечанымі паперкамі і лазовым кашом. Старая Вінця, канечне, кепска зрабіла, але ж не прападаць дабру. Пецця падазваў сваю Падласку, паставіў ёй пад самую пысу кош з зялёнымі струкамі, і тая за мілую душу ўмалола ўсё да каліўца, дзівячыся, чаму сёння абышлося без біцця,

бо звычайна за такі вось ласунак ёй часта перападае дубцом альбо пугай па крутых баках.

Пасвіць статак Пеця наогул не любіў: зараз вышэй падымецца сонца, наляціць заедзь, і самыя маладыя шалапутныя каровы пазадзіраюць хвасты — не набегаешся тады за імі. Аваднёў і сляпнёў яшчэ не было чуваць, але ён з трывогай паглядаў на сонца, часта мераў крокамі свой цень, нецярпліва чакаючы поўдня, калі чараду можна будзе гнаць дадому. Цень укарочваўся марудна, на шчасце, і заедзь мала дакучала — ці то яе патруцілі гербіцыдамі, ці то гэтая погань яшчэ не ажыла пасля ўчарашняга дажджу, затое, ужо дзесьці пад самы абед, Пеця з нянавісцю зноў убачыў Саўку Халецкага. Раз-пораз спатыкаючыся на ямках і купінах, ад канцавых хат Малога Сяла той амаль подбегам кіраваўся проста сюды, на выган, які ўжо абсох ад расы і нават як быццам пасівеў на сонцы.

— Ты, гэта самае, не пісаў яшчэ пра Вінцю? — падбегшы на абмежак, спытаў паплаўнічы, раззяханы, ліслівы і ўжо не такі чырвоны, як уранку.— Не пісаў? То і добра. Чаго з дурной галавы не натворыш.— Ён азірнуўся вакол сябе, нешта шукаючы вачыма. — А дзе ж кош? Пайду мірыцца з Вінцяй. Якая ні ёсць, а ўсё-такі радня.

— Вунь кош пад алешынай,— паказаў Пеця, адчуваючы ў сабе незвычайную смеласць.— І канверт свой забярыце... А лубін я Падласцы скарміў.

— Мне не шкада — хай спажывае на здароўе,— махнуў рукою Саўка Халецкі.— Мне абы ціха было.

Паплаўнічы, нейкі згорблены і сагнуты, падыбаў мяжою паўз лубін, а Пеця з радасцю паглядзеў яму ўслед і, памераўшы свой — кароценькі ўжо — цень, хуценька пагнаў чараду з пашы. Кожны, хто добра ведае хлопца, напэўна, падзівіўся б, што ідзе ён за каровамі чамусьці спахмурнелы, вельмі сур'ёзны, натапыраны, калючы, як вожык. Сёння Пеця ўспароўся рана, у абед пастушок меў законнае права паспаць гадзін колькі, але замест гэтага ён зачыніўся ў пакоі і пачаў нешта хуценька страчыць на лістку паперы, вырваным са сшытка. Калі скончыў, ажно пасвятлеў з твару, усунуў напісанае ў канверт і выйшаў на вуліцу — акурат у гэты самы абедзенны час Іван Муха развозіў свежую пошту. Яго сіні пашарпаны матацыкл трашчаў ужо зусім блізка, і калі паштальён спыніўся каля брамкі, дастаючы з сумкі газеты, Пеця падаў яму заклеены і акуратна падпісаны канверт.

— Дзядзька Іван, аддайце на пошту.

— Што, яшчэ адзін селькор паявіўся? — хітра падміргнуўшы, спытаў паштальён.— Па-мойму, у Малым Сяле хапіла б і Саўкі Халецкага.

— Ды не, там пра кветачкі, пра птушачак,— збянтэжыўся Пеця.

— Ладна ўжо, аддам.

Аднак і добрыя ж былі гэтыя кветачкі і птушачкі, калі праз колькі дзён раённую газету ў Малым Сяле як не вырывалі адзін у аднаго з рук. Газету зачытвалі да дзірак, людзі хвалілі Пецю Дразда, а праходзячы паўз хату паплаўнічага, з'едліва пасміхаліся, сёй-той не цырымонячыся нават паказваў пальцам на яго вокны. Не разумеючы, з чаго б такое вяселле і адкуль у суседзяў набралася стольні смеху, Саўка Халецкі таксама торкнуўся носам у газету і адразу ж адкінуў галаву, як апёкся. На самым відным месцы, у сатырычным аддзеле «На сучок», была надрукавана заметка пра яго самога — хабаршчыка, зласліўца, несумленнага чалавека. Не шкадуючы фарбаў, раёнка расцісала ўсе яго грахі: пра тое, як дзесьці валачыўся ўсю ноч, як зламіў сваю сваячку ў лубіне, але начальству не заявіў, нават было і пра тое, як Саўка ўпотай хадзіў у магазін і браў у Алены Кавальчук дэфіцытныя тавары. Побач з заметкай красаваўся яшчэ і дужа смешны малюнак: цераз лубінавае поле ідзе Саўка Халецкі, адвярнуў голаў убок і быццам не бачыць, што мардатая кабета абшчыпвае ў велізарны кош струкі лубіну.

— Ах гіцаль, ах нягоднік!

Стары паплаўнічы, ашалелы ад злосці і сораму, парваў газету на шматкі, шчыльна завесіў фіранкі на вокнах, разумеючы, што ніякай славы і павагі цяпер яму не будзе. Суседзі ўпотай, а то і адкрыта кпілі, пасміхаліся з Саўкі Халецкага, заметку пра яго з вялікай прыемнасцю чытаў і перачытваў старшыня калгаса, а Раман Раманавіч Лівашоў ажно падскочыў ад радасці, траха не абамлеў ад шчасця, калі ўбачыў у «Савецкім Палессі» трапную карыкатуру на свайго блізкага суседа і найпершага ворага. Загадчык клуба выразаў малюнак з газеты, павесіў навідавоку, і кожны, хто заходзіў у калідор, адразу бачыў на сцяне намаляванага чалавека з незвычайна доўгімі нагамі, пукатымі вачыма і булаватым носам.

Пасля гэтых падзей Пеця Дрозд, баючыся помсты, доўга не рашаўся выходзіць на вуліцу, а калі зноў адпасваў чаргу, то глядзеў кароў асабліва пільна, таму што паблізу ў кустах шастаў паплаўнічы Саўка Халецкі, былы

селькор, былы эксплуататар і прыгнятальнік, цешачы сябе надзеяй на чырвоны мак аздобіць Пецевы вушы, калі якая неразумная рагуля залезе ў калгасныя пасевы і наробіць глуму.



# Лужок перад хатай

Маці пайшла на лужок па гусей, каб нанач загнаць іх у хлеў, пайшла ды і забавілася там. Я адхінуў край цюлевай фіранкі і ўбачыў, што яна стаіць у купцы людзей і як быццам забыла пра свой клопат. Побач з маці я пазнаў цётку Юлю. А вось той мажны, таўсматы мужчына, ну, канечне ж, дзядзька Валодзя. У руках ён трымаў лісток паперы і штосьці чытаў з яго, а кабеты ўважліва слухалі. Перад вокнамі па вуліцы праехаў на матацыкле вясковы паштальён з брызентавай сумкай цераз плячо, і я здагадаўся, што дзядзька Валодзя чытае пісьмо. «Напэўна, Юлі прыслаў нехта з дзяцей,— падумалася мне.— Іванка альбо Маруся. Цікава было б пабачыць, якія яны сёння, дарослыя...»

Быў цёплы летні падвячорак. На лужку хадзілі белыя чародкі гусей, дзядзька Валодзя чытаў пісьмо, а мне нясцерпна хацелася ведаць, што ж пішуць Юлі яе дзеці? Яны ўжо даўно сталі дарослымі, самастойнымі людзьмі, а я помніў іх маленькіх — гэтакіх крыклівых галапузікаў з ружовымі попкамі. За час маёй доўгай адлучкі з дому многае, вядома ж, забылася. Але, на здзіўленне, я добра помніў і вось гэты лужок, зарослы густым алешнікам, і старую Юліну хатку, зрубленую амаль побач з травяністым лужком. Я шырэй адхінуў фіранку і ўбачыў, што Юліна хата стаіць такая ж сіратлівая, як і раней. Зрэшты, гэта і не зусім так. Хата абнавілася, пamаладзела. Яе перасыпалі: выкінулі збуцвелыя плашчакі, дзе трэба, далі падноў: і перасыпалі, мусіць, нядаўна, таму што новыя бярвенні яшчэ не паспелі пачарнець, і ад таго сцены як бы разлінееныя на шэрыя і белыя палосы. Хату ажывілі пафарбаваныя ў зялёны колер вокны і дзверы, а на страсе нязвыкла свяціўся ў сонечных промнях новы шыфёр. Ра-

ней, помпіцца, дах быў толевы: ад вятроў і дажджоў толь часта рваўся і цётка Юля ледзь наспявала залатваць дзіркі то кавалачкам бляхі, то лістком фанеры ці проста якім струхлелым аполкам.

На гэтым месцы, дзе стаіць паласатая, як матрац, Юліна хата, калісьці было котлішча, зарослае асотам, быльнягом і чартапалохам. У густых зарасніках несліся суседскія куры, гулялі ў хованкі дзеці. Потым на старое печышча, што засталося ад вайны, прыйшоў наш блізкі сусед Лявон Пакумейка — скасіў непралазнае бадыллё, калі падсохла, спаліў яго і на расчышчаным пляцы пачаў будавацца. Ставіць зруб Лявону памагалі двое нанятых цесляроў і старэйшы яго брат дзядзька Валодзя. Зруб вырастаў хутка, таму што бярвенне было не новае: хату сабе Лявон перасыпаў з невялічкага гуменца, а бярвенні, якія ўжо ляжалі ў сценах, лёгка кладуцца ў зруб.

Полудзень цеслярам, ашчаджаючы іх час, кожны раз прыносіла Лявонава жонка — цётка Юля. Родам аднекуль з глыбі Палесся, з вялікай, мнагадзетнай сям'і, змалку прывучаная да працы, яна нават хвілінкі не магла пасядзець спакойна. Пакуль цесляры палуднавалі, хапала сякеру і абразала зялёны мох, які пучкамі тырчэў з пазоў.

— Кінь сякеру і не смяшы людзей! — падхапіўшыся з бервяна, крычаў на яе Лявон.— Дзе ж гэта бачана, каб хату рабіла баба?

Лявон паглядзеў на мужчын, зарагатаў, выстаўляючы жонку на смех, але ніхто з дзядзькоў не падтрымаў яго.

— А што тут такога? — апраўдвалася цётка Юля.— Мне абы хутчэй у свой куток перабрацца. Свякроў і так вочы выдзірае, праганяючы з хаты.

Лявон перастаў рагатаць, нахмурыў белыя, як пшанічныя, бровы:

— От што! Ты маю мацеру не чапай. Не дарасла яшчэ, каб упікаць яе.

— То я ж і не чапаю. Маўчу, уступаю ва ўсім, а яна сама грызецца, квахтуха гэтая...

— Не разводзь тут зводні ўсякія! — прыкрыкнуў Лявон.— І сякеру мне не тупі.

Цётка Юля, сабраўшы пусты посуд, ішла прыгнечаная па вуліцы, а ўслед ёй са злосцю глядзеў Лявон. Ён стаяў цыбаты, як бусел, касцісты, і мне не спадабалася, што на яго абветраным прадаўгаватым твары застыгла жорсткая, зласлівая ўсмешка. Я ўцёк з пляца, дзе гуляў на кучы

моху, і доўга тут не паказваўся. А на старым печышчы штодня цюкалі сякеры, шоргала, пазвоньваючы, піла. Зруб падрастаў увачавідкі, а к восені хата была ўжо зрублена і пакрыта толем. Аднойчы я выбег на двор і ўбачыў, што з коміна Юлінай хаты тонкім струменьчыкам уецца шызы дымок. Ветрык прыносіў адтуль кіслы пах толю, моху, сырой гліны.

Адразу пасля пярэбараў цётка Юля прыбегла да нас, пастаяла ў парозе, памаўчала, не рашаючыся сказаць тое, дзеля чаго і прыйшла да суседзяў, усё ж пасмялела і ціха папрасіла:

— Слухайце, людцы добрыя. Гэта ж прыйшла пакліканць вас на ўваходзіны. І цябе, Кандрат, і цябе, Альзбетка. Як-ніяк, мы цяперачы самыя блізкія суседзі.

— Не стой, Юлька, у парозе,— затурбавалася маці.— Во на табурэтку, сядзь.

— На ўваходзіны, кажаш? — перапытаў бацька і, падсоўваючы суседцы табурэтку, весела падміргнуў мне: — Гэта такое дзела, што грэх не прыйсці.

Цётка Юля села, паправіла хустку і, як бы апраўдваючыся, дадала:

— Мы і не клікалі больш нікога. Каб на добры лад, то чаму ж, можна было б і лепшыя ўлазіны справіць. Самі ж ведаеце: будаваліся, дык з чаго тое гульбішча рабіць?

— Канечне, труднавата,— разважліва сказаў бацька.— Ды неяк жа станеце на ногі. Помню, і ў нас такое было на першым часе.

— Ну але, абжывемся,— згадзілася цётка Юля.— І я без таго на сёмым небе, што аддзяліліся ад свякрові. Гэта ж поедам ела старая квахтуха. Што не зраблю, то ўсё ёй не так.— Цётка Юля памаўчала, і збоку было відаць, як па яе поўным, яшчэ маладым твары прабег цень смутку: — Абжывемся, але ці будзе мне шчасце? На Лявона нейкае замарачэнне найшло. Бытта хто падмяніў яго. Во і цяперачы сядзіць дома, надзьмуты як сыч. Іванку яшчэ падыдзе палашчыць, а мяне і Маруську — ні на вочы. Зненавідзеў, а за што?.. Я ведаю: гэта ўсё тая старая квахтуха Лявона падбухторвае.

— Што праўда, то праўда. Праксэда, свякроў твая, шкодлівая кабеціна,— паспачувала суседцы мая маці.— Але ты, Юлька, не бяры ў голаў. Мала што можа быць. Мо твой Лявон ад працыператаміўся? Таму і злосны такі.

— Хто яго ведае? — няўцямна паціснула плячыма цётка Юля.— Здаецца ж, я добра гляджу Лявона. Кожнае

раніцы то скварку, то яечка прыпяку.— Яна паднялася з табурэткі, падышла да дзвярэй і, беручыся за клямку, сказала з ранейшым смуткам у голасе: — І ўсё адно нейкае замарачэнне ў Лявона. Каб сваіх родных дзяцей так ненавідзець?

— От ты, Юлька, не прымай да сэрца. Усё абыдзецца добра.

Але замарачэнне, пра якое гаварыла цётка Юля, у Лявона не прайшло. У тую ж самую цёплую і сухую восень, калі з дрэў ападала залацістае лісце, Юліна хата засталася без гаспадара. Лявон неяк дахітрыўся прадаць карову, забраў грошы і кудысьці з'ехаў у белы свет, пакінуўшы жонку адну з малымі дзецьмі. Карова ў цёткі Юлі была з адбітым рогам, худая, зазімлівая, вымя прысохла, і ёй, канечне, патрэбна была замена. Гэтым, відаць, Лявон і абмануў жонку, выводзячы карову з цеснага хлеўца, упрытык прыстаўленага да хаты.

Цётка Юля ночы не спала, вызіраючы Лявона, чакаючы, што ён усё ж вернецца, і, не дачакаўшыся, з плачам прыбегла да нас.

— І куды ж мне цяпер скардзіцца, Альзбетка? — загаласіла яна ў парозе.— Чула, што Лявон нарабіў? Без малачка пакінуў дзетак.

— Хто б мог падумаць! — забедавала разам з Юляй мая маці.— Выходзіць, круцель ён, а не чалавек.

— Я ведаю: гэта ўсё свякроў нарабіла,— трошкі пачала супакойвацца цётка Юля.— Лявон жа так і сказаў, калі з дому ўцякаў. Кажа, я хатку табе знарок зрубіў, каб аддзяліць цябе ад свякрові, каб ты ёй здароўе не сушыла.

Цётка Юля выцерла ражком хусткі заплаканыя вочы, палапала рукамі па бартах куфайкі, затым выцягнула з кішэняў карычневы асялок і брытву ў чорным футарале. Павярнулася тварам да бацькі, які сядзеў ля акна, і сказала ціха, з прыкметным шкадаваннем у голасе:

— Бачыш, Кандрат? Лявон так уцякаў, што нават брытву забыў. Не ведаю, як ён там абыходзіцца без брытвы?

Бацька сядзеў ля акна, барабаніў пальцамі па падаконніку, увесь час маўчаў, а тут засоп і здзіўлена паглядзеў на суседку. Падняўся з табурэткі, узяў з Юліных рук брытву, выцягнуў лязо з жоўтых касцяных тронкаў і павадзіў ім па карычневаму бруску. Затым вырваў з галавы сівы волас, паклаў на жала брытвы і дзьмухнуў. Волас распаўся на дзве палавінкі.

— Ладная штука,— бацька пахваліў брытву і, засунуўшы яе ў футарал, падаў цётцы Юлі.— Схавай, можа, яшчэ спатрэбіцца.

— Кажаш, добрая брытва? — чамусьці абрадавалася суседка.— Я ж табе яе прынесла. Бяры, мне грошай не трэба. На адработак вазьмі. Мо калі якую копку сена ўтаўчэш? Усё адно хоць казу прыйдзецца купляць.

Бацька пацягнуўся рукой да вострай Лявонавай брытвы, але тут жа схамянуўся, схаваў руку ў кішэню.

— Не вазьму я Лявонаву брытву. Свая не горшая. Ты от пакладзі яе ў сухое месца, каб не з'іржавела. А што да сена, то і без брытвы магу памагчы.

— Мо і праўда, хай паляжыць,— падумаўшы, сказала цётка Юля.— Памажу салідолам ды ў шкапчык замкну. Дзякуй жа табе, Кандрат!

— Няма за што,— развёў рукамі бацька.— Ты хоць па малако не забывай прыходзіць.

Цётка Юля пайшла і яшчэ колькі дзён дарэмна выглядала ў другі канец вуліцы, адкуль пачыналася дарога на Ганцавічы. Лявон, як паехаў у белы свет, то ні разу нават пісьмом не абазваўся. Усю зіму цётка Юля прыходзіла да нас па малако, спачатку з кубачкам, а калі карова ацялілася, пачала браць і літровы слоік. А на весну суседка сапраўды купіла сабе казу — сівую, як быццам пасыпаную попелам, з паклычанай поўсцю, і тая не надта маладая каза ад ранку да вечара пасвілася на лужку, прывязаная да ўбітага ў зямлю калка. Цётка Юля хвалілася жанкам, што каза дае вельмі ж тлустае малако і частавала ім усіх суседскіх дзяцей. Барадатае і рагатае стварэнне, якое, безупынку мэкаючы, пасвілася на лужку, я чамусьці неўзлюбіў і таму адмаўляўся ад Юлінага пачастунку.

Старая аблезлая каза ў суседкі вялася мо больш за год, а неяк раніцай, калі дома ўжо нікога не было, у хату да нас ускочыла цётка Юля — спалоханая і запыханая ад спорнага бегу. Яна хуценька акінула позіркам хату і, мабыць, яшчэ больш спалохаўшыся, што тут нікога няма з дарослых, спытала ў мяне:

— Мішка, а дзе ж бацька твой?

— На рабоце. Картоплю па полі абгапяе.

— Што ж мне без яго рабіць? — затрывожылася цётка Юля, хруснуўшы пальцамі. Я заўважыў, што пальцы ў яе пабялелі.— Куды ж тут бегчы? — паўтарала яна.— Гэта ж мая каза здыхае. Мусіць, матыліцы напалі. То кашляла,

а цяпер упала і не падымаецца. Ляжыць вунь за хлявом, адкінуўшы галаў?

— А навошта вам мой бацька? — яшчэ нічога не разумеючы, спытаў я.

Цётка Юля змерала мяне позіркам з галавы да ног і, відаць, зарадавалася, што перад ёй стаіць рослы і дужы хлапчук.

— Ого, які ты вырас! — здзівілася яна.— А нашто мне бацька? Казу трэба прырэзаць, каб не мучылася. Хто ведае: мо цэлы дзень будзе мучыцца, пакуль дойдзе?

— Ды я ж не ўмею прырэзваць коз,— пачаў аднеквацца я, здагадаўшыся, куды хіліць суседка.— Каб гэта гусаку галаў адсекчы, то я мог бы.

— Што ж тут умець? Па горле чыркнуць касой і — гатова. Я табе і касу дам, і хлопцаў паклічу на помач. Ну як, Мішка?

Яна глядзела на мяне такімі ўмольнымі, жаласнымі вачыма, што адмаўляцца не было як, і я нехаця паплёўся на суседчын панадворак. Каза за хлявом сапраўды даходзіла: ляжала, адкінуўшы рогі, ледзь соўгала нагамі, а з расплюшчанага сіняга вока, абмінаючы клычкі поўсці, карцілася буйная, як боб, сляза. З-пад застрэшка цётка Юля выцягнула ненасаджаную на акоссе ржавую касу, пабегла і прывяла з вуліцы цэлы гурт маіх хаўруснікаў.

— Вы ж рэжце яе хутчэй, хай не мучыцца,— папрасіла скрозь слёзы, а сама ўцякла з двара.

Цётка Юля вярнулася праз якой паўгадзіны, баязліва спытала:

— Ужэ ўсё? Ці ж хоць не доўга мучылася каза?

— Не-а, не доўга,— апусціўшы галаў, схлусіў я.— Адразу і дайшла.

— То і добра, што не мучылася,— зарадавалася цётка Юля і, падумаўшы, выцягнула з кішэні сачыка пакамечаны рубель.

— А гэта, хлопцы, вам на цукеркі.

— Не трэба нам ваш рубель.

— Вазьміце, а то настойце тут — я сама злётаю ў краму.

Адмаўляцца не было сэнсу, я хапіў пакамечаны, не вельмі сумленна зароблены рубель, і ўсёй гайнёй мы пабеглі ў краму, купілі падушачак і падзялілі цукеркі пароўну. Вяртаючыся з крамы, я ўбачыў, што каля суседчынага хлява стаіць дзядзька Валодзя, які рабіў леснікам і па дарозе з лесу часта заходзіў пераведаць пляменнікаў.

Ён многа чым адрозніваўся ад Лявона — стаяў каля хлява таўсташыі, каржакаваты, з ліловым шрамам цераз шчаку. Дзядзька Валодзя таптаўся на тым месцы, дзе мы закапалі казу, глядзеў сабе пад ногі, на яшчэ сырую зямлю, і, падышоўшы бліжэй, я пачуў, як ён спытаў у цёткі Юлі:

— Як жа ты цяпер будзеш без казы?

— Перакідаемся як-небудзь,— нервова сцепанула плячыма цётка Юля.— Дзеці ж троху падраслі ўжэ.

— Усё адно ім трэба малачко,— задумаўся дзядзька Валодзя і з усёй сілы пацёр пальцамі шрам на шчацэ, ад чаго шрам з ліловага стаў белы.— Ведаеш што, Юля? Хіба забяры ў мяне цяля. Нічога, што выпустак. Глядзіш, за год-два ладная кароўка выйдзе.

— То ў цябе ж самога старая карова,— захвалявалася цётка Юля.— Я ж ведаю: цяля ты на замену гадаваў.

— Бяры, і ўсё тут! — сказаў рашуча, як загадаў дзядзька Валодзя.— Сёння ж і забірай.

— Чым жа табе аддзякаваць, Валодзя? — развяла рукамі цётка Юля і ўслед за ім пабегла з двара.

Рыжае пацешнае цялятка яна прывяла на лужок і навязала яго на тым самым бярозавым калку, ля якога яшчэ нядаўна пасвілася старая, аблезлая каза. Навязала, а сама пабегла на поле палоць дзялку. Невялікага росту, круглая з твару і гарачая да работы цётка Юля бадай што ніколі не мела супачынку: бягом з хаты ў хлеў, бягом — па ваду, подбегам — на калгаснае поле. Рыжае з белымі гарошынамі па баках, цяля паўдня хадзіла на лужку спакойна, а надвячоркам замыкала, нецярпліва перабіраючы нагамі. Цяля не было каму забраць з пашы, бо цётка Юля яшчэ не вярнулася з поля, а яе дзеці — таўстун Іванка і танюсенькая, як сцяблінка, Маруська — пакуль што слабыя памочнікі: аднаму тры гадкі, другому — пяць. Цяляці хацелася ў хлеў, хацелася цёплага пойла, і яно тупала па лужку, выцягваючы шыю ў бок недалёкіх хат.

— Небарака! — ідучы з работы і глянуўшы на лужок, сказала мая маці, і я не зразумеў, пра каго яна падумала: пра рыжае цяля, якое няма каму загнаць у хлеў, ці пра цётку Юлю, якая яшчэ не прыйшла з поля. Павярнуўшыся да мяне, маці папрасіла: — Пабяжы, Мішка, прывядзі яго, хай не жаліцца на лужку.

Я прывёў рыжае цяля, зачыніў у Юлін хлеў, але мне можна было і не турбавацца: цётка Юля і сама ўжо бегла з поля. Я пайшоў спаць і тою ноччу спаў кепска, таму што балела галава і ледзь не давідна снілася аблезлая Юліна

каза з перарэзаным гарляком. Ранкам, адмовіўшыся ад снедання, я пагнаў гусянят на лужок і прысеў тут на купіне. Грэўся на сонцы і нават не пачуў, калі ззаду падышла цётка Юля — яе заўсёды пазнаеш па ціхім, з ноткамі журботы голасе.

— Мішка, што ты робіш тут? — глянула на мяне і войкнула: — Ой, Мішка, ты ж увесь белы! Ці не захварэў, чаго добрага? — Яна нагнулася і намацала мой лоб — шурпатаю даланёю правяла па скуры ўсё адно што наждачкай.— Ды не, падалося... Лоб халодны.

За сабой цётка Юля вяла рыжае цялятка, і яно, мабыць, разумела, што яго вядуць на пашу — ішло роўна, не ўпіралася і не нацягвала повад. У алешніку яшчэ стаяў цень, раса яшчэ не падсохла, мокрая трава там яшчэ здавалася зялянейшай, і цяля, раптам занаравіўшыся, скіравала ў алешнік.

— Трэба перабіць калок бліжэй да кустоў,— падказаў я цётцы Юлі.— Пачакайце трошкі...

Я знайшоў важкі камень, перабіў калок на новае месца, і цётка Юля навязала тут сваю рыжую пястуху. Адыходзячыся, я звярнуў увагу на вяровачку, звязаную з розных кавалачкаў матэрыі.

— Ненадзейная вяровачка,— сказаў цётцы Юлі.— Каб хоць не парвалася.

— Добра, што сказаў. Вечарам пашукаю якую мацнейшую прывязь,— затрывожылася яна.— А цяпер трэба на дзялку бегчы. Сонца вунь як высака паднялося.

Цётка Юля не мела часу, яна спяшалася за вёску, дзе пачынаў зацвітаць лён, лапушыліся, убіраючыся ў сілу, цукровыя буракі. Пасевы трэба было палоць, ратаваць ад пустазелля, і жанкі ад рання шчыравалі там. З матычкай і брудным фартухом у руках суседка прабегла паўз нашу хату — заклапочаная, у нязменнай саржавай спадніцы і пацёртым шэрым сачыку, і, пакуль у траве шоргалі босыя, парэпаныя ногі, я глядзеў ёй услед.

— Мішка, дзяцей маіх глядзі! — ужо здалёк гукнула цётка Юля.

Калі нявыкрутка якая, яна заўсёды прасіла мяне паглядзець малых. Каб дзеці менш дакучалі, я сеў і зрабіў ім каламажку на драўляных колцах. Іванка і Маруська пачалі тузаць з ёю каля прызбы, а я, спакойны за іх, выйшаў на вуліцу. Нешта змусіла мяне зірнуць на лужок, я зірнуў у той бок і не так здзівіўся, як спалохаўся: рыжага цяляці каля кустоў не было. Я пабег на лужок і ўба-

чыў, што каля бярозавага калка ляжыць абрывак вузлаватай вяроўкі. Цяля, мусіць, не сцярпела заедзі, сарвалася з прывязі і ўцякло ў кусты.

Адразу за лужком пачыналіся непралазныя зараснікі і гразкія балоты. Жывёлу там ніколі не пасвілі. Каровы на балоце грузлі, і іх, змучаных і змардаваных, выцягвалі з дрыгвы лейцамі. Я ўздрыгнуў, уявіўшы, як рыжая цялушачка топіцца ў багне, і пабег. Але не на балота, каб ратаваць бедную жывёліну, а пабег на поле, дзе цётка Юля палола буракі. Яна заўважыла мяне здалёк і, затрывожыўшыся, подбегам пайшла насустрач:

— З дзецьмі што? Кажы хутчэй!..

— Не, з дзецьмі ўсё добра. Толькі... Толькі ваша цяля недзе прапала.

— Горачка ж ты маё!

Трохзубцовая матычка і брудны фартух засталіся ляжаць ускрай дзялкі, а цётка Юля пабегла, яшчэ не разумеючы, куды і навошта. Раззяхаўшыся ад спорнага бегу па глыбокіх разорах, яна прыпынілася толькі на лужку, каля альховага куста, за якім у густым шчытніку, нібы вужака, ляжаў вераўчаны абрывак.

— Трэба лезці ў балота,— скрозь слёзы рашыла цётка Юля.— Ты, Мішка, ідзі з левага боку, а я вунь тым краем пабяруся.

— Калі што якое, дык крыкніце адзін раз.

Цётка Юля ўзрадавана кіўнула галавой:

— Я і сто разоў крыкну, адно каб было чаго...

З разгону, свіснуўшы для бадзёрасці, я паглыбіўся ў густое, змрочнае кустоўе. Тая наравістая рыжая пястуха, калі б ведала, якую роспач прынясе гаспадыні, напэўна, не рвала б вяроўку і не ўцякала б на скрут галавы. Але нетра маўчала, не адзывалася ніводным шолахам, і гэта мяне трывожыла, хоць надзіва вельмі хутка, сам таго не чакаючы, я наткнуўся на рыжае цяля. Яно з галавой зашылася ў куст алешніку, а рыжая поўсць злілася з пажоўклым, пабурэлым знізу лісцем.

Юліна цялушачка шылася ў цень ад гарачыні, і, набраўшы паветра ў лёгкія, я штомоцы крыкнуў:

— Цёт-ка Ю-л-я-я!

— Бяг-у-у! — трохі па часе данеслася да мяне рэха.— Бяг-у-у!

Я гукаў яшчэ і яшчэ, каб скіраваць цётку Юлю на сябе, а цяля, якое нарабіла столькі клопатаў сваёй гаспадыні, усё махала хвосцікам, нават і не думаючы пакідаць та-

кую зручную схованъ ад пякучай заедзі. Да гэтага часу, пакуль я наткнуўся на прапажу, цётка Юля сцеханула, відаць, ужо добры кавалак балота, таму што выбегла на мой голас далёка ад таго месца, куды пайшла спачатку.

— Во дзе ваша бяглянка,— паказаў я на альховы куст.

— Такі ж яна!

Цётка Юля асвяцілася ўсмешкай, убачыўшы сваю прапажу, а цялушачка на голас гаспадыні абазвалася працяжным, жаласным мыканнем. Цётка Юля пачухала рыжуху каля вушэй, потым зняла з галавы касынку, абвязала вакол цялячай шыйкі. І цялушачка пайшла паслухмяна, без выбрыкаў, нават не трэба падганяць. Выходзячы з гушчарні на галу, я аж засмяяўся — такія мы абое брудныя, заляпаныя тванню!

— Не бядуй, высушымся,— павярнулася на мой смех суседка.— Хочаш, прынясі портачкі, дык памыю. Я так рада, так рада...

Пасля гэтага здарэння цётка Юля, перакалаціўшыся не на жарт, расстаралася моцны бялізнавы шнур і навязвала на ім сваю будучую кароўку. Раніцай, выходзячы з хаты, я па прывычцы глядзеў на лужок, дзе пасвілася рыжае цяля, а потым ішоў на Юлін панадворак зірнуць, што робяць малыя. Аднаго разу дзяцей я не ўбачыў каля прызбы і, затрывожыўшыся, зайшоў у хату. Зайшоў і здзівіўся, не могучы вымавіць ні слова. За сталом перад асколкам люстэрка сядзеў Лявон і галіўся брытвай з жоўтымі касцянымі тронкамі.

— Ты што хацеў? — павярнуўся на шум Лявон.

— Нічога. Так забег,— разгубіўся я і выкаціўся з хаты.

Як высветлілася, Лявон прыехаў позна вечарам. Цётка Юля ўжо лягла спаць, калі ў акенца пехта пастукаў. Яна адчыніла дзверы і войкнула, хутчэй не ад страху, а здзіўіўшыся. На парозе стаяў Лявон, беглы бацька Іванкі і Маруські. Яна моўчкі прапусціла яго ў хату, моўчкі паставіла вячэру, і з гэтага маўчання Лявон зразумеў, што жонка даравала яму, прыняла такога, як ёсць.

Цётка Юля была як не на сёмым небе ад радасці. На шчоках зацвіў румянец, выпраміліся зморшчыкі каля павесялелых вачэй, а на дакорлівыя позіркі суседак яна апраўдвалася — вельмі ж ціха і сарамліва:

— Як хочаце думайце, бабы, а мне гаспадар у хату трэба. Не, не сябе шкода. Вунь дзеці без бацькі растуць... Якое ім?..

— Табе відней, Юлька...
— Я ж і кажу. Які Лявон ні ёсць, а ўсё ж ён бацька. Прыехаў, бо адумаўся. І я прыняла. Не дзеля сябе, бабы...
Лявон першыя дні не паказваўся з хаты, таму што саромеўся людзей, а потым асмялеў, пачаў выходзіць на вуліцу. Прыехаў ён у жоўтым саламяным капелюшы і не скідаў яго нават у неспякотныя дні. Людзей старанііўся, час бавіў на камені каля хаты, уключыўшы па поўны гук радыёпрыёмнік, які, нібы авоську, насіў з сабою. Каля бацькі, крыху асвойтаўшыся, гулялі дзеці, а ён нерухома сядзеў, як бы прырастаў да каменя. Калі музыка з радыёпрыёмніка надакучвала, падымаўся з валуна, ішоў у хату. Выходзіў адтуль з вядром — нёс пойла цяляці і, пакуль яно піло, доўга стаяў на лужку, нейкі разгублены і задумлівы, як сам не свой.
Яму, зрэшты, і не было з кім пагаварыць. Вёска апусцела, дома засталіся адны дзеці і жанкі, а мужчыны выехалі на балота касіць сена. Што ж да Лявона, дык ён, здаецца, і не збіраўся на сенажаць — жоўты капялюш, як пудзіла, тырчэў з-за вішняку, які густа кусціўся на мяжы. Праганяючы курэй з градак, я выпадкова пачуў, як цётка Юля дакарае Лявона:
— Слухай, Лявон? З цябе ж ужо людзі смяюцца,— ціха, каб хто не пачуў, гаварыла яна.— Не абрыдла хіба без работы? Во камень як нагрэў. Хай бы ўзяў касу ды на балота паехаў. Няўжо мне зноў суседа прасіць? Вунь і цялушачка расце.
— Хіба ж ты забыла, што я ляўша? — ленавата апраўдваўся Лявон.— Мне і каса патрэбна на левую руку. Раней якраз такая была, ды глядзеў — з'іржавела яна даўно...
— Няўжо нельга знайсці такую касу? — захвалявалася цётка Юля.— Я адным лётам... У краму, а то да каваля збегаю...
Цётка Юля была занадта наіўнай і даверлівай, каб у словах Лявона не адчуць насмешкі і злога жарту. Касы на левую руку, аказваецца, не бывае. У краме проста пасмяяліся з дзіўнай просьбы. Адтуль, пачырванеўшы ад сораму, цётка Юля забегла да дзядзькі Валодзі, і ён неўзабаве паказаўся ў вішняку — насуплены і раззлаваны.
— Каціўся б, брацельнік, адкуль прыехаў! — пырскаючы слінай, адразу ж накінуўся на Лявона.— Не сарамаці народ! Навошта з бабы здзекуешся? Касу, бачыш, выдумаў...

— Адвык я ад сялянскай работы,— глуха, як з-пад зямлі, абазваўся Лявон.— У горадзе ж каля станка стаяў. Што заробіш, усё — твае. І грошы добрыя...

— Брахун няшчасны! — не паверыў дзядзька Валодзя.— Каб добрыя грошы, то хоць рубель дзецям прыслаў бы. Які ты пасля гэтага бацька?

Браты гаварылі — спачатку злосна, а потым усё больш астываючы — адны, без старонніх. Цётка Юля, заплаканая, кудысьці пайшла, і браты былі ўдвух, калі не лічыць Іванку і Маруську, якія не надта прыслухоўваліся да іх гаворкі. Затое я чуў усё, і не таму, што было цікава, а таму, што размова застала мяне знянацку, калі я залез у вішняк выратаваць ад вераб'ёў якую жменьку даспелых вішань.

— Не дакарай, Валодзя,— памаўчаўшы, журботна сказаў Лявон.— Лепш спытаў бы, чаму я з'ехаў з вёскі...

— Гэта ўжо цікава... Ну-ну!

— Ат, што тут казаць. Не люблю я Юлю. І ніколі, мусіць, не любіў. Жаніўся, а потым разгледзеў — не тая, пра якую думаў. Не вынцерпеў і ўцёк у горад. Там у мяне...— Лявон памаўчаў, як бы не жадаючы выдаваць сакрэт.— Там у мяне цяпер другая сям'я...

Дзядзька Валодзя аж сплюнуў ад прыкрасці.

— Тфу! І лаўкач жа ты, брацельнік!

Пацiраючы ліловы шрам на шчацэ, дзядзька Валодзя пайшоў, так і не дабіўшыся ніякага толку. На балота Лявон не паехаў, затое ля дому парухавеў: накалоў дроў, вадзіў на лужок і забіраў вечарам у хлеў рыжае цяля. Здалёк я часта бачыў, як ён гладзіў цялушачку, выбіраў для яе астраўкі лепшай травы. Можна было падумаць, што чалавек нарэшце ўзяўся за розум, пачаўшы клапаціцца пра гаспадарку. Я нават не быў здзіўлены, калі таўстун Іванка пахваліўся мне:

— А мы больш не будзем браць у вас малако. Татка казаў, што прадасць цялятка і купіць нам вялікую карову.

Іванка не хлусіў. Неўзабаве Лявон сабраўся ў раённы цэнтр — на кірмаш. Прыадзеўся, нацягнуў на аблыселую галаву саламяны капялюш. Цётка Юля прывяла з лужка сваю рыжую пястуху і, выціраючы слёзы, з рук у рукі перадала повад Лявону. Паабяцаўшы к вечару вярнуцца, ён павёў цялушачку за вёску, на шашу, а там, папрасіўшыся ў шафёра спадарожнай машыны, было лёгка дабрацца ў раённы гарадок. Цётка Юля праводзіла іх, стоячы на вуліцы — туліла да сябе дзяцей і доўга азіралася ў даро-

гу, пакуль Лявон не прапаў з вачэй. Цялушачка спачатку ўпіралася, адчуваючы ростань, а потым уціхамірылася, слухмяна патэпала за гаспадаром.

Да самага вечара, пакуль за лес не спусцілася сонца, цётка Юля смыкалася па двары, не знаходзячы сабе месца. І яна як бы прадчувала бяду. Да заходу сонца Лявон не вярнуўся. Пачакалі, пакуль добра сцямнее — Лявона ні слыху ні дыху. Праспявалі першыя пеўні — цішыня на дарозе. Не вярнуўся Лявон ні раніцай, ні вечарам другога дня. Стала ясна, што ён наогул болей не вернецца, і цётка загаласіла па цялушачцы, як па нябожчыцы — адкрыта, ужо не тоячыся людзей.

— Каб ты спух, мой Лявонка, як ты асіраціў дзетак! Гэта ж якая дурная — зноў паверыла басяку, нелюдзю...

— Не бяры, Юлька, у голаў — так і звіхнуцца можна,— угаворвалі суседкі.— Сярод людзей не прападзеш.

— Сумазбродам Лявон быў, ім і застаўся,— сказала мая маці.— Думаеш, адна ты ў яго такая? Круцель круцялём! А мы, суседзі, не кінем цябе ў бядзе. Во збяром па якой пяцёрцы і купім табе кароўку. А то калгас паможа. Напішы заяву, дык паможа. Толькі смялейшай будзь — напішы...

— Дзякуй, людцы, на добрым слове,— плакала цётка Юля, і ў яе голасе ўжо адчувалася радасць.— За сябе мне крыўдна... Як жа я магла паверыць прайдзісвету?

Прайшоў яшчэ не адзін дзень, пакуль яна як быццам супакоілася, перастала плакаць. Ды ўсё адно нешта ў ёй змянілася, перавярнулася ў душы. Яна пакутавала, цуралася людзей, а суседкі, бачачы яе схуднелы твар, баязліва пераглядваліся: хоць бы што не здарылася з Юляй? З той жа трывогай у вачах бацька ўпотай пазіраў на суседку, і яна не падазравала, што сваёй бядой нарабіла няма ла клопатаў людзям. Прыглядваючыся ў бок Юлінай хаты, бацька нечага ішоў пад паветку, калі пачуў на суседчыным панадворку часты, як бусліны клёкат, перастук малатка. Гэта здзівіла бацьку, і, забыўшы пра свой клопат, ён умомант апынуўся на Юліным дварышчы. Сагнуўшыся над пляскатым каменем, суседка па нечым з усёй сілы лупіла ржавым малатком.

— Ты што? Касу клеплеш? — спытаў бацька і, убачыўшы, што «клепле» Юля, ажно пабялеў ад роспачы: — Ай-яй! Гэта ж такую брытву зглуміла!

Ад брытвы ўжо нічога не засталося. Цётка Юля пабіла яе на друзачкі і цяпер дзюбкай малатка драбіла карычне-

вы брусок. Побач з каменем валяўся чорны футарал, таксама парваны на шматкі.

— Вось і ўсё! — падымаючыся з калень, уздыхнула цётка Юля і выцерла з расчырванелага твару ліпкі пот.— Прыедзь, Лявонка, пагаліся! Забыў брытву, дык, думаў, зноў буду хаваць?

— І ўсё-такі ты дарма пахвастала брытву,— упікнуў бацька.— Хай бы мне аддала. Хвайная ж брытва была...

— То ж табе я прыносіла яе. Помніш? Хай бы тады і забіраў,— сказала, усё больш астываючы, цётка Юля.— Не журыся, Кандрат! Няма ліха без дабра.

Яна не азіраючыся пайшла ў хату, і пасля гэтага яе, здаецца, больш ніхто не бачыў такой прыгнечанай і самотнай. Я быў здзіўлены, калі нядзельнай раніцай, прачнуўшыся, убачыў цётку Юлю ў нашай хаце — радасную і вясёлую. Яна стаяла ў кухні, гаварыла з маці, і, хоць старалася гаварыць пошапкам, асобныя словы ўсё ж далятаді да мяне:

— Як добра, Альзбетка, што надаўміла мяне пайсці да начальства. Даюць мне кароўку.

— Ну от бачыш! Не ў лесе, а сярод людзей жывеш...

Па нейкім часе пасля ганебных уцёкаў Лявона ў суседчыным двары ўжо рыкала кароўка — маленькая і чорная, як галка. Цётка Юля хвалілася, што яна вельмі ж удалая да малака, а галоўнае — корму трэба мала. На лужку, каля альховых кустоў, дзе яшчэ доўга валяўся абрывак старой вяроўкі, суседка падвячоркамі прыпасвала сваю чорную Галку. І на другое, і на трэцяе лета. Потым я скончыў васьмігодку, паехаў з вёскі і зараз ужо не ведаю, ці яшчэ жыве ў Юлі тая ўдалая кароўка. Вось прыйдзе маці, дык трэба будзе папытаць. Усё ж цікава — дзе тая чорная Галка?

Я стаю каля акна і чакаю маці. Людзі на лужку разыходзяцца. Дзядзька Валодзя прачытаў пісьмо і, паклаўшы лісток у канверт, падаў цётцы Юлі. Жанкі сабралі ў чародку гусей і дубчыкамі гоняць іх перад сабой. Цётка Юля ідзе самотная, задуменная, прыціснуўшы левую руку да сэрца. Я захінуў фіранку.

— Біць мяне няма каму,— ускочыла ў хату маці.— Госць у хаце, а я шлындаюся немаведама дзе...

— А што там было? — папытаў я.

— Юлін Лявон — можа, памятаеш яго? — пісьмо прыслаў. Хварэе ён цяперака. У Сяміпалацінску ляжыць.

у бальніцы. Дык просіцца, каб хто-небудзь прыехаў — альбо хто з дзяцей, альбо сама Юля...

— І як Юля — паедзе?

— Мусіць, паедзе. Кажа, напіша дзецям і — паедзе... Дурніца, я на яе месцы не паехала б... Лявон не варты такой ласкі.

У хаце пачало шарэць, недзе блізка ўжо зарыкалі каровы. Маці кінула сякач, якім таўкла бульбу ў драўлянай ражцы, і выцерла фартухом рукі.

— Пабягу зачыню ў хлеў Падласку. Яшчэ ў капусту ўб'ецца, акаяніца...

— Мама, а чорная Галка яшчэ вядзецца ў Юлі? — паспеў спытаць я.— Маленькая такая...

— Карова Юліна? Дык няма ўжэ, даўно няма. Як выходзіла замуж Маруська, Галку Юля ў пасаг аддала. Без каровы цяперака жыве. І навошта яна ёй? Іван у горадзе, дамоў рэдка прыязджае...

Услед за маці я выйшаў на двор. Пасля дзённай спякоты паветра прыкметна пасвяжэла, над лужком паплыў золкі туман. З таго боку ішоў статак: заняў сабою ўсю вуліцу, падняў над вёскай воблака пылу. Каровы спыняліся — кожная ля сваіх варотцаў, нюхалі паветра і працяжна рыкалі. Я міжволі азірнуўся на суседчын двор і ўбачыў, што там, каля брамкі, стаіць цётка Юля — маўклівая, задуменная, налягаючы грудзямі на плот, а ў руцэ, высунутай паміж частаколін, бялее квадрацік Лявонавага пісьма.



# Вальс над журлівымі таполямі

Таполяў — высокіх і стройных канадскіх таполяў, што помніліся з маленства — не было, і пусты, амаль голы пляц, дзе раней шумеў пругкай лістотай гарадскі сквер, спачатку здзівіў, потым расхваляваў, засмуціў Гуліцкага. Шаноўнага ўжо веку чалавек, сівы і грузны, ён стаяў

з уваходу ў былы сквер і не верыў сваім вачам: выгонi-стыя дрэвы сапраўды як карова языком злізала. Нават пнёў не засталося — выкарчавалі бульдозерам і хутчэй за ўсё вывезлі на сметнік. Гуліцкі разгублена глядзеў перад сабою і яшчэ не разумеў, чаму, з якой нагоды трэба было нішчыць і пляжыць такі прыгожы сквер? Помніцца, калісьці ў гарачыню людзі знаходзілі прытулак пад яго цяністымі кронамі, а мясцовыя абібокі і п'яніцы, схаваўшыся ад чырвонага аколышка, спакойна гавелі ў густым парасніку бэзу і жоўтай акацыі. Ну, канечне ж, не з-за іх, абібокаў і п'яніц, выразалі таполі — на гэта была, відаць, іншая прычына.

Толькі што прашумеў ціхі і цёплы летні дожджык. З-за невялікай — з аўчынку — хмаркі вызірнула чырвонае сонца, і промні яго раптам высвецілі, асыпалі золатам былы гарадскі сквер. Трымаючы ў руцэ невялікі дарожны чамаданчык, Гуліцкі прыгледзеўся лепей і нечакана зразумеў: а ўсё-такі не дурань быў той начальнік, які распарадзіўся выразаць шэрыя, вечна журлівыя канадскія таполі. Зараз, калі сонца сляпуча іскрылася на мокрай траве, стала асабліва бачна, што сквер нічога не страціў ад сваёй ранейшай красы. Замест някідкіх таполяў у нейкім строгім геаметрычным парадку на пляцы ўперамежку былі пасаджаны маладыя клёнікі і бярозкі, стройныя дубчыкі рабінак і каштанаў. Цераз увесь прадаўгаваты сквер — з канца ў канец — заліта шырокая роўная, як пад шнур, бетонная дарожка з жоўтымі ліхтарамі па баках. Абапал дарожкі зіхацелі дажджынкамі пунсовыя ружы і макі, гваздзікі і сінія садовыя незабудкі, пасеяныя ў радкі, рыхтык у гародзе морква ці агуркі. Шырокую бетонную паласу трохі далей перакрыжоўвалі вузейшыя дарожкі, канцамі ледзь не ўпіраючыся ў дзверы сталоўкі і кнігарні, хлебнай і рыбнай крамак, што, як і даўней, туліліся ў прыземістых будыначках праваруч ад сквера.

Хавалася за хмарку сонца, пасвяжэў ветрык, мерна пагойдваючы голыя, амаль без лісця, пруткі маладых пасадак, а Гуліцкаму раптам падалося, што ветрык разгуляўся ў тым ранейшым гарадскім скверы, які помніўся з дзяцінства. Выразна і блізка залапатала лістота, трэснулі галінкі, загайдаліся вяршаліны канадскіх таполяў. Але замарачэнне, мроя доўжыліся секунду, усяго нейкі міг. Высокіх, магутных дрэў у скверы не было — зніклі, як міраж. Разгублены і збянтэжаны яшчэ больш, Гуліцкі стаяў з краю абноўленага сквера, і людзі, праходзячы

міма, пачалі з цікавасцю азірацца, мусіць, пазнаўшы ў ім прыезджага чалавека. Гуліцкі схамянуўся: і праўда, нельга так доўга стаяць тут, навідавоку, трэба ісці шукаць начлег у гасцініцы. І ён пайшоў — маруднай, паважнай ступою — па бетоннай дарожцы, але на сярэдзіне яе не скіраваў на плошчу, дзе наўзбоч ад Дома Саветаў была гасцініца, а пайшоў далей, у самы канец сквера. Там, каля двухпавярховага універмага, далёка наўкруг раскінуўшы магутныя лапы, стаяла адзіная высокая таполя. Нейкім цудам яе не зачапіла бензапіла, абмінула вострая сякера, і тоўстае — рукамі не абняць — дрэва цяпер махала галінкамі, радуючыся жыццю, свежаму ветрыку, ціхаму летняму надвячорку.

Гуліцкі пазнаў гэтую высозную шумлівую таполю, згадаў той далёкі — сонечны і пяшчотны — красавіцкі дзень, калі на месцы яўрэйскага паселішча, спаленага ў вайну, садзілі сквер. Мужчыны і жанкі, зняможаныя нядаўнім ліхалеццем, без асаблівых жартаў і смеху разбіралі завалы, выносілі з папялішчаў разбітую, абгарэлую цэглу, расчышчалі пляц ад смецця і друзу. Валодзя Гуліцкі тады хадзіў, здаецца, ці не ў пяты клас. Пасля заняткаў, нават не перакусіўшы як след, ён адразу прыбег на пляц, дзе садзілі маладыя дрэўцы, і да вечара не столькі падсабляў, колькі перашкаджаў дарослым. Яны цыкалі на яго, праганялі прэч, але непаседлівы хлапчук, у якога, здаецца, гарэла шкура, усё ж неяк дахітрыўся завалодаць чужою рыдлёўкаю і цяпер ужо смела, не баючыся нікога, капаў глыбокія ямкі. Паблізу без пэўнага занятку круцілася аднакласніца Жэнька Коўш, і Валодзя, заўважыўшы гультайку ў людскім натоўпе, паклікаў яе да сябе, загадаў памагаць. І Жэнька — чарнявая, з раскосымі, як у манголкі, вачыма — слухмяна падносіла чаранкі таполяў, стаўляла ў ямкі, а Валодзя, налаўчыўшыся, хутка і спорна засыпаў іх. Не зглядзелі, як прайшлі цэлы рад. Спыніліся трохі супачыць, таму што якраз забракавала і саджанцаў. Валодзя, дурэючы, спіхнуў Жэньку ў ямку і хуценька пачаў закідваць зямлёю.

— Дурань, што ты робіш? — спалохалася Жэнька.

— За лета, як тычка, вырасцеш,— кпліва засмяяўся Валодзя.— Во будзе пацеха!

Ямка была глыбокая, ледзь што не да паясніцы Жэньцы, а Валодзя, гэты адпеты хуліган і задзірака, усё сыпаў і сыпаў зямлю, утрамбоўваючы нагамі. Аднакласніца заплакала, не могучы вырабіцца з зямлянай пасткі. Дзве

буйныя, як гарошынкі, слёзкі скаціліся па яе пунцовых шчоках. Але хутка пунсавелі не толькі Жэньчыны шчокі. Нейкі дзядзька, растапырыўшы кашчавыя пальцы, пагнаўся за хлопцам, і яго вуха стала чырванейшае за мак. Жэнька выбралася з ямкі і без аглядкі цурыла дахаты, а Валодзя, мацаючы балючае вуха, наўздагон памахаў кулаком.

Маладыя таполі, уторкнутыя ў глебу, перамешаную з попелам, вельмі добра прыняліся, і праз колькі гадоў сквер ужо нельга было пазнаць. Дрэўцы закаранелі, выцягнуліся ўверх, узяліся густымі кронамі. Трохі пазней паміж таполямі пасадзілі кусты бэзу, жоўтай акацыі. Разросшыся, сквер стаў месцам зборышчаў гарадскіх хлопцаў і дзяўчат. Цераз райком камсамола яны аднойчы выстараліся машыну сасновых дошак, і неўзабаве з краю сквера вырасла круглая танцпляцоўка з будкай для касіра, абнесеная густым штакетам, каб не лазілі падлеткі. Была б танцпляцоўка, а музыка заўсёды знойдзецца. Тады, пасля вайны, у Ганцавічах яшчэ не было духавога аркестра, ніхто не чуў пра вакальна-інструментальныя ансамблі. І граць моладзі за прыгаршчы медзякоў падрубіўся аднаногі франтавік Стась Рагалінскі, балазе, і жыў ён недалёка. Кожную суботу і нядзелю, а то і так, у будні дні, музыка кульгаў на танцпляцоўку, прымошчваўся побач з касіркай і ледзь не да раніцы рыпаў на сваім аблезлым, пашарпаным гармоніку. Іграў Стась Рагалінскі вельмі ж хараша: падкруціць рыжыя вусы, падміргне дзяўчатам, прабяжыць пальцамі па гузіках ладоў, і пальюцца над скверам чароўныя гукі ці то полькі, ці то падыспані, а часам, калі хлопцы паднясуць добрую чарку, аднаногі музыка яшчэ і падпяваў:

Песня ўся, песня ўся,
Песня скончылася.
Дзед бабу як зажаў —
Баба кончылася!

Таполі раслі, штолета таўсцелі ў камлях, і ўжо цяжка было ўявіць раённы гарадок без гэтага шумлівага сквера, без вясёлай танцпляцоўкі сярод густога бэзу і жоўтай акацыі. Марна не траціў часу і Валодзя Гуліцкі: да дзесятага класа вылюднеў, раздаўся ў плячах, а галоўнае — паспакайнеў, суцішыўся. Дзяўчаты ўпотай зазіраліся на ладнага хлопца, і нават Жэнька Коўш болей не крыўдавала за той недарэчны жарт. Пасля выпускнога вечара, помніцца, усім класам хадзілі на Цну сустракаць

узыход сонца, і Валодзя быў увесь час з Жэнькай, не спускаў з яе вачэй, далікатпа падтрымліваў за руку. Вяртаючыся з рэчкі, гуртам забрылі на танцпляцоўку і тут, пакуль разгаралася раніца, дурэлі, весяліліся хто як мог. Адзінокі Стась Рагалінскі, мабыць, праз акно ўгледзеў у скверы маладых і прыдыбаў на танцпляцоўку са сваім пашарпаным гармонікам. Валодзя і Жэнька кружыліся ў вальсе, штораз штурхаючы сяброў, і над імі шумелі высокія, статныя таполі, заходзіліся салаўі, а людзі, якія зранку беглі на працу, праз плот дзівіліся на ашалелую маладую кампанію.

І яшчэ нямала разоў у тое незабыўнае лета Гуліцкі і Жэнька Коўш хадзілі на танцпляцоўку і, ужо пе баючыся настаўнікаў, хмялеючы ад водараў летніх красак і нечаканых адкрыццяў, што прынесла з сабою сталасць, танцавалі да зморы, да ўпаду, а потым яшчэ доўга снаўдаліся па скверы, па запыленых вуліцах гарадка. Лета было спякотнае, вясёлае, і ім абаім хацелася, каб яно ніколі не канчалася. Але хутка іх дарогі надоўга разышліся. Восенню Валодзю пад усхліпы ахрыплага гармоніка правялі ў войска, а Жэнька паступіла ў гандлёвае вучылішча ў Баранавічах. На пачатку разлукі яны слалі адзін аднаму шчырыя, гарачыя лісты — «кахаю», «моцна цалую», і Гуліцкі кожны дзень не мог дачакацца ротнага паштальёна, і амаль кожны дзень атрымліваў свой законны пацалунак у канверце. Потым Жэнька пачала пісаць усё халадней, адказвала на яго лісты радзей і нарэшце зусім перастала пісаць. У апошні год службы Галіцкі нічога не ведаў пра Жэньку: дзе яна, што робіць, мо выйшла замуж, таму і маўчыць, слоўцам не абмовіцца? Ротны паштальён з жалем разводзіў рукамі, а ў Валодзі болем абліваласся сэрца: Жэнька, Жэнька, не маўчы ты, адгукніся!

З арміі Валодзя сыскаўся дахаты таксама восенню — у тую ж залатую, яшчэ цёплую пару, калі за Цною полымна гарэлі асіннікі і бярозавыя гаі, а сам гарадок наскрозь прапах пераспелымі антонаўкамі і каштэлямі. Валодзя выскачыў з вагона, апантана азірнуўся вакол, але ніхто яго не сустракаў, і, уздыхнуўшы, салдат пакінуў малалюдны перон. Дома дзеля прыліку пасядзеў з маці, распытаў пра сяброў — пра Жэньку знарок прамаўчаў — павячэраў і, адчуваючы пасля матчынай вішнёвай настойкі гарачыню ў грудзях, выйшаў на вуліцу. Была якраз субота. Шэры змрок атульваў дрэвы, вуліцы, дамы. З недалёкага сквера даляцелі гукі гармоніка: там, пэўна, па-

чыналіся танцы. Калі Валодзя даблытаўся сюды, на танцпляцоўцы ўжо было поўна моладзі. Ён прыткнуўся з прыходу і амаль нікога не пазнаваў, хаця і не дзіўна: дома не быў цэлыя тры гады, а за гэты час навырастала вунь колькі маладых хлопцаў і дзяўчат. На душы было чамусьці прыкра і сумна. Праз густое лісце таполяў прабівалася яркае святло ліхтара, падала касымі пасмамі на танцпляцоўку, і Валодзя з радасцю заўважыў, што дрэўцы падраслі, узмужнелі, засланяючы сабою вуліцу. Таполі пагойдваліся, шумелі, вітаючы дэмабілізаванага салдата. Ён прыслухоўваўся да вясёлага лопату лісця і не пачуў, як Стась Рагалінскі — пастарэў бравы ваяка! — урэзаў белы вальс. Дзяўчаты пачалі запрашаць хлопцаў на танец. Нечакана перад Гуліцкім спынілася чарнявае, паўнагрудае стварэнне ў рыжым сачыку. Ён, мабыць, не пазнаў бы Жэньку Коўш, калі б не гэтыя яе чорныя валасы, раскосыя вочы. Валодзя глянуў на рыжы сачык збянтэжана, здзіўлена, але гэта была яна, Жэнька Коўш, распаўнелая, пастарэлая, і ён, не верачы свайму шчасцю, ледзь што не прастагнаў:

— Жэнька, ты ці не ты?! Я ледзь пазнаў. Дзе ты прапала, Жэнька?

— Вярнуўся! — проста і коратка сказала яна.— Давай танцаваць... Пасля пагаворым...

Яны ўпічаміліся ў цесны круг, на іх ніхто не звярнуў увагі, і Гуліцкі падумаў, што гэта і надта добра. Жэнька кружылася лёгка, як птушка, а Валодзя няўмела гупаў цяжкімі салдацкімі ботамі, бо за доўгія гады службы ногі зусім развучыліся вырабляць розныя хітрыя выкрунтасы. Ахрыпла рыпаў стары гармонік, над галовамі шумелі таполі, дзесьці ў кустах бэзу валтузіліся і гучна рагаталі падлеткі. Кружыліся дрэвы, кружылася, уцякала з-пад ног танцпляцоўка. Калі Жэнька трапляла ў яркую пасму святла ад ліхтара, Валодзя заўважаў, што яна змянілася, пасуровела з твару, а ў раскосых вачах быццам прытаіўся нейкі ледзь улоўны смутак. Ён глядзеў на Жэньку і маўчаў. Маўчала і Жэнька.

— Пайшлі адсюль,— сказаў Гуліцкі, калі белы вальс нарэшце скончыўся.— Пагуляем у скверы.

— Пайшлі,— лёгка згадзілася Жэнька.— Пагуляем.

Па скрыпучых прыступках яны спусціліся з танцпляцоўкі і адразу ўступілі ў вечаровую шэрань, у журлівы таполіны шум. Далей углыбіні сквер не быў асветлены, і твар Жэнькі смутна бялеў у змроку. Яны ішлі па вуз-

кай дарожцы, што ледзь угадвалася паміж дрэў, і не ведалі, з чаго пачаць гаворку. За тры гады, мабыць, усё-такі пачужаліся, забылі адзін аднаго.

— Ну, расказвай, як служылася? — спытала Жэнька.— Нешта не відаць, каб хоць у сяржанты выбіўся?

— Два разы на гаўптвахце сядзеў,— як не з гонарам засмяяўся Валодзя.— Дык нават яфрэйтарскіх лычак не зарабіў.

— За што ж цябе, бедненькага, садзілі на тую гаўптвахту?

— Напіваўся дужа.

— Во як! — здзівілася Жэнька.— А не хлусіш?

Валодзя ўзяў яе пад руку, пацiснуў плячыма.

— Якая карысць хлусіць? Скажы от лепш, чаму не пісала?

— Адрас згубіла, а да маці тваёй пасаромелася ісці.

— Ладна, веру...

Гуліцкі і Жэнька мінулі брамку, пад нагамі рыпнулі, прагінаючыся, збуцвелыя дошкі драўлянага тратуара. Над гарадком плыла не па-асенняму ціхая, цёплая ноч, дрыжэлі далёкія, таямнічыя зоркі, хітравата, па-змоўніцку падміргваючы Валодзю. Позаду пачуўся дзявочы піск, далятаў маладзецкі перабор гармоніка. Мусіць, убачыўшы Валодзеву змову з далёкімі зоркамі, Жэнька лёгенька выслабаніла руку, якую ён падтрымліваў, і выбегла трохі ўперад. Тратуар рып-рып — пад Жэньчынымі туфлямі, гуп-гуп — пад салдацкімі ботамі сорак трэцяга памеру. Каля чыгуначнага вакзала, цьмяна асветленага сінімі і чырвонымі агнямі, спыніліся.

— Мо вернемся, паходзім яшчэ? — прапанаваў Валодзя.— Рана ж вунь як.

— Не, паблытаюся дахаты. Штосьці спаць захацелася.

Голас у Жэнькі чамусьці задрыжэў, і Валодзя зноў убачыў у яе вачах жывы, ледзь прыхаваны смутак. Жэнька як быццам нешта ўтойвае, нешта не дагаворвае.

— Тады я цябе правяду?

— Правядзі, калі ногі не баляць.

Жэнька жыла блізка каля станцыі. Трэба толькі крыху прайсці па тупкай сцежцы ўздоўж чыгуначнага палатна, потым, перад самым семафорам, перабегчы пуці, і там, за леспрамгасаўскай эстакадай, будзе яе дом — з узорыстымі ліштвамі на вокнах і высокім белым комінам. Цяпер, вечарам, наўрад ці што разгледзіш, але тры гады назад Валодзя колькі разоў быў у Жэнькі дома і добра запом-

ніў, што комін на хаце высокі і пабелены вапнай. Тры гады назад і Жэнька была не такою, як сёння: жартавала, сваволіла, проста ні з чаго выбухала доўгім, шчаслівым смехам. О, каб вярнуліся тыя даўнія, далёкія вечары! Пяшчотныя, шчодрыя на ласку, яны — тыя вечары, цалкам, непадзельна належалі ім дваім — Валодзю і Жэньцы. Ледзь што не на золку вяртаючыся з танцаў, яны спяшаліся, ішлі амаль подбегам толькі да семафора, а тут, на адхоне насыпу, падалі ў густую траву і, не помнячы нічога, пачыналі цалавацца. Цалаваліся, пакуль не запякуць губы, пакуль не пацямнее ў вачах. Потым перабягалі цераз пуці і каля ганка Жэньчынага дома цалаваліся і напаследак — доўга, замучана. О, далёкія, салодкія вечары!

Валодзя, ідучы за Жэнькай па вузкай сцежцы, у душы спадзяваўся, чакаў, што і сёння паўторыцца тое ранейшае, даўняе, незабытае. Ён ішоў паўз пуці і пільна ўзіраўся ў змрок. Блізка ўжо лесправгасаўская эстакада, лупаты семафор, а вось і адхон насыпу, дзе яны калісьці любілі цалавацца. Мясцінка надта прыкметная: побач будка стрэлачніка, далей чарнее мост, пад якім, выбягаючы з недалёкага алешніку, да самых маразоў несціхана журчыць ручай.

— Пасядзім тут? — спытаў Валодзя.

— Пасядзім,— адказала Жэнька.

— Не забыла?

— Не-а, не забыла.

Гуліцкі зняў салдацкі кіцель, паслаў на шорсткай траве, пасадзіў на кіцель Жэньку, а сам прымасціўся побач. Недалёка, у алешніку, шастаў вецер, трымцеў сухім лісцем, у траве, каля самых ног піснула мыш. На станцыі сіпата гукнуў манеўровы паравозік, і свіст яго доўга вісеў над эстакадай. Яны прыслухоўваліся да начных гукаў і маўчалі. Стала ціха, паравозік перастаў свістаць, тады з-пад чорнага моста даляцеў плёскат ручая.

— Дык чаму ж не пісала?

— Я ж табе казала — адрас страціла.

І зноў маўчанне, каб хоць слова, каб паўслова. Але маўчаць далей нельга, трэба нешта рабіць, не сядзець ёлупнем, і Валодзя нічога лепшага не прыдумаў, як раптам усхапіўся, прыгарнуў Жэньку да сябе, пацалаваў у гарачыя мяккія губы. Жэнька не заславала, не адбівалася. Усё-такі ён, Валодзя, малайчына: не развучыўся цалавацца за доўгія гады салдатчыны. Ён ужо не заўважаў

начных гукаў, не чуў, як у алешніку шастаў вецер, як на станцыі перагукваўся манеўровы паравозік.

— Пусці, задушыш, мядзведзь!

Зусім блізка, над насыпам, непакоіўся, трывожыўся лупаты, як цыклоп, семафор: то выцягваў дзюбу ўпоперак пуцей, то ставіў яе старчма, каб лепш разгледзець, што робіцца на адхоне насыпу. Семафор трывожыўся, семафор нерваваўся. Калі ён бліскаў зялёным вокам і падымаў дзюбу над чыгуначным палатном, рэйкі пачыналі дробна звінець, і неўзабаве міма эстакады прабягаў таварняк. Паравозы надрыўна свісталі, а машыністы ледзь не да пояса высоўваліся з акенца, убачыўшы ў святле пражэктара нешта незразумелае на адхоне. Але Валодзя Гуліцкі не заўважаў ні страшэнна цікаўнага семафора-цыклопа, ні залішне дапытлівых машыністаў. На свеце былі толькі яны ўдваіх — Валодзя і Жэнька, і ён адчайна, як у апошні раз, цалаваў і цалаваў мяккія, падатлівыя губы, адчуваючы такія ж шалёныя пацалункі ў адказ. Нарэшце Жэнька вырабілася з яго гарачых абдымкаў, падхапілася на ногі.

— Хопіць, Валодзька. Губы баляць.

— Выходзь за мяне замуж.

— Позна, Валодзька. Позна! — прастагнала Жэнька.— Цяжарная я...

— Хто?! — як не закрычаў Валодзя.

— Кляшчоў, загадчык сталоўкі. Я ў яго буфетчыцай раблю.

За насыпам у лагчынцы шумеў алешнік, тоненька пазвоньвалі рэйкі, выпучваў зялёнае вока цыбаты семафор. Жэнька раптам заплакала — горка, няўцешна, наўзрыд. Плечы яе ўздрыгвалі, распатланыя валасы лезлі ў вочы. Валодзя збянтэжыўся, разгубіўся: ён стаяў, апусціўшы рукі, і толькі плямкаў губамі, не ведаючы, што рабіць, што сказаць.

— І ты не лепшы! Бабнік! Кабель! Як з ланцуга сарваўся! — выкрыкнула Жэнька ў вочы Валодзю і, спатыкаючыся аб рэйкі, пабегла цераз насып.

— Куды ты? Пачакай!.. Жэнька!..

Валодзя было памкнуўся за ёю, але тут устрапянуўся семафор, трывожна залыпаў зялёным вокам. З-пад семафора на стрэлкі вылецеў таварняк і засланіў сабою Жэньку. Валодзя ледзь не падмазаў колы: адскочыў убок амаль што з-пад самага паравоза. Напята гулі рэйкі, доўга мільгалі вагоны і платформы — аж забалела ўваччу. Тавар-

няк праехаў станцыю на поўным хаду і адгукнуўся дзесьці ўжо далёка за пераездам. Валодзя стаяў аглушаны, апустошаны — як хто напляваў у душу. Жэнькі на тым баку насыпу не было. Зіркаты цыклоп зноў выцягнуў дзюбу над пуцямі і, здаецца, глядзеў на Гуліцкага зласліва, дакорліва, кпліва.

— Ану цябе, зануда!

Валодзя, як жывому, паказаў семафору кулак і марудна, няспешна, стараючыся не думаць пра Жэньку, пра яе бяду — а можа, зусім і не бяду? — пацёгся дахаты. На вуліцах гарадка было ціха і пустынна: танцы даўно скончыліся, хлопцы і дзяўчаты разышліся. У начной цішыні пад салдацкімі ботамі гулка адзываліся дошкі тратуара. Дзесьці непадалёк спрасонку кукарэкнуў певень, і Валодзя здагадаўся, што бярэцца на раніцу. Дома ён асцярожна, каб не разбудзіць маці, адчыніў дзверы ў свой пакой і не распранаючыся лёг на ложак. Адразу не мог заснуць — смаліў папяросу за папяросай, варочаўся з боку на бок, а калі вейкі нарэшце змружыліся, то спаў моцна і доўга, і маці, заходзячы ў пакой, палохалася, што сын стогне ў сне і скрыгіча зубамі. Спаў траха не цэлы дзень, а вечарам зноў быў у скверы, на танцпляцоўцы. Але дарма Валодзя прыглядаўся да дзяўчат: на танцы Жэнька не прыйшла. Не прыйшла яна ў сквер ні на другі, ні на трэці дзень. Сам не свой, са стрэмкай у сэрцы Валодзя які тыдзень смыкаўся па гарадку, і ніхто не здагадаўся, што ён плача — плача збалелай, пакрыўджанай душою. Потым знаёмы вярбоўшчык падбухторыў ехаць на цаліну — туды акурат адпраўляліся сем'і перасяленцаў, і Валодзя з радасцю згадзіўся, балазе ў войску вывучыўся на шафёра. Гадоў колькі круціў баранку самазвала ў кустанайскім стэпе, а дамоў не хацелася: маці напісала, што Жэнька выйшла замуж, гадуе дачку. Стрэмка ў сэрцы пякла, вярэдзіла душу, не давала спакою.

У Ганцавічы Валодзя Гуліцкі прыехаў па тэлеграме: раптоўна захварэла і памерла маці. Пасля хаўтураў ён прадаў хату, збыў сякую-такую жыўнасць, што вялася ў пахілым удовіным хляве, а сам наважыўся ехаць у Мінск, паступаць у інстытут. З Жэнькай не давялося сустрэцца. Дачуўся толькі, што яна робіць у сталоўцы, прадае піва. Грошай за матчыну хату хапіла надоўга. Валодзя, каб забыцца пра сваё гора, налягаў на кнігі, не прапускаў лекцый, і яго стараннасць заўважылі: пры размеркаванні на працу пакінулі ў сталіцы. А тут на вочы

натрапілася добрая, сціплая дзяўчына: стварылася сям'я, пайшлі дзеці, а Жэнька згадвалася ўсё радзей і радзей. У родны палескі гарадок наязджаць не было асаблівай прычыны: нікога з родных там не засталося.

Сплылі, як вада, дзесяцігоддзі, і толькі зрэдзь часу, старэючы, Гуліцкі згадваў сваё юнацтва, далёкае пакутлівае каханне. Думаў: мінулася, прайшло назаўсёды. Але ж не — не прайшло, не забылася. Нават дзіўна: варта было яму паявіцца на вуліцах Ганцавіч, як нешта нахлынула ў грудзях, тарганулася, запякла ў сэрцы даўняя балючая стрэмка. З-за туману гадоў, з вечаровай смугі выплылі высокія журлівыя таполі, цыбаты семафор на станцыі, травяністы адхон насыпу. Божа мой, як жа даўно гэта было!

Гуліцкі, сівы і грузны, усё яшчэ стаяў перад адзінаю ўцалелай таполяй, на скрыжаванні дзвюх бетонных дарожак. Зайшло сонца, і кветкі ў скверы адразу пажухлі, страцілі яркія, прывабныя фарбы. Змрок усё гусцей аблягаў шырокі пляц. Спяшаючыся, міма прабягалі людзі, у вокнах суседніх дамоў запальваліся агні. Час не ранні: трэба ўжо і Гуліцкаму дабірацца ў гасцініцу. Ён азірнуўся напаследак і тут ледзь не з ускрыкам пазнаў, што стаіць акурат на тым самым месцы, дзе калісьці была танцпляцоўка. Памыліцца нельга. Вакол танцпляцоўкі густа раслі бэз і жоўтая акацыя. Калі кусты выкарчавалі, у зямлі засталіся карані, і цяпер яны пусцілі пасынкі. З маладзенькіх — па вяршку ад зямлі — пруцікаў утварыўся шырокі круг, які і выдаваў мясціну, дзе была танцпляцоўка.

Гуліцкі зноў захваляваўся, і ў гасцініцу ісці яму перахацелася: там знойдзецца ложак, калі ні прыйдзеш — хоць сярод ночы, хоць пад раніцу. Уздоўж дарожак у скверы запаліліся ліхтары. У іх яркім святле на другім баку сквера цьмяна блішчэлі вокны сталоўкі. Гуліцкі стаяў на месцы былой танцпляцоўкі, глядзеў на гэтыя цьмяныя вокны і як быццам нечага чакаў. Сапраўды, ён нечага чакаў. Хутка вокны сталоўкі пачалі патухаць, чуваць было, як рыпнулі ўваходныя дзверы і на ганак выйшла некалькі жанчын. Яны разбегліся ў розныя бакі, а адна, з сумачкай у руцэ, скіравала на дарожку, дзе, як статуй, нерухома стаяў Гуліцкі. Жанчына набліжалася. Сэрца ў яго гулка і часта затахкала, па целе прабеглі дрыжыкі. Хай грымне гром з яснага неба, але гэта была яе, Жэньчына, паходка — плаўная, няспешлівая. Жэнька, вядома,

пастарэла: па дарожцы, апусціўшы галаў, ішла поўная, грудастая кабета. Вось да яе дзесяць метраў, вось пяць, вось яна зусім ужо побач. Гуліцкі не памыліўся: гэта былі Жэньчыны чорныя валасы, яе мангольскія, раскосыя вочы. Ён пастараніўся, ступіў на край дарожкі: ці ж заўважыць, ці ж пазнае? Але Жэнька, унураная ў свае бабскія думы, мелькам зірнула на яго, правяла позіркам ад галавы да ног і раўнадушна прайшла міма.

— Жэнька! — Падняла галаў.— Жэнька, пачакай! — Запаволіла хаду.— Кляшчова! — Спынілася, павярнулася на голас.— Жэнька, чуеш? Гэта я, Валодзя Гуліцкі...

Нейкі міг кабета прыглядалася да чалавека, які быццам з неба зваліўся перад ёю, але добра, што блізка каля дарожкі гарэў ліхтар, і Гуліцкі ступіў на святло, каб Жэньцы было лепш відаць. І яна ўсё-такі, мусіць, пазнала яго, свайго аднакласніка, бо, кінуўшы сумку, пляснула далонямі і подбегам пайшла насустрач.

— А я-то і думаю: што за трыбухач стаіць? Быццам нехта свой, не чужы. Ну, то будзь здароў, Валодзя!

Яны павіталіся за руку і стаялі твар у твар, не зводзілі вачэй адзін з аднаго. Гуліцкага засмуціла, што Жэнька стала нейкая бесцырымонная, задужа смелая. Ён помніў яе іншую — пяшчотную, далікатную, трошкі сарамлівую. Цяпер жа перад ім стаяла пастарэлая, грубаватая кабета, якая зведала жыццё, і, мусіць, не ўсё ў тым жыцці для яе было лёгка і гладка.

— Не глядзі так падазрона,— перахапіла яго ўважлівы позірк Жэнька.— Я і праўда п'яная, як бэля. У Надзежды Ігнацьеўны, нашай загадчыцы,— яна паказала на сталоўку,— сёння дзень нараджэння. Дык мы, грэшныя, купілі ёй недарагі касцюмчык, а Надзежда Ігнацьеўна, хай яе халера, паставіла скрыню віна. Дальбо, не хлушу — цэлую скрыню.

— А дзе твой Кляшчоў? — не стрымаўся, каб не спытаць Гуліцкі.— Здаецца, ён жа раней кіраваў сталоўкай.

— Дык няма ўжо майго Кляшчова, даўно няма,— шчыра здзівілася яго недасведчанасці Жэнька.— Яшчэ залетась згарэў ад самагонкі. Дай ты веры, сіняе полымя снопам шугала з рота. Я так перакалацілася тады: мала што сам канае, пустадомак, дык яшчэ і жыллё, баялася, падпаліць напаследак.

— Хай бы ў бальніцу пазваніла,— параіў Гуліцкі.— Усё-такі дактары.

— Званіла... Не далі рады,— з прыкметным халадком

у голасе адказала Жэнька.— А зараз адна жыву. Кватэра, як адрына, пустая — тры пакоі. Дочкі замуж выйшлі. Света тут, у Ганцавічах, а Вера — у Антопалі.

Жэнька, вядома ж, хлусіла, што выпіла цэлую скрыню віна. Яна проста была вясёлая і бесклапотная, манголачка Жэнька, смяялася, неўпапад жартавала, больш не ўспамінаючы недарэку мужа, і [redacted] гэтага Гуліцкі зрабіў вывад, што яна не кахала свайго Кляшчова. На душы адразу чамусьці палягчэла. Яны — двое пажылых, цёртых жыццём людзей — стаялі пасярод бетоннай дарожкі і хутка ўсё ведалі адзін пра аднаго: пра свае хваробы і немачы, пра дзяцей і ўнукаў. Расказала Жэнька і пра сквер. Таполі, аказваецца, зрэзалі таму, што пастарэлі, пачалі гніць у стрыжнях і падаць ад моцнага ветру. А над гарадком плыла цёплая, спакойная, летняя ноч. У святле ліхтара кружыліся белыя матылькі, няўцямна біліся аб шкляны каўпак. На станцыі сіплавата азваўся цеплавоз, з грукатам і шумам праімчаўся таварняк. Калі зноў стала ціха, на другім баку сквера, цераз вуліцу, дзе стаялі яшчэ даўнейшыя дамы, нечакана пілікнуў старамодны гармонік.

— Стась Рагалінскі! — пазнаў, устрапянуўшыся, Гуліцкі.— Жыў курылка!

— Яшчэ і доўбняй не заб'еш,— незадаволена сказала Жэнька.— Абрыд усім бязногі дзед. Гэта ж узяў моду: як толькі вечар, дык і выходзіць са сваёй шарманкай. Бывае, што ледзь не да раніцы суседзям на нервах грае.

Сумаваў, жаліўся, плакаў па чымсьці далёкім і незабытым нябачны ў змроку старасвецкі гармонік. Ай ды Стась Рагалінскі, дай табе бог здароўя! Рэж, музыканцік, рэж — не зважай на суседзяў! Гуліцкі адчуў, як запякло, заныла пад сэрцам, як цела пачало налівацца бадзёрасцю, сілай, быццам вярнуліся шчаслівыя маладыя дні. Ён слухаў гукі гармоніка і сам не ведаў, чаго хацеў, чаго патрабаваў ад Стася Рагалінскага. А той нібы ўгадаў яго жаданні: з цемры ў сквер даляцела светлая, пяшчотная, да болю знаёмая мелодыя.

— Белы вальс! — пазнала Жэнька.

— Ага, белы! — пацвердзіў Гуліцкі.

Плакаў, жаліўся гармонік, плакала, смылела ў Гуліцкага душа. А Жэнька паструнілася ўся, услухоўваючыся ў пяшчотную мелодыю, па шчоках скаціліся дзве буйныя слязінкі. І раптам яна — Гуліцкі не чакаў такога — выхапіла з яго рукі дарожны чамаданчык, шпурлянула ўбок, на траву.

— Давай, Валодзька, танцаваць! — выгукнула гарэзлівая, вясёлая Жэнька.— Спамянём маладосць!

— Ты што, звар'яцела? — спалохаўся Гуліцкі.— Людзі ўбачаць.

— Табе не жаніцца, мне замуж не выходзіць,— засмяялася Жэнька.— Не будзь дурнем! Гэта ж такая гжэчная дама запрашае — пальчыкі абліжаш...

І невядома, якая сіла тузанула, павяла, захістала Гуліцкага, і ён вельмі ж лёгка, без супраціўлення і нават больш таго — з радасцю і пяшчотай паддаўся гэтай невядомай сіле. Плыла цёплая, лагодная ноч, плакаў, выцінаўся старамодны гармонік, а яны ўдваіх кружыліся і кружыліся на шэрым бетоне, у дзіўным, казачным свеце. На плячы ў Гуліцкага ляжала цёплая даверлівая Жэньчына рука, і ён, як і калісьці даўно, хацеў, каб яна ляжала на плячы доўга-доўга. Нястомна да ачмурэння ў галаве Стась Рагалінскі расцягваў сто разоў клееныя-пераклееныя мяхі старога, як і сам, гармоніка, павольна, замілавана, нібы ў забыцці, Гуліцкі і Жэнька танцавалі белы вальс, і яны — двое пажылых звар'яцелых людзей — былі ўжо далёка-далёка, недзе там, у незабытай маладосці, і за плячыма ў іх раслі, цягнуліся ў неба, змыкаючыся над галовамі густымі кронамі, высокія і журлівыя канадскія таполі.



## Дварняк Бобік і ласіныя рогі

Смешна падумаць, што аблезлы ад старасці і палахлівы, як заяц, Піліпкаў дварняк выпараў у густым асінніку нешта вартае ўдалай паляўнічай стрэльбы. Ат, знайшоў, мабыць, мышыную норку, дык і разгаўкаўся на ўвесь белы свет. Піліпку цяпер Бобік у лесе не памочнік: аднае восені, у час гону, мацёры лось вострым капытом рассек бакавіну і пакалечыў дварняку нагу, калі той здуру выкульнуўся з хмызу пад звера, раз'ятранага ў паядынках з сапернікамі.

Усю зіму, не вылазячы з будкі, сабака залечваў глыбокія раны, залізваў струпы. Ён акрыяў, але з таго часу, як кажуць паляўнічыя, скалоўся: стаў палахлівы, страціў усялякую цікаўнасць да лясной жыўнасці. Люта ненавідзеў Бобік хіба толькі ласёў. Вынюхае ў траве знаёмы след, убачыць асіну, пагрызеную ласіным статкам, і аж залягаецца ад брэху. Хто-небудзь другі даўно завёў бы сабе новага сабаку, а ў Піліпкі Радзюка не падымалася рука застрэліць нядошлага Бобіка — гэта ж столькі папапазілі разам па глухіх нерушах, верасовых баравінах, гразкіх узбалотках!

Бедны дварняк, ён, пэўна, так не заядаўся б у гушчары, калі б ведаў, што гаспадар нават вухам не павёў на яго злосны, раскацісты брэх. Піліпка, раўнадушна прыслухоўваючыся да сабачага гвалту ў асінніку, марудна і няспешна, як чалавек, якому няма чаго рабіць, церабіўся праз густы ядловец, з насалодай дыхаў вільготным веснавым паветрам. Лес яшчэ не ажыў пасля зімы: у прагалах паміж дрэў сям-там бялеў наздраваты снег, у лагчынках стаяла рудая вада, і цяпер, калі паднялося сонца, сырая зямля паравала, сачылася вострымі ляснымі пахамі. На прыгрэвах, каля выжарын і каламутных ям, нясмела зацвілі першыя падснежнікі. Піліпка пачынаў ужо шкадаваць, што апрануўся вельмі цёпла. Зранку было яшчэ сяк-так, а вось зараз сілы нестае цярпець гарачыню: у старым, зашмальцаваным кажушку, цела прэе і пацее, хоць апратка даўно расшпілена на ўсе гузікі.

У лес Піліпка выбраўся не дужа каб па сваёй ахвоце, лепей сказаць — вытурыла з хаты Люба. І мала таго, што раскрычалася, як індычка, дык і грымакоў надавала ў плечы. Раніцай акурат пасля снедання, збіраючыся ісці ў краму, жонка дастала з шафы кашалёк, пералічыла грошы і падазрона паглядзела на Піліпку:

— Па-мойму, тут пятнаццаці рублёў не хапае. Ты ўзяў, пустадомак?

— Узяў,— прызнаўся, чырванеючы, Піліпка.— Але не думай, што па кепскае дзела спатрэбіў. Спінінг купіў.

— Ці ж не боўдзіла! Навошта табе спінінг? І без таго ж хата ўсялякім ламаччам завалена.

— Рыбу ў возеры буду лавіць. Хай адпо лёд згіне — во такіх, пудовых, шчупакоў нацягаю.

— Нацягаеш! Наемся я тваёй рыбай.

Дзіўна, але вялізныя — па цэлым пудзе — шчупакі, якія, на думку Піліпкі, вядуцца ў азерцы за вёскай, не

ўлешчылі, не спакусілі Любу. Яна падняла несусветную сварку, нарабіла гвалту, і гаспадар хаты, утульваючыся ад жончыных кулакоў, стрымгалоў вылецеў на двор. Хапіў з вешалкі кажушок, у сенцах зняў са сцяны стрэльбу, на дрывотні запхнуў пад папружку маленькую сякерку і, крыўдуючы на свой горкі лёс, па даўняй звычцы падыбаў у лес, балазе быў выхадны дзень і ў калгасную рамонтную майстэрню, дзе Пілiпка рабіў слесарам, ісці не трэба.

Веснавы лес — шэры і непрыветны — стаяў непадалёк ад вёскі. Варта толькі выбіцца на пагорак і, мінуўшы невялікае азерца ў нізовіне, перайсці шашу, як адразу ж трапляеш у абдымкі кашлатых елак і векавых сосен. На выхадзе з вёскі, ужо крыху супакоіўшыся, Пiлiпка пачуў позаду шум і азірнуўся: за ім, накульгваючы на пярэднюю лапу, цялепкаў аблезлы верны Бобік. Гаспадар хацеў прагнаць сабаку, нават ужо тупнуў нагою, але перадумаў — хай бяжыць сабе, хоць адна добрая душа будзе побач.

У лесе, як толькі мінулі баравы грудок, за якім пачаліся імшарыны, парослыя асіннікам і ядлоўцам, Бобік парухавеў, перагнаў Пiлiпку і пашыўся ў самы гушчарняк. Адтуль, з зелянцовага падлеску, неўзабаве пачуўся зацяты сабачы брэх. З кожнай хвілінай Бобік заядаўся ўсё галасней, клічучы гаспадара да сябе, і той нарэшце ачомаўся ад гаротных дум і рашыў паглядзець, якую ж такую дзічыну выпараў аблезлы дварняк?

Патрывожаная шумам і гвалтам, над галавою затрашчала сарока, у макаўках пахмурых асін прайшоўся вярховы вецер. Дрэвы захісталіся, замахалі голымі галінкамі. Сарока, мусіць, не менш, чым чалавек, зацікавілася гармідарам у асінніку, бо паднялася на крылы, трохі пакружылася над нізкарослым прыблудам са стрэльбай і паляцела ў той бок, дзе па-ранейшаму лютаваў раз'ятраны Бобік. Цяпер ужо і Пiлiпка, здзіўлены паводзінамі птушкі, заспяшаўся, як не бегма папёр у гушчарняк.

Бегчы, аднак, доўга не давялося. Ядловец нечакана расступіўся, і перад вачыма адкрылася невялікая палянка — яшчэ шэрая пасля зімы, без ніводнай зялянінкі, з лужынай пасярэдзіне. Бобік быў тут. Матляючы галавой, ён сярдзіта брахаў на лася. Пiлiпка, спыніўшыся з краю палянкі, ужо не здзіўляўся такой рашучасці і неспадзяванай смеласці дварняка. Лася проста не было. Якраз пасярэдзіне лужыны, умёрзлы ў лёд, ляжаў толькі голы, аб'едзены шкілет звера, а Бобік, кружачыся наўкол, брахаў і брахаў на белыя косці.

Паліпка добра ведаў лес, але і недасведчанаму воку ясна было б, што на палянцы, сярод пануры x асін, здарылася трагедыя. Лось загінуць мог не пазней, як мінулай восенню — у час гону, а то і раней: мажліва, напароўся на вострыя рогі саперніка, мажліва, яго загрызла воўчая зграя, амаль нічога не пакінуўшы на спажыву груганам і крыклівым сарокам. Піліпка здзіўленымі, расшыранымі вачыма глядзеў на шкілет і ўсё болей пераконваўся, што трагедыя здарылася іменна восенню, але не пазней — не пасля гону. Звычайна ў снежні, калі даўно прыціхнуць палюбоўныя гульні, сахатыя скідваюць рогі, а тут жа вось яны — цэлыя і непашкоджаныя. Рогі тырчаць з чэрапа ласяў, мазоляць Піліпку вочы. Хто бачыў такія цудоўныя і прыгожыя рогі — галінастыя, больш як паўметра ў вышыню, ■ сямю адросткамі на кожным ствале! Адразу відаць, што насіў іх не які-небудзь заморак, учарашні сысунок, а здаравенны, мацёры лось.

— Гаў-гаў! Гаў-гаў! — падбадзёрыў гаспадара руды дварняк.

— Малайчына, Бобік! — пахваліў дварняка гаспадар.

Піліпка, радуючыся ўдачы, падышоў бліжэй, таўхануў ботам ласіны чэрап. Дварняк перастаў брахаць. Шырокія, як шуфлі, рогі глыбока ўмерзлі ў лёд, і зварушыць іх не ўдалося. Тады Піліпка выцягнуў з-за папружкі сякеру і высек рогі разам з лобнай косткай. Пакуль махаўся над чэрапам, узмакрэў, запарыўся і цяпер стаяў, аддыхваўся, любуючыся незвычайнай знаходкай. Удача сапраўды рэдкая: ласі скідваюць рогі заўсёды паасобку — сёння адзін, заўтра другі, а тут усе два на адной костнай пласцінцы. Ого! За такі падарунак Люба, напэўна, адпусціцца, даруе Піліпку ягоны грэх і, чаго добрага, спячэ большую скварку на вячэру. Думаючы так, ён прымеркаваўся, куды павесіць рогі — на кухні ці ў святліцы. Не, лепей прыбіць каля шафы, няхай жонка вешае свае сукенкі ды кофты. А што — будзе і зручна, і прыгожа.

— Пайшлі, Бобік,— ласкава загадаў дварняку гаспадар.

— Гаў-гаў! — згадзіўся той.

Піліпка закінуў на плечы важкія як падняць ласіныя рогі, і яны — Бобік уперадзе, а гаспадар следам — рушылі з лесу. Было ўжо за поўдзень. Сляпіла вочы сонца, курылася параю зямля, лясную цішыню толькі зрэдку парушаў траскучы крык сарокі. Ішлі па сваіх слядах, тою ж дарогай, што і сюды — прадзіраліся цераз хмызнякі, бра-

ліся праз гразкія ператочыны і ўзбалоткі. Пілінка, расплёскваючы ботамі талую ваду, уяўляў, як заўсміхаецца Люба, атрымаўшы незвычайна дарагі гасцінец, як палезе з нажом у кубелец. Няхай падумае, злосніца, ці варта было ганіць такога ўважлівага чалавека, даваць яму кухталі, выганяць з хаты. І Бобіку, можа, перападзе болей ласкі — лішняя скарыначка хлеба, місачка малака. Вядома ж, зарадуецца Люба.

Змрочны асіннік з густым падлескам і хлябістымі нізінкамі застаўся далёка позаду. Пілінку, які ледзь не згінаўся ад немалога цяжару, Бобік ужо вёў па верасе, па баравым грудку. Тут, пад выгоністымі соснамі, дварняк азірнуўся і ажно высалапіў язык ад нечаканасці. Ён, мусіць, не пазнаў гаспадара: па лесе ідзе не чалавек, а нейкі чорт рагаты. Пілінка і праўда выглядаў дужа смешна: рогі за плячыма, выступаючы высока над галавой, зрабілі яго спераду падобным на лася, і гэта збянтэжыла, затурбавала Бобіка. З брэхам дварняк кінуўся прэч і хутка знік паміж соснамі.

Ад гарачыні, прыпару на лбе ў рагатага Пілінкі выступіў пот, а што да ног, то яны ўжо балелі даўно, можа, нават мазалі з'явіліся на ступаках. З пакутаю на твары ён мінуў бор, перайшоў шашу і тут, на беразе невялікага азерца, знясілеў зусім. Трэба было перавесці дух, крыху супачыць, і бядак скінуў з плячэй стрэльбу, асцярожна, каб не разламаліся, паклаў ласіныя рогі на пашэрхлую леташнюю траву. З хмызняку выкульнуўся Бобік і пачаў лісліва лашчыцца ля ног: гаспадар без ласіных рагоў над галавою ўжо не быў страшны яму.

— Вось так, браток,— сядаючы на валун, сказаў дварняку Пілінка.— Будзе нам пачостка: мне скварка, табе костка. Як жа, зарабілі!

— Гаў-гаў! — радасна завіляў хвастом Бобік.— Гаўгаў!

Пілінка Радзюк зняў кажушок, падставіў гарачыя, расхрыстаныя грудзі пад свежы ветрык, што павяваў з возера. Ледзянога панцыру на вадзе ўжо не было, толькі дзенідзе, на сярэдзіне азерца, яшчэ чарнелі рэшткі крыг, і хвалі, раскутыя ад зімовага палону, з плёскатам біліся ў прыбярэжным пачарнелым чароце. Пілінка адпачываў — даў волю рукам і нагам, цешыўся наваколлем, і лагодны, вясёлы настрой не пакідаў яго. Збоку, па шашы, час ад часу з шумам і грукатам прабягалі машыны: цяжкагружаныя лесавозы, бартавыя грузавікі, зіхоткія ад сонца «Жы-

гулі» і «Масквічы». Адна легкавушка, набліжаючыся да возера, запаволіла ход і спынілася якраз насупраць шэрага валуна, на якім сядзеў Пілiпка. Шафёр, немалады і, відаць, дужа цікаўны, высунуўся з акенца і крыкнуў:

— Гэй, чалавек! Што там у цябе тырчыць каля каменя?

— Рогі.

— Чые рогі?

— Слановыя,— чамусьці зазлаваў Пілiпка.

— Паглядзець можна?

— Ідзі глядзі, што мне з таго...

Цікаўны шафёр, а за ім і жанчына, апранутая па-гарадскому, з сумачкай у рудэ, выйшла з машыны і з шашы спусцілася на бераг возера. Пілiпка сустрэў прышэльцаў не вельмі прыветліва, таму што не ведаў яшчэ, чаго яны хочуць. Стараваты шафёр падняў рогі, агледзеў з усіх бакоў, пацмокаў языком:

— Век пражыў, а яшчэ не бачыў такога цуда. Не жарты — ажно сем адросткаў. Відаць, стары, магутны быў лашак.

— Канечне ж, не слабак.

Пілiпка цяпер, калі трохі супачыў, і сам па-новаму залюбаваўся ласінымі рагамі. Яны, хоць праляжалі цэлую зіму пад снегам і траскучымі маразамі, добра захаваліся: верхні рагавы слой не патрэскаўся, матава бялеў. Не рогі, а царская карона.

Мужчына з легкавушкі зноў пацмокаў языком, пачухаў патыліцу, сказаў як сабе:

— Важнецкая штука. Мода на іх зараз. Мой сусед усю восень шастаў па лесе, каб рогі ласіныя знайсці.

У гарадской жанчыны прагна загарэліся падмаляваныя вочы. Яна ўмольна паглядзела Пілiпку ў твар, ласкава папрасіла:

— Прадайце мне рогі. Дваццаць рублёў не пашкадую.

— Не прадаю! — сказаў як адрэзаў Пілiпка.

— Гаў-гаў! — пацвердзіў Бобік, што яго гаспадара такою мізэрнай цаною не абдурыш.

— Тады за трыццаць? — жанчына пакорпалася ў сумачцы, выняла кашалёк, палічыла грошы.— Шкада, больш з сабою няма.

— Не прадам і за трыццаць,— Пілiпка падумаў, што калі збудзе рогі, то ніякай згады прымірэння з Любай не чакай, і паўтарыў: — Не, не прадам. Сабе спатрэбяцца.

— Яно ж так — рэч зграбная,— уздыхнула пакупніца і

павярнулася да шафёра: — Паехалі, Міхайлавіч! — Ужо сядаючы ў машыну, яна гукнула Піліпку: — Мо перадумаеце, дык прывязіце ў Ганцавічы. Яшчэ дзесятку накіну. Я ў райаддзеле культуры раблю.

Бобік правёў легкавушку доўгім, залівістым брэхам, а Піліпка стаяў пры шашы разгублены і расчараваны. Ён пачынаў ужо шкадаваць, што торг не адбыўся. Мусіць, усё-такі варта было прадаць рогі — колькі ж з імі валачыцца? Ды і цана добрая: тры чырвонцы на дарозе не валяюцца. Можа, прыняла б іх Люба лепей, чым самі рогі. І тут жа новая супакойлівая думка завалодала Піліпкам. Гэта ж, браткі, што выходзіць? Тут, на шашы, лічы, у самай глухамані, даюць цэлую кучу грошай, а што будзе, калі завезці рогі ў вялікі горад, скажам, у Баранавічы ці ў той жа Брэст? Напэўна, сотняй не абыдзецца. Але, цэлую сотню можна адхапіць. Вось жа пашанцавала чалавеку: пайшоў у лес бедняком, а вяртаецца багацей багацеем.

Піліпка закруціў ласіныя рогі ў кажушок, каб іх не ўбачыў яшчэ які пакупец, гукнуў Бобіка, і яны абое, гаспадар і аблезлы дварняк, стомленыя бадзяннем па лесе, нацянькі праз мокры поплаў падыбалі дахаты. Вёска была ўжо зусім блізка. Над поплавам кружыліся белыя і жоўтыя матылькі, крычалі лугавыя чайкі. Пяшчотна свяціла сонца, ціха павяваў ветрык. Лясная знаходка цяпер не здавалася такою цяжкай, як раней, ногі проста самі панеслі цераз поплаў, а затым па вясковай вуліцы.

Пасярод вёскі стаяла крама, дзверы ў ёй былі расчынены насцеж, і Піліпка, апанаваны светлымі думкамі, рашыў зазірнуць у гэтыя гасцінныя дзверы. Прадаўшчыца, тоўстая і дзябёлая Франя, як ступа, узвышалася над прылаўкам, а больш у краме нікога не было. Ён кінуў ля парога шмотку, прысланіў да сцяны стрэльбу і ўжо затым павітаўся з Франяй.

— Міленькая, дай чым-кольвечы горла прамачыць? У лесе быў, дык усе ногі адбіў, у роце перасохла.

— Мог бы і ў студні напіцца,— нездаволена буркнула Франя, але палезла ў скрыню, паставіла на прылавак пляшку: — На, каўтай сітро.

— Дзякуй, Франечка! Бачу, усё ў цябе ёсць — што ні папрасі.

Пахвала спадабалася прадаўшчыцы, і яна ўжо ветлівей сказала:

— Нешта ты сёння занадта вясёлы. Няйнакш зайца ўпаляваў?

— Якога зайца? — здзівіўся Паліпка, наліваючы шклянку.— Рогі ласіныя знайшоў. Ды яшчэ якія! Сама паглядзі — вунь ля парога ляжаць.

Піліпка глытаў сітро і, захлынаючыся, расказваў, як валачыўся па лесе, як разам з Бобікам яны знайшлі шкілет лася, як потым, на беразе возера, іх траха не абдурыла нейкая гарадская кабета. Але не абдурыла толькі таму, што Піліпка разумны і хітры, увесь свет абыдзі, а другога такога не знойдзеш. Слухаючы вясёлую балбатню, Франя разглядала ласіныя рогі, мацала адросткі, нават панюхала косць, і вочы ў яе загарэліся не менш хціва, чым у той жанчыны з райаддзела культуры. Прадаўшчыца зыркнула ў акно, нікога на вуліцы не ўбачыла і лісою закруцілася каля Піліпкі:

— Аднак жа ты і схуднеў, сусед! Адна шкура ды косці. Мусіць, не глядзіць цябе твая Люба?

— І не кажы, мілая. Напусцілася горш, як на сабаку.

Дзябёлая Франя, спачуваючы, пахітала галавою:

— Бытта і б'е цябе?

— Але, б'е. Бывае, так улялюшчыць.

Піліпка дапіваў сітро, Франя парадкавала тавары на паліцах і ўголас лаяла, прабірала Любу:

— Лахудра! Сараматніца! Такога харошага, талковага чалавека за грош не лічыць.

Ён схіліўся на прылавак галавою, захліпаў носам. Яму было крыўдна, яму было горка за сябе, балюча за Любу. Няўжо ёй шкада пятнаццаці рублёў, няўжо ёй не хочацца, каб Піліпка, талковы і харошы Піліпка, налавіў пудовых шчупакоў?

— Дурніца яна, мая Люба, скупяндзя.

Падышла Франя, падняла яго за каршэнь, сунула пад паху кажушок і лёгенька штурханула да дзвярэй.

— Ідзі ўжо, гаротнік, ідзі. Не жалься, не бяры да галавы. А Любе я так і скажу: лахудра ты, сараматніца.

У Піліпкі шчасце ў вачах, душа наросхрыст — душа добрая, лагодная. Няма ўжо сярдзітай і сварлівай Любы, забыты яе грымакі, забыта крыўда. Ля парога ён павярнуўся, ушчыпнуў прадаўшчыцу, пахваліў сам сябе:

— Я ж і праўда добры, харошы.

— Дзіва што! І гаспадар спраўны, і мужчына яшчэ хоць куды.

— Ведаеш, Франечка? — запыніўся ў дзвярах Піліпка.— Вазьмі ты ласіныя рогі сабе. Ну, як дарунак ад мяне, разумееш?

Франя расцвіла, быццам макаў цвет, засвяцілася ад радасці.

— Дзякуй жа, дзякуй! Ты сабе яшчэ лепшыя знойдзеш.

— Каб я ды не знайшоў? Знайду!

Пілiпка, як толькі выблытаўся на вуліцу, дык адразу і засвістаў — ціха, сам сабе. Ён ішоў, расчулены і шчаслівы, ішоў і насвістваў сярод белага дня, і перапалоханыя куры разляталіся з-пад яго ног, і людзі, выглядваючы з вокнаў, шчыра дзівіліся, смяяліся з дзівака. Куры кудахталі, суседзі дзівіліся, а Пiлiпка ішоў, нічога не заўважаў і нешта вясёлае падсвістваў, як блазнюк. Верны Бобік, які доўга сядзеў каля парога крамы, сарамліва кульгаў услед. На шчасце, ісці ім недалёка — вунь ужо знаёмы калодзеж, вунь старая хата з чырвонымі вокнамі і буслянкай на белай бярозе, што расце каля плота. Дварняк перагнаў гаспадара і першы сунуўся ў брамку, сунуўся і застыў на месцы: у брамцы, упёршыся рукамі ў бокі, стаяла мажная гаспадыня.

— Ах, ты мой салавейчык! Ах, ты мой жаўранак! Дзяцей пагадавала, унукаў няньчу, а не ведала, што ў хаце пеўчая птаха вядзецца.— Люба перастала ўсміхацца, выхапіла кажушок з Піліпкавых рук, адабрала стрэльбу і паперла нязгалага свістуна ў хату.— Ідзі ўжо, сараматнік, бо нават куры засмяюць.

— А я рогі знайшоў,— сеўшы дома на канапу, пахваліўся Піліпка.— Во такія здаравенныя! — Ён развёў рукамі, паказаў, якія вялікія знайшоў рогі.— Во такія!

— А скулу ў бок часам не знайшоў? — не паверыла жонка.— Штосьці не бачу я тваіх рагоў, пустадомак.

Піліпка смачна пазяхнуў, узяў падушку і, збіраючыся спаць, прызнаўся:

— У краме рогі, у тоўстай Франі. Я рогі падарыў ёй.

— Вярзеш нешта дурное.

— Праўду кажу. Во такія вялізныя,— Піліпка зноў развёў рукамі, радасна заўсміхаўся: — Мне па дарозе гарадская баба аж трыццаць рублёў за іх давала. Але не прадаў. Паехала як мыла наеўшыся.

Люба жахнулася, пляснула далонямі:

— Аж трыццаць рублёў? Ну і пустадомак, ну і дурыла. Гэта ж столькі грошай як з неба ўпала. А ён іх — каму? Франі! Гэтай крываногай выжле, гэтай таўстагубай зводніцы.

Піліпка, набегаўшыся за дзень, хутка заснуў — хроп,

падсвістваў носам. Ён ужо не чуў жончыных кухталёў, не бачыў, як яна, раззяханая, бегала па хаце, кляла гаспадара, лаяла прадаўшчыцу, а потым хапіла хустку, выскачыла з хаты, на хаду грозячы Франі:

— Дык я ж рогі ў цябе з зубоў вырву, я ж табе валасы павыдзіраю! Век будзеш помніць, як чужое выклянчваць.

Што там і як там было — у Франінай краме, можа, сварка на ўсю вёску, можа, крывавая бойка, Пілiпка не ведаў, але раніцай, калі ён нарэшце прачнуўся, ласіныя рогі ўжо ляжалі на стале. Здаравенныя прыгожыя рогі. Люба працірала іх мокраю анучкай, і на твары ў яе свяцілася невыказная, ціхая радасць. Пілiпка, устаючы, затрашчаў спружынамі канапы, але хай бы ён лепей яшчэ спаў ці хоць прытварыўся, што спіць, бо жонка ледзь пачула скрып, як адразу ж дала волю языку:

— Прачнуўся? Вочы пралупіў? Ці ж не пустадомак, скажы, ці ж не завала? Такія рогі Франі за нішто аддаць? Пайшла, з зубоў вырвала.

— Забрала, і добра,— прымірэнча сказаў Пілiпка.— Прыб'ю ля шафы. Вешай свае транты.

— Я табе прыб'ю, я табе дам транты,— тупнула нагою Люба.— Праўда, што за рогі табе трыццаць рублёў давалі? Ці наплёў з дурной галавы?

— Але ж, траплялася пакупніца. Прасіла рогі ў горад прывезці. Абяцала яшчэ і больш заплаціць.

— Дык і вязі.

— Не павязу. Трэба на работу ісці.

— Павязеш! Я сама ў канторы за цябе слова замоўлю. Хварэеш ты і — усё тут.— Люба, раскудлачаная, злосная пасля сну, хмыкнула: — Што значыць, не павязу? Павязеш як міленькі!

І зноў бедны Пілiпка, увенчаны ласінаю каронай, нехаця прастуе цераз поплаў, выбіваючыся на шашу. Там, прагаласаваўшы, можна сесці на спадарожную машыну, а то і пачакаць рэйсавы аўтобус. Люба не забыла нават рубель сунуць на дарогу. І горка, і крыўдна Пілiпку. Ехаць у горад яму ўсё адно што — нажом па сэрцы. Ну, дзе тую гарадскую кабету шукаць? Сказала, у райаддзеле культуры, а дзе гэта, ліха яго ведае. Мабыць, у тым вялікім доме, што на плошчы. Ён заўсёды, як вулей, гудзе, біткам набіты і мужчынамі, і бабамі. Прыспічыць — знойдзеш. Пілiпка крыху павесялеў і пайшоў спарней, бо блізка ўжо была шаша, і па ёй несупынна беглі чароды машын.

Яшчэ на выхадзе з вёскі Піліпку дагнаў кульгавы Бобік. Аблезлы дварняк, відаць, не разумеў, куды з самага ранку ідзе гаспадар — хутчэй за ўсё ў лес, і таму звыкла кульгаў побач. За ноч зямлю падмарозіла: шэры іней асеў на леташняй пажухлай траве, пад нагамі звонка дзвынкаў тоненькі лядок. Але вунь ужо і бераг возера, шэры валун, ля якога ўчора адбываўся няўдалы торг. Піліпка скінуў з плячэй ласіныя рогі, прысеў трохі супачыць. Бобік забрахаў, але тут жа вінавата папярхнуўся, бо гаспадар паглядзеў на яго сурова і дакорліва.

Сёння ўсё ненавіснае было Піліпку: і сварлівая Люба, і ашуканка Франя, і нават сама родная вёска, што белымі дахамі святлела на даляглядзе. А болей за ўсё не любіў ён у гэтую хвіліну гарадскую кабету, якая дакляравала за ласіныя рогі столькі грошай. Ды хоць было б за што? Скажыце, хіба гэта рогі: старыя, аблезлыя, цяжкія — як падняць. Нават і ў горад такія сорамна везці. І Піліпка не павязе — каб гарадская баба любавалася імі, каб прыводзіла ў кватэру суседак і яны аж лопалі ад зайздрасці? Не, хопіць ужо і Піліпкі і дамашніх згрызот, Любіных кленічаў і сварак. І грошы яму ніякія не патрэбны.

Ён раптам падхапіўся з валуна, узяў ласіныя рогі абедруч, як носяць дровы, і пайшоў да азерца. На беразе, у лазняку, плыў рэдкі, нібы размыты, туман, сонца ўсё вышэй падымалася над лесам. Азерца таксама замерзла, пакрылася тонкім лядком. Піліпка замахнуўся і папусціў прыгожыя здаравенныя рогі далёка ад берага. Лёд у тым месцы, дзе яны ўпалі, трэснуў, раскалоўся, з праламкі забулькала чорная вада, разышлася кругамі, і рогі ціха, без плёскату апусціліся на дно. Вада збегла з лёду, і там, дзе ён пакрышыўся, здаецца, ярчэй адбілася сляпучае веснавое сонца.

— Вось так ёй і трэба! — выдыхнуў Піліпка, і невядома было, каму ён гэта сказаў: ці той спешчанай гарадской кабеце, ці сваёй прагнай, сварлівай Любе.— Халеру цяпер выцягнеш з вады.

— Гаў-гаў! — вясёлым, залівістым брэхам суцешыў гаспадара Бобік.— Гаў-гаў!

Шчуплы і дробны, як камар, Піліпка Радзюк стаяў на беразе возера, шырока раздзімаў ноздры, і ён ужо не баяўся вяртацца ў вёску, у сваю старую хату, а худы, аблезлы дварняк брахаў і брахаў на круглую праламку ў тоненькім, аж празрыстым азёрным лядку. Дзесьці блізка ў змакрэлым алешніку азвалася сітаўка, з пачарнелага леташня-

га чароту неспадзявана выпстрыкнуў жоўты матылёк і — лёгенькі, трапяткі — закружыўся над пустым берагам. Пагода быццам паддобрывалася да насупленага Пілiпкі і так і сяк наравіла яму. Павеяў цёплы, лагодны ветрык, вышэй паднялося сонца,

Пусты, сіратлівы бераг ужо, мабыць, надакучыў жоўтаму матыльку, ён заўважыў у возеры нешта бліскучае, паляцеў туды і жыццярадасна затрапятаў, закружыўся над свежай праламкай. Пiлiпка глядзеў на легкакрылага матылька, да болю ў вачах узіраўся ў чорную ваду, быццам спадзеючыся ўбачыць у ёй ласіныя рогі, і яму раптам падалося, што з мокрага алешніку на супрацьлеглым беразе выйшлі дзве шэрыя здані. Ад здзіўлення ён працёр вочы, але здані не прапалі, не згінулі, наадварот, яны наблізіліся, і Пiлiпка з жахам пазнаў у іх сваю даўгалыгую Любу і тоўстую Франю. Дзве шэрыя здані ішлі нацянькі цераз возера, кіруючыся, відаць, да свежай праламкі, і, дзіўна, пад іх нагамі не трэскаўся, не крышыўся тоненькі, як плеўка, азёрны лядок.

— Гэта ты, бесталач, так рогі прадаў? — падыходзячы да праламкі, напусцілася на Пiлiпку даўгалыгая Люба.— Ну, пачакай жа, заявішся дома!

— Ці ж не я казала табе: добры, харошы? — ківала Пiлiпку пухнатым пальцам тоўстая Франя.— А ён, бачыш, што ўздумаў — рогі ў возера закінуў!

— Прэч адсюль, нягоднiцы! — бялеючы ад злосці, крыкнуў ім Пiлiпка.— Разламлю, затапчу ў гразь, а рогі не дам.

Не помнячы сябе, ён кінуўся ў возера, не чуў, як на беразе трывожна забрахаў кульгавы Бобік,— перад сабою ён бачыў толькі дзве шэрыя нязграбныя здані, бачыў сляпучае веснавое сонца, якім ужо іскрылася ўсё возера. На мелкаводдзі, разлятаючыся з-пад ног у бакі, зазвінелі дробныя ільдзінкі, потым быццам кіпетнем заліло кірзавыя боты, далей стала яшчэ глыбей, але Пiлiпка, не зважаючы на люты холад у целе, паспешліва браўся да круглай праламкі з чорнаю, як дзёгаць, вадою.



# Раннія спасаўкі

Машына праехала пыльны лясны гасцінец, мінула гразкую грэблю і спынілася на ўскрайку маладога цяністага бору. Пад соснамі тут суха і тупка. Абапал дарогі ўперамежку з верасам раскашуе сіні, што дым, чабор. У паветры разліўся настой багуну, гарэнка пахне жывіцай: мусіць, недзе блізка хімлясгас пачаў новую падсочку.

Дарога спускаецца ў нізіну. Праз якую сотню крокаў церпкага ляснога водару ўжо бракуе. Патыхае прэлым лісцем і сырасцю. Баравіна ўперлася ў балота — вялікае, як зачапіцца воку.

Ля машыны з зялёнымі пашарпанымі бартамі ўсчалася гамонка, жаночы віскат і смех. Хто першы саскочыў з машыны, дык ужо выходзіць на зімнік — вузкую грэбельку пасярод балота. Зімнік рыжы ад торфу і гразкі, але наўздзіў прамы, як пад шнур. Паперадзе мяне шырока сцібае сусед Антон Мальчэўскі, а ззаду, рассыпаўшыся ланцужком, плёхае гумовымі ботамі і пакрэктвае ўся наша брыгада грабельнікаў.

Дарога на Чмяліны востраў мне помніцца з мінулага года.

Летась, акурат недзе ў гэтым самы час, дзядзька Сымон, стрыечны брат майго бацькі, браў мяне з сабой на балота. І дзіўнае супадзенне: летась перада мной таксама калыхаўся на купаўі тоўсты і, здавалася, непаваротлівы Антось Мальчэўскі. Ён ледзь паспяваў за худзейшым і вёрткім дзядзькам Сымонам. Абодва яны ўвапрэлі, але горай за ўсіх даставалася мне — шчупламу, несамавітаму на выгляд. Праз тонкую мультановую кашулю ў плячук балюча ўрэзалася цаўё грабель, на якое была нанізана торба з харчамі. Было дужа горача, у вочы сляпіцай лезла заедзь. У свае шэсцьдзесят з хвосцікам дзядзька Сымон лёгка, нібы дзяцюк, перабіраўся з кладкі на кладку, з купіны на купіну. Паклажа ў дзядзькі была не раўня маёй торбе — вялізны зрэбны мех. І поўны, як завязаць, да таго ж пабіты на гузы — акурат як у мяшок насыпана сама менш тры пуды бульбы-насенкі.

Яшчэ ў вёсцы, калі выбіраліся на балота, Антось Мальчэўскі пашуткаваў з дзядзькі Сымона:

— От дык апетыт у чалавека! Няйнакш паўкапца картоплі прэ на сенакос. І каб сказаў, што пуза як пуза...

Дзядзька Сымон не пакрыўдзіўся, адно прыжмурыў вочы — па-сялянску дасціпныя і хітраватыя, якія свяціліся ціхай радасцю.

— Ты думаеш, што картоплі ў мяшку? Дык і ўвавек не ўгадаеш! Грушы — от што ў мяшку! А ты думаеш — картоплі? Спасаўкі! Як мядовыя... У роце растаюць, браток!..

Антось Мальчэўскі заплюскаў вейкамі, здзіўлена перапытаў:

— Грушы? І — на балота? Нештачка, куме, тут не тое?..

— Не верыш, то памацай! — ужо сур'ёзна пачаў тлумачыць дзядзька Сымон.— Спасаўкі ў мяшку... Сваёй гадоўлі... Калісь пасадзіў садок і думаў: ці хоць прыжду сваю грушку? Ажно ж — прыждаў. Сяголета садавіны — ого! Галлё ломіцца... Спасаўку во і сам ем на поўную губу, і суседзям на поспыт раздаў не адзін кош.

У нашай вёсцы Антось Мальчэўскі слыў добрым скнарам — лішняга нікому не перадасць, і таму ён шчыра паспачуваў дзядзьку Сымону:

— Дык хто ж калі нёс на балота повен мяшок груш? Ну, дома пачаставаў бы каго трэба, але ж не перці грушы на балота? Гэтак і без портак можна астацца.

— А мне не шкада,— усміхнуўся дзядзька Сымон.— Дома ў кожнага свой сад ёсцека. І ў мяне, і ў цябе, і ў Петрыка Табалы. А на балоце спасаўку за малінку з'ядуць. Пастаўлю мяшок ля будана, развяжу, і хай сабе людзі бяруць. Першы ж раз грушы на поўную губу ем...

Мяшок ранніх спасавак дзядзька Сымон беражна ўкінуў у кузаў машыны, усю дарогу не спускаў з яго вока, а з баравога грудка на Чмяліны востраў нёс мяшок на сабе. Летась, у самую гарачыню, ісці па зімніку было цяжка, прынамсі, не так, як цяпер. Сёння ўжо ўзялося на вечар, апала спёка. Балотная парнасць і аваднеча не так даймаюць людзей, якія няроўным строем адольваюць кладкі грузкай грэблі.

Грэбелька здратавана, перамешана трактарамі, як не на той свет паўганяны кладкі. Узімку па ёй вазілі сена, і грэбля мае такі раскаламачаны выгляд. Абапал зімніка густа разраслася асака, у балоце «топіцца» гарбаты, нягеглы бярэзнік. Я хутка прывыкаю да шпаркай хады па дрыгве, стараюся не адстаць ад суседа. Першым на востраў выграбся з плюхоцця Антось Мальчэўскі. Следам ступіў на сухое я, а ззаду — і блізка, і зводдаль — усё чвя-

каюць і чвякаюць у рудой вадзе гумовыя боты: выбіраецца на груд уся наша брыгада.

Пасярод вострава вялізны, як адрына, будан, скіданы з тонкіх алешынак і ўкрыты свежым зеленаватым сенам. Каля будана чорны выгаралы лапік зямлі — след зыркіх вячэрніх вогнішчаў. Не праходзіць і мінуты, як усе дрэвы вакол ужо ўвешаны пакоўнымі сялянскімі торбамі і хатулямі. На зямлі харчы пакідаць ніхто не рашаецца, бо ў торбы, чуючы спажыву, часта запаўзаюць вужы. Непадалёк выкапаны невялічкі калодзеж: з яго п'юць, бяруць ваду на чай і калі гатуюць што рэдкае.

У мінулым годзе ля калодзежа дзядзька Сымон пакінуў мяшок з грушамі, і кожны, хто бег напіцца, выбіраў сабе сакавітыя жоўтыя спасаўкі.

Сонца ўвачавідкі падае за Чмяліны востраў. На балоце яшчэ добра праглядваюцца кусты лазняку і чэзлага бярэзніку, відны рыжыя, падсушаныя пракосы сена-разаку. У шыях, паміж кустоў і купаўя, жаўцее леташняя некаш. Заўтра за адзін дзень усе пракосы, што бачны за вострававам, будуць згрэбены, скіданы ў стажкі — толькі б пастаяла пагода.

Крыху акрыяўшы з дарогі, людзі паразвязвалі торбы і ўжо дзелавіта, са смакам каштуюць вяндліну, сала, вараныя яйкі — што хто браў. Час бы падсілкавацца і самому, але апетыту няма — на душы маркота, нейкае здранцвенне. Нават вяндліна, якую я ўвогуле люблю, не цешыць вока.

Летась, помніцца, мне таксама не хацелася есці, але тады, мусіць, з гарачыні, з вялікай спёкі — знябыўся ўсё ж, здарожыўся, пакуль ехалі па выбоістым гасцінцы.

— Еш, нябож, не саромся,— прасіў дзядзька Сымон і наравіў падсунуць мне як найлепшыя кавалкі.— Еш! Да вечара яшчэ ой як выбалееш! На пусты жывот то і грабель не пацягнеш.

Праўда, грушы-спасаўкі я ўпадабаў і трушчыў іх за абедзве шчакі. Дзядзька Сымон клікаў да мяшка суседзяў, прасіў частавацца.

— Бяры, хто ахвочы. Хопіць жа і сабе, і людзям.— І ажно цвіў, калі вяскоўцы падыходзілі да мяшка і, жуючы хвацкія грушы, пахвальвалі яго, дзядзькаў, сад.

Пасля кароткага полудніка, помніцца, шумнай талакой мы выйшлі на балота. Сена добра вылежалася на ўгрэве, і грэбці яго было вельмі лёгка, нават прыемна. Напачатку мне не ўдавалася браць пярэбіркі. Сена спаўзала з гра-

бель, рассыпалася, але пасля таго, як дзядзька Сымон навучыў трымаць граблі, я скора налаўчыўся і ўжо не адставаў ад людзей. На балоце было цікава і весела, нават і смешна, бо от трэба ж такому! Растаўсцелы Антось Мальчэўскі, махаючы граблямі, як вятрак, расчырванеўся, упацеў. Ён, відаць, папрэў, як малое дзіця, і цяпер раз-пораз бегаў да канавы, проста ў нагавіцах сядаў у рудую ваду, адмочваўся.

— Глядзіце! Антось прымае гразевыя ванны! — услед яму крычаў жартаўлівы Петрык Табала, на суседняй дзялянцы даршваючы стог.— Скінь порткі, дык мы пудрай перасыплем...

Але чалавеку было не да жартаў: мэнчыўся ад такой неспадзяванай бяды. Нават і ўвечары, ля вялізнага іскрыстага вогнішча, Антось Мальчэўскі сядзеў зблажэлы, скрыўлены, бо, мусіць, усё яшчэ яго даймаў боль. Петрык Табала пакепліваў з бедака, пакуль на яго не цыкнуў дзядзька Сымон. Пасля добрай прапаркі на сене ад вячэры я ўжо не адмаўляўся, а праз колькі часу моцна спаў у будане, зашыўшыся ў мяккае сена.

Прачнуўся ад таго, што ў плечы стала халадаць, а ногі прыпякло ад вогнішча. Будан як не варушыўся ад дружнага храпу. Неба было ўсыпана буйнымі малінавымі зорамі. Ля вогнішча заўважыў двух. Яны паціху перамаўляліся.

— Я во і кажу,— чуўся знаёмы, асіплы, як прастуджаны, голас,— мо хто і пакпіць, палічыць дурнем, але ж гэта я з вялікай радасці. Наўмысля прывёз грушы: няхай бачаць людзі, што і Сымон Заваротны жыве нязгорш. А бывала ж — ні ўзяць, ні ўцяць. Дзе адно не смыкаўся па белым свеце! Батрачыў у пана, у папа, пакуль не прыйшлі Саветы.

— Яно і праўда, Сымон,— бубніў ужо другі голас.— Нямала чаго пераж ылося, пабачылася на нашым вяку. Ды, дзякуй, добрая жытка пайшла пры Саветах.

Пасярод ночы, пры святле зыркага вогнішча дзядзька Сымон і Антось Мальчэўскі гаварылі ціха і даверліва, як на споведзі.

Мне часта цяпер згадваецца той леташні начлег на Чмяліным востраве, тая неспадзявана падслуханая начная размова. Але, бадай, ні разу яшчэ на душы ў мяне не было так прыкра і непамысна, як сёння. Сёння мне быццам печага нестае, быццам бы нейкая пякучая стрэмка

ўпілася ў грудзі — і вярэдзіць, і шчыміць невыносна, да болю.

Я ўжо шкадаваў, што паехаў на балота, што так лёгкадумна паслухаў брыгадзіра. Мог жа і не ехаць — бацька выбіраўся сам, дык не ж — папёрся. І вось зараз сяджу, чакаю вечара, каб хутчэй зашыцца ў цёплае сена, каб здрамнуць хоць на які момант. Хочацца піць. Я завязаў торбу, павесіў яе высока на суку і пайшоў за будан. У густым, лапушыстым бабоўніку знайшоў бяроставы карэц, зачарпнуў вады з неглыбокага калодзежыка — напіўся, спаласнуў запылены твар. Прытухлая, але халодная балотная вада прыемна асвяжыла, трошкі як бы палепшала, паспакайнела на душы.

На востраве прыкметна змерклася, насунулася цёплая шэрань. З балота пацягнула сырасцю, прахалодай. Ля будана нехта развёў цяпельца, і яно ўвачавідкі разгараецца, святлее, рассоўваючы па баках вечаровы змрок. З-за будана я добра бачу ўсё наваколле. Выбраўшы месца, дзе святлей, мужчыны ўжо зрэзаліся ў «ачко». Гуляюць ажно ў некалькі калод. Чутна, як у чыёйсьці кішэні зазвінелі медзякі: нейкі шчасліўчык, відаць, загроб увесь «банк». Без аніякай увагі на ігракоў крыху воддаль засяроджана перагаворваюцца замужнія кабеты. Дзяўчаты дык тыя сарамяжліва туляцца ў будане, хоць таксама аб нечым сакочуць гучна і весела.

У карты не гуляюць толькі хіба Петрык Табала і Антось Мальчэўскі, бо не надта патураюць карцёжнікам. Паціху размаўляючы, яны сядзяць ля вогнішча, блізка ад будана. Петрык Табала павесіў на рагульку чайнік і зараз чакае, калі вада возьмецца кіпетнем. На доўгім дубцы Антось Мальчэўскі смажыць сала. Яно сквірчыць, хапаецца агнём, сіняватыя кропелькі туку збягаюць па ражэнчыку, капаюць у жар. Калі тук капае хуценька, як сокбярозавік, Антось выхоплівае сала з агню, падстаўляе скібку хлеба, ловіць гарачыя, сінія кроплі.

— Глядзі-тка, колькі скораму марна траціцца,— цмокае ён губамі.— Патэльню б сюды. І як гэта я, стары псюк, не даўмеўся ўкінуць у торбу? Помню, летась патэльню пазычаў у нябожчыка Сымона. Той нічога, бывала, не забываў.

— Канечне, патэльня не зашкодзіла б,— паспагадаў Петрык Табала.— Хіба ў торбе пазначылася б, каб укінуў? Летась, аднак, Сымон, акрамя харчоў, яшчэ і мех грушаў на сабе валок. А скажы ты,— раптам уздрыгвае

Петрык,— як хутка звіўся чалавек! Пайшоў раніцай даваць карове, навязаў на рэзгіны сена і — упаў. І — няма чалавека.

Антось Мальчэўскі зняў з ражэнчыка падсмажанае, трохі падгарэлае з аднаго боку сала, падзьмухаў на яго, акуратна абсмактаў і тады ціха, як сабе, сказаў:

— Праўду — няма. Спярша я не даў веры, калі пачуў пра Сымона. Нічым жа не паказваў чалавек на хваробу. Дужы, як лось... А тут на табе... Яшчэ ж мог унь колькі жыць...

Вогнішча ля будана шугае — не падступіцца. Языкі белага полымя аблізваюць сухія, нібы косткі, альховыя бярвенцы і цэлыя карчы. Невыцерпны зыр загнаў карцёжнікаў на бабоўнік, далей ад будана. Петрык Табала і Антось Мальчэўскі папілі чаю і, хоць заўтра ўставаць не рана — не на кошлю ж ісці, палезлі ў будан, зашыліся ў пахучае сена. Цяпер, калі амаль усе грабельнікі заняты картамі, у будане можна абжыцца цяплейшым і зручнейшым начлегам. Але мне спаць зусім не хочацца. Мне раптам успомнілася і ніяк не патухае ў памяці тое леташняе вечаровае вогнішча — такое ж, як і сёння, імклівае і зыркае, ля якога — чуць зводдаль — летась стаяў напалову апарожнены мяшок ранніх, што мёдам налітых, груш-спасавак з маладога саду дзядзькі Сымона.



## ЗМЕСТ

**Гардзей В.**

Г 20 Карані вечнага дрэва: Аповесць, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1988.—254 с.: іл.

ISBN 5-340-00009-5.

Гордей В. Корни вечного дерева: Повесть, рассказы.

У Насці, галоўнай гераіні аповесці «Жыта ганьбу не заслоніць», у вайну загінуў муж, памерлі дзеці. Аднойчы ваеннай зімой, ідучы на заданне з партызанскага атрада, ён завярнуў дамоў. Сагрэты Насцінай ласкай, Сямён вырашыў заначаваць. А раніцай у хату ўварваліся паліцаі. Хто выдаў мужа? Над гэтым пытаннем доўгія гады пакутуе Насця.

Цёплым лірызмам і гумарам, душэўнай шчодрасцю і любоўю да чалавека працы прасякнуты апавяданні.

Г $\frac{4702120200-092}{М 302(03)-88}$ 9—88 ББК84 Бел7

*Литературно-художественное издание*

Гордей Виктор Константинович

**КОРНИ ВЕЧНОГО ДЕРЕВА**

*Повесть, рассказы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Гардзей Віктар Канстанцінавіч

**КАРАНІ ВЕЧНАГА ДРЭВА**

*Аповесць, апавяданні*

Рэдактар І. І. Кананові
Мастак І. М. Андрыянаў
Мастацкія рэдактары М. Я. Шкурпіт, А. І. Дрозд
Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч
Карэктар І. М. Паланейчык

ІБ № 2666

Здадзена ў набор 01.10.87. Падп. да друку 20.04.88. АТ 09591. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 13,44. Ум. фарб.-адб. 13,44. Ул.-выд. арк. 14,73. Тыраж 11400 экз. Зак. 833. Цана 1 р. 40 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.